# Крапіва



# 1

ВЕРШЫ
БАЙКІ
ЭПІГРАМЫ
ПАЭМЫ

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1997

## ЗМАГАРНЫ ДУХ І ТВОРЧАЕ НАТХНЕННЕ

Змагарны дух і творчае натхненне спадарожнічалі Кандрату Крапіве на працягу ўсяго яго вельмі доўгага — ажно сямідзесяцігадовага! — пісьменніцкага шляху. Зрэшты, будзе не зусім карэктна абмяжоўваць сямю дзесяткамі гадоў творчы перыяд нашага славутага пісьменніка. Калі лічыць справядлівай сентэнцыю аб тым, што пісьменнікам не становяцца, а нараджаюцца, дык трэба працягласць гэтага перыяду надтачыць яшчэ дваццаццю пяццю гадамі. І гэта будзе тым больш справядліва, што першая публікацыя сведчыць не столькі пра пачатак творчасці, колькі пра шчаслівае завяршэнне пэўнага творчага здзяйснення, а дакладней — пра пачатак публічных фіксацый такіх здзяйсненняў. Як бы там ні было, а сплаў змагарнасці з творчай натхнёнасцю абумовіў своеасаблівую пасіянарнасць працы Кандрата Крапівы ў літаратуры. Не можа не здзіўляць нязменна высокая актыўнасць яго грамадзянскай пазіцыі. З гадамі, вядома, пацішэў, злагодзіўся крытычны імпэт пісьменніка, але не паслабела жыгучасць яго сатыры. Проста ў яго ўжо не ставала часу, каб памаладому шчодра раскідвацца сатырычнымі стрэламі, таму давялося аб'екты крытычнага асмяяння старанна адбіраць, ігнаруючы тыя з іх, якія не ўяўлялі значнай сацыяльнай небяспекі. На пачатку ж сваёй літаратурнай дзейнасці пісьменнік не мог паскардзіцца на дэфіцыт сатырычнага запалу і творчай задзірыстасці. Пры гэтым мелі яны своеасаблівы — крапівінскі — кшталт: крытыка недахопаў заўсёды вялася з пазіцый гаспадара сваёй зямлі, з пункту гледжання чалавека, горача зацікаўленага ў адраджэнні роднай старонкі. Спантанна, самахоць такія творчыя падыходы не нараджаюцца ні ў аднаго з пісьменнікаў, яны з'яўляюцца вынікам папярэдняга жыццёвага вопыту, выпрацоўваючыся, выкрышталізоўваючыся ў працэсе станаўлення і сталення асобы творцы. Прыклад Кандрата Крапівы — пераканаўчае пацвярджэнне гэтаму: публікацыі першага яго верша папярэднічалі значныя выпрабаванні лёсу, якія М. Горкі называў жыццёвымі універсітэтамі.

Нарадзіўся Кандрат Крапіва (Кандрат Кандратавіч Атраховіч) 5 сакавіка 1896 года ў вёсцы Нізок Уздзенскай воласці Ігуменскага павета Мінскай губерні. У сям'і патомнага селяніна Кандрата Міхайлавіча Атраховіча. Гэта былі дзевятыя народзіны, аднак сталіся яны падзеяй адметнай, неардынарнай. Справа ў тым, што з васьмярых народжаных раней дзяцей у жывых засталася адна дзяўчынка, таму бацька радаваўся

з'яўленню наследніка, пераемніка спадчыны ў шэсць дзесяцін зямлі. Забягаючы наперад, зазначым, што бацькавы планы падкарэкціраваў лёс, якому заўгодна было, каб малодшы Атраховіч не «прыклейваўся» да мізэрнага кавалачка зямлі, бо меў іншае наканаванне. Пры нармальнай раскладцы абставін пасля сканчэння чацвёртага класа царкоўнапрыходскай школы цягнуць бы Кандрату лямку аднастайнай сельскай працы, але смерць маці, з'яўленне ў сям'і мачыхі абумовілі бацькава рашэнне вучыць сына далей — на спадчыну неўзабаве з'явіліся новыя прэтэндэнты. Народнае вучылішча ў мястэчку Узда было адолена за адзін год. Наступнай прыступкай адукацыйнай лесвіцы аказалася чатырохкласнае гарадское вучылішча ў Стоўбцах, з якога будучы пісьменнік праз два гады вучобы перавёўся ў такое ж вучылішча мястэчка Койданава, дзе была лепшая бібліятэка. У 1913 годзе навучанне паспяхова завяршылася, і разам з ім закончыўся першы кругабег жыццёвага шляху Кандрата Крапівы. Семнаццаць год было ў яго за плячыма, пасведчанне аб заканчэнні гарадскога вучылішча ў руках (а яно, дарэчы, не давала ніякай спецыяльнасці) і няпэўная будучыня перад вачыма. «Ідзі на свой хлеб, сын,— заявіў бацька,— больш на маю дапамогу не спадзявайся».

Дзеля рэалізацыі гэтага наказу паехаў у Мінск, дзе здаў экстэрнам экзамены на годнасць народнага настаўніка. Праўда, хвалюючую радасць сустрэчы з вучнямі давялося адкласці амаль на год: была ўжо восень, таму вакансій настаўніцкіх пасад не было. Такія няўвязкі будуць спадарожнічаць упартаму юнаку з Нізка на працягу ўсяго наступнага дзесяцігоддзя. Атрымае ён, у рэшце рэшт, месца настаўніка ў вёсцы Мнішана Пяршайскай воласці Мінскага павета, але доўга папрацаваць там перашкодзіць вайна. Мабілізаваны жніўнем 1915 года, вучыўся ў Гатчынскай школе прапаршчыкаў, пасля сканчэння якой вясну і лета 1916 года праслужыў у запасным батальёне ўзводным афіцэрам у горадзе Асташкаве Цвярской губерні. А потым быў Заходні і Румынскі франты, цяжкія баі, наступленні і адступленні, тыфозны лазарэт. А над усім гэтым — неадольная туга па Радзіме, калі кожная вольная хвіліна запаўнялася настальгічнымі ўспамінамі пра мірныя будні на роднай зямлі.

Вялікія надзеі ўсяліла перамога Кастрычніцкай рэвалюцыі. Адным з першых сваіх загадаў новы галоўнакамандуючы М. Крыленка дэмабілізаваў з арміі ўсіх настаўнікаў, і ў лютым 1918 года паручнік Кандрат Атраховіч вяртаецца ў свой Нізок, які здаўся яму надзейным прыстанішчам, месцам адхлання ад турбот, згрызот і страху смерці. Пасля доўгіх вандровак па шляхах-дарогах ваеннага часу, дзе на кожным кроку падсцерагалі розныя небяспекі, асабліва востра ўспрымалася адчуванне трываласці грунту роднай зямлі пад нагамі, забяспечанасці тылоў, няўлоўны «водар» душэўнай прыкаянасці. На жаль, мажорныя настроі валодалі дэмабілізаваным нядоўга. Неўзабаве пачалася паласа інтэрвенцый на беларускія землі. Спачатку кайзераўскія войскі акупіравалі іх аж да Дняпра, а потым двойчы ў ролі акупантаў выступілі польскія легіянеры. І кожны раз тутэйшы люд мусіў прыніжана прыстасоўвацца да чужой волі. Гэта не магло не выклікаць пачуцця пратэсту ў душы чалавека, які праз адукацыю далучыўся да разумення асноў цывілізацыі, які паспеў сфармуляваць для сябе пэўныя гуманістычныя пастулаты. Гэты пратэст стаў добрым каталізатарам, які прыспешыў грамадзянскае сталенне Кандрата

Крапівы. Залічаны ў лістападзе 1918 года на працу ў пачатковую школу вёскі Каменка Уздзенскай воласці, ён са здзіўленнем для сябе адчуў, што паступова ператвараецца ў настаўніка беларускага, што ўсведамленне тутэйшасці неўпрыкмет трансфармавалася ў беларускую нацыянальную ідэнтыфікаванасць. Праўда, гэтаму працэсу магла перашкодзіць служба ў Чырвонай Арміі (жнівень 1920 — кастрычнік 1923 гадоў). Аднак менавіта ў арміі пачалася паэтычная дзейнасць Кандрата Крапівы. І няхай першыя яго фельетоны, якія надрукавала «Красноармейская правда», былі напісаны на рускай мове, аднак, пазнаёміўшыся пасля пераезду ў Мінск з газетай «Савецкая Беларусь», беспаваротна выбраў для сябе творчасць на роднай мове. Ці адчувалі ў рэдакцыі газеты «Савецкая Беларусь», што, друкуючы 23 мая 1922 года першы беларускамоўны верш чырвонага камандзіра Кандрата Атраховіча, яны давалі старт, адкрывалі творчую дарогу выдатнаму нацыянальнаму пісьменніку? Цяжка сказаць. Адзінае можна сцвярджаць зусім пэўна: у гэтай рэдакцыі да паэта-пачаткоўца паставіліся вельмі прыхільна. За кароткі час ён стаў адным з самых актыўных яе аўтараў.

Што ж уяўляла сабой паэзія Кандрата Крапівы 20-х гадоў? Была яна рупарам паслярэвалюцыйнай дзяржаўна-палітычнай ідэалогіі? Арганам тагачаснай рэчаіснасці? Чуйным барометрам настрояў беларускай глыбінкі? Як ні дзіўна, але ні адмоўны, ні станоўчы адказ на гэтыя пытанні не падыходзіць, бо гаворка ідзе пра творчасць пісьменніка выключнай адоранасці — пра талент першай велічыні. А ён, як вядома, ніколі не ўкладваецца ў нейкія схемы, пэўныя параметры і рамкі. Такой выснове не можа супярэчыць нават згадка пра абавязковую заангажаванасць творчасці любога пісьменніка-сатырыка. Так, Кандрат Крапіва не быў тут выключэннем, але калі мы паспрабуем вызначыць крыніцы і фактары яго заангажаванасці, дык пошук будзе нядоўгім — яны ўгрунтаваны ў асаблівасцях светапогляду пісьменніка: мікракосм яго душы з яе высокімі ідэалагічнымі, палітычнымі і этычнымі патрабаваннямі ўшчыльную наблізіўся сваёй ёмістасцю да макракосму агульнанародных інтарэсаў. Адсюль — патрабавальная наступальнасць, крытычная бескампраміснасць першых і наступных сатырычных твораў Кандрата Крапівы. Нейкіх сем месяцаў прайшло пасля першай беларускамоўнай яго публікацыі, а ён у сваім праграмным вершы «Крапіва» меў усе падставы заявіць, што ў «мастацкім агародзе» не проста займеў уласную «дзялку», але і шмат чаго зрабіць паспеў. І сапраўды, роўнага яму па творчай актыўнасці ў беларускай паэзіі таго часу не было. Здаралася, што ў газеце «Савецкая Беларусь» яго вершы друкаваліся штодня, з нумара ў нумар. А ён жа яшчэ супрацоўнічаў з іншымі выданнямі: газеты «Беларуская вёска», «Чырвоная змена», «Магілёўскі селянін», «Наш працаўнік», альманахі і часопісы «Комсомольское село», «Малады араты», «Беларускі фальклор», «Савецкая вёска», «Маладняк», «Беларускі піянер», «Маланка», «Дэкламатар», «Узвышша» і інш. «З вёскі змываць дакастрычніцкі бруд — задача мая ўдарная»... Падкрэслім, не проста задача, а задача менавіта ўдарная! Інакай нельга, бо «бруду» — розных перажыткаў, недахопаў, забабонаў — накапілася столькі, што крапівінскаму Пегасу трэба было зміры́цца з перспектывай агромністай чарнавой працы. Такой працы, дзеля выканання якой больш патрэбны моц і вынослівасць ног, чым лёгкасць крылаў.

Выкарыстанне паэзіі (і мастацтва ўвогуле) для вырашэння пэўных сацыяльных задач не было прыдумкай савецкай рэчаіснасці. «Паэтам можаш ты не быць, а грамадзянінам быць абавязаны» — гэта максіма крылала яшчэ ў XIX стагоддзі. Прычым падобныя сентэнцыі нараджаліся не толькі ў расійскім літаратурным свеце, сярод еўрапейскіх літаратараў перыядычна ўспыхвалі дыскусіі адносна сумяшчальніцтва, сужыцця палітыкі і паэзіі. Характэрна, што ў пераважнай большасці выпадкаў надзённасць аб'яўлялася пагубнай для высокай літаратуры. Пісаць пра клопаты, праблемы сённяшняга дня? Ды яны ж могуць аказацца не проста архаічнымі, але чужымі ці нават варожымі дню заўтрашняму. Ведаў, выдатна ведаў пра гэта Кандрат Крапіва, аднак для яго было важней не тое, якой яго творчасць убачыцца будучымі пакаленнямі, а тое, як яго слова можа дапамагчы сучасніку на лепшае змяніць жыццё. Таму ў вершы «Я не пясняр!», якім ён адкрываў свой першы паэтычны зборнік, палемічна заяўляў:

Я не пясняр! Я не мастак! —
Хай так;
Мой твор не твор,— дзіця,
Мой спеў не спеў, а крык,
Але ў тон
Пад камертон
Жыцця
Мой зык:
Я крыкну — ўраз
Па гушчах мас
Нясецца хваля рэх
І ў свой прабег
Раджае смех,
Здаровы смех.

Не мастак... Не пясняр... Радасці ад такога ўсведамлення мала. Ды — хай так! Бо хіба ж не шчасце для кожнага пісьменніка, настроіўшы свой голас «пад камертон жыцця», атрымаць у «гушчах мас» удзячны водгук? Хіба ж не варта працаваць дзеля таго, каб тваё слова нарадзіла смех? Тым больш смех здаровы? Дзеля гэтага можна паступіцца вечнасцю.

Так і пісаў Кандрат Крапіва на патрэбу дня. Рашуча атакаваў ён такія жыццёвыя заганы, як п'янства («Самагоначка» і інш.), хабарніцтва («Дай ды дай»), пустазвонства («Плеткары»), бескультур'е («Грышча»), пратэкцыянізм («Каго мне ўзяць за кума»), знахарства («Вось такія дактары вымуць душу без пары»), лянота («Год Сцяпана-лайдака»), забабоны («Дзве кумы») і г. д. Вялікае месца ў сатырычнай паэзіі занялі антырэлігійныя матывы («Новая екценія», «Малітвы па-беларуску», «Мы не паклонімся богу», «Калядная размова» і інш.).

Вышэй ужо адзначалася, што крытыкаваў Кандрат Крапіва розныя праявы адмоўнага ў жыцці з пазіцыі гаспадара сваёй зямлі, выяўляючы пры гэтым пачуццё высокай грамадзянскай годнасці. З асаблівай яскравасцю выявілася гэта пачуццё ў вершах, скіраваных супраць шавіністаў, ворагаў беларушчыны. 12 лістапада 1922 года ў газеце «Савецкая Беларусь» ён надрукаваў верш «Шчыраму лаціністу», у якім даў гнеўную

водпаведзь аднаму з іх. Нагодай для палемікі паслужыла заметка ў газеце «Звязда», у якой нехта «Рабочы» выступіў супраць вывучэння беларускай мовы: лепш, маўляў, вывучаць французскую ды лаціну. Трэба ісці далей, падказвае паэт апаненту, і перавесці выкладанне ў беларускіх школах на кітайскую мову з тым, каб беларус з роднай мовы не мог ужыць і слова. Не надта турбуючыся пра шляхетнасць выразаў, Кандрат Крапіва рэзюмуе:

Лацініст заядлы, шчыры!
Пралупі ты зрэнкі шырай
Ды на дол спусціся з неба,
Наш таварыш безгаловы,
Дык убачыш, што нам мова
Беларуская тут трэба,
Як вада, як кавал хлеба,
Як расліне кожнай глеба.

Пазней паэт яшчэ не адзін раз выступіць супраць падобных «Рабочых». У байцы «Казёл» ён дасціпна і з'едліва высмеяў тых высокапастаўленых чыноўнікаў дзяржапарату, якія прынцыпова ігнаравалі беларускую мову. Казёл, якому даручылі быць павадыром авечай чарады, зарэкамендаваў сябе някепскім адміністратарам. Але меў ён вялікую загану: па-авечы «прабэкаць» не мог, а дакладней, не хацеў ні слова. Больш таго, барадаты павадыр вымушаў усю чараду бляяць па-казлячы. «А хто не ўмеў бляяць так чыста,— іранізуе байкапісец,— таго ён лаяў шавіністам».

Выступленні супраць беларушчыны Кандрат Крапіва ўспрымаў вельмі балюча. Менавіта адсюль тая гарачлівасць, з якой ён вёў палеміку з рознымі «Рабочымі» ды «Казламі». Асабліва яскрава выявілася гэта пачуццё ў вершы «Дзе ж яна, галоўная самая?». Верш мае падзагаловак: «На вылазку вялікадзяржаўнага шавінізму ў асобе настаўніцы Засімавай». У стылі У. Маякоўскага — чаканны рытм, адточаная рыфма, багатая вобразная асацыятыўнасць — гнеўна і пафасна атакаваў Кандрат Крапіва рэцыдывы манархісцкага дзяржаўніцкага мыслення. Зноў «единая и неделимая»? — з недаўменнем пытаецца аўтар. Але ж нешта не чуваць было, што Масква вярнула ранейшыя палітычныя лозунгі. «Ды хіба ж,— разважае паэт,— «единая» ідзе напралом з грукатам, стукам, свістам і ровам? Мо каб са сцягам яшчэ трохкаляровым? Мо каб яшчэ з двухгаловым арлом, які кіпцюрамі на горла наставіцца?» З такой небяспекай, лічыць аўтар верша, змагацца не складана. А вось паспрабуй змагацца з тымі, хто дзейнічае ціхай сапай. Пакуль іх нянавісць не выплюхнецца цераз край, дык шырокая грамадскасць і ведаць ні пра што не ведае. Тая ж Засімава доўгі час «выхоўвала» ў школе дзетак па-свойму, тэндэнцыйна, звышзадачай паставіўшы абарону велікарускай нацыі, якая нібыта на Беларусі знаходзіцца пад прыгнётам. Адчуўшы процідзеянне, нават не падумала перабудоўвацца, а накіравала ў ЦКК скаргу вельмі зняважлівага для мясцовага насельніцтва зместу.

На першы погляд можа падацца, нібыта Кандрат Крапіва, надзвычай пафасна адрэагаваўшы на гэту зняваґу, так бы мовіць, стрэліў з гарматы па вераб'ях (падумаеш, нейкая там настаўніца выявіла антыбеларускія настроі, ці шмат ад яе залежыць у нацыянальнай палітыцы). Сапраўды, ад

канкрэтнай шавіністкі Засімавай залежыць не шмат, аднак трэба ўлічыць, што яе нахабнасць была сімптаматычнай, бо адлюстроўвала тэндэнцыю на згортванне беларусізацыі, першыя прыкметы якой у пачатку 30-х гадоў заўважаліся без асаблівай цяжкасці. Таму і не мог паэт-грамадзянін прамаўчаць, зрабіць выгляд, нібыта нічога не адбываецца. «Не! — гнеўна ўскрыквае ён.— Рук, як Пілат той, не вымыю!» У беларускай мове ёсць шмат прыказак і прымавак, у якіх утрымліваецца негатыўная ацэнка абыякавасці, беспрынцыповага патурання злу. Цудоўны знаўца беларускай вусна-паэтычнай творчасці, Кандрат Крапіва мог бы без цяжкасці ўспомніць і выбраць адну з іх. Але менавіта Пілатава ўмыванне рук згадаў ён. І згадаў гэту метафару не таму, што яна здалася самай глыбокай і змястоўнай. Хутчэй — яна прывабіла сваёй сэнсавай шматмернасцю і пэўным касмізмам, сваёй адпаведнасцю бачання паэтам сутнасці праблемы, асабістай адказнасці. Дарэчы, з другой палавіны 20-х гадоў у паэзіі Кандрата Крапівы вельмі прыкметнай стала тэндэнцыя да шырокіх мастацкіх абагульненняў. Асабліва ж яскрава гэта тэндэнцыя выявілася ў байках.

Баечны жанр у беларускай літаратуры развівалі многія пісьменнікі. У тым ліку і такія яе гранды, як Ф. Багушэвіч, Я. Колас і Я. Купала. Аднак менавіта з імем Кандрата Крапівы звязваецца росквіт гэтага жанру ў беларускай літаратуры. Больш таго, спецыялісты адзначаюць вялікія заслугі беларускага байкапісца ў развіцці, узбагачэнні сусветных баечных творчых традыцый, у рэфармаванні некаторых жанравых канонаў. Пра наватарства Крапівы-байкапісца ў замежным літаратуразнаўстве гаварылася неаднойчы. Так, напрыклад, даследчык літаратуры з Чэхаславакіі І. Румлер сцвярджаў: «Хоць байка Кандрата Крапівы і захоўвае звычайныя адзнакі жанру — іншасказальнасць, алегарычнасць вобразаў, маральнае павучанне, яна выходзіць далёка за межы традыцыйнага разумення байкі і з'яўляецца адным з відаў публіцыстычна завостранай палітычнай сатыры».

Сапраўды, Кандрат Крапіва быў смелым рэфарматарам байкі, але, разам з тым, і вельмі спасцярожлівым: новыя элементы ўводзіліся ў канкрэтны твор у такой меры, каб гэта не разбурала яго жанравай структуры і выяўленчай дамінанты. Пры напісанні сваіх ранніх баек паэт дбаў перш за ўсё аб паўнаце эмацыянальнага ўздзеяння на чытача. А такога эфекту, справядліва меркаваў ён, можна дабіцца толькі тады, калі аб'ект сатырычнага асмяяння будзе абмалёваны з максімальнай выразнасцю. Выразным жа можа быць толькі тое, што даступна ўспрыняццю чытача. Арыентуючыся ў даваенны час пераважна на простанародную чытацкую аўдыторыю, байкапісец стараўся па магчымасці пазбягаць абстрактных паняццяў, выкарыстоўваючы канкрэтныя вобразы і з'явы, якія чэрпаў з прыроднага наваколля і грамадскага асяроддзя. Крыніца гэта аказалася надзвычай шчодрай. Прынамсі, такія крапівінскія байкі, як «Вол і Авадзень», «Сука ў збане», «Дзед і Баба», «Мандат», «Каршун і Цецярук», «Угоднікі-маўчальнікі», «Дыпламаваны баран», «Рак», «Казёл», «Сава, Асёл ды Сонца», «Ганарысты парсюк», «Чорт», «Саманадзейны Конь», «Жаба ў каляіне», «Зубы», «Махальнік Іваноў», «Дэкрэт» і многія іншыя, адразу ж пасля публікацыі атрымлівалі ўсенародную вядомасць і прызнанне. З цягам часу выяўленчая палітра Крапівы-байкапісца значна ўзбагаціцца: з'явяцца

ў яго творах і неканкрэтны жыццёвы матэрыял, і абстрактныя паняцці, і экзатычны антураж. Па-ранейшаму арыентаваная на паспалітага чытача, крапівінская байка ўсё больш і больш інтэлектуалізавалася. Глыбокім філасофскім падтэкстам вызначаліся многія байкі Кандрата Крапівы апошняга перыяду яго творчасці («Плывец-тэарэтык», «Асёл Ісуса Хрыста», «Шляхі да ісціны», «Леў-вегетарыянец» і інш.). У гэтых байках знайшлі арганічнае спалучэнне высокае версіфікатарскае майстэрства, бліскучая культура паэтычнага мыслення і выдатнае валоданне словам. Зрэшты, увагу да слова паэт дэманстраваў ужо ў самых першых сваіх байках, заўсёды імкнучыся надаць яму ёмістасць і афарыстычнасць, без якіх любая байка — не байка. Не дзіўна, што многія баечныя афарызмы Кандрата Крапівы ўвайшлі ў шырокі народны ўжытак, сталі прыказкамі і прымаўкамі, што ва ўсе часы і ва ўсіх літаратурах заўсёды лічылася найвышэйшай адзнакай майстэрства байкапісца. «Яго кожная новая байка,— адзначаў М. Лынькоў,— была радаснай падзеяй і для чытачоў, і для ўсіх нас, пачынаючых пісьменнікаў». Сапраўды, мала хто ў беларускай літаратуры мог пахваліцца такой папулярнасцю сваіх твораў сярод самых шырокіх народных мас.

Сказанае вышэй можна аднесці не толькі да баек Кандрата Крапівы, але і да яго сатырычных паэм. Захавалася мноства сведчанняў аб тым аглушальным поспеху, якім карысталася адна з іх — «Біблія», адразу ж пасля свайго выхаду ў свет у 1926 годзе. Вядома, было б некарэктна сцвярджаць, што паэма атрымала ўсенароднае прызнанне, як гэта здарылася з многімі крапівінскімі байкамі, але нават сярод пэўнай часткі веруючых яна знайшла сваіх прыхільнікаў. Пісаўся твор па заказе часу, у атмасферы татальнага адмаўлення рэлігійных канонаў, таму па ўсіх аб'ектыўных прычынах павінен быў бы і застацца ў сваім часе. Аднак гэтага не здарылася: паэма і сёння знаходзіць шлях да сэрцаў чытачоў. І будзе захапляць да таго часу, пакуль у народзе будзе захоўвацца цікавасць да «Бібліі» іншай — Свяшчэннага пісання. Па-першае, бурлескная літаратура, да якой адносіцца крапівінская «Біблія», валодае прыцягальнай сілай працяглага ўздзеяння. Па-другое, парадзіраванне біблейскіх сюжэтаў праведзена Кандратам Крапівой па-майстэрску, з добрым гумарам, вынаходліва і дасціпна. Пры гэтым няма ў аўтарскім тоне зласлівасці, грубасці. Затое з'едлівасці — колькі заўгодна. Каб выставіць святыя догматы ў смешным святле, аўтар вывярае іх элементарнай логікай, крытэрыямі разважнага сэнсу. І калі што не так, з нявінным выглядам зазначае паэт, дык прэтэнзіі трэба адрасаваць біблеістам, якія дапусцілі столькі сэнсава-лагічных няўвязак. Сваю ж задачу ён бачыў у зрыванні вопратак святасці з біблейскіх фактаў, у якія яны былі прыбраны стараннямі духоўных бацькоў. У сваёй кароценькай прадмове да паэмы паэт просіць прабачэння ў чытача, бо «...голыя факты, як і голых людзей, не заўсёды і не кожнаму прыемна бачыць. Але ж няхай даруюць мне паважаныя чытачы,— я не вінават, бачыце, біблейская вопратка «святасці» так струхлела, так збуцвела, што досыць да яе толькі дакрануцца, як яна адразу спадае і паказвае ўсю «прыгажосць» таго, што пад ёю хаваецца. А «факты» біблейскія я стараўся захаваць у цэласці».

Перад гэтым аўтар зрабіў і іншае прызнанне, што яго паэма — вольны пераклад Свяшчэннага пісання. Практычна ж у яго атрымаўся не

пераклад, хай сабе і вольны, а пераказ-каментарый. Прычым вельмі зацікаўлена-прыдзірлівы, так што амаль кожная супярэчнасць у біблейскіх тэкстах не засталася па-за ўвагай аўтара. Са з'едлівай іроніяй, саркастычнай насмешкай пераказвае ён біблейскія версіі стварэння Сусвету, пашырэння жыцця на Зямлі. Часам у гэтым пераказе з'яўляюцца ноткі сапраўднага паэтычнага захаплення, і тады робіцца відавочным, што не толькі дзеля зрывання струхлелых вопратак святасці ды канстатацыі заблытанасцей фактычнага парадку браўся Кандрат Крапіва за пяро, што міфічны, загадкава-таямнічы свет біблейскіх сюжэтаў прыцягваў яго мастакоўскую зацікаўленасць самахоць, безадносна ад любой палітычнай ці ідэалагічнай кан'юнктуры. У лепшых традыцыях беларускай бурлескнай літаратуры малюе ён біблейскіх персанажаў зямнымі, часам нават прыземленымі людзьмі, надзяляючы іх звычайнымі чалавечымі слабасцямі і недахопамі. Жывымі і грэшнымі з'яўляліся яны з-пад пяра сатырыка. «Рэканструяваныя» яго творчай фантазіяй, яны рабіліся па-свойму блізкімі, зразумелымі паэту. Цяжка вызначыць, чаго больш у аўтарскім позірку на большасць з іх: асуджэння ці разумення, а нярэдка нават любавання.

З трох крапівінскіх паэм найменшую ўвагу крытыка ўдзяліла паэме «Шкірута», напісанай і апублікаванай у 1928 годзе. А між тым твор гэты вызначаецца несумненнымі мастацкімі вартасцямі. Прысвечаная падзеям грамадзянскай вайны, паэма прываблівае вострым, дэтэктыўна-займальным сюжэтам, лёгкім, мяккім гумарам, майстэрствам партрэтных характарыстык герояў. Апрача ўсяго іншага, паэма цікавая адлюстраваннем барацьбы паміж рознымі літаратурнымі аб'яднаннямі, якая абвастрылася на рубяжы 20—30-х гадоў.

Адгалоскі барацьбы розных творчых тэндэнцый і падыходаў вельмі адчувальныя ў паэме «Хвядос — Чырвоны нос», пік папулярнасці якой выпаў на даваенны час, калі падзейны «сэнсарад» твора ўспрымаўся злепкам з непасрэднай рэчаіснасці. Вядома, калі б у паэме аўтар засяродзіўся толькі на крытыцы сваіх літаратурных апанентаў, дык шырокага грамадскага рэзанансу яго твор наўрад ці дасягнуў бы. І сапраўды, паэма «Хвядос — Чырвоны нос» вызначаецца шматпраблемнасцю, багаццем падзейнага матэрыялу, ускладненасцю ідэйна-маральных вывадаў. Згадаем яшчэ адну яе адметнасць — незвычайную сюжэтна-кампазіцыйную будову. Дзеля ўзмацнення сатырычна-выкрываўчага эфекту Кандрат Крапіва прыбягае да чыста ўмоўнага прыёму перанясення падзей у розныя часавыя вымярэнні. Галоўны герой паэмы Хвядос так зацята змагаўся з алкаголем, што аднойчы не вытрымаў і «паў на полі брані». Паколькі ж у крыві яго аказалася дзевяноста тры працэнты спірту, вырашылі пакласці нябожчыка ў шкляную скрыню і змясціць у музей, як наглядны экспанат для антыалкагольнай прапаганды. Роўна праз сто год, у 2030 годзе, геніяльнаму вучонаму Набгараце ўдалося ўваскрэсіць, ажывіць Хвядоса. І трапіў той у казачны свет новай Беларусі, дзе на кожным кроку здзіўлялі, бянтэжылі яго праявы тэхнічнага і духоўнага прагрэсу. Гарманічна прыгожыя людзі насяляюць край, бо зніклі ўсе фізічныя і духоўныя недахопы, а разам з імі розныя перажыткі ды забабоны. Зямны рай запанаваў на радзіме Хвядоса, але ён не здолеў прыжыцца ў новых умовах, таму быў змешчаны ў музей карыкатур. Жывым экспанатам.

Апісанню музея карыкатур аўтар выдзяляе не шмат месца. Але нават беглага позірку дастаткова, каб зразумець, што ніякі не музей гэта, а самая звычайная рэчаіснасць пачатку 30-х гадоў. Трэба аддаць належнае Кандрату Крапіве, бо на такія палітычна-паэтычныя дэмаршы ў тагачаснай беларускай літаратуры здольных было не шмат. А хіба многа хто з яго калег па творчасці асмельваўся на такую адкрыта рэзкую крытыку бюракратычнага стылю кіраўніцтва, перагібаў у правядзенні калектывізацыі, якую мы бачым у паэме? Думаецца, не толькі цімкавіцкаму «праўдзіру» рабілася непамысна ад чытання наступных радкоў: «Кінуў лозунг ён такі: «Ці калгас, ці Салаўкі». І пайшлі, прасіцца сталі ўсе з мястэчка да душы: «Дзядзя, мілы, запішы!» А такіх радкоў у паэме нямала, і яны прыдаюць ёй выразнае гуманістычнае гучанне.

Побач з паэтычнымі Кандрат Крапіва, пачынаючы з лета 1922 года, пісаў і празаічныя творы. Самыя першыя празаічныя публікацыі пісьменніка вызначаліся большым, у параўнанні з паэзіяй, лірызмам. Дарэчы, многія з іх па сваіх формавыяўленчых адзнаках толькі ўмоўна могуць быць аднесены да жанру апавядання. «Вясна» нагадвае лірычную мініпаэму ў прозе. «Клас», «Пад грукат колаў», «Падарожнае» — гутарковыя імпрэсіі і г. д. А ўвогуле, у прозе пісьменнік ставіў перад сабой тыя ж самыя задачы, што і ў паэзіі. Змяніўся толькі творчы «інструментарый», але застаўся амаль той жа сатырычны пафас, тыя ж аб'екты асмяяння і выкрыцця. Вельмі хутка сталеў талент Крапівы-празаіка. Ён нават у ранніх сваіх апавяданнях, паклаўшы ў аснову сюжэта анекдатычны, забаўны выпадак, умеў прыдаць ім такую адмысловую «агранку», што ў выніку атрымліваліся творы сапраўднага мастацтва. Па-майстэрску выкарыстоўваў пісьменнік падтэкст. Дзякуючы яму адбываліся дзівосныя метамарфозы змястоўнага плана: сыры зыходны матэрыял траціў сваю прымітыўнасць і прастату, набываў контуры завершанай мастацкай структуры, адкрываў выяўленчыя гарызонты абагульняючага кшталту. І, вядома ж, вялікую ролю ва ўсіх апавяданнях Кандрата Крапівы адыгрывае гумар. У залежнасці ад сітуацыі ён набывае розныя эмацыянальныя адценні. Часцей бывае мяккім або добразычліва-кплівым, і толькі тады, калі ў поле пісьменніцкага зроку трапляў яўны прайдзісвет, з'яўлялася жорсткая насмешлівасць, калючая непрымірымасць. Майстрам пабытава-гумарыстычнага малюнка паказаў сябе аўтар ў апавяданнях «Певень», «Гарэлік і яго жонка», «Вайна», «Людзі-суседзі» і інш. У гэтых творах аўтар прадэманстраваў выдатнае ўменне «вылушчваць» з прыватных эпізодаў і сітуацый значны змест, здольнасць гумарыстычным, а то і гарэзлівым тонам гаварыць пра сур'ёзныя рэчы. Прыкметнай з'явай у прозе 20-х гадоў варта лічыць апавяданні «Мой сусед», «Хвост», «Ідэі», у якіх асэнсоўваюцца праблемы прыстасавальніцтва, сапраўднай і ўяўнай інтэлігентнасці, бюракратычнай бездухоўнасці.

Праца ў жанры апавядання дала Кандрату Крапіве добры навык празаічнага пісьма. Без яе пісьменніку было б значна цяжэй асмеліцца на задуму напісання рамана «Мядзведзічы». Некаторыя апавяданні цалкам, амаль без змен увайшлі ў тэкст рамана, лішні раз даказваючы, што былі трывалай прыступкай на шляху да вялікага эпічнага твора. Выйшаў раман асобным выданнем у канцы 1932 года з паметкай «Кніга першая». Неўзабаве пасля гэтага Кандрат Крапіва ў артыкуле «Слова да малодшых»

пісаў: «Па лініі творчасці я працую цяпер над раманам «Мядзведзічы». Першая кніга гэтага рамана ўжо выйшла з друку. Яна ахапляе аднаўленчы перыяд, які супадае з першым перыядам маёй творчасці... Другая кніга будзе прысвечана арганізацыйнаму і гаспадарчаму ўмацаванню калгасаў. Матэрыял для гэтага ў мяне ёсць даволі багаты. Увесь мой клопат у тым, каб правільна адлюстраваць гэты найважнейшы момант у рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, і разам з тым, каб твор выйшаў цікавы падзеямі і багаты яскравымі вобразамі».

На жаль, свае задумы Кандрат Крапіва рэалізаваць не здолеў. І гэтаму былі вельмі сур'ёзныя прычыны. Выказваліся меркаванні, што творчы запал пісьменніка астудзіла нядобразычлівасць тагачаснай крытыкі. Аднак гэта толькі частка праўды. Асноўнай жа прычынай, якая перашкодзіла ажыццяўленню аўтарскай задумы, было пагаршэнне сацыяльна-палітычнай абстаноўкі ў краіне з узмацненнем рэпрэсіўных мер. Трэба было выжываць. А задум і іншых хапала. Таму кніга першая рамана «Мядзведзічы» стала і кнігай апошняй. Але далёка не апошняй была яна па сваім значэнні ў гісторыі беларускай літаратуры. Праўдзівасць у паказе супярэчнасцей першых крокаў калектывізацыі, глыбіня спасціжэння сацыяльных зрухаў у тагачаснай сельскай рэчаіснасці, майстэрства псіхалагічнага раскрыцця характараў, уменне ярка і каларытна апісваць побыт сяльчан — гэтыя якасці вылучылі раман з шэрагу ардынарных твораў, забяспечыўшы яму даўгавечнасць чытачоўскай зацікаўленасці.

У артыкуле «Слова да малодшых», які згадваўся вышэй, ёсць і такое прызнанне: «Дзесяць год свае творчасці я разглядаю (у плане літаратурным) як вучобу, як пробу сваіх сіл на розных тэмах і ў розных жанрах. Мне здаецца, што пісаў я дагэтуль — так, пакуль што, а па-сапраўднаму пісаць яшчэ толькі пачну... Суб'ектыўна ў мяне такое адчуванне: пісаў я, між іншым, да часу, бо не мог не адгукнуцца на тую ці іншую грамадскую з'яву, а за сапраўдную вялікую творчую работу вось-вось зараз вазьмуся».

І гэта піша пісьменнік, які за дзесяць гадоў напружанай працы зрабіў столькі, колькі іншы яго калега па пяру не мог зрабіць за ўсё жыццё. Некалькі паэтычных і празаічных зборнікаў, тры паэмы і раман. Прычым зборнік «Крапіва» вытрымаў да гэтага часу чатыры выданні, «Байкі» — два. Бліскучы плён і заслужанае прызнанне! Але сам пісьменнік адчуваў, што далёка яшчэ не вычарпаў свой творчы патэнцыял. Адзін з лідэраў і галоўных ідэолагаў літаратурна-мастацкага аб'яднання «Узвышша», ён выдатна ўсведамляў, якія задачы стаялі перад беларускай інтэлігенцыяй Беларусі ў пачатку 30-х гадоў. Адна з іх — умацаванне нацыянальнага тэатра. Тэатральная дыскусія, якая прайшла ў канцы 20-х гадоў, яскрава засведчыла, наколькі востра стаяла ў беларускім сцэнічным мастацтве праблема выбару шляхоў далейшага развіцця. Стала відавочным, што толькі стварэнне высокамастацкага нацыянальнага рэпертуару можа выратаваць беларускі тэатр ад правінцыялізму, ад бяскрылага пераймання здабыткаў, узораў прызнаных тэатральных цэнтраў. Вось чаму Кандрат Крапіва без ваганняў прыняў прапанову БДТ-1 аб супрацоўніцтве. З напісання драмы «Канец дружбы» пачаўся для яго новы творчы этап.

«Цяжка пераацаніць плён сустрэчы тэатра з драматургіяй Кандрата Крапівы,— прызнаваўся народны артыст СССР Б. Платонаў.— Яна мела

найвялікшае значэнне для станаўлення ў тэатры перш за ўсё грамадзянскай тэмы. Праблемы, якія ўзнімаюцца ў п'есах Крапівы, маюць агульначалавечае значэнне. Я як акцёр быў вельмі рады сустракацца з тыповымі, дасканала адшліфаванымі вобразамі». У словах знакамітага майстра беларускай сцэны няма перабольшання. Сапраўды, менавіта з імем Кандрата Крапівы доўгі час звязваліся важнейшыя дасягненні Першага Белдзяржтэатра. Асаблівы ж поспех выпаў на долю сатырычнай камедыі «Хто смяецца апошнім». Напісаная ў канцы 1938-х — пачатку 1939 гадоў, яна ўспрымалася грамадскасцю як выклік беззаконню, як асуджэнне масавых рэпрэсій. Камедыя «Хто смяецца апошнім» — гэта подзвіг. Аднолькава значны як у грамадзянскім, так і ў мастацкім аспекце. На творчых уроках гэтай камедыі вырасла не адно пакаленне беларускіх драматургаў.

У час вайны і за пасляваенныя гады Кандрат Крапіва напісаў шмат драматургічных твораў. Кожная з яго п'ес па-свойму была падзеяй у тэатральным жыцці рэспублікі. А камедыі «Мілы чалавек» і «Брама неўміручасці» сталі выдатнай мастацкай з'явай. І не толькі ў беларускай драматургіі. Выступаючы на творчым вечары, прысвечаным 80-годдзю з дня нараджэння Кандрата Крапівы, Андрэй Макаёнак высока ацаніў уклад свайго літаратурнага настаўніка ў развіцці айчыннай драматургіі і тэатра. Ён асабліва вылучыў выхаваўчае значэнне творчасці драматурга. «І каб хто мог узважыць, змерыць, падлічыць, што зрабіў у гэтым сэнсе Крапіва! Колькі тысяч вечароў ярка, вобразна, весела прапаведаў ён свае ідэалы, сімпатыі і антыпатыі ў такіх вось тэатральных залах, у кіно, на ўроках, на лекцыях, на экзаменах, якія масы — стотысячныя, мільённыя — непасрэдна слухалі яго мудрасць, адчулі на сабе яго фарміруючую руку. Колькі артыстаў удзячны яму за яркія ролі!.. Колькі гарлахвацкіх ён зваліў, паклаў на лапаткі! Колькі туляг ён падняў, страсянуў і паставіў на ногі?»

Выдатнай старонкай творчай біяграфіі Кандрата Крапівы сталася яго перакладчыцкая дзейнасць, пра якую, на жаль, у нас ведаюць не шмат. А між тым у беларускай літаратуры мала знойдзецца пісьменнікаў, хто мог бы пахваліцца большым плёнам гэтага кшталту. З крапівінскіх перакладаў на беларускую мову можна скласці цэлую бібліятэчку. Асобнымі кніжкамі выйшлі: «Усмешкі» А. Вішні, «Дзівакі-нябожчыкі» А. Чэхава, «Галавасек» В. Шышкова, «Прыгоды ўдалага ваякі Швейка ў сусветную вайну». Ч. 2. «На фронце» Я. Гашака, «Жаніцьба» М. Гогаля, «Выбраныя творы» А. Чэхава, «П'есы» А. Астроўскага, «Наймічка» Т. Шаўчэнкі, «Рэвізор» М. Гогаля. А колькі яшчэ перакладаў «рассеяў» Кандрат Крапіва ў спецыяльных выданнях, калектыўных зборніках, у літаратурна-мастацкіх альманахах ды перыёдыцы?! Паўсотні баек І. Крылова, творы А. Пушкіна. М. Някрасава, А. Міцкевіча, М. Горкага, Ш. Руставелі, У. Маякоўскага, І. Сельвінскага, С. Піліпенкі, Д. Беднага, А. Твардоўскага і інш., дзякуючы перакладчыцкаму таленту К. Крапівы, былі далучаны да сферы беларускай культуры. Высока ацэнены спецыялістамі і пераклад славутай трагедыі У. Шэкспіра «Рамэо і Джульета».

У галіне перакладчыцкай дзейнасці Кандрат Крапіва працаваў звыш пяцідзесяці пяці гадоў (першая публікацыя з'явілася ў 1927 годзе, апош-

няя — у ліпені 1983 года). І ўвесь час яго працы наглядалася здзіўляючая паслядоўнасць і мэтанакіраванасць: для перакладу творы ён старанна адбіраў, а не браў тое, што пад руку трапіць. Першым, найважнейшым крытэрыем адбору была высокая мастацкасць твора. Але перавагу пісьменнік аддаваў тым, якія неслі беларускай літаратуры навізну, садзейнічалі ўзбагачэнню арсеналаў выяўленчых сродкаў.

Літаратурная дзейнасць у Кандрата Кандратавіча арганічна спалучалася з навуковай. Яго пяру належыць мноства грунтоўных даследаванняў у галіне лінгвістыкі і літаратуразнаўства. Ён — стваральнік і рэдактар фундаментальных беларускіх слоўнікаў, якімі і сёння шырока карыстаюцца як спецыялісты, так і масавы чытач. За сваё доўгае жыццё Кандрат Крапіва папрацаваў вельмі і вельмі плённа, таму суайчыннікі з глыбокай пашанай ставяцца да яго асобы, беражліва захоўваюць яго творчую спадчыну.

Сцяпан ЛАЎШУК

## Я НЕ ПЯСНЯР!

Я не пясняр! Я не мастак! —
Хай так;
Мой твор не твор,— дзіця,
Мой спеў не спеў, а крык,
Але у тон
Пад камертон
Жыцця
Мой зык:
Я крыкну — ўраз
Па гушчах мас
Нясецца хваля рэх
І ў свой прабег
Раджае смех,
Здаровы смех.

*1925*

## ПРАБОРКА МУЗЕ

Лаяў сёння сваю музу я:
«Ах ты,— кажу,— галапузая!
(Ды абазваў яшчэ сякою-такою.)
Што ты,— кажу,— не даеш супакою
Мне ні ўдзень, ні ўночы,
Хоць плюй табе ў вочы:
Па вуліцы за мною цягаешся,
Над усімі выскаляешся,

Не зважаеш ні на кога ні крышку,
Часамі зачэпіш і важную шышку.
А ты,— кажу,— муза-дура,
Не касіся на пуза саўбура,
Не сачы падазрона вачамі
За нэпачамі,
Не чапляйся гэтак заўзята
Да бюракрата
Ды згінайся ў пашане ямчэй,—
Ці не будзе мне крышку лягчэй».

*1923*

## ЦЁТКАМ НАВУКА

*З велікодных здарэнняў*

Вось пакута, дык пакута!
Стогне, енчыць цётка Ўлюта,
Ўжо канае вот-вот-вот —
Так схапіў яе жывот,
Аж не знойдзе сабе месца...
Заўжды так, як хто аб'есца,
Вось і Ўлюце надта крута:
Сем нядзель пасціла Ўлюта,
На Вялікдзень з галадухі,
Пасля бульбы й саладухі,
Цётка Ўлюта як прысела,
Дык паўшынкі зразу з'ела;
Не дала пасля за мясам
Яна ганьбы і кілбасам;
Гэтаксама й пірагу,
Гэтаксама й тварагу,
Гэтаксама й парасяці...
Ды ўсяму, што было ў хаце,
Яна ганьбы не давала,
Дык затое ж ледзь устала,
А праз нейкі час патом
Стала енчыць жыватом.
Як падверне ёй пад грудзі,
«Гвалт! — крычыць.— Ратуйце, людзі!
Ох, саколік! Ох, Андрэй!

Па Агату йдзі скарэй!»
Пакуль той прывёў шаптуху,
Дык Улюта ўжо й без духу.
От, браткі, была ёй мука!
Гэта, цёткі, вам навука.

*1924*

## «ПРАЛЕТАРЫ» І «БУРЖУЙ»

*Путаніца разуменняў*

Нос глядзіцца проста ў неба,
Капялюш на ім — што трэба,
Акуляры залатыя,
Аж мігцяць пярсцёнкі тыя
У суконнай чорнай пары —
То — сапраўдны пралетары,
Бо ён ўласнасці не мае,
Калі ў месяц атрымае
Сто рублёў няшчасных некіх,
Дык за месяц да капейкі
Усё роўна іх растраціць,
Ну, бо што ж тут гэта значыць?
Чорны, змучаны, кудлаты,
Апранаха — адны латы,
Загарэлы нос аблезлы,
На калені порткі злезлі,
Разбарсалася абора,
І ў вачах свіціцца гора,
Увесь да старца ён падобны,
То — буржуй, хаця і дробны,
А чаму — дык гэта ясна,—
Бо ён, бачыш, мае ўласнасць
І не знаецца з рублямі,
Мае рукі з мазалямі,
Жонку — шчуплую кабетку
(Меў кабылку — здохла ўлетку),
На курыных ножках хату,
Венік, мешалку, лапату.

*1923*

## ГАНУЛЬЧЫНА ГОРА

Вось нікому ні такому,
Як нашай Ганульцы,—
Нават скора будзе сорам
Ёй прайсці па вуліцы:

Мужык — чысты камуністы,
Сын — у камсамольцах;
Трэба сесці за стол есці —
Богу не памоляцца.

Багоў з хаты, як вар'яты,
Выкінулі ў смецце,—
Покут голы, невясёлы,
Як у той павеці.

І Ганульцы ўжо, зязюльцы,
Памаліцца недзе,
Як патрэба ёсць да неба,
Дык бяжы к суседзям.

Дык нікому ж ні такому,
Як нашай Ганульцы,—
Вось жа гора! Кажа, сорам
Ёй прайсці па вуліцы:

Так і плача, небарача,
Што багі адменены:
«Матка боска! Зараз вёска
Пойдзе ўся за Леніным».

*1923*

## БУДУЙЦЕ ЛАЗНІ!

Беларусь па вушы гразне,
Але ў вёсках Беларусі
Днём з агнём ніводнай лазні
Не знайшоў бы нават, мусіць.

Ад Барысава да Слуцка
(Аж прызнацца нейк нялоўка)
Ўсе прывыклі не па-людску
Сяк-так боўтацца ў начоўках.

Сяк-так дзядзька плечы й грудзі
Папалам памые з горам,
Але далей кажа,— будзе,—
Раздзявацца, бачыш, сорам.

Нібы кветкі, маладзіцы
Тут страчаюцца парою,
Але ніжай паясніцы
Абраслі, як ёсць, карою.

Нават людзі ёсць такія,
Што другую палавіну
Ім хто-небудзь толькі мые,
Як кладуць у дамавіну.

Лазняў болей — больш здароўя,
Гразь жа нам нясе хваробу.
Дык збудуйце ж,— клічу зноў я,—
Хоць адну на тую спробу!

*1923*

## СВЯТЛО Ў КУТ—МЕНШ ПАКУТ

Пра Ігната на ўсю вёску
Ўжо пусцілі пагалоску:
«Ну й багат!
Як Ігнат».
Хто цялушкамі й быкамі,
А Ігнат дык едакамі.
Што гадок,
То й ядок.
Хоць з іх болей, як тры чвэрці,
Пападае ў лапы смерці:

Што зіма,
То й няма.
Як памрэ, Ігнат затое
Адгаблюе разам двое —
Ну й Ігнат!
Лоўкі, гад.
І Агата не шманае,
Толькі бога ўспамінае,—
Усё ў яе
Бог дае.
А я б нават пабажыўся,
Што бог з ёю не лажыўся,—
Усё Ігнат
Вінават.
Як хавае, тая маці
Зноў жа бога вінаваціць:
Як памрэ —
«Бог бярэ».
Ды няпраўда толькі гэта —
Памыляецца кабета:
Больш дагляд
Вінават.
Бо, каб богу былі трэба,
Нарабіў бы поўна неба:
Ён жа — спец,
Наш «айцец»...
Ад вяселля й да магілы
Шмат патраціць дарма сілы —
То пладзі,
То кладзі.
І нічога не паможа,
Бо на ўсё тут воля божа —
«Бог як даў,
Так і ўзяў».
Як у беднай сілы хваціць?!.
А каго ж тут вінаваціць?
Мо Ігнат
Вінават?
Не Ігнат і не Агата —
Цемната тут вінавата.
Святло ў кут —
Менш пакут.

*1925*

## ТВАРАМ ДА ВЁСКІ

Поп Мацей, падлізнік боскі,
Павярнуць рашыў да вёскі
Тварам.

І ўжо месяц, як і сёння,
Сыпле казані з амбоні
З жарам.

Дзе памінкі ці радзінкі,
Ён, не трацячы гадзінкі,
Пеша,

Ўзяўшы ўсё сваё «начынне»,
Падаткнуўшы «аблачэнне»,
Чэша.

І на вёсцы ўжо ў Мацея
Аж лабэціна пацее
Часта:

Ён працуе шчыра й многа,
Не забылася каб бога
«Паства».

Пацяшае «верных» раем,
А «няверных» ён карае
«Адом».

Але чуць не ў кожнай хаце
Адварочваюцца к баці
Задам.

*1925*

## ТЫ НЕ ЛАЙСЯ, ДЗЯДЗЯ, ПРЫ САВЕЦКАЙ УЛАДЗЕ

Ў хаце сварка-звадка:
Жонка дэлегатка,
А мужык — аж дуба,
Штось яму не люба...

— Эх ты, дэ-ле-гатка!
Як табе не гадка?
Як табе не сорам? —
Кажа муж з дакорам.—

Вось папала моду!
Не прапусціць сходу,
Ўсё язык там чэша,
Ўсё на мужа брэша...

Лепш свае б кудзелі
Вы, баб'ё, глядзелі,
А не — дык па карку
Я цябе, пляткарку.

— Твая справа — вобуй,
А мая — кудзеля,
А крануць папробуй,
Будзеш ў жанаддзеле.

Лепш пайду к разводу,
А не кіну сходу! —
Адказала жонка
Голасна і звонка.

Не чапай жа, дзядзя,
Ты сваю кабету —
Пры савецкай ўладзе
Хай паглядзіць свету:
І табе лепш будзе,
Калі выйдзе ў людзі.

*1925*

## ЦІТ ЗАВОДЗІЦЬ НОВЫ БЫТ

Паглядзіце вы на Ціта —
Вынес ён у хлеў карыта
І падсвінкаў, і свіней
Выгнаў з хаты і з сяней.
    Ўзяўшы дзетак на падмогу,
    Палажыў сяк-так падлогу,—
    Не на жарты, мусіць, Ціт
    Стаў заводзіць новы быт.
На ўсю зіму вось на гэту
Ціт наш выпісаў газету —
Хоча ведаць, як відаць,
Што на свеце дзе чуваць.
    Перад дочкамі й сынамі
    Ціт не лаецца «па маме»,
    Не лупцуе жонкі Ціт —
    Ён заводзіць новы быт.
На папа глядзіць Ціт коса,
А ў царкву не ткне і носа,—
Ну, і з богам, значыць, квіт,
Бо заводзіць новы быт.
    Не з апошніх Ціт і ў полі —
    Перайшоў на мнагаполле,
    Сее рэпу, буракі...
    А растуць жа — як гаршкі!
Быў узгорак, так як бубен,
Але Ціт пасеяў лубін,
Дык (ці веры вы дасце?),
Як чарот, жытцо расце.
    Тодар, Ян, Язэп, Мікіта!
    Чым вы горшыя за Ціта?
    Дык пачніце ж, як і Ціт,
    Вы заводзіць новы быт.

*1923*

## У СУШНІ

За паклонамі б'юць церніцы паклон,
За ручайкаю ручайку грызуць лён,
А з-пад церніцаў кастрыца — быццам снег,
Трэплюць бабы языкамі, дык аж смех,
Перабралі ўжо ўсю вёску мо не раз:
Як пабіўся сёння з жонкаю Тарас,
Як аладак дрэнных Тэкля напякла,
Як учора Манька ўпрочкі уцякла,
Як нядобра накладаюць праднaлог,
Як на ўсіх людзей загневаўся ўжо бог,
Бо і людзі ўжо забылі пра яго,
Як Марыля загрубела й ад каго,
Як Тадора шмат нацерла ўчора льну
І як Польшча абвясціла нам вайну...
Так у сушні ў нас вядзецца век-вяком,
Там найболей бабы трэплюць языком,
І пакуль натрэ дзесятак які льну,
Дык абрэша дзесяць раз адна адну.

*1923*

## КУЛАК

У краўцовага Ігната
Барада — нібы лапата,
Нібы тое памяло,—
Над усё, браткі, сяло;

Шапка — цэлая авечка,
Нібы буслава гняздзечка,—
Адно дзівіцеся вы,
Як не зверне галавы;

А кажух! — аўчын мо з восем
(Мы такіх, браткі, не носім),
Паўаршына той каўнер —
На кулацкі ўсё манер;

Тыя боты як уздзене,
Дык халявы па калені,
А як пойдзе, дык рыпяць —
Варты мо чырвонцаў з пяць.

А прыхільны ж ён да ўлады!
Як сабака палцы рады,
І наровіць заўжды, гад,
Абысці каб як загад.

Калі ўзяць, дык — надта хітры,
Калі даць, дык — «носік вытры».
Увільне не сяк, дык так,
Бо нашто ж бы быў кулак?

*1923*

## ДЗЯДЗЬКА ХВЯДОС І МАЛАКАСОС

— Што? Зноў на сход? Ды зноў даклад?
Вучыць старых ты заўжды рад,
А сам яшчэ малакасос,—
Сказаў мне раз Хвядос.—
Цяпер з старых дык проста здзек...
Пражыў мой дзед і бацька век,
І я дзесятак не адзін
Жыву без вашых тых навін.
— Няпраўда гэта. Дзядзька, мусіць,
Ці памыліўся, ці мо хлусіць,
Не бачыць, што ў яго пад носам,—
Павёў я гутарку з Хвядосам.—
Твайму дзядулю-селяніну
Не раз пан сек лазою спіну,
А бацьку плёткай стражнік, прыстаў,—
Вазьмі ж цяпер сваю ім выстаў.
Жывеш ты ў хаце светлай, чыстай,
А варт яна рублёў мо трыста,
І ты смяешся з дзеда-дурня,
Што ён няхайна жыў у курнай.

Дык вось разжуй цяпер ты, дзядзька:
Каб заўжды жыў так сын, як бацька,
А бацька жыў-быў так, як дзед,
Дык і дагэтуль яшчэ свет
Такі б быў самы акурат,
Як тысяч сто гадоў назад:
Не ўмелі б хат мы будаваць,
Не ўмелі б быдла гадаваць
І гатаваць яды б не ўмелі,
Звяракі нас, мы іх бы елі,
Адзін другога — хто каго.
А то глядзі вунь, да чаго
Дайшоў сучасны чалавек.
Аж дзіўна робіцца ўжо нек:
Не мае роўных ён нідзе,
Ні пад вадой, ні на вадзе,
Ў паветры лётае так хвацка,
Бо разумнейшы сын, чым бацька.
    Падумаў тут Хвядос хвіліну,
Памармытаў, пачухаў спіну,
Пасля сказаў: — Малакасос,
Але падцёр старому нос.

*1925*

## У ПІЎНОЙ

Піва, піва, піва.
Шклянкі. Бутэлькі. Куфлі.
Не дзіва,
Што так распухлі,
Што вядзёрныя ражкі.
Цяжка працуюць, цяжка:
Васьмікуфельны працоўны дзень
Штодзень
І «зверхурочных» тузін
Змясціць у пузе —
Гэта ж вам не жарт —
Такі цяжар.

Сялянскім аддае потам?
Э, што там!
Чаго развpainжаць!
Развага — вяселлю атрута.
Хай сее той, каму крута,
А ваша справа — жаць,
Ваша ніва —
Піва, піва, піва.
І дрэмле сумленне маўкліва,
Залітае куфлямі піва.

*1925*

## КРАПІВА

Я ў мастацкім агародзе
Толькі марная трава.
А якая? Смех, дый годзе:
Я — пякучка-крапіва.

Я расту вось тут пад плотам
І не так даўно ўзышла,
А ўжо многім абармотам
Рукі-ногі папякла.

Хто палез за агуркамі,
Хай той носіць пухіры —
Мяне голымі рукамі
Асцярожна, брат, бяры.

Хто сустрэўся быў са мною,
Дакрануўся раз ці два,
Дык той ведае ўжо, хто я:
Я — пякучка-крапіва.

*1922*

## СВАТЫ

*Да Генуэзскай канферэнцыі* [1]

Буржуй моцна ўзбагацеў
Ды пад старасць звар'яцеў:
Захацеў стары жаніцца;
Дык вось, каб не памыліцца,
Здэцца, што ў вялікім посце,
    Ён пазваў Расію ў госці
    Да Генуі, што ў Італі,
    Ды там сватацца пачалі,
    Ды так горача ўзяліся,
    Што чуць залаб не спляліся...
Але вось восьмая нядзеля,
А няма, няма вяселля...
Што ж? — дзяцюк ён дармаваты:
Хоць стары, але багаты —
Капялюш, пальчаткі носіць,
    Дык пасагу многа просіць:
    Грошай шмат, каня й кароўку...
    Дык адклалі на пятроўку
    Ды збяруцца ўжо ў Гаагу,—
    Можа, возьме й без пасагу.

*1922*

## САМАГОНАЧКА

*П'яная гутарка*

Як цябе калі я ўбачу,
Самагоначка мая,
Дык чуць з радасці не плачу...
Дай жа цмокну цябе я.

---

[1] Міжнародная канферэнцыя, якая адбылася ў горадзе Генуі ў Італіі ў 1922 г., дзе падпісаны Рапальскі дагавор з Нямеччынай.

Эх! Прыемна ты сабою,
Мне ўжо вельмі ж па нутру,—
    Разлучуся я з табою,
    Хіба толькі як памру.
    Ад падатку ўсю астачу
    Прынясу, аддам табе...
    Што? Не еўшы, дзеці плачуць?
    Ну дык што ж — няхай сабе.
Як паддам сабе ахвоты,
Дык я ўсё аддаць гатоў —
Шапку, вопратку і боты...
Дай жа цмокнемся мы зноў.
Твая матка, як бывала,
За Міколаў яшчэ час,
Без апаскі ўсіх прымала,—
    Ты ж не гэтакая ў нас,
    Але, здэцца, і з табою
    Можна справу распачаць,—
    Я вячэрняю парою
    Цябе буду сустракаць.
    Што? Смяяцца будуць людзі?
    Нам на гэта напляваць.
А мо жонка грызці будзе?
Дык патрапім і суняць:
Як адбатажу вяроўкай,
Ўзяўшы голаву між ног,—
Зразу стане мякчэй шоўку...
Я ж як злосны — не дай бог.
    Не пужайся ж, дай мне губкі —
    Пацалую яшчэ раз:
    Ўспамянём жа сёння, любка,
    Мы з табою былы час!

*1922*

## ДАБЯРОМСЯ І ДА НЕБА

Бог высокі, бог далёкі,
Непрыступны, страшны бог!
Ты залез аж на аблокі,
Каб дайсці ніхто не мог.
Абхваціць не могуць вочы
Велізарны твой палац,
Ліхтары і ўдзень і ўночы
Там, не тухнучы, гараць.
Хор анёлаў там ад ранку
І да ранку аж грыміць,
Херувім з мячом ля ганку
Як укопаны стаіць.
А вунь там, у кутку неба,
Куча топчацца святых,—
Як якая дзе патрэба,
Пасылаеш туды іх.
І жывеш сабе на небе
Ты без нэндзы, без клапот,
Ты не думаеш аб хлебе,
Не ліеш над працай пот.
Чалавек жа здабывае
Цяжкай працай тут яду
І ў жыцці сваім страчае
Заўжды гора ды бяду.
Але ў муках і без хлеба
Не захочам жыць мы век —
Дабярэцца і да неба
Раззлаваны чалавек.
Дасць святым ён на арэхі
І анёлам дасць на чай,—
Будзе з імі там пацехі,
Ды і ты, брат, выбачай:
Мусіць, трохі давядзецца
І табе папрацаваць.
Бо заставім мы, як спеца,
Новы свет нам будаваць.
Ды глядзі, каб сабатажам
Не займаўся, а то мы
Так, як бач, табе пакажам
Шлях-дарогу да турмы.

*1922*

## БЕЛЫ «ПЕВЕНЬ»[1]

Белы певень стаіць руба,
Нам гатуючы бяду,
Вострыць кіпці, вострыць дзюбу
На чырвоную звязду.

Але часам давядзецца
З ім сустрэцца той бядзе,
Як бясхвостым застанецца
Або ў крупнік пападзе.

*1922*

## ПОП МІКІТКА І ЗАЛАТАЯ СВІТКА

*Да адабрання царкоўных каштоўнасцей*

Жыў на свеце поп некі Мікітка,
Залатая на ім была світка;
Карак меў ён бычэчы, здаровы,
А жывот, як у цельнай каровы,—
Замінаў аж сядзець за сталом,
Барада ж — памяло памялом.

Яму людзі да вечара з ранку
Па асьміне насілі пашанку;
За вянец ды за хрэст, за хаўтуры
Назбіраў поп нямала «натуры»:
Хлеба, солі, яец назбіраў,
Піў і еў, не касіў, не араў.

Прыпяваючы, жыў поп Мікітка,
А на світцы яшчэ расла світка,
Як і першая, ўся залатая.
Але ліха й папоў не мінае,
Не мінула і гэты вось раз:

[1] Белы арол — герб Польскай дзяржавы.

Гэта быў бальшавіцкі прыказ,
Каб папы ўсе і ўсе папяняткі
Залатыя здавалі манаткі,
Каб пасля абмяніць іх на збожжа
Ды карміць ім галодных Паволжа.

Прыказ стукнуў папа, як абухам па лбе,—
Што рабіць, што чыніць — не прыложыць сабе.
Задрыжалі у попіка лыткі:
Страшна кары, дык шкода ж і світкі;
«Не, не дам я, што будзе, то будзе —
Сам увапруся, памогуць і людзі»...
У нядзелю праводную ён
Выйшаў казань казаць на амбон:
«Я — пастух ваш, а вы, людзі,— статак,
Не пакіньце ж мяне на астатак,
Бараніце ад тых недавяркаў,—
Калі прыйдуць, дык вы ім па карку.

Момант рашучы настаў нам цяпер»...
Рука тут чырвоная — цоп за каўнер
Ды, падняўшы аж вышай званіцы,
Так, як баба часом прусака з-пад спадніцы,
Вытрасла. Ён паляцеў, паваліўся —
Без пары цельны поп ацяліўся.
Такі праўду Мікітка казаў,
Што рашучы ім момант настаў.

*1922*

## НА МЕНСКІМ «СКВЕРЫ»

Хто гуляў на Менскім «скверы»
Ці мо блізка хаця йшоў,
Той без ліку і без меры
Мог там бачыць гультаёў,—
Труцца ўсе, як рыба ў нераст,
Аб чужых і аб сваіх...
Давялося нек і мне раз
Досьць нагледзецца на іх.

Там усеўся я пад дрэвам
(Не ахвотнік вандраваць)
І направа, і налева
Стаў па «скверы» разглядаць.
Вось пад руку на буксіры
Нэпман нэпманку вядзе,
Пра гешэфты нэпман шчыра,
Пра чырвонцы ёй гудзе.
Вось і крамнік, мне знаёмы,
Час прыйшоў тут каратаць —
Што ўжо рызыкі у Шлёмы! —
Фігай носа не дастаць.
Вось падміргівае шкрабу
І хіхікае «савбар» —
На вышкі дзяўчына з жабу —
Размалёван увесь твар.
Вось, напхаўшы ватай грудзі,
Ходзіць пара старых дзеў —
Ім гадоў пад сорак будзе,
Хоць я ў зубы не глядзеў.
Вось дзяцей сабралась куча,
Крык паднялі, як гракі;
Вабяць хлопцаў вось, ідучы,
Ўжо «начныя матылькі».
Пасядзеў я з паўгадзіны,
Але болей-то не мог:
Грак нацэліўся з асіны
Мне на шапку, каб ён здох!
З той пары (кажу я верна,
Ты, чытач, хоць вер не вер)
Аж вантробы з мяне верне,
Як я ўздумаю пра «сквер».

*1922*

## ГААГСКАЯ «КАРОБАЧКА»[1]

Наш Ліцвінаў[2] ўсё таргуецца,
Бо баіцца перадаць,
А Антанта[3] з ім цалуецца —
Просіць цэны набаўляць.

## АНТАНТА

Грошы дадзены шалёныя,
Дык жа трэба ратаваць,—
Дай жа губкі ты чырвоныя
Хоць разок пацалаваць.
А мо ў жыта пойдзем спелае,
Там прыляжам на мяжу.
Дык адразу «штуку» цэлую
Я з даўгамі развяжу.
А не — дык на канферэнцыі
Дам гасцінца я кусок:
Доўгі белай інтэрвенцыі[4]
Ды блакадны паясок.

## ЛІЦВІНАЎ

Хоць гасцінцы вашы ведаем,—
Во ўжо носім іх не год,—
Па паўгода не абедаем —
Падцягнула нам жывот;
Але з вамі, ашуканцамі,
Не пайду я на мяжу:
Як надорыце вы пранцамі,—
Што я Леніну скажу?

*1922*

---

[1] Міжнародная канферэнцыя, якая адбылася ў горадзе Гаазе ў Галандыі ў 1922 г.
[2] Старшыня савецкай дэлегацыі на Гаагскай канферэнцыі.
[3] Антанта — хаўрус буржуазных дзяржаў — Амерыкі, Англіі, Францыі і Італіі.
[4] Інтэрвенцыя — ваеннае ўмяшацельства ў справы другой дзяржавы.

## ШТО Я БАЧЫЎ НА «ТРЭКУ»

Раскажу вам прастарэку,
Як я ўчора быў на «трэку»,
Нават грошы заплаціў —
Так бы нэп і не пусціў.

Давялося мне там бачыць,
У мяшках як людзі скачуць:
Два хлапцы залезлі ў мех
Ды валтузяцца — аж смех,

Так, як тыя парасяты,
Што вазіў калісь мой тата
У мястэчка на таржок,
Завязаўшы у мяшок.

Як з таго парагаталі,
Дык паказвалі і далей:
Нейкі хлопчык, як смарчок,
Перыў палкаю гаршчок.

Завязалі яму вочы —
Стала цёмна, як уночы,—
Пакруцілі разоў пяць,
Потым стаў ён пападаць:

Гоп аб землю палкай з маху —
Людзі ў рогат: «Ха-ха-ха!
Ах, каб ты, хлапец, прапаў:
І цяпер вось не папаў».

Больш нічога я не бачыў,
Дык сягоння чуць не плачу:
Ну, за што, каб хто спытаў,
Я «лімон» дарэмна даў?

Грошай больш на «трэкі» траціць
Я не буду, не — ўжо хваціць,
А, забраўшыся ў мяшок,
Завяжуся ды — скок, скок!

Потым жонка мех развяжа,
Хусткай вочы мне завяжа

Ды паставіць мне гаршчок,
А я палкай — шпок ды шпок!

Па гаршку цаляць не буду:
Я ж не дурань біць пасуду,
А каб нехаця не даць,
Буду трошкі падглядаць.

Будзе весела бясконца
Не адно мне, але й жонцы —
Гэтак вось святочным днём
Мы «культурна» адпачнём.

*1922*

## ПЛЕТКАРЫ

Знае ён усё на свеце,
Вестак больш, як у газеце,—
Чуў — не чуў, а навіну
Скажа вам, ды не адну;
Што і чуў, дык пераверне,
І пайшла пісаць губерня,
Бо даўгі яго язык
Да спакою не прывык.
«Вой, сястрыца! Чула дзіва?
Кажуць, сёння нарадзіла
Жонка Сцёпкі Карася
Не дзіця, а парася».
«А я чула ад Аўдолі,
Што папы дзесь раскалолі
Ўсю царкву напапалам —
Частка тут, а частка там».
«На Германію ж, казалі,
Рэпарацыі напалі,
Многа знішчылі дабра...
Гэта, кажуць, машкара.
Так жарэ, што не дай божа:
Есць траву, жывёлу, збожжа,

Лес паела дзе-нідзе,
Пераходзіць на людзей».
    Вы, зязюлькі мае, цёткі,
Што за смак вам плесці плёткі?!
І мазоліць языкі
Вам, саколікі-дзядзькі?
Час і сілу дарма траціць?
Плеткарам жа мо не плацяць?
Толькі й платы бедаку,
Што мазоль на языку.

*1922*

## ШЧЫРАМУ ЛАЦІНІСТУ

*На заметку ў газеце «Звязда»*

Што вы, людзі! Што вы! Што вы?!
Не было таго ніколі,
Каб у нашай роднай школе
Беларускай нейкай мовы
Шэсць гадзін было на тыдні,—
Яна ж дзецям аж абрыдне.

Ды няма з яе карысці —
Забіваць адно галовы;
Лепш ужыць лацінскай мовы
Ды французскай, як калісьці,—
Гледзячы з паднебнай вышы,
Так з «Звязды» «Рабочы» піша.

Кажуць нават, што нядаўна
Ён унёс праект, каб далей
Ў нашых школах выкладалі
Па-кітайску (вось забаўна!),
Беларус жа роднай мовы
Каб не мог ужыць і слова.
Трэба й мне адукавацца,
Бо й «Савецкай Беларусі»

Давядзецца скора, мусіць,
Па-кітайску друкавацца...
Лацініст заядлы, шчыры!
Пралупі ты зрэнкі шырай
Ды на дол спусціся з неба,
Наш таварыш безгаловы,
Дык убачыш, што нам мова
Беларуская тут трэба,
Як вада, як кавал хлеба,
Як расліне кожнай глеба.

*1922*

## ВОЎК І ЯГНЮК

*Па-новаму*

Закон наш добры — няма слоў,
Казаў калісь нам дзед Крылоў,
Але вось толькі ў чым бяда —
Яго выконвае брыда.

«У дужага заўсёды слабы вінават.
Яно так ёсць і далей будзе»,—
Даўней казалі гэтак людзі.
Але цяпер ваўкі ягнят
Ядуць няйначай па дэкрэту;
Вось нек было і ў гэта лета:
Траву за вёскай каля рэчкі
Шчыпалі, ходзячы, авечкі,
А воўк стары ў лазе сядзеў.
Глядзеў,
Сачыў,
Разоў мо пяць пералічыў,
Але чапаць баяўся ён,
Бо быў юрыстам, знаў закон.
Вось тут якраз
На гэты час
Адзін баранчык малады,

Не чуючы ліхой бяды,
Спусціўся з берага напіцца,
А воўк, як за патрэбай быццам,
З-за куста — шуг!
Баран жа з жаху ў воду — бух!
Ды стаў тапіцца.
І утапіўся б, безумоўна,
Каб воўк не выцягнуў за воўну.
— Дык ты тут ловіш рыбу незаконна,
Нягледзячы на забарону? —
Крычыць сярдзіта хітры звер.—
Што ж мне з табой рабіць цяпер?
— Таварыш воўк! — баран ў адказ.—
Павер: дальбог, я незнарок,
Даруй жа мне на гэты раз,
А больш — даю зарок...
— Маўчы, шчанюк, з сваім зарокам,—
Сказаў воўк, злуючы нарокам.—
Я за табой даўно сачыў —
Ты вось і скуру падмачыў,
Зрабіўшы шмат рэспубліцы урону.
А ведаеш, што па закону
Было б табе за ўсё за гэта?
Ды па такому ж вось дэкрэту
Цябе б адразу к высшай меры кары.
Але як ты ўжо пралетары,
Дык я прымушан так рашыць:
Ты тут павінен распрануцца
І скуру зараз прасушыць,
Каб не згніла яна і воўна,
Слабоду ж даю табе... умоўна.
Не ўспеў баран тут аглянуцца,
Ратунку крыкнуць ці заплакаць,
Як воўк пачаў яго распратаць.

*1922*

## РАТУЙЦЕ!

Быў на вёсцы я сягоння,
Ой, дык што ж там робіцца! —
Ну, паверце — ў самагоне
Скора вёска ўтопіцца.
Ад падатку ўсе там лішкі
Да астатняй мерачкі
Перагналі на кілішкі,
Чаркі ды кватэрачкі;
З кожнай вёскі да мястэчка
Бурна разліваецца,
З самагону цячэ рэчка —
Селянін купаецца.

Я пайшоў паўз тую рэчку
У выканком дарогаю,
Там цвярозага са свечкай
Не знайшоў нікога я.
З выканкома цераз «площадь»
Я іду ў міліцыю,
А там зубы ўсе палошчуць
З той ракі вадзіцаю.
Дык падайце ж вёсцы руку,
Ды няхай ухопіцца,
Бо ў праклятай рэчцы трунку
Скора вёска ўтопіцца.

*1922*

## РАШЫЎ ПАМЕРЦІ

П о п

Што за людзі? — проста чэрці,
Грэх мой, госпадзі, прасці:
Ні радзін няма, ні смерці,
Хоць ты сам сябе хрысці

Ці памры ды пасля смерці
Сам абедню стань служыць,
Бо прыбытку мне, паверце,
Ні чырвонца — нельга жыць.

Нехта збоку

Скора будуць і радзіны,
Не ўмірай, адно глядзі:
Яны скора быць павінны
У тваёй жа пападдзі.

Поп

Што за жарты? Згінь, нячысцік!
Праваліся, прападзі!
Каб табе такой карысці,
Якой мне ад тых радзін,
Бо ад іх мне толькі страта:
Ахрысці ды спраў банкет,
А ў царкве найлепшым святам
Дзве бабулькі, адзін дзед;
А ўжо моладзь і сабакам
Не загнаць,— у аўтары
Так і выем толькі з дзякам,
Як ваўкі дзе ў гушчары.
Ці хрысціцца, ці вянчацца —
Дык ідуць у сельсавет...
Не, ўжо лепей мне канчацца,
Адваротным стаў мне свет.

Нехта збоку

Вось паддаў нуды сабе ты,
Аж памерці ўжо гатоў...
Жджы, як кончацца саветы,
Зажывеш па-людску зноў.

Поп

Толькі жджы ты іхняй смерці,
Дык сталецці пражывеш,
Не, ўжо лепш цяпер памерці —
Менш грахоў, пакуты менш.

Нехта збоку

Што ж, памерці дык памерці,
Каб жа трапіў зразу ў рай,

А як схопяць цябе чэрці? —
Пачакай, брат, не ўмірай!..

Поп

Знаю — будзе мне па смерці
Абцугамі за язык:
Надта страшныя мне чэрці,
Ды страшнейшы бальшавік.

*1922*

## ГРЫШЧА

Нешта сёння у Агаты
Лямпа весела гарыць,
А людзей дык поўна хата,—
Так як дзверы зачыніць.

У яе, бач, грышча сёння,
Дык сышлася вёска ўся;
Сцёпка ціскае гармонік,
Той пішчыць, як парася.

А пад піск той сярод хаты
Дык аж стогнуць, бы аруць,
Скачуць хлопцы і дзяўчаты —
Вобуй бацькаўскі дзяруць;

Аж сапуць, абліты потам,
Як улетку ў сенакос;
Як каторы тупне ботам —
Здэцца, зломіцца памост.

Як ідзе ж Паўлінін Тодар,
Дык аж дзівяцца ўжо ўсе.
Да работы, здэцца, лодар,
Тут як чорт яго нясе.

А вакол стаяць дзяўчаты,
Шмат хлапцоў, мужчын, кабет.

Тут сынок, ды тут і тата,
Тут і ўнучак, тут і дзед.

Між вялікіх лазяць дзеці,
Так як мышы між снапоў,
Ім вядома ўсё на свеце,
Хто што робіць з дзецюкоў:

Дзе дзяўчыну хто абніме,
Пацалуе ці ўшчыкне —
Не схаваешся за імі
Ты ні ў сенцах, ні ў гумне.

Гоман, крык стаіць вялікі,
Смех дзяўчат і дзецюкоў,
Часам лаянка і дзікі
Град адборных мацюкоў.

Бела-сіні, надта горкі
Лезе ў вочы, есць да слёз,
Душыць горла дым махоркі,
Самагон зрывае нос.

Вось — забава для вялікіх,
Вось — навука для малых:
Ў самагонцы, скоках дзікіх,
Ў мацюках заместа кніг.

*1922*

## КЛАСАВЫЯ ВОРАГІ

З вёскі ў Менск самагонка йшла хутка,
Насустрэчу ж ёй польская «вудка».
«А, дзень добры! Як маешся, пані?»
Як не чула таго прывітання,
Далей дыбае «вудка» дарогай.
«Бач — набралася рызыкі многа,
Я ж радня табе, чуць не сястрыца».
«Не хачу я з мужычкай радніцца,
Ты і трэплешся ўсё з мужыкамі —

Заваліла ўвесь свет байструкамі
І смярдзіш так, як падла якая».
«Праўда, шчыра люблю мужыка я,
Любяць так жа й мяне хлебаробы,
Так хацела б і ты, ды хваробы,
Бо бяруць цябе толькі за грошы».
«Хоць за грошы, ды хлопец харошы,
Як, напрыклад, адзін з Наркамфіну,—
То ж не хлопец, а проста маліна;
З Наркамздраву, яшчэ з Наркам'юсту
Гэтаксама мне хлопцы да густу,—
Там не то, што які мужычына...
Дый сама хоць куды я дзяўчына...
Не з мужыцкага — з панскага роду,
Нават пахну, не маю смуроду;
З мужыком не траплюся ніколі,
Не туляюся па завуголлі,
А гуляю, як добрая пані,
Без апаскі ў любым рэстаране,
Ды яшчэ у асобным пакоі.
Абаўю свайго «душку» рукою,
І мілуемся так аж да свету,
Не баімся папасці ў газету,
Бо і там,— шэпча «вудка» на вушка,—
Такі самы ў мяне сядзіць «душка» —
Хто адважыцца, буркне славечка?
А цяпер вось іду я ў мястэчка,
Там ёсць фельчар ды член выканкому.
Дык у іх я заўсёды, як дома.
Ты ж ні ў лесе сабе, ні ў будынку
Не знаходзіш ніколі прыпынку;
Цябе бэсцяць заўсёды і лаюць,
Так, як Марку па пекле, ганяюць,
Прасмярдзелі табою й газеты»...
«Дык на ж вот табе, пані, за гэта,
Калі ты распанела ўжо вельмі,
Без цябе абыдуся, без шэльмы;
Ты сабе там з панкамі ліжыся,
А мне лепей да густу прышліся
Людзі простыя,— вось, як сяляне,
І сама не хачу быць я паняй»...
Не гаворачы болей нічога,
Пайшлі далей сваёю дарогай.

*1922*

## ГУЛЬНЯ Ў ЖМУРКІ

*Да Лазанскай канферэнцыі*[1]

Дэлегаты да Лазаны
Панаехалі вазамі,
Іх сабралась там бясконца —
І ангельцы, і японцы,
І французы, й італьянцы,
Нават тут амерыканцы;
Тут румынскія музыкі,
Тут балгарчык невялікі,
    Тут і грэкі, тут і туркі,
    І давай гуляць у жмуркі:
    Турку вочы завязалі.
    — Ну, Ісмэд, лаві! — сказалі...
    І, гайсаючы па залі,
    З туркам «жарты» распачалі:
    Грэк са злосці за-лоб смыча,
    А балгарчык дулю тыча...
Вось румынскі ўжо музыка
Хацеў лезці за «пазыкай»,
Дык ангелец з цэлай жменяй
Ўжо сядзіць даўно ў кішэні;
Вось француз (ён хлопец вёрткі)
Расшпіляе турку порткі,
Ды сцягнуў аж да калена.
А Ісмэд раве аж нема,
Што лавіць ён не намеран:
    «Хай прыедзе вось Чычэрын,
    Дык мо вочы мне развяжа,
    Як хапаць каго, пакажа».

*1922*

---

[1] Міжнародная канферэнцыя, якая адбылася ў швейцарскім горадзе Лазане.

## НА РЫНКУ

Нэп бушуе, нэп скрыгоча,
Зубы скаліць, ляпа — во!
Як зглынуць цябе ён хоча
І з нагамі й з галавой.
Ён і спераду, і ззаду,
І з абодвух ён бакоў
Разлажыў сваю прынаду
Хітра, сцерва, навакол.

На вазах вунь сена, дровы...
Дроў дык цэлы тут абоз
І альховых, і яловых
Па чырвоных дзесяць воз.
Тут сукно, аўчыны, скуры,
Жыта, грэчка ды мука,
Парасяты, яйцы, куры,
Многа сыраў, малака.

Вунь куртуны шар вялікі
Разлажыў жадзюга — нэп,
Далей боты, чаравікі,
Сала, мяса, белы хлеб.
І кілбасы во з каніны,
А мо з горшага чаго,
Вось падушкі, вось пярыны,
Шмат яшчэ сяго-таго.

Вось тут мазь, тавар на боты,
Скавароды, чыгуны —
Шмат каму купіць ахвота,
Ды кусаюцца яны.

Вось гандляр з мукой на санках
Прэ, як чорт яго нясе,
Вось гандлярка-раструханка
Чараду гаршкоў пасе;
У другой канвертаў з пару
Ды сланечніку пяць жмень,
Пад падолам гаршчок жару
І сядзіць тут цэлы дзень.

З селянінам жыд за дзёгаць
Не прыйшлі нек да ладу,

І давай яны тут цёгаць
Той таго за бараду:
Перапэцкаліся, як чэрці,
Пакачаліся шчэ ў снег —
Проста са смеху памерці,
Але ім дык плач, не смех.

Ўсюды торг, і спрэчкі, й кпінкі,
Той смяяўся, а той кляў;
І не знойдзеш ты мясцінкі,
Дзе б тут нэп не панаваў.
І плыве паток чырвоных
Усё з кішэні ды ў кішэнь,
Іх нямала нэп шалёны
Ужо зглынуў за гэты дзень.

*1922*

## НОВАЯ ЕКЦЕНІЯ

*Да абнаўленскага*
*руху на Беларусі*

К табе мая малітва:
Ты нам мітрапаліта
Падай, госпадзі!

Яшчэ прашу нясмела:
Клабук яму ты белы
Падай, госпадзі!

І мне ты на забаўку
Хаця ўжо камілаўку
Падай, госпадзі!

Апроч таго, я ў бога
Прашу зусім нямнога,
Падай, госпадзі!

Лагоднай я натуры,
Штодзень ты мне хаўтуры
    Падай, госпадзі!

І кожную нядзелю
Па дваццаць пяць вяселляў
    Падай, госпадзі!

Не ў год раз, а на месяц
Ты радаўніцаў з дзесяць
    Падай, госпадзі!

А каляды, вялікдзень
Хаця па разу ў тыдзень
    Падай, госпадзі!

Ты з вёсак і мястэчак
Двухногіх мне авечак
    Падай, госпадзі!

І вострыя мне ножны,
Авец каб стрыгчы можна,
    Падай, госпадзі!

Тады з аднэй авечкі
Я воўну дам на свечкі
    Табе, госпадзі!

Ратуй мяне ў няшчасці
І ад бальшавіцкай напасці,
    Госпадзі, памілуй!
    Госпадзі, памілуй!
    Госпадзі, памілуй!

*1922*

## ПАЖАДАННІ НА НОВЫ, 1923 ГОД

### Антанце

Антанце-цётцы пажаданне:
З старой зрабіцца маладою,
Надзець чырвонае убранне
І лоб аздобіць свой звяздою.

### Нямеччыне

Антанту хутка скінуць з карку
Ды падцягнуць за вушы марку.

### Польшчы

Я жадаю... Нават пэвен,
Што заменіш ты свой герб:
Там не будзе белы певень,
А чырвоны молат-серп.

### Дэлегатам на Лазанскай канферэнцыі

Не таптацца вам на месцы,
Чым таптацца — лепей сесці,
Каб не збіць падноскі ў ботах...
Лепей спецца вам па «нотах»,
Неўзабаве, каб змаглі вы
Скакануць цераз пралівы.

### Т. Леніну

Пасылаю з годам Новым
Пажаданне — быць здаровым,
Капітал каб паражыць
Ды ў труну яго ўлажыць
І на ўсім зямным абшары
Бачыць красныя штандары.

### Газеце «Савецкая Беларусь»

Ад душы я ёй хачу
Больш прывабіць чытачоў,
Для чаго ёй глыбей трошкі
Трэба ўлезці ў гушчы вёскі...
Каб газетчык не цураўся,
Супрацоўнік каб стараўся,
Каб падняцца ёй на ногі
Без дзяржаўнай дапамогі.

*1922*

## ЯНКАВЫ КАЗКІ

Раз неяк, седзячы на ганку,
Агарнулі дзеткі Янку,
Кажуць: «Дзядзька! Калі ласка,
Раскажы, саколік, казку».
Янка казак многа ведаў,
І пачаў ён пра Рагнеду[1]:

Як піла яна, як ела,
Спала дзе, на чым сядзела,
Як цягала за чупрыну
Сваю верную дружыну,
У якой жыла святліцы
І насіла як спадніцы.

Кончыў Янка пра Рагнеду,
І пра дзедавага дзеда
Казку ён пачаў другую,
Як і першую, даўгую:
Як той дзедаў дзед Алёшка
Садзіў некалі картошку
Не пад плуг, а пад рыдлёўку;
Як з дзіцячую галоўку

---
[1] Беларуская княгіня, якая жыла ў X ст.

У яго яна радзіла
(Янка лжэ, а дзеткам дзіва);

Як прабабка Даміцэля
Гатаваць умела зелле
І лячыла ім вантробы
Ада ўсякай ад хваробы.

Ён хацеў казаць і далей,
Але дзеці перарвалі:
«А скажы нам, калі ласка,
Вунь якія гэта краскі
Там растуць на нашым полі,
Не ссыхаючы ніколі?
І зімой растуць, і летам,
І цвітуць чырвоным цветам...»

«...Дзе растуць? Якія кветкі?
Пакажыце пальцам, дзеткі!
Не, нічога я не бачу»,—
Адказаў ён на астачу.
Свет закрыўся чалавеку
У сярэднім яшчэ веку...
Ды не толькі, дзеткі, Янку
Даў бог гэткую дзялянку,

Што не бачыць ён нічога —
Ёсць такіх сляпых, і многа,—
Пазіраюць ва ўсе вочы,
А не бачаць, як уночы
Куры, седзячы над просам,
Што ў іх робіцца пад носам.
Ім лячыцца давядзецца,
Але ўжо, як мне здаецца,
Не памогуць ім і лекі —
Будуць вечныя калекі.

Выбачай жа, Янка, брат,—
Памыліўся я, ды рад,
Што сляпыя ўсе калекі
Адчынілі ўжо павекі.
Праўду кажуць-такі ў нас,
Што найлепшы доктар — час.

*1923*

## НЯМА ДУРНЫХ НА НЕБЕ

Завуць і скардзяцца з трывогай —
Аж разрываюцца званы,
Завуць на землю з неба бога,
Ужо шмат вякоў завуць яны.
А ён і слухаць іх не хоча,
А, скрыва гледзячы на іх,
Адно пад нос сабе мармоча:
«На небе тут няма дурных.

І землю вашу дасканала
Я знаю — што ні гавары:
Людзей там добрых надта мала,
А ўсё найболей бунтары.
Што самаўладцаў там, я знаю,
Не любяць тыя бунтары
І што Другому Мікалаю
Зламалі шыю без пары.

І людзі будуць больш баяцца,
Як далей буду я ад іх,
А каб з зямлёю мне ўпраўляцца,
На тое куча ёсць святых:
Пашлю Іллю, Міколу, Яна,
Ды пойдзе вось Кузьма-Дзямян,
З кабет Барбара пойдзе, Ганна,
А к ім Кранштацкі Іаан.
Хацеў Распуціна, дык дзе там!..
Шкадую старасці свае,—
Спакою там не дасць кабетам,
Як і на небе не дае.
З яго вось, кажуць, гэта ласкі
(Няйначай. Што тут гаварыць.)
Праз тыдзень у святой Параскі
Малое будзем акцябрыць».
Нек раз у воблачнай пасцелі
Без портак бог яшчэ ляжаў,
Званы ж захныкалі, запелі,
Дык ён ад злосці задрыжаў.
«А к чорту вас — ні ўдзень ні ўночы
Ад вас спакою мне нідзе,—
Хоць ты ім плюй, здаецца, ў вочы —
Ўсё роўна, кажуць, дождж ідзе».

І зноў у воблачнай пасцелі
Ляжаў ды плёваў дагары,—
Яскрава ўраз замігацелі
На столі зоркі-ліхтары,
А на зямлі тут цёмным масам
Святых падлізнікаў капа
Дурыла голавы тым часам
Цераз манаха і папа.

*1923*

## ГАНІ МЕШАЛКАЙ!

Вось вадохрышча ўжо йдзе,
Ўжо прыбліжаецца,—
Поп талкуе з пападдзёй
Ды аблізваецца.
Скора ў вёсцы, дзе ні глянь,
Пойдзе вуліцай,
Валасатая там здань
Пакаўгуліцца...
Пойдзе ён «па калядзе»,
Зеляпаючы,
На «ярданскай» на вадзе
Зарабляючы.
Са старцамі за кускі
Будзе лаяцца.
(Добра — тут бальшавікі не
мяшаюцца.)
І «авец» пачне крапіць
Ён вадзіцаю,
Стане вочы ім сляпіць
Небыліцаю.
Не цікаўся ж, селянін,
Яго «песенькай» —
З хаты лодара гані
Проста мешалкай!

*1923*

## НА «КРЭСАХ УСХОДНІХ»

*Да прамовы пана Сікорскага*

Пан клапоціцца на «Крэсах».
Аб чыіх жа інтарэсах?
Можна бачыць і сляпому —
Не аб нашых жа, вядома.
Воўчы зуб не памагае,
Дык палітыка другая
У яго як бач паспела —
Хвост пусціць лісіны ў дзела;
Ходзіць, губкамі мыляе,
Канстытуцыяй віляе,
Мякка сцеле, гладзіць вусы
Украінцу й беларусу:
«Мы вас любім, мы вам рады,
То чыноўнікі ўсё, гады,
Вас там крыўдзілі дагэтуль —
Мы пакажам ім за гэта.
Вось вам цацак (папяровых),
Вось вам школы, вось вам мовы...»
Ходзіць пан лісой-хітрушкай
Перад крэсаваю птушкай.
Беларус, глядзі не каркам,
Чаму пан такі стаў добры:
Кось-кось-кось — пакуль ў аглоблі,
Потым па баку дугою
Ды ў жывот яшчэ нагою.

*1923*

## КАГО МНЕ ЎЗЯЦЬ ЗА КУМА?

— Што за штука тут такая? —
Запытаўся ў Пранука я.—
І багаты ж ты не надта,
Збудаваў, аднак, вось хату,—

Аж свіціцца так, як шклянка,
На падлозе, нават з ганкам.
Ды ў вялікай ты дарозе
Не бываеш і ў абозе,
Нават рэдка быў і ў блізкай,
Хоць здаровы твой каніска.
Тры душы ў цябе сямейкі,
А вось ворнай жа зямелькі
Дзесяцін ты маеш з восем,
Дык чаму ж, скажы, увосень
Заплаціў ты прадналогу
Нешта ўжо зусім нямнога?

— Я скажу, сусед, аб гэтым
Табе толькі пад сакрэтам:
У мяне, бач, ёсць радня —
Сельсавета старшыня.
Вось чаму зімой і ўлетку
Я ў абоз так езджу рэдка,
Вось чаму так панямногу
Я плачу і прадналогу,
Вось чаму (ах, дзякуй свату!)
Збудаваў я нават хату,
Хоць далёка да такое,
Як у Янкі. Там пакоі!
Сакратар райвыканкома
Яму добра, бач, знаёмы,—
Кум ці там якая трасца,—
У таго ён надта ў ласцы.
Пастаяў я тут, паслухаў,
Пяцярнёй паскроб за вухам
Ды пайшоў скарэй дахаты.
Там я з жонкай «таўставатай»
Доўга раіўся і думаў —
Каго ўзяць бы нам за кума,
Ды дачуўся таго ж дня:
«Сакратар» і «старшыня»
Ды яшчэ з якімсьці членам
Атрымалі ў зад каленам.

*1923*

## КАМСАМОЛЬСКІЯ ПРЫПЕЎКІ

Нас не любяць, нас баяцца
Поп кудлаты і кулак,
Бо рашыў за працу ўзяцца
Камсамольскі маладняк.

Сцёпка некалі на пана
Працаваў, як чорны вол,
А сягоння сын Сцяпана
Запісаўся ў камсамол.

Ох вы, хлопцы-камсамольцы,
З камсамольскага сяла,
Я, вясковая дзяўчына,
Павучыцца к вам прыйшла.

Калі ласка! Калі ласка!
Тут заўсёды месца ёсць,—
Не саромейся ж, Параска,
Ты для нас — жаданы госць.

Ох, я богу не малюся,
Не малюся і Хрысту,
Я нікога не баюся —
Камсамолкаю расту.

Камсамолачка Дарота!
Пойдзем разам ваяваць,—
Буду біць я з кулямёта,
Ты — патроны падаваць.

Хто супроць нас? Прэч з дарогі!
Бачыш нашу грамаду?
Мы саб'ём і чорту рогі,
Богу вырвем бараду.

Па планеце пройдзем бурай,
Марксаў помнячы завет,—
Свет стары ушчэнт разбурым
І збудуем новы свет.

*1923*

## МАЛІТВЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

*На ўвагу папам-беларусам*

Мітрапаліт Варшаўскі Юры
Рашыў зрабіць славяншчыне хаўтуры:
Загадаў ён Віленскай кансісторыі,
Каб усе папы, каторыя
Могуць ужыць беларускай мовы,
Гаварылі б на ёй прамовы.
Я думаю (хоць можна й памыліцца),
Што скора па-беларуску будуць і маліцца,
Дык, каб бацькам духоўным услужыць,
Я рад малітвы ім пералажыць
На беларускую з славянскай мовы.
Вось тут чатыры ўжо гатовы.

### 1. Отча наш

*Для папоў Заходняй Беларусі*

Наш бацька нябесны, збавіцель ты наш!
Маленні нас, грэшных, бязгрэшны, уваж!
Аб хлебе насушным цябе не прашу:
Дадуць прыхаджане — я й сам насушу,
Прасіць я не буду яец ды кілбас,—
　　Скаромнае ёсць пакуль што яшчэ ў нас.
А вось аб чым шчыра цябе я малю:
Ты сам, як калісьці, сыдзі на зямлю,
Даведайся раз хоць авечак сваіх,
Бо нас не баяцца ўжо — служак тваіх:
Ва ўсе распаўзацца пачалі бакі,
Бляяць што папала, іх крадуць ваўкі.
Ты ў кучку збяры іх ды ў толк прывядзі
І плотам высозным вакол абвядзі,
Каб воўк бальшавіцкі сюды не залез,
Штодзень не цягаў каб ён нашых авец.

### 2. Цару нябесны

*Для папоў Савецкай Беларусі*

Ох, цар наш нябесны!
Мне жыць стала цесна:
З авец мне карысці
Няма, як калісьці,
Бо воўны не далі,
Ваўкамі ўсе сталі.
А я — ні славечка,
Маўчу, як авечка,
Баюся і пікнуць
Ды рад бы дзе знікнуць,—
Хоць лезці ўжо трэба
Жывому на неба.

### 3. Багародзіца

*Для папоў Савецкай Беларусі*

Прасвятая багародзіца!
Ты не бачыш, што тут робіцца!
Дык сядзі ж там ды не кратайся,
Як даўней, ты, дзева, радуйся
Дый за нас там, багародзіца,
Бо самім нам не прыходзіцца.

### 4. Верую

*Для ўсіх папоў і попікаў,*
*а асабліва для «жывых».*
*У гэтай малітве скарочаны штаты*
*з 12 членаў на 7*

**1**

У бога бацьку верую,
Пакуль асьмінай мераю,
А як мераць перастану,
Дык і верыць не стану.

2

Я верую і ў сына
(Хоць жыта і з мякінай),
Ды хто ж бы не паверыў,
Каб гэтулькі намераў?

3

Вось будзе саладуха!..
Я верую і ў духа,
З якога дапамогай
Намераў гэтак многа.

4

Самлела ўжо спіна...
І ў цэркаў ядыну
Павінен я верыць,
Каб болей намераць.

5

Пра той свет не дбаю,
Бо я не чакаю
Прыходу другога
Ні чорта, ні бога.

6

Я веру: хоць трэсне,
Ніхто не ўваскрэсне.

7

Хоць як бы ні верыў,
А жыта намераў
А сорак асьмін.
Амін!

*1923*

## ВОСЬ ТАКІЯ ДАКТАРЫ ВЫМУЦЬ ДУШУ БЕЗ ПАРЫ

*На газетную заметку*

Не за сінімі марамі,
Блізка тут, не за гарамі,
Нехта з нашага жыхарства
Недзе шмат папаў лякарства
(Кажуць, цэлую павозку)
Ды давай лячыць ім вёску.
І «ачуньваюць», ёсць слухі,
Людзі хворыя, як мухі.
Дзядзьку хворага Сцяпана
Пасадзіў ён раз у ванну,
Паглядзеў і... што такое?
Ўсё зняло, нібы рукою,
Нават скуру, нават мяса...
Далей лечыць ён тым часам.
Вось другому дзядзьку Янку
Ён навёў лякарства шклянку;
Выпіў Янка — й фур за браму:
Зразу к праайцу Абраму
У нябеснае ён царства,—
Надта добрае лякарства!
Гэты доктар мацналобы
Ад жыцця і ад хваробы
Адратоўвае нямала;
Трэба, мусіць, трыбуналу
Прапісаць яму «мікстуру» —
Хай людзей не морыць здуру.

*1923*

## ГОД СЦЯПАНА-ЛАЙДАКА

### Восень

Шэрым пузам душаць хмары
Поля нудныя абшары.
І, як мокрая варона,
Села вёска між загонаў;
Луг і лес сумуе голы,
А Сцяпан зусім вясёлы —
П'е без меры самагонку,
Б'е дзяцей, лупцуе жонку
І пудамі носіць жыта
К самагоншчыку Мікіту.
Кожны прысвятак ці свята
У Сцяпана поўна хата —
Сват і кум, і так знаёмы
Чуюць тут сябе, як дома,
А як пойдуць, Сцёпка п'яны
З кулакамі прэ да Ганны.
Ганна, бедная, галосіць
Дый у бога смерці просіць,
Сваю долю праклінае,
Што такога мужа мае.

### Зіма

Чуць не запар тыдзень цэлы
Неба землю пудрай белай,
Не сціхаючы, пудруе,
Вецер ў шчыліны свідруе,
Вокны ў хатах — як мядзведзі,
Прыціскаюць — дзецца недзе,—
Не шкадуючы, марозы...
Наш Сцяпан зусім цвярозы,
Цэлы дзень ляжыць на печы —
На халоднай грэе плечы.
З рота пара ў хаце валіць:
Ганна ў печы мала паліць,
Бо мужык яе нядбалы
Прызапасіў дроўцаў мала.
Ў лахманы залезлі дзеці,

Снег ляжыць, бялее ў клеці —
Намяло праз дзіркі гуры,
А ў хляве стаіць панура,
Грызе яслі кабылёшка:
Сена ўжо зусім нямножка,
А аўса даўно не стала —
Самагонка ўсё пажрала.

## Вясна

Ўжо вясна-красна настала,
Белы снег з палёў сагнала,
Цяпер сонейкам іх сушыць,
Лезе ў вочы, лезе ў вушы,
Аздабляць прабуе рэдкай
Чорны лес зялёнай сеткай,
К нам чароды птушак гоніць.
Птушкі весела гамоняць,
Як яны, шчабечуць людзі,
Рады, дышуць ва ўсе грудзі,
Адчыняюць клеці, гумны.
А Сцяпану нешта сумна —
Не пазнаць цяпер Сцяпана,
Аж хістаецца, як п'яны:
Толькі скура стаў ды косці —
Згаладаўся, але штосьці
Не завуць Сцяпана ў госці
Яго тыя ягамосці,
Што ў яго пілі ды елі,
Цэлу ноч часом сядзелі.
Ды Сцяпанава і Ганна
Нешта ходзіць так, як п'яна,
Дзеці ж выйшлі на паветра,
Дык валяюцца ад ветру —
Ап'янелі, знаць, бясконца
Яны, гледзячы на сонца,
На сінюсенькае неба
(Ап'янееш, брат, без хлеба!).
А з сахою, небарака,
Ходзіць п'яная каняка
Сюды-туды па загону —
П'яны ўсе без самагону.

## Лета

Ўжо вясну змяніла лета.
Як практычная кабета,
Яно смела неўзабаве
Цвет садоў — вясны забаву,—
Не шкадуючы сарвала,
Груш ды яблык начапляла,
Ў стагі сена шмат скаціла,
Жыта ўсё пазалаціла.
Людзі сена сушаць, косяць
Ды пагоды ў неба просяць;
Аддыхнуць пара б, дык дзе там!
Хто з сялян гультуе летам?
Ўсе працуюць, так, як пчолы;
І Сцяпан наш зноў вясёлы —
Ўсіх уперад на загоне —
Жыта здаў ужо аж гоні
(Хоць яно і з зелянкамі),
Ушпыляў загон снапкамі.
Дзеці ў лялькі тут гуляюць
Ды не дрэнна й выглядаюць
(Падрасла ўжо, бач, бульбінка).
Хвост задраўшы, кабылінка
Вунь па выгане гуляе —
Стала летам, як не тая;
Весялей глядзіць і Ганна —
Не кляне свайго Сцяпана.

Жыта новага к нядзелі
Пэўна ўжо Сцяпан намеле,
Новы хлеб расчыніць жонка,
Зараз будзе й самагонка.
Зноў гасцей к яму збярэцца,
Зноў Сцяпан, лайдак, нап'ецца,
Ганну перад сваякамі
Пачастуе кулакамі,
На ўсю хату загамоніць
Ды ў куток дзяцей загоніць.
Піць так будзе, покі хваціць,
І падатку не заплаціць.

*1923*

## НІБЫ САТЫРА НА «НІБЫ ПАЭМУ — ГВАЛТ НАД ФОРМАЙ»

І без ліку, і без нормы
Лье Грамыка свае формы...
Скінуў порткі й апранаху:
Кій схапіў ды — бух! з размаху:
«Завастрыў» свой «востры меч»
І пачаў ім «формы сеч».
Ён старыя ўсё сячэ,
Формы новыя пячэ:
Узяўся ў бокі, прэ ў скокі —
«Сямімільныя» ўсё «крокі»,
А што голы — і не дбае...
Каго стрэне, дык аблае —
Ну, бяда з хлапцом, дый годзе,
Акажыся ж, дык па мордзе,
Хоць саўсім не вінават,
Бо ён, бачыце, «вар'ят»
І гайсае так па месту...
Формы — шык, ды мала зместу.
А мо тут яго і маса
Для насельнікаў Парнаса,
Але я — жыхар вясковы —
Зразумець не мог і слова.

*1923*

## ЧЫРВОНАЯ МЯТЛА ДОБРА МЯЛА

*Чырвонай Арміі*
*Успаміны ў дзень гадавіны*

Цяжкі час быў для Саветаў,
Надта ж моцна прыпякло,
Памятаецца нам гэта,
Нібы ўчора ўсё было:

Адусюль паналяцелі
На здабычу груганы —
Вольнай волі захацелі
Вочы выклеваць яны.

Вось, вядомы ўсяму свету,
Чарнаморскі адмірал
Прэ вайною на Саветы —
Войска моцнае сабраў;

Ён з астатніх сіл стараўся,
З скуры лез аж, бедны, ён
І зусім ужо сабраўся
На маскоўскі сесці трон.

Мы ж расправіліся з гадам —
Не пабачыў ён Масквы:
Той штыком, а той прыкладам —
І... Калчак без галавы.

Вось якраз такім жа родам
Браў Юдзеніч Петраград —
К нам палез са ўсякім зб родам,
Потым сам аж быў не рад:

Генеральскімі рукамі
Прыхваціў разбіты нос
І з мяшэчкам за плячамі
Ногі ледзь ад нас панёс.

Неўзабаве тут за імі
І Дзянікін — вось ён, вот —
З афіцэрамі сваімі
На Маскву разявіў рот.

Не Маскву яму, а дулю! —
Не збылося, як хацеў:
Мы пяро яму ўваткнулі,—
Ён ад нас і паляцеў.

Не адзін аб троне марыў.
Вось і Врангель, фон-барон,
Гэткім самым жа макарам
Сесці мерыўся на трон.

Мы ж не цацкаліся з гадам,
Не зважалі, што барон,
І ў галёш падбітым задам
Неўзабаве сеў і ён;

І пусціўся ходам скорым,
Каб не сесці дзе на мель,
Проста, проста Чорным морам,
Аж за трыдзевяць зямель.

І з суседзямі-панамі
Нам прыйшлося ваяваць,—
Наляцелі груганамі,
Пруцца к нам за раццю раць.

Вось сабраліся мы троху
Ды турнулі так паноў,
Што яны з перапалоху
Адракліся й жупаноў.

Яшчэ потым і эсэры
(Нібы нашы сваякі)
Шкоды многа нам без меры
Нарабілі, сцервюкі.

Там Пятлюра вунь з Марусяй,
Тут вось Савінкаў Барыс
На Ўкраіне й Беларусі
Бунт задумалі стварыць.

А Антонаў гэтым часам
Чуць не ўзяў у нас Тамбоў,
Але мы ім — па мардасах
Ды пусцілі без зубоў.

З тэй пары пад вольным небам
Вунь як вырас бальшавік!
Але моцна яшчэ трэба
Нам трымаць чырвоны штык.

*1923*

## ЧАСТУШКА-ЧЫСТУШКА

Мы савецкую разруху
Цяжкім молатам па бруху
Раз!
Мы «саўдурачку» палечым —
Краснай мешалкай па нечым
Плясь!
Лайдаку дадзім мы гонку,
Каб не жраў так самагонку
Ён!
Нам папоў-дзякоў не трэба —
Хай ідуць у неба —
Вон!
Мы, другім дзеля прыкладу,
Гультаю каленам ззаду
Трах!
Ў трыбунал крадзеж загонім,
На злачынцаў так нагонім
Страх.

*1923*

## ЛІГА НАЦЫЯЎ [1]

Ходзіць сцерва Ліга нацыяў,
За пярэбрыны ўсіх мацае,
Ці хто тлусты, ці хто доіцца,
Хто касматы, стрыгчы строіцца,
Скуру лупіць вунь з Нямеччыны,
З нажом ходзіць ля Турэччыны,
Асцярожная з Саветамі —
«Не займацца лепей з гэтымі,
Бо не толькі тае прыбылі —
Часам зубы каб не выбілі».

*1923*

---

[1] Ліга нацыяў — міжнародная буржуазная ўстанова, заснаваная пасля імперыялістычнай вайны для ўмеркавання непаразуменняў між асобнымі дзяржавамі.

## НЕКРАЛОГ

*На смерць віленскай беларускай газеты «Наша Будучыня»*

Так на свеце пражыўшы мала,
«Наша Будучыня» ў лютым сканала,

Бо была ўсё ў жалобе, у смутку,
Нядобра скакала пад панскую дудку,

Мала віляла хвастом перад панам,
Чуць-чуць спачувала рабочым, сялянам,

Вось яе ў нясталым узросце
І ўдушылі паны-ягамосці.

*1923*

## ХТО ЗА НАМІ?

*Да пабудовы самалёта «Савецкая Беларусь»*

Хлопцы! Янка, Сцёпка, Петра!
Хто за намі на паветра?
Хто ахвотнік неба мерадь,
Дык выходзь сюды наперад.
Ну, а ты што крывіш губы?
Ці табе лятаць не люба?
Ці ты поўзаць толькі здольны?
Гэй, у неба птахам вольным
На спатканне навальніцам!
Ты ўжо мерышся садзіцца?
Пачакай — яшчэ, брат, рана,
Бо няма ж аэраплана:
Калі ты лятаць адважны,
Дык памацай свой бумажнік,
І твая капейка трэба,
Каб узняцца нам пад неба.

*1923*

## НЯХАЙ ЁН МОЛІЦЦА

Ага!
Цюга!
Лаві!
Даві!
Папа,
Як клапа...
Стойце, пачакайце!
За полы не хапайце!
Нашто ён вам?
Каюкне і сам.
Вось за радзінкі ды за памінкі
Вы не насіце па паўасьмінкі —
Няхай ён моліцца,
Няхай здаволіцца,
Няхай шлюць з неба
Яму, што трэба,
Каб вашай працаю
Не мог нажрацца ён,
Як мух павук,
Дык змерзне з холаду,
Дык спухне з голаду,
Тады — каюк.

*1923*

## МЫ НЕ ПАКЛОНІМСЯ БОГУ

Мы не паклонімся богу,—
Бога стварыў чалавек.
Шырай жа к праўдзе дарогу!
Лганству не месца ў наш век.

К чорту касцёлы, капліцы,
Цэрквы, званіцы, званы!
Досыць працоўным маліцца
Рэчам папоўскай маны.

Хай будзе сотня і болей
Разам ляжаць плашчаніц,
Мы перад імі на доле
Не распластаемся ніц.

Годзе біць лоб аб падлогу,
Славячы «сына», «айца»!
Бой, што абвешчаны богу,
Мы давядзём да канца.

Шырай жа к праўдзе дарогу!
Лганству не месца ў наш век.
Мы не паклонімся богу,—
Бога стварыў чалавек.

*1923*

## НЕ СЧАКАЕЦЦА

Сёння дзень не абы-які—
«Красная» субота —
Баця свенціць кумпякі —
Спешная работа;
У ваду мачае «хвост»,
Свенціць людзям яйцы.
Пападдзі ж пакуль што пост —
Тая не счакаецца,—
Ужо пяе «Хрыстос васкрос»,
Жджэ ды не дажджэцца,
Каб скарэй ёй баця нёс
Яйцы разгавецца.

*1923*

## З'ЕЛІ Б САМІ ВЫ ТЫЯ ЯЕЧКІ

Бабы ходзяць к папу спавядацца,
Бацю носяць дзесяткамі яйцы...
Эх, вы, бабкі — дурныя авечкі!
З'елі б самі вы тыя яечкі:
Вы ж мо чулі, што прымаўка ходзіць —
«Бабе яйцы і ў пост не зашкодзяць».
Ну, а бацю дык плюньце вы ў вочы —
Ён вас страшыць, бо сам з'есці хоча.
Калі страшна граху вам за яйцы,
Дык вы грэх на мяне той складайце,
Бо я пекла ніяк не баюся —
З чортам старшым, як бач, згаваруся.

*1923*

## У КРЫВАВЫХ МУКАХ

*Да парламенцкага скандалу ў Румыніі*
*пры абмеркаванні канстытуцыі*

Вось малюнак — проста люба:
Хто без чуба, хто без зуба,
Хто крывёю ўвесь абліўся,
Хто без памяці зваліўся,
У каго ж дык фрак на шматы,—
Пашалелі дэпутаты...
Стогны, енкі, крык і лямант —
Не то фронт, не то парламент.
Што за гвалт? У чым тут справа?
Гэта ў муках ён крывавых
(Смерць яму аж пагражае)
Канстытуцыю раджае.

*1923*

## ШМАТ ЦЕСТА, ДЫ МАЛА МЕСТА

*Да нараджэння епіскапа Слуцкага*

Нек надоечы, здэцца, заўчора,
Пад загадам Мельхісэдэка-рэжысёра
У катэдральным менскім саборы
Два прыезджыя гастралёры
Гралі нейкую камедыю,—
Якую — я добра й не ведаю,
Але адна цётка мне гаварыла,
Што «нарекали» папа Шамяціла
Слуцкім вікарным епіскапам.
Я і сам стаў блізка там,
Дык бачыў, як Менскі, Вяземскі і Гжацкі
Пусцілі ў дзела свае цацкі —
Розныя посахі і мітры
(Папы — народ хітры —
Ведаюць, чым голавы дурыць):
Вось і пачалі «таинство» тварыць...
Зараз мітры ўсе побаку, побаку
Ды ўшчапілі сабе па клобуку:
Два чорных, а адзін дык белы;
А потым два шэрагі цэлых,
Штук мо з дваццаць, папоў панаставілі
Ды аднаго з іх заставілі...
Што вы думаеце? — смешна казаць —
Сабе рукі лізаць.
Лізаліся мо некалькі гадзін,
А потым з клобукаў адзін
Абвясціў, што царкоўная ўправа назначае
Епіскапам Слуцкім папа Мікалая...
Па-іхняму, значыцца, «нарекли»,
А па-вашаму — проста спяклі.
Які ён там выйшаў: ці чорны, ці белы —
Не ведаю — не маё гэта дзела;
Па-мойму, дык роўныя ўсе яны чэрці,
Хоць белай, хоць чорнай, хоць рабай шэрсці...
Працы на гэтым яны не спынілі —
Епіскапаў з пару яшчэ рашчынілі.
Для «градаў» Бабруйску ды для Мазыра...
Яны б, можа, працу паставілі й шырай,
Бо досыць у іх яшчэ гэтага цеста,
Ды толькі няма ўжо епіскапам места.

*1923*

## ГОДЗЕ СЛУХАЦЬ БАЙКІ!..

Годзе слухаць байкі,
Хварбаваць нам яйкі!
Пазачынім «храмы» —
Папоўскія крамы,—
Пара забывацца
Папом нажывацца
На Хрыстовым целе,
Бо ўжо досыць елі
Свайго бога людзі —
Іх ужо аж нудзіць,
Мы адчынім клубы,—
Хай свае поп зубы
Кладзе на паліцу,
Кідае маліцца,
Бо не будзе ж толку;
Хай сваю ярмолку —
Скуф'ю й камілаўку
Кідае пад лаўку.
Як прысцігне голад —
Хай ён возьме молат
І заробіць з намі
Хлеб свой мазалямі.

*1923*

## БУДУ СПЕКУЛЯНТАМ

*Частушка*

У аўтары поп сядзіць —
Слёзы коцяцца:
У царкву людзям хадзіць
Больш не хочацца.
«Гэтак скора буду я,
Мусіць, голы-босы —
Дай мне ножны, пападдзя,—
Зрэжу к чорту косу;

Галіфэ падай мне, маць,
Прыбяруся франтам,
Пайду ў горад таргаваць —
Буду спекулянтам.
Буду продаць гарбузы,
Ваксу, папяроскі,
Бо даюць мне абразы
Не прыбытак — слёзкі.
Дык скарэй жа, мая маць,
Ты падай мне ножны —
Зрэжу косу, таргаваць
Тады будзе можна».

*1923*

## ЯК АНТАК СТРЭЎ «ВЕЛЬКАНОЦ»

Антак ходзіць чуць не голы,
Але заўжды ён вясёлы
І «вельканоц» стрэў «па-панскі» —
Быў пірог і быў «пазнанскі».
Антак спірту налупіўся,
Потым з жонкаю схапіўся
І гуляў з ёй «кракавяку»,
Потым поўзаў Антак ракам,
Потым лёг, нагамі дрыгаў,
Потым з'ездзіў двойчы ў «рыгу»,
А назаўтра ўстаў з пахмелля,—
Праклінае Антак «зелле»:
Ўсё баліць — нібы пабіты,
Лоб, як волавам наліты,
Хлеў свіны зрабіўся з рота —
Нават есці неахвота.
Пуста, моташна у хаце,
Малака няма дзіцяці,
Ні скарынкі няма хлеба,—
Жабраваць, няйначай, трэба.

Дык затое скажа кожны:
«Антак «гжэчны» і набожны —
Стрэў «вельканоц», «як належы»,
У падранай хоць адзежы,
Але еў і піў «па-панскі» —
Быў пірог і спірт «пазнанскі».

*1923*

## ВОЛ І АВАДЗЕНЬ

*Байка*

Гарачым летнім днём
Вол з ворыва вяртаўся.
Напрацаваўся, аж хістаўся.
За ім жа куча аваднёў
Ляцела роем.
Вядома тут, з якім настроем
Ісці мог Вол:
Глядзеў сярдзіта навакол,
Махаў хвастом, круціў рагамі
І біў па чэраве нагамі.
— А, сябар!.. Добры дзень! —
Сказаў лісліва Авадзень,
Усеўшыся Валу на спіну. —
Як я цябе люблю! Які ты мілы!
Цябе я, сябар, да магілы
Ніколі не пакіну.
Я ўсюды за цябе пайду —
Ў агонь, і ў нетру, і ў ваду.
Цяпер жа вось да стойла давяду.
Але чаму такі ты злосны?
— Адстань, пракляты крывапівец!
І без цябе мне млосна,
Цябе ж я ведаю, паршывец! —
Сказаў сярдзіта Вол ў адказ.
Патом
Хвастом

Па спіне — раз! —
Зваліўся той, як сноп, далоў...

Нямала ёсць павадыроў,
Якія любяць люд працоўны
За тое толькі, безумоўна,
Што любяць яго кроў.
Прамоў тых здрадніцкі-ўрачыстых
Даволі чулі мы і ад фашыстаў.
Але яны даждуцца дня —
Змахнуць і іх, як Авадня.

*1923*

## ЧАГО Ж ЯНЫ ТАК РАДЫ?

*«Да ўгодкаў абвяшчэння
незалежнай Беларускай Рэспублікі»*

Моляцца «беларусы» замежныя
За «Беларусь незалежную» —
Не за нашу, вядома, рабоча-сялянскую,
А за сваю — белапанскую.
Моляцца папы, ксяндзы і рабіны —
Надта ж ужо рады яны.
Але чаго ж яны так рады?
Лепш бы хаўтуры спраўлялі,
Бо ўсе ж «Беларускія рады»
Даўно паўміралі.

*1923*

## ВЯСКОВЫМ ДЗЕТКАМ ВЯСНОЮ

Сцёпачкі, Парасачкі —
Дзетачкі вясковыя,
Беленькія красачкі,
Вочкі васільковыя!
Што вы цяпер робіце?
Пэўна, ў школу ходзіце,
Седзіцё за ўрокамі
З думкамі далёкімі,—
Як лужок травіцаю
Сцелецца зялёнаю,
Раўчучок вадзіцаю
Як шуміць халоднаю;
Дзеткі ўсе з кіёчкамі
Ходзяць за плыточкамі
Так, як бы па Нёману —
Колькі смеху, гоману!
Дзе-нідзе ў сасоннічку
Снег яшчэ хаваецца,
І зямля з прасоначку
Быццам пацягаецца...
Эх, вясна-забаўніца!..
Але вось настаўніца,
Галаву не чухайце,—
І яе вы слухайце:
Хоць вясной любуйцеся,
Школы ж не забудзьцеся.

*1923*

## КАРМЛЮ ЎСЁ СЛОВАМ БОЖЫМ

*Велікодная гутарка папоў*

— Ці ведаеш ты, маці? —
Сказаў вашоўшы баця.
— Ужо Хрыстос васкрос
Ды нам яец панёс.

І будзе ў нас яешня
Цяпер штодзень, канешне.
— Ці ж ён, «во гробе сущий»,
Быў гэтакі нясушчы?
Мо гэта — яго куры?
— Не ён, не яго куры! —
Нанеслі бабы-дуры,
Ды нават і мужчыны,—
Сказаў ёй благачынны.
— Ты ж ім даеш ячменю?
— Ды не, не даў і жмені —
Я іх, як поп і кожын,
Кармлю ўсё словам божым
(Карміць іх болей нечым),
Ды не даю з-пад печы
Я ім на свет выходзіць,
Бо свет ім надта шкодзіць.

*1923*

## ДЗВЕ КУМЫ

— Ну як жа кумка маецца? —
Кума ў кумы пытаецца.
— І не пытайся лепш, кума:
Цяпер жа, ведаеш сама,
Што дзень пражыў, то й дзякуй богу;
Не міла, кумка, нек нічога,
Нічога нек і не наўме,—
Адказвае кума куме.
— Канчына свету, кажуць, блізка:
Вось, кажуць (чула ж, можа, й ты?), —
Радзіла чорта камуністка;
Ёсць рогі, хвост і капыты...
— Дык як не чуць? Я чула гэта,
Расказвала мне цётка Тэкля;
Казала, што за гэта лета
Чарцей было б тут, як у пекле,
Але таго бог не дапусціць —

Ён кару на людзей напусціць,
Тады народ увесь пагіне,
Мо толькі аднаго пакіне
На свеце бог ці двух, як Ноя...
Каб, здэцца, кумка, нас з табою.
— Хадзем маліцца хіба мы,
Каб бог грахі нам адпусціў,
Каб кары к нам не дапусціў,—
Сказалі разам дзве кумы.
Пайшлі ў царкву маліцца богу,
Таўкуць ілбамі аб падлогу,
Аж лоб трашчыць — лупцуюць цёткі,
Баяцца згінуць без пары.
А гэтым часам плеткары
Майструюць новыя ўжо плёткі —
Айцу «святому» заработкі.

*1923*

## ПРАГУЛКА НА ПАРНАС

Раз пайшоў я сцежкай вузкай
На Парнас на беларускі.
Вось пры сцежцы ля сяла
«Беларусь» гняздо звіла.
Папытаўся я дарогі
І палез. Хоць млелі ногі,
Але ўсё ж праз нейкі час
Я ўзабраўся на Парнас.
Там гара, за ёй — другая;
На гары агонь шугае,
Пры агні ж тым сядзіць бог
І гартуе свой нарог.
Ён гартуе ўдзень і ўночы —
Цаліну ўзараць ім хоча.
Ўзойдуць сокі цаліны —
Будзе збожжа на бліны.
Вось на вогнішчы гарачым
Бог другі без ботаў скача...

Аб ім кажуць так і сяк,
Бо не любяць, што «басяк».
Трэці бог пяе-жартуе,
Абразкі свае малюе,
Ён дагэтуль бедаваў,
А цяпер вось заспяваў.
Тут жа побач, недалёка,
На другой гары высокай
Гэтаксама ёсць багі:
Вось адзін, а вось другі.
Ім на першай не да смаку —
Адвярнулі яны...
І стаяць так шосты год,
Як вады набраўшы ў рот.
А на ўзгорку бажаняты
Усе бляюць, нібы ягняты,—
Хто па дровы, а хто ў лес,
Хто к старым багам залез.
Нек усе тут паасобку,
Але далей... ставім кропку,
Бо й за гэта ўжо Парнас
Будзе гневацца на нас.

*1923*

## ХТО АСІЛАК — СТРЫМАЙ!

Надышоў светлы май —
Пралетары, спявай!
Хай твой спеў прагучыць
На ўвесь свет з краю ў край,
Хай дрыжаць багачы,
Як асінавы лісці,
Як дрыжаў ты калісьці.
На ўсіх частках зямлі
Сцягі-мак зацвілі —
Чырванеецца май...
Пузачы каралі!

Хто асілак — стрымай
Тыя бурныя хвалі,
Як даўней вы трымалі.
Спей «ката», ўкалышы,
Як не спіць — прыдушы,
Як душыў ты не раз...
Не, на лбе запішы,
Што прайшоў ужо час
І цяпер ты ніколі
Не прыдушыш нас болей.
Ўжо нядоўга чакаць,
Як уздымецца раць
Ад сахі, ад станка,
І ўкладзе цябе спаць
Тады помсты рука
У адплату за здзекі
У зямлю-матку навекі.

*1923*

## КАХАННЕ ПЛАНЕТ

*На чуткі аб тым,*
*што кольца Сатурна разламалася*
*і ляціць на Зямлю*

Чароўнаю ночкай вясны
Сатурн у Зямлю закахаўся
І ў тысячы вёрст таўшчыні
Ёй персцень прыслаць абяцаўся.
   Але вось, як стаў ён здымаць,
   Трах персцень на дзве палавіны.
   Ну што ж тут каханцы паслаць?
   Сатурн палавінку ёй кінуў...
Праўляючы свой карагод,
Зямля вакол Сонца імчыцца
І жджэ, але толькі праз год
Яна прычакае гасцінца.

А Марс — за Зямлёю услед,
Вось-вось ёй наступіць на пяты;
Ці, можа, зайздросціць сусед,
Ці, можа, быць хоча за свата.
Юпітэр — старэйшы ў сям'і —
Пабег на барыш па гарэлку,
Венера — сястрыца Зямлі —
Нарэзала сала талерку.
Адзін падшывалец Уран
На гэта на ўсё са здзіўленнем
Глядзіць, бы ў аптэку баран,—
Не возьме ніяк разумення:
Ці, можа, у нашых планет
Пад старасць ужо не ўсе дома,
Ці мо звар'яцеў цэлы свет
Ці толькі адны астраномы.

*1923*

## МУЗА ПАДВЯЛА

Па шумнай людной вуліцы
Пясняр ідзе...
То к вуглу ён прытуліцца
І стане дзе,
То крокамі ўжо шпаркімі
Бяжыць-ляціць,
То сочыць ён за хмаркамі —
Ўгару глядзіць.
Нахіл імажыніста меў
Пясняр-мастак
І словамі квяцістымі
Складаў верш так:
«Кажух за кажухам па сіняй чарэні,
Як зайцы,
І залатым зубам дзень
Выскаляецца!!.»
Яшчэ хацеў так добра ён
Зрабіць зварот,

А нехта тут — аглобляю
    Ў пяснярскі рот.
І зубы разбягаюцца,
    Як дзікія,
І дзень не выскаляецца,
    А хныкае.
Пясняр жа з кіем гоніцца
    За музаю.
«Дальбог,— крычыць,— разбойніца,
    Патузаю!
Не лезь ка мне, шалёная,
    Сляпіцаю,
Бо завяду ўсё роўна я
    Ў міліцыю!»

*1923*

## НЕ ВІНУЙЦЕ

*Сябрам з лагера*

Не вінуйце, браткі, вы
Мяне, Крапівы,
Што я не маю росту...
Чаму? — Ды надта проста —
Не магу я тут вырасці,
Калі вяну ад холаду, гнію ад сырасці,
Цэлы дзень на ветры тырчу,
А што датычыць харчу,
Дык сама аж дзіўлюся,
Чым і як жыўлюся,
Але не згіну я з коранем.
І, напэўна, скора вам
Давядзецца бачыць пякучыя лісці
Зялёнымі зноў, як калісьці.

*1923*

## ЭЙ, ДЗЯРЖЫСЯ!

*Да Усерасійскага з'езда духавенства*

Знёс-такі папоўскі розум:
Каб прымазацца, папок
Ухапіўся, прэ за возам —
Вышай полы! Шырай крок!
Аж няма калі маліцца,
На хаду спрабуе пець:
«За савецкай калясніцай
Дай мне, госпадзі, паспець».
Так, як птушка, воз імчыцца.
І што крок, шпарчэе рух,
У адно зліліся спіцы —
У папа займае дух.
А даўгія яго полы
Замінаюць на хаду —
Вось укручваюцца ў колы,
Вось нясуць яму бяду.
Эй, дзяржыся, даўгакосы,
На астатак плюсні ў крыж.
Яшчэ крок і потырч носам
Пад савецкія калёсы
    Паляціш.

*1923*

## АД ПАЧОСТКІ НЫЮЦЬ КОСТКІ

*Да вызвалення Беларусі ад белапалякаў*

Адышлі бальшавікі,
А прыйшлі «кенаркі»,—
Затрашчалі тут бакі,
Затрашчалі й каркі.

Вось падкраўся партызан,
Стаў за кустам ціха:
Сцеражыся цяпер, пан,—
Будзе табе ліха.

«Бэндзьце здровы, кумпякі,
Довідзэння, млеко,
Бо, пся крэў, бальшавікі
Бардзо недалеко».

Папужаліся паны,
Заблішчалі пяткі,
Паскідалі жупаны,
Пагублялі «гаткі».

У «ожэлка» вырван хвост,
Крыллі ўсе абвіслі,
І, спусціўшы ў землю нос,
Ён паплёўся к Вісле.

Яшчэ ныюць у паноў
Косці ад пачосткі,
А над намі ззяе зноў
Зорка-пяціхвостка.

*1923*

## ДЗЯЛЬБА СЕНАКОСУ

*З натуры*

Аж дрыжыць сяло ад крыку—
Гэта дзеляць сенакос,
Дык сабраўся сход вялікі,—
Дай і я ўваткну свой нос.
Можа, й мне дадуць кусочак,
Хай хоць будзе асака,
Бо кароўка ж сена хоча,
Сам хачу я малака.

Падыходжу, чую — сварка,
Ўсё мацнеюць галасы.
Гэта Ясь грызецца з Маркам,—
Вось паскусваюць насы.
— Каб цябе ўзяла вяроўка!
Ну, каму ж ты аддасі?
Адзін конік ды кароўка...
Хіба сам мо паясі?
— Дык табе мо толькі трэба,
Што ў цябе кароў штук пяць?
Я за сена куплю хлеба,
У цябе ж буду купляць.
— Будзеш, мусіць, піскулянтам?
— Спекулянт, ды не кулак,—
Умяшаўся і Сцяпан там.
Ён, бач, Марку быў сваяк.
Вось забрала і Вінцэся —
Ён камечыць кулакі;
Так, як пеўні — ну, фацэся!
Падарваў я з іх бакі:
З кулакамі лезуць к носу,
Што ні слова, дык і «маць»,—
Ўжо не трэба й сенакосу —
Дай пярэбрыну зламаць.
Стала ўсім тут не да смеху —
Ў бойку лезе паўсяла,
Ясь вось Марку як заехаў,
Аж «смятана» пацякла,
А Сцяпан тут зараз Ясю
Размахнуўся ды — бабах!
Гэтаксама нос расквасіў,
Сам дастаўшы па зубах.
Я са сходу жвава ходу,
Не схацеў і малака:
Лепш ні мёду, ні смуроду,
Ні па носе кулака.

*1923*

## ЗДАРЭННЕ НА ВУЛІЦЫ

Вось па вуліцы дзяўчына,
Кудры — шапкаю;
Камуністкай быць павінна:
Бачыш — з папкаю.

Даганяю, зусім блізка
Падыходжу я:
Здэцца, й праўда —
Камуністка,
Дый прыгожая.

Падмігнуць хацеў ёй вокам —
Падабаецца,
А яна ўсё — бокам, бокам:
Ухіляецца.

Вось налева ад сабору
Купал высіцца,
Тут дзяўчына вочкі ўгору —
Бачу, хрысціцца.

Тры, чатыры, дзесяць, трыццаць...
Як не ўтоміцца!
Варта б ёй ужо хрысціцца
Пасаромецца.

Пасмяяўся тут з дзівачкі
Мімавольна я:
Каб цябе стапталі качкі,
Багамольная!..

Не хадзіць бы табе з папкай
«Бальшавічкаю»,
А сядзець бы табе з бабкай
За кантычкаю!

Слухаць казані кудлатых
І паклонамі
Чырваніць бы лоб у святы
Прад іконамі.

*1923*

## ДА ЛІГІ «ЧАС»

### 1. Савецкі грамадзянін

Ох, скарэй жа, ліга «Час»,
Ты ратуй, галубка, нас,
І з савецкіх устаноў
Пагані ты ўсіх «паноў»,
Што «не маюць» заўжды часу
Абслужыць працоўных масу,
Толькі любяць свае стаўкі
І даюць удзень дзве праўкі.
Яшчэ трэба табе пільна
Пацягацца з гаварыльняй
(Ёсць у нас такая мода —
Ужываецца на сходах)...
Калі скончыш з гэтым ты,
Дык вазьміся за «хвасты»...
Хібаў многа яшчэ ў нас,
Але шкода траціць час,
Каб пісаць тут аб усіх,
Бо не праймеш словам іх:
Хоць якім прамоўцам будзь,
Яны й вухам не вядуць.

### 2. Нэпман

Ох, галубка, ліга «Час»,
Барані, бо крыўдзяць нас:
І чырвонцы і рублі
Трэба ж, каб у нас былі
Не цяпер, дык у чацвер,
А насельніцтва, павер,
У кішэнях грошы носіць.
Дык вось нэпман цябе просіць:
Падгані людскую масу,
Хай не траціць дарма часу —
Да капейкі грошы ўсе
Хай цяпер жа к нам нясе.

### 3. Поп

Ох, галубка, ліга «Час»,
Не забудзься ж і на нас:
Паміраць усім, бач, трэба,
Не палезе жывы ў неба,
Ні багаты і ні бедны —
Нам па ўсіх служыць абедні.
А тут многа ёсць дзядоў,
Што жывуць па сто гадоў.
Іх вось трэба пакараць,
Што не хочуць паміраць:
Хай нам штраф яны заплацяць,
Што шмат часу дарма траццяць.
Непрыемнасцей нам шмат...
Ці ж кабета мае лад? —
Чуць не год цяжарнай ходзіць,
Дзіцянё пакуль народзіць,
Прынясе хрысціць да нас —
Толькі дарма траціць час.
Прыцягні яе к адказу,
Хай дзяцей раджае зразу.

*1923*

## ПРАШУ ПРАБАЧЭННЯ

*Да валасатага статка з лагера*

Прабачай, чарада даўгакосая,
Даруй мне за гэта,
Што ў вашы справы ўсё лета
Не соваў і носа я...
З вас некаторыя мяне ўжо хавалі,
«Вечную память» спявалі,
Казалі: «Почыла во бозе»,
Другія казалі — «ў астрозе»,
А трэція — «ў апале»,

Але ўсе вы пальцамі папалі
Не ў вока, не ў неба,
А ў... туды вам і трэба;
Дарма малебны служылі Хрысту,—
Я ж, ведаеце, расту.
Жыву на волі
І здароў, як ніколі...
Дык даруйце яшчэ вы мне раз
За няўвагу да вас,
А я ўжо вам слова даю:
Зімою папраўлю памылку сваю.

*1923*

## ДЗВЕ ВЫСТАЎКІ

*Да Першай Усесаюзнай*
*сельскагаспадарчай выстаўкі*

У часы блукання цёмных мас,
У часы агульнага развалу,
Гайня шакалаў злосных нас
Са ўсіх бакоў апанавала.

Зубамі ляскалі з бакоў,
Кусалі спераду і ззаду —
Гайня шакалаў і ваўкоў
У нас хацела вырваць ўладу,

Але мы ўпартыя былі,
Шакалам «выставілі» фігу,—
Яны завылі і пайшлі,
Было не варта за фатыгу.

Ужо прайшло вось тры гады
З тае пары да часаў гэтых —
Нямала уцякло вады,
Нямала новага ў Саветах.

Яны распісвалі ўсё нас,
Не шкадавалі чорнай фарбы,
А мы ўзялі на гэты раз
Ды нашы «выставілі» скарбы.

Што трэба, выйшаў аргумент,
Забыў шакал і гнеў за фігу,—
Адно наўме — «лаві мамент,
Дык варта будзе за фатыгу».

*1923*

## АБ «БУРЫ І НАЦІСКУ»

*Да літаратурных спрэчак*

Адзін жа лезе, здэцца, з скуры,
Даводзячы патрэбнасць «буры»
І «націску» ў літаратуры;
Другі баіцца, мусіць, буры:
Даводзіць ён, што лепей крышку
Было б сядзець нам у зацішку;
А трэці проста пустазвоніць —
Ні нападае, ні бароніць.
Узнялі толькі завіруху,—
Тым часам справа ўсё без руху.
Браткі! ці весці гэту спрэчку,
Ці сыпаць вам муку у рэчку,
Як у няведамай старонцы
Калісь рабілі пашахонцы,—
Карысць, бадай што, тут адна:
Не будзем мець мы талакна.
Чым весці спрэчку гэту дурна,
Было б, па-мойму, лепей крыху
За працу ўзяцца — хто паціху,
А хто няхай бы сабе й бурна.

*1923*

## ПОЛЬСКАМУ ПАНУ Ў ДЗЕНЬ СТВАРЭННЯ БЕЛАРУСКАЙ ДЫВІЗІІ

Дзе ты раскашаўся ў нядаўнія часы,
Дзе права тапталі твае, пан, абцасы,
Цяпер, паглядзі вось, што робіцца там,—
Як вожык сталёвы, калючы стаў «хам».
Знявагі і крыўды і звання няма там —
«Бязрогае быдла» ўсё стала рагатым...
Ты сочыш, пан, пэўна, за ўсім з-за мяжы?
Сачы і дзівіся, глядзі і дрыжы.
Растуць і ў замежнага «быдла» ўжо рогі,
Куды ж, пан, цяпер панясуць цябе ногі?
Мо зноў за мяжу? — дык дастане і там
«Рагатае быдла», прачнуўшыйся «хам».

*1923*

## ЦАРКОЎНАЯ РАСКОЛІНА

Што за спрэчка там ідзе?
Што за крыкі ў грамадзе
Службу кожную,
А часамі там чуваць,
На падмогу завуць «маць».
Ды не божую.
Гэта Ціхана сыны —
Барукаюцца яны
З «абнаўленцамі».
Ужо вось каторы год
Пацяшаюць так народ
Тут «каленцамі».
Завялі фармальны бой,
«Словесами» між сабой
«Падвізаюцца»,
А за імі цэлы клір —
Гаў-гаў-гаў! Ды гыр-гыр-гыр!
Загрызаюцца.

Але к чорту «словеса»,—
Ў бой штурхнула «телеса»
Злосць кіпучая.
Ох, духоўныя айцы !
Скора будуць вам канцы
Немінучыя.
Хоць мо гэтым надта вы,
Слугі верныя царквы,
Не здаволены,
Але хай хоць злосць кіпіць,
А ў царкве не заляпіць
Вам расколіны.

*1923*

## ПАКІ І ПАКІ

*Да царкоўнага расколу*

Царква святая «ныне»
Якраз папалавіне
Разбілася.
І ўся яна аж вые —
З «жывымі» «нежывыя»
Схапіліся.
«О мире всего мира»
Нібыта, здэцца, й шчыра
Памоляцца.
А самі «паки и паки»
Грызуцца, як сабакі,
Не здаволяцца.
Ніколі, мусіць, «паства»,
Не бачыць табе царства
Нябеснага,
Бо штось царкве «вселенней»
Не шле бог «исцеления
Чудесного»!

*1923*

## ВАКОЛ ПАДАТКУ

Кулак

Ох, зарэжа, дальбог,
Мяне гэты налог:
Прадасі ўсё даастатку
І не выплаціш падатку;
Як адсыплеш рублёў дзвесце,
Дык не будзе чаго й есці.
Каб увесь яго аддаць,
Дык мала й жонку прадаць.

Бядняк

Адна хата без сяней,
Ні авечак, ні свіней,
Адна кошка ўсёй скаціны
Ды зямлі паўдзесяціны,
Дык за кошку ды за хатку
Не бяруць з мяне падатку.
Я «шчаслівы» чалавек —
Не плачу падатку век.

Выпівака

Я у Шлёмкі на рагу
Прадаў горшчык тварагу,
На другім — у Хайкі
Я прадаў і яйкі.
Потым зайшоў к Бэрку,
Выпіў я кватэрку,—
Ходзяць мае ногі —
Не наўме й налогі.
Свярбяць мае пяткі —
Не наўме і падаткі...
Ох ты, жонка мая!
Самагонку піла,
Упілася — расплылася,
Так, як ружа, зацвіла...
Едзьма ж мы дадому,
Не кажам нікому,
Як будуць смяяцца,
Што будзем хістацца,
Дык ты скажы — «хворая»,
А я скажу — «з гора я».

*1923*

## У ВАГОНЕ

Сапе, сапе, аж душыцца
З цяжару паравік,
Слупы ў акне мітусяцца —
Згубіўся ім і лік.
Бягуць, бягуць, хаваюцца
За белы дыму хвост.
Цішэй, цішэй — спыняюцца —
Мы едзем цераз мост.
Вось зноў хутчэй... урыўкамі,
Як быццам у кіно,
Мільгае руні ніўкамі
Зялёнымі акно.
Машына мілі коўтае,
Прарэзвае лясы,
Марнеюць брудна-жоўтыя
Сям-там яшчэ аўсы.
Ўраджай быў які-колечы,
Карысці ж шмат не жджы:
Гніе, на полі стоячы,—
Пашкодзілі дажджы...
Вось даль падперазалася
Істужкаю ляскоў,
Вось вёска паказалася
З-за ўзгорку спатайкоў,—
Усё хаткі саламяныя
Стаяць, як капякі,
Схіліліся, як п'яныя,
Над люстраю ракі.
Свісток. Цішэй. Прыехалі,—
Пусцее наш вагон,
І думкам быццам некалі —
Пусціліся бягом.

*1923*

## У ТАКУ

Раз за разам гоп ды гоп:
Над гарохам грэю лоб;
Як маланка, біч мільгае,
Трохі й жонка памагае.

Б'ю з-за вуха, з-за пляча,
Не шкадуючы біча:
Біч дубовы не паб'ецца,
Жонка зноў — не астанецца.

Ты не чхай ад пылу, нос,—
Не ў палацах жа мо рос,
Бо за гэту восьпрывычку
Зараз ты заробіш пстрычку.

Змалачу, прадам гарох,
Панясу аддам налог,—
Не хачу быць вінаватым,
Хоць зусім я небагаты.

Дык гучней жа гопай, біч,
Сябрукоў да працы кліч,
Бі, падскаквай аж пад стрэху
Ды дражні па гумнах рэха!

*1923*

## СКАРГА

П о п

Божа! Ты ўсе мукі бачыш,
Дык чаму ж не перайначыш?
Ты жывеш сабе на небе
І не думаеш аб хлебе —
Ён саўсім табе не трэба,
А ў мяне ж нястача хлеба,

А ўжо круп, дык ні крупіны —
Я не бачу ў вочы мяса,
А жыўлюся посным квасам.
З таго ж квасу ды капусты
Дык не вельмі будзеш тлусты.
Аж тарчаць, як лёсткі, рэбры,
Так сплялі мяне за зебры.
Тут не маю я ўжо «ныне»
Ні раба і ні рабыні,
Ні вала і ні асла я,
Дык... вярні нам Мікалая,
А ўжо гэтыя саветы
Забяры ляпей сабе ты!

Голас з неба

Лепей лезь ты сам на неба,
Камуністаў жа не трэба:
То ж не людзі — проста га́ды —
Ужо й тут ім не даць рады.

*1923*

## КАЛЯДНАЯ РАЗМОВА

Званы

Апанас! Апанас!
Каляда прыйшла да нас,
Дзілім-бом! Дзілім-бом!
Аб падлогу бі йдзі лбом!
    Бом! Бом!

Селянін

Селянін я бедны,
Дык мой лоб не «медны»:
Малячыся богу,
Я ім аб падлогу
Не буду біць —
    Баліць.

Званы

Ох, бязбожнік! ох, гультай!
Сала-сала-сала дай!
Кажам табе не на смех!
Бо вялікі будзе грэх.
    Дай! Дай!

Селянін

А ў мяне дачушка
Надта ж бо пястушка:
Абы толькі ўстала,
Дый хутчэй за сала,
Ды люблю і сам —
    Не дам!

Званы

Ну, цяпер табе капут! —
На тым свеце — страшны суд,
Пасля ў пекле аж на дне
Папячэшся на ражне.
    Дасі ці не?

Селянін

Вам я не паверу —
Хлусіце не ў меру;
Не баюся суду
І даваць не буду.
Мінуліся часы,
Што еў поп кілбасы,
Пачуў і я смак —
    Пабудзе й так.

Званы

Каляда прыйшла да нас,
Ды без сала, без кілбас,
Будзе-будзе-будзе так,
Бо пачулі людзі смак.
    Так! так!

*1923*

## НА СМЕРЦЬ «ЛАЗАНЫ»[1]

Спі, дзіця, без пары загінуўшае,
Усю Еўропу у смутку пакінуўшае!
Цяпер гэта Антанта-вар'ятка
(Прабачай, хоць яна твая й матка)
З вялікага смутку
Не знайшла другога скутку,
Як справіць па табе крывавую трызну[2],
Дык вось мо ты бачыш і чуеш з зямлі,
Які падняла яна шум вялізны,
Якія гатуе гарматы ды караблі?
Але мо вось скора уцешыцца —
Не турку, дык другому на шыю павесіцца,
Будзе лізацца, трапаць языком
Ды заменіць цябе другім байструком.

*1923*

## У ЦЁМНЫМ КУТКУ

У вёсцы цемра,
Вёска дрэмле,
    Сеўшы на загон.
Ёй кіруе,
Ў ёй пануе
    Поп ды самагон.
Кожным святам
Той кудлаты
    Адбярэ дзядзькоў;
Стаяць стогны
Ад шалёных
    Гульняў дзецюкоў.
«Абувае»,
Як сам знае,
    Вёску ўсю кулак.

---

[1] Канферэнцыя, якая адбылася ў швейцарскім горадзе Лазане.
[2] Трызна — памінкі.

Ўсюды ззаду —
Лае ўладу
    Скрыўджаны бядняк.
Трэба меры
Не з паперы —
    Дзе наша мятла?!
Трэба меры —
Шырай дзверы!
    Больш сюды святла!
Тут ад бруду
Трэба ўсюды
    Выпратаць куткі,
Каб начніцы,
Каб макрыцы
    Здохлі й павукі.

*1923*

## КАЛІ ЦЕРЦІ, ДЫК ДА СМЕРЦІ

*З лячэбнай практыкі на вёсцы*

### I

Дзіця аж з скуры лезе — плача,
Хварэе, беднае, няйначай;
Пакута беднаму дзіцятку,
А з ім пакутуе і матка:
Грудзей дае, па хаце носіць,
Каб даў здароўя, бога просіць.
Але і бог не памагае —
Дзіця змаглося, чуць зяхае.
Якраз Ганулька тут, суседка,
Прыйшла — «Як маешся, Альжбетка?
Чаго ж бы твой хлапец так плакаў?
Зраклі, няйначай, небараку.
Бо ёсць-такі на свеце людзі —
Як гляне — ну, дабра не будзе,

Як вось... Мікіта Галалобы —
Калі зірне — чакай хваробы...
Дык ты вось рана нацямочку,
Падняўшы, ягадка, сарочку,
Сатры яго зараз тры разы —
Мінецца ліха ўсё адразу».

II

Назаўтра рана нацямочку,
Чуць змрок пачаў радзець у хаце,
Альжбета з падалом сарочкі
Працуе ўжо каля дзіцяці:
Паложыць, возьме, зноў пасадзіць,
Патрэ, патрэ, яшчэ й пагладзіць,
Але нішто не памагае —
Дзіця ўсё плача, не сціхае.
«Дай я патру, а вось паможа»,—
Сказаў мужык тут да Альжбеты.
Падняў падол — «Ну, дай жа, божа!
Хоць раз паслухаю кабеты —
Дасведчанай Ганулькі-цёткі...»
Дык наліха падол кароткі —
Відаць, як стрыбалкі, ўсе ногі,—
Ну колькі ж дасць ён дапамогі?
Два дні дзіця Альжбета церла,
Але не памагло нічога —
На трэці дзень яно памерла.
«Не плач, Альжбетка, ўсё ад бога,—
Тут стала развяжаць Ганулька.—
Ты не марнуй сябе, зязюлька,
Бо дзела ваша маладое —
Бог дасць дзіцятка і другое...»

Дзяцей лячыць вы ўсе, кабеткі,
Вучыцеся ў мае Альжбеткі,
Ды шчэ ў яе старой суседкі,
Як лёд, здаровы будуць дзеткі.

*1924*

## РАГУЛІНА ПРАМОВА ДА СВАЙГО ГАСПАДАРА

Я, сялянская карова,
Прашу слова. Дайце слова!
Ну, за што цярплю я здзек
Праз увесь каровін век?

У хляве — гуляй у жмуркі,
Толькі свецяць трохі дзюркі,
Ў ім, па праўдзе вам кажу,
Я ўсю зімачку дрыжу.

Ем жа я адну салому,
Дык вядома і малому,
Што не дам шмат малака,—
Трэба сена ды мука.

Як саломы я не выем,
Дык ты перыш мяне кіем
Па спіне ды па баку,—
Дзе ж таму быць малаку?

Калі бегаць зажадаю,
Дык заўсёды вось што маю:
Проста жабу, не быка,—
І прыводжу «пацука».

Дай ты добрага мне мужа,
Ды кармі, каб была дужа,
Прынясу тады прыплод,
Што не выкінеш за плот.

Не ўзбівай мне кіем спіну,
А давай лепш канюшыну,
Бі больш рэпай, бураком,
Тады будзеш з малаком.

*1924*

## НЕ ДА «БЖУХУ» СТРАВА

Кускі смачныя цалком
Пан глытае век-вяком,—
Так жа вось вайной мінулай
Польшча «крэсы» праглынула.
Толькі гэтакі кусок
Каб не вылез ёй праз бок:
З ёю дрэнна нешта справа
(Не да «бжуху», мусіць, страва),—
Дактароў усіх рэцэпты
І бабулек розных шэпты
Не памоцны хворай тут,
Не памог і пан Тугут.
Ужо каркаюць вароны...
Шчыра просячы «аброны»,
Ждуць з надзеяй паны ўсе —
Можа, бог дасць, пранясе.
Але Польшчы, як здаецца,
Пастагнаць тут давядзецца.

*1924*

## ВАЛАКІТА

*З кааператыўнай практыкі*

Раз да вечара ад ранку
Прастаяў я ў адным банку,
А назаўтра ад зары
Да тэй самай зноў пары,
І за справай невялікай —
Сторублёваю пазыкай
(Атрымаць яе хацелі
Для малочнае арцелі).
На пазаўтра, як я ўстаў,
Увесь горад аблятаў,
Збіў падноскі, збіў абцасы
Ды патраціў чорт што часу,

А ўжо што зглуміў паперы!
Дык без ліку і без меры.
Прадстаўляў ужо я тут
І балансы, і статут,
І сяброў арцелі спісы,
І чатыры каштарысы,
Сем выняткаў з пратаколу,
Што прашу я па дазволу
Працы план ды справаздачы,
І... паўнейшая няўдача.
А чаму?— Ды, бач, не далі:
Ім прадставіць загадалі
Аб арцелі акт даследчы,
Я ж не меў з сабой тэй рэчы
І дастаць не меў надзеі...
«Абармоты! Ліхадзеі!
Каб вас чорт пабраў, пісакаў!» —
Крыкнуў я дый сам заплакаў,
Рукавом пасля уцёрся
Ды пяшком дамоў папёрся.
Ну і вось — цяпер я дома,
З якім вынікам — вядома:
Грошай страціў я нямеру
На харчы і на кватэру,
Яшчэ болей на паперу,
Атрымаў жа дулю-бэру.

*1925*

## УСТАРЭЛА ТЭХНІКА

Кінь, Ілья, пустое дзела!
Твая тэхніка ўстарэла.
Ну якая ў тым патрэба,
Што калоціш часам неба?

І каго спужаць ты хочаш,
Калі моцна загрукочаш?

Слаба, брат! зусім жа слаба,—
Не баіцца нават баба.

Часам ты махнеш маланкай,
Як падпасак дратаванкай,—
Гэта быў мо цуд калісьці,
А цяпер дык без карысці.

Вунь у нас калі маланка!
Свеціць з вечара да ранку,

З гулам, з грукатам страшэнным
Яна рухае машыны.
Хутка бегае па дроце
(Не па ўласнай хоць ахвоце),

Асвятляе горад бляскам,
Прэ людзей вагоны з ляскам,
Што не справяцца і коні,
Паслугуе ў тэлефоне,

За сто вёрст тваю размову
Перакажа слова ў слова,
Тэлеграмы носіць шпарка,
Варыць есці, як кухарка.

Ці паветра там, ці мора —
Усё роўна ёй не гора:
Прэ без дроту па паветры
На шмат тысяч кіламетраў...

Дык вось кінь, Ілья, хваліцца
Сваім громам, бліскавіцай:
Твая тэхніка — старая,
У архіў даўно пара ёй.

*1925*

## ЦІ ТО ЗДОЛЬНЫ ПЯСНЯР, ЦІ ТО МОДНЫ ПЛЯТКАР?

*Каму прысвячаецца,*
*дык той здагадаецца*

Ад зары да зары
Ўсё сядзяць песняры —
Пішуць песні свае «пралетарскія»,
Каб жа іх зразумець,
Тлумача трэба мець —
Без яго яны нам, як татарскія.

Не можэ ні адзін
Зразумець селянін
Гэтай песні, таксама й рабочыя.
Ці то — здольны пясняр,
Ці то — модны пляткар,
Зразумець не магу, кажу ў вочы я.

Песні ўсё не для мас:
Іх чытаць — трэба час,
І чытаюць іх толькі аматары.
Яны скажуць падчас:
«Вось дык сплёў выкрутас!
Ну і штучна ж пляце, ліха матары!..»

Згвалчан вобразам змест,
Заяўляе пратэст
І ў людзей-чытачоў просіць помачы,
А як возьме чытач,
Дык тут зноў — хоць ты плач! —
Абалдзее зусім, голаў ломячы.

*1925*

## ВАКОЛ РАСІЙСКАГА ПЫТАННЯ

### *1922 год*

#### 1. Бельгія

Баба Бельгія нязносная,
Як малая, так зайздросная:
Адчыніла ляпу пасткаю
На заціpачку каўказскую.
А заціpачка кіпячая
Была надта ўжо гарачая —
Рот апарыла ўвесь Бельгіі,
І халоднай есці нельга ёй.

#### 2. Францыя

І прысядзе, і прыкленчыць,
І задрыгае нагамі —
Так, як чэрці яе дрэнчаць
З капытамі ды з рагамі.
Не, не чорт прыйшоў па душу —
І з рукамі, і з нагамі
Яна ўгразла ў калатушу,
Што з расійскімі даўгамі.

#### 3. Англія

Ангелец непакоіцца —
Не ведае, як быць:
І хочацца, і колецца,
І мамка не вяліць.

#### 4. Польшча

Польшча — хітрае дзіцятка:
Ад свае французскай маткі
Баючыся адхіліцца,
Уплялася за спадніцу,
Шэпча: «Мамачка мая!
Куды ты, дык туды й я».

**5. Японія**

Касавокаму японцу
Нешта муляе без конца,
Сон аж падлу не бярэ,
Бо пад бокам ДВР.

## *1925 год*

**Бельгія**

Глядзіць, як жаба на вала,
А злосць такая ж, як была.

**Францыя**

Пашкадаваўшы ўласнай шкуры,
Яна прызнала нас дэ-юрэ,
За гандаль хоча з намі ўзяцца,
Але даўгі ёй яшчэ сняцца.

**Англія**

Чэмберлен[1] і ўсе з ім лорды
Адвярнулі ад нас морды,
Але глупства — іх рабочы
З намі жыць па-брацку хоча.

**Польшча**

Ёй цяпер не да суседа,
Бо ва ўласнай хаце «беда»,—
Яна служыць штодзень «месы»,
«Жэбы Бог оздровіл крэсы»[2].

**Японія**

Не пазнаць цяпер японца,
Касавокі рад бясконца,
Бо яму наш Сахалін[3],
Як гарачы з маслам блін.

*1925*

---

[1] Чэмберлен — міністр замежных спраў Англіі.
[2] Частка Беларусі, далучаная да Польшчы.
[3] Востраў на Далёкім Усходзе, частка якога належыць да Савецкага Саюза.

## КАЛІ Ў КРАМЕ ЁСЦЬ НЯСТАЧА...

Калі ў краме ёсць нястача,
Дык «усушка» там, няйначай,
Ці «утруска», ці мо «мышы» —
Так заўсёды ў актах піша.
На «усушку» ўсе зладзеі
Ускладаюць шмат надзеі:
Дзе «усушка» ды «утруска»,
Дык там выпіўка й закуска,
А дзе пуста ад мышэй —
Падымай, браток, вышэй!
Толькі ўмей складаць ты акты,
Каб пасведчыць тыя факты.
У закупшчыка Антося
Вунь жалеза «увасхлося»
Кіло тысячу ды з гакам,
І Антось па ім не плакаў.
За прылаўкам у Матруны
Шмат «утрэслася» картуны,
Метраў сорак, можа, й болей,
Адным словам — ёй даволі.
У загадчыцы Антолі
«Мышы» з'елі скрыню солі,
А пасля яшчэ, заразы,
Бочку выжлукталі газы;
Весялей Антоля ходзіць,
І мышам яно не шкодзіць.
Так двухногія з рукамі
Тыя «мышы» з «пацукамі»
І псуюць сабе патрошку...
Трэба, трэба на іх «кошку».

*1925*

## НУ ЯК НЕ ВЫПІЦЬ?

Я часцяком яго ў карчме,
Бывала, спатыкаў пад мухай.
«Ну, што ты, браце, ачумеў?
Пакінь ты піць, прашу, паслухай!»
І чуў адказ: «Ну як не піць?
Вакол няпраўда, здзекі, гора.
Як бедны люд яшчэ цярпіць!
А я гатоў бы выпіць мора».
Прайшлі бурлівыя гады,
Уціхла бура-навальніца,
І ніва жытам маладым
Пад вольным ветрам каласіцца.
І вось спаткаліся мы зноў
Пасля васьмі гадоў разлукі.
Сядзіць ён з чаркаю ў піўной,
І ўжо ў яго трасуцца рукі.
«А, сябар! Ты? І нават п'ян?
Ты зноў, напэўна, п'еш, як воду?»
«Ну як не выпіць, кажа, за слабоду?
Гатоў я выпіць цэлы акіян».

*1925*

## МАЦА

*У заездджым доме*

Я — адзін, іх — чатыры жанчыны,
Лямантуюць, трашчаць, як у бубен.
А чаго? А з якой жа прычыны?
«Пуд мэл фінф міт а галбэ рубл».
Не наўме і гарбата мне з халай:
Гвалт, што далей, расце, не сціхае;
Здэцца, сотня іх там лапатала,
Наймацней жа за ўсіх дык Хая:
«Пуд мэл фінф міт а галбэ рубл.

У-ю-юй! Унд фар арбэт фінф»[1].
Як жа ім не памлеюць губы?!
Як язык не здранцвее ім?!
Я дзіўлюся.— Што мае значыць? —
«У-ю-юй! Ой, вей мір!» — без канца.
Вось і стала мне Хая тлумачыць,
Што на свята ім трэба маца.
Ды мізэрная пенсія мужа,
Не хапае на хлеба скарынку:
Іца бедны — ён сторажам служыць,
Іца крамы вартуе на рынку.
Уй, як шкода мне Іцы ды Хаі!
Навярцелася нават сляза,
Але што ў той бядзе ім параіць?
— Ешце хлеб, калі так,— я сказаў.
Хая тут усміхнулася крыва:
— Вы, таварыш, мяне напугал,
А што мне скажа суседка Рыва?
А што мне скажа наш цэлы кагал?
— Чаму ж я вось у пост ем сала.
Не зважаю, што скажа поп?
Хая нешта па-свойму сказала,
Мне здалося: «Місюгін коп»[2].

*1926*

## ФІГА НА ТАЛЕРЦЫ

Шмат цяжкой работы
Панству-дыпламатам,
Скажам, тыя ж ноты,
Той жа ультыматум:
Надзяюць вам путы,
Але ўсё «з пашанай».

---

[1] Пуд мукі — пяць рублёў з палавінаю.
У-ю-юй! І за работу — пяць.
[2] Вар'яцкая галава.

Колькі тут атруты,
З цукрам размяшанай!
Колькі тут фатыгі,
Колькі мёду ў перцы!
Вось узорчык фігі,
Фігі на талерцы.

Калі вашу кніжку
Пахвалілі ў друку
За паперу крышку,
А пра змест — ні гуку,
Дык пры чым тут кніга?
Вы ўжо мне паверце —
Перад вамі фіга,
Толькі на талерцы.

Або, скажам, знялі
Вас з якой пасады,
Вам па шапцы далі
Ды за вас жа й рады:
Вечар развітання,
Выпіўка і тосты.
Значыць, тут пытанне
Зноў жа не так проста,—
Веселы вы й самі,
Але што на сэрцы?
Разыгралі з вамі
Фігу на талерцы.

Калі вам часамі
Закідаюць вуду
(Хто? Глядзіце самі,
Я казаць не буду),
Хваляць на ўсе коркі,
Хоць жадаюць смерці,—
Гэта зноў жа толькі
Фіга на талерцы.

Вы калісьці елі,
А цяпер «не есца»,
Бо вы службу мелі,
А цяпер без месца.
Падалі заяву —
Просяць вас прысесці,

А сваячка «зава» —
Шасць — і ўжо на месцы:
Браму не праз тую,
Праз другія дзверцы,—
Гэта вас частуюць
Фігай на талерцы.

Ў вылучэнскім стане
Вам такая ўвага!
«Маё шанаванне»
Ад самога «зага».
Вас цікавіць справа? —
«Кіньце клапаціцца!
Мо ці не пара вам
Ехаць падлячыцца?»
Лёгкія здаровы,
Нічагуткі ў сэрцы...
Маеце адно вы —
Фігу на талерцы.

Аблажыў псеўдонім
Вас учора ў друку,
А сапраўдны сёння
Паціскае руку
Ды ляпеча штосьці,
Лезе цалавацца,—
Вам тады ад злосці
Як не разарвацца!
Так рука і просіць
Трэснуць па манерцы:
Гэта ж ён падносіць
Фігу на талерцы.

Калі пры спатканні
З важным бюракратам
Прыкідацца стане
Вельмі ён занятым,
Да другога разу
Пачакаць вас просіць,—
Тут відаць адразу,
Што ён вам падносіць.

Колькі амбарасу
Каля гэтай справы!

Болей тут акрасы,
Як тае патравы:
Фіга мокне ў ласцы,
Ласку льюць без меркі...
Хай жа ім аддасца
Проста, без талеркі!

*1927*

## НЕ ГУБІ СЯБЕ, ДЗЯЎЧЫНА...

Не губі сябе, дзяўчына,
Не йдзі замуж за «саўчына»,
    Ох, не йдзі!

Ён кахае скрозь кабету
Афіцыйна, па дэкрэту,—
    Ой, глядзі!

І цалуе, небараку,
Толькі ў планавым парадку,
    Акурат,

Кропка ў кропку па раскладу...
Ну, якую ж дасі раду?
    Бюракрат!

Не зважае, што ты жонка,
Не душа ў яго — суконка.
    Фармаліст:

Хочаш лішнюю забаву,
Падавай яму заяву —
    Цэлы ліст.

І падаўшы, ўсё ж такі ты
Не абойдзеш валакіты
    Ўсё адно:

Засушыць ён можа справу,—
І цябе й тваю заяву —
    Пад сукно.

Ён мяркуе так і гэтак,
Што пара ўжо з пару дзетак,
    Каб таго...

Толькі гляне як начальства
На такое вось «нахальства»
    На яго?

Як начальства коса гляне,
Дык «саўчын» адразу звяне —
    Сам не рад;

Задрыжыць, і пал патухне:
Каб не ўзгрэлі, што разбухне
    Апарат.

Не любі ж, глядзі, «саўчына»
Ды не траць свайго, дзяўчына,
    Хараства.

Што ж ты зробіш бюракрату?
Што спагоніш за растрату?
    Чорта з два.

*1927*

## У БОГА — ТРЫВОГА

Як грымоты, гучна,
Як маланка, хутка,
Па нябесных гушчах
Праляцела чутка.
Нібы град бязбожны
Сыпануў па даху,—

Абываталь кожны
Пабялеў ад жаху;
У вялікай скрусе
Там угоднік кожны,
Што на Беларусі
Выдаюць «Бязбожнік».
Што такая штука —
Усім святым атрута.
Што, як выйдзе з друку,
Будзе небу крута:
Што і ў сонца хутка
Сцяг ваткнуць чырвоны...
І ад гэтых чутак
Духам паў Іона,—
Уцякаць рашыўся
(Дзе набраўся й спрыту!)
І ўюном пашыўся
У вантробы к кіту
(Праз якія дзверы,—
Я казаць не буду).
Знаць, свайму паверыў
Ён, нарэшце, цуду.
Прасвятая ж дзева
(Чуткі вінаваты)
З пуду, як сядзела,—
Прывяла блізняты.
Пажаўцеў сам госпад,
Як статуй васковы,
Ды не ўпаў у роспач —
Даў загад вайсковы
Камартдыву прароку Іллі:
Каб гарматы гатовы былі!
Не шкадуй перуновых снарадаў,
Крый шрапнеллю з буйнейшага груду.
Стань на ўзгорку за брамаю раю,
А не ўстоіш — на смерць пакараю.
Загадай, каб на час абароны
Нам харчы дастаўлялі вароны,
Ды служылі з такою карысцю,
Як самому ў пустыні калісьці.
Камконарміі ўгодніку Юр'ю:
Хай мурашкі бягуць пазашкур'ю —
Памятай мой заўсёды загад:
Каб ні конскага кроку назад,

Каб адважна рубаў і калоў,—
Не шкадуй недаверскіх галоў!
Заварочвай тут воінствам конным,
Будзь на небе маім ты Будзённым,
Дык «Георгіем» з бантам пацешу,
А не — Юр'я самога павешу
Над прасцягам малочнай дарогі,
Зачапіўшы за месяца рогі.
Адміралу нябеснаму Ною:
Карабель свой ачысціць ад гною,
Усіх выгнаць з каўчэга скатоў,
Каб да бою быў заўтра ж гатоў.
Добра знаешся ты на віне,—
Вось паглядзім, які на вайне.
А архангелу зараз Гаўрылу:
Скарыстаць усю лётную сілу;
Загадаць, каб уся эскадрылля
Аднавіла памятыя крыллі,
Дзяржаць сувязь між войска, ды зрэдку
Пасылаць серафіма ў разведку.
Вуха востра, каб нас не праперлі,
Бо самому я ўстаўлю прапелер.
Патрыярху старому Абраму
Падпускаць болей ворагу газу.
Дзеду Іову вылезці з ямы —
Пашыраць між бязбожных заразу.
Ялісей, абы ворага ўгледзеў,
Выпускай як найболей мядзведзяў.
Зарубі гэта добра-такі,—
Тут не сорак жа два хлапчукі:
Калі мала звяр'я набярэш ты,
Аскубуць твае пэйсы дарэшты.
Ты, апостал Пятрусь,— агітпроп,
Наглядай, каб на месцы быў поп.
Хай бязбожнікаў крые з амбоні,
Хай бязлітасней староста звоніць,
Падае хай сігналы званамі —
Хто супроць нас, а хто йдзе за намі.
А лаяльныя ўсе папяняты,
Што савецкаю службай заняты,
Як прыхільнікі строгай маралі,
Каб грамадскую думку ствaралі,
Што яны, хоць «Бязбожнік» не ганяць,
Ды не варта б было балаганіць.

Пад загадам бога
Будзе войска многа,
Ды не страшна тое
Воінства святое.
Забяромся к богу
Мы на верхатур'е,
З жарабца за ногу
Звалаком мы Юр'я;
Мы маланку з громам
Закілзаем дротам,
Ды Іллі старому
Наківаем потым.
Дзесьці месца знойдзем
І яго варонам;
Катушок згародзім
І кіту з Іонам,
І звяром-мядзведзям
Рознай там пароды,—
Гэта ўсё паедзе
У музей прыроды.
Прасвятой жа маці,
Як і іншым маткам,
Ў загсе запісаці
Прыйдзецца блізняткі.
Хай святая маці
Скаргу ў суд прыносіць,
Аліменты плаціць
Хай святы Іосіф.
Розныя анёлы
(Шустрыя кур'еры)
Пойдуць ва ўстановы
Разносіць паперы.
Які-небудзь божы
Штатны алалоўнік
Нам, напэўна, ўложыць
«Беларуска-анельскі практычны
слоўнік».

Просты шлях да сонца
Мы тады праложым
І па ім на концы
Зразу ездзіць зможам.
Хоць кавалак часу
На праезд патрацім,
Але ўжо камгасу

Грыўню нек заплацім.
А крыху датацый
З цэнтра атрымаем,
То тады «катацца»
Будзем на трамваі.
Неба мы абшарым
Яго ўсе закуткі,
Над усім абшарам
Запануем хутка.
Будзе люба зроку
У прадонне ўпіцца
(Толькі тут за зорку
Каб не зачапіцца).
Пасля дзённай працы
Зорнай летняй ноччу
Люба прагуляцца
Па шляху малочным.
Дзе скрыжалі ціснуць,—
Паглядзець друкарню;
З пекла д'ябла свіснуць —
Хай вядзе ў смалярню.
Ды з лазатым чортам
Аглядзець крыніцы:
Мо тавар экспортам
Можна за граніцу.
Пашукаць з ім тропу
Прахадзіць хоць мілі:
Можа, ўсю Еўропу
Мы б смалой кармілі.
Неба ўсё цікава
Нам пабачыць зблізку,
На «Бязбожнік» нават
Там сабраць падпіску.
Працы шмат бясконца...
Хоць касцьмі палягам,
А хадзіцьме сонца
Пад чырвоным сцягам.

*1928*

## ПРАМЕТЭЙ

*Працоўным*
*Заходняй Беларусі*

Звіняць іржавым звонам путы,
І стогн дзядоў, і плач дзяцей.
Рукою панскаю прыкуты
Народ пакутны — Праметэй.

Крывёй абліты ён, зняможан!
Маўчыць халодная скала.
Крамсае цела «бялы ожэл» —
Сваяк «двухглавага арла».

Ён сэрца рве. Ён шчыпле печань.
Ён п'яны выглядам крыві...
Крывавы баль, аднак, не вечны,
Калі ў грудзях агонь жывы.

І прагну аднаго цяпер я:
Каб мне прыждаць хвіліны тэй,
Калі паганай птушкі пер'е
Па ветры пусціць Праметэй.

*1928*

## «НАШ»

Хай пяро не міне
Навуковых «глыбінь»:
Зацікавіў мяне
«Навуковец» адзін.

«Аб'ектыўны» наскрозь
І лаяльны той спец,—
«Тэндэнцыйнасці» вось
Ён не можа цярпець.

Каб «тэндэнцый» не знаць,
Каб не псулі настрой,
Рад палітыку гнаць
З кабінета мятлой.

Часам Маркса заве,
Каб «патрапіць у лад»,
Ды ў яго галаве
Метафізікі склад.

Не вылазіць ніяк
Ён з сваіх каляін:
І бядняк, і кулак —
«Наагул селянін».

Бо вазьмі ж тут разжуй,
Не жаваў чаго век:
Пралетар і буржуй —
«Наагул чалавек».

Ды які ж бо там чорт
Ім паставіў драты?
І рабочы, і Форд —
«Па заводу браты».

А «наогул»-то ён
«Нашым шляхам ідзе».
«Не прадасць за мільён
Пралетарскіх ідэй».

Так, на словах-то наш,
Толькі к чорту глядзіць:
Яго маслам ты маж,
А ён дзёгцем смярдзіць.

*1929*

## ЦІ Я НАД ЯСЛЯМІ СУМУЮ

*Конская элегія*

> Дзякуючы кулацкай агітацыі і галавацяпству некаторых установаў за адзін снежань месяц 1928 г. па БССР зарэзана 35 000 коней.
>
> *З газет*

Ці я над яслямі сумую,
Ці йду гуляць на паплавы,—
Адной вось думкі не ўтаймую,
Яе не выгнаць з галавы.

Ці параконны плуг сустрэну —
На сэрца сум наводзіць ён:
Не дачакацца мне на змену
Сталёвых трактарных калон.

Ці лёгкі ветрык ледзь павее —
Тугу нагоніць шэптам лес:
Мне не вазіць на рум бярвення,—
Мяне рыхтуюць на зарэз.

І хоць аблупленаму мясу
Ўсё роўна, дзе ні дагніваць,
Бліжэй да роднага калгасу
Я ўсё ж хацеў бы спачываць,—

Кіраўніку застацца другам
І ўзвесяліць маркотны дух,
Як гэты друг мой саматугам
Пацягне параконны плуг.

Цяпер жа мне не дапаможа
Ні мора выплаканых слёз,
Ні стан здаровы ды прыгожы —
Адзін мяне чакае лёс:

Галавацяпы заўтра здуру
Тут пагуляць дадуць нажу,
І за сваю гнядую скуру
Апошні раз я задрыжу.

І горка чэрап выскаляцца
Пачне з таго, што гаспадар,
Хлусні паслухаўшы кулацкай,
Мяне на скуру запрадаў.

І галавой кіўну з магілы,
Калі ўжо буду нежывы:
Скурсіндыкат, жыві, мой мілы!
Хоць цяжка жыць без галавы.

*1929*

## ДВА КАХАННІ

Жыў на вёсцы кулачок,
А ў яго — каровы.
У саўгасе ж быў бычок —
Завадскі, здаровы!

Яшчэ ёсць у кулачка
Шмат чаго багата;
У яго была й дачка —
Гладкая, Агата.

Закахаўся у дачку
Кіраўнік саўгасу.
А чаго ж глядзець бычку?
Ён не траціў часу.

Покуль кляўся кіраўнік
У каханні шчырым,
Дык кароў кулацкіх бык
Пакахаў з чатыры.

Пахаджае па дварэ
Маладзец рагаты,
З кулака ён не бярэ
Аніякай платы.

Задаволена раве
Рызыкант-асілак,—
У рагатай галаве
Не шукаць памылак.

Хай працуе ён здароў,
Хоць у дзесяць столак,
Хай кахае больш кароў
Ды прыгожых цёлак.

Вось наконт кіраўніка
Погляд болей строгі:
Ён — ці сябар кулака,
Ці мо бык бязрогі,

Што кулацкі цягне воз
Дый не разумее.
Хай накруцяць яму хвост,
Хто круціць умее!

*1929*

## ТАК ЖЫЛА МІЖ ІМІ ЗГОДА

Раскажу я тут пра тое,
Як зямлю каморнік мераў:
Меў ён справу з беднатою,
А ў кулачкі меў кватэру.

На калгас зямлі нястача,
А ў кулачкі нават лішкі,
Толькі ён таго не ўбачыў
Праз яечню ды кілішкі.

На спатканне ласка ласцы:
Ён кулацкага — ні пядзі;
Толькі дзівяцца калгасцы,
Як каморнік з бабай ладзіць.

«Што ж ён, сволач, не абрэжа?..
І зважаць на нас не хоча!
Хіба так пітво ды ежа
Засланілі яму вочы?»

А каморніку тут ясна,
Што — «дарэмны ў вочы лезуць.
У жанчыны у няшчаснай —
Што ж ты знойдзеш тут абрэзаць?»

Тэрмін досыць некароткі
Так жыла між імі згода:
Ля кулацкай цёплай цёткі
Аціраўся ён паўгода.

Ад густой кулацкай пары
Хлопцу вочы засляпіла,
Толькі, кажуць, акуляры
РСІ яму купіла.

*1929*

## ЗДАНЬ МІНУЛАГА НЕ ЎСТАНЕ

*На 1 Мая 1930 года*

Зелень з чырванню ў размове:
Май да нас прыйшоў у госці,
Не дарэмна й вы, панове,
Зелянееце ад злосці.

Модлы шліце Матцы Боскай,
Бо трашчыць ланцуг іржавы:
Нашых спеваў адгалоскі
Далятаюць да Варшавы.

Наш запал і гарт юнацкі
Вам сягоння сэрца кроіць.

Ці казаў вам пан Бернацкі
Пра тутэйшыя настроі,

Што калгаснікі з Бабоўні,
Парабкі яго былыя,
Напісалі ліст «любоўны»,
Ад якога пан той вые?

Як пагналі вас мы кіем,
Зажылі рубцы на целе,
Зноў з «найсвентшым» папам Піем
«Ратаваць» вы нас хацелі.

Папа Пій, «намеснік бога»,
З генералам ў дружбе цеснай
Мовай маўзера святога
Абяцаў нам рай нябесны.

Не малыя ж мы ўжо й самі:
Рай будуем свой без «папы»
І паслалі папу к... маме —
Прэч ад нас «святыя» лапы!

Чорных дзён мы не забылі,
Не вярнуць іх больш сутане:
Кол асінавы забілі —
Здань мінулага не ўстане.

*1930*

## ЗДОРАВА!

*На допіс аб адной працы*
*сярод жанчын*

Здорава! Здорава,
Цётка Рыгорава!
Так іх, нямытых дачок!
Ідзём мы ўсе крокамі
Досыць шырокімі,
А ў вас дык аж цэлы скачок.

Што ж бо ты з гэтымі
Зробіш кабетамі —
Замурзаным, цёмным баб'ём?
Не проймеш іх словам,
Дык метадам новым
Культуру мы ім уваб'ём.

І скора і гладка:
«Ах, вы — дэлегатка?
На сходзе чаму не былі?
Прымусіць патрапім,—
Абкладваю штрафам —
Ганіце сюды тры рублі!

Ах, вы апраўдацца?
Дарэмная праца,
Не цягне ніхто за язык...»
Расце, як грыбы, так
Дзяржавы прыбытак —
Не трэба ніякіх пазык.

Вось гэта дык цаца!
Вось гэта дык праца!
Вось гэта дык метад,— але!
Я раіў бы цётцы
Рублёў хоць па сотцы
Абкладваць іх штрафам — смялей!

Заслугі ж убачаць,
Заслугі адзначаць.
А як жа! — мо раз не адзін.
Не зараз, ды потым.
Пра вашу работу
Ужо напісаў селянін.

Я вас заспакою:
Падзякай такою
Вас дзядзька ў лісце аблажыў!..
Падзяку б мы гэту
Пусцілі ў газету,
Ды сорам даваць,— каб я жыў!

*1930*

## ХТО ТАМ ЧУХАЕЦЦА?

*Да 2-й бальшавіцкай вясны*

Хто там чухаецца?
    Хто заснуў?
Хто ў паперкі
    задрэманым вокам
    тыцкае?
Сустракайце вясну!
    Прымайце вясну!
Я прыйшла —
    напорная,
    бальшавіцкая.

Па-ўдарнаму працу
    на плечы бяру,
Мінуты не страціўшы
    марна:
З вёскі змываць
    дакастрычніцкі бруд —
Задача мая
    ударная.
Вы,
    што ад новых
    калгасных дзён
Абымшэлымі
    адгароджаны межамі,
Хіба шлях вам
    яшчэ не відзён,
Пратралёваны,
    першымі аб'езджаны?

Хіба вам яшчэ ўсё
    мілей саха?
Хіба трактар яшчэ —
    недарэчнаю цацкаю?
Хіба ўсё вы яшчэ —
    хі-хі! ды ха-ха!
Пад агітацыю
    завугольную, кулацкую?

Хіба смачна было
    за сошкай кульгаць?

Хлеб з мякінкай
    у курнай халупіне?
Шлях ваш у заўтра —
    цераз калгас,
Межы збуцвеюць хай,
    трактарам палуплены.

Хай на нас горы
    паклёпаў нагорнуцца,
Хай кулаччо —
    падкалоднымі гадамі,—
Мы па брахні іх —
    спаборніцтвам!
Мы іх,
    праклятых,—
    брыгадамі!

Хто чыкіляе
    ганебна ў хвасце?
Аршаншчына?
    Ці Мазыршчына?
Чым вы пасееце?
    Што парасце?
На носе ж сяўба,
    а насенне —
    не чышчана.

Заўтра
    ў атаку
    папаўзуць МТС
На поле
    трактарнымі
    калонамі.
А там?!
    А вунь там?!
    Я выношу пратэст!
Часткі машын
    іржавеюць,
    паломаны.

Раўняйся
    па лініі ўдарных брыгад!
Хто спаборніцтвам
    там не ахоплены?

Каб зацвілі
    сотні тысяч га
Пад ільном
    ды пад каноплямі.

Годзе цягнуць
    «Ані шум баравы»
Галасамі
    нястройна-фальшывымі:
На семнаццаць працэнтаў
    клін яравы
Павінен быць
    сёлета
    пашыраны!

Годзе трымаць
    на галодным пайку
Рагулю,
    Падласую,
    Гнедую:
Дарогу турнэпсу!
    Прастор бураку!
Прычын аб'ектыўных
    ніякіх
    не ведаю.

Дык хто ж там чухаецца?
    Хто заснуў?
Хто ў паперкі
    задрэманым вокам
    тыцкае?
Ганьба таму,
    хто прадрэмле вясну,
Мяне —
    ударную,
    бальшавіцкую!

*1931*

## ЗАХАРА-ДЫРЭКТАР

«Без струманту
    і вошы не заб'еш» —
Вось лозунг баявы
    за тэхніку
    мінуўшчыны вашывай!
А гадавалі мы іх
    на сабе ж,—
Здавалася,
    не знішчыць
    і машынай.
Шпацыравалі
    вошы
    па целе,
Сядзелі
    чужаеды
    на карку.
А мы іх кармілі,
    крываваліся,
    пацелі
Ды ўрэшце паставілі
    жыццё
    на карту:
Такую лазню наладзілі
    для чужаедаў,
Якой яшчэ свет
    ніколі
    не ведаў.
І пачаліся
    трагедыі
    ды істэрыі
У чужаедаў
    Расійскай імперыі.
Маўчала тут спогадзь
    станка ды сахі.
Буржуя — пад ногаць,
І вош — у штыхі.
Ад Якуціі
    аж да Мазыршчыны
Чужаедскія кодлы
    панішчаны
З іх гнёздамі ўсімі
    й рубцамі.

Дзе струмант ужыты,
а дзе без прыладдзя...
Знішчалі старое
мы
самі,
А будаваць жа новае
хто будзе?
Дзядзя?
Ну, дык дружней
напінай гужы!
Дзядзю ў прыпражку,
ды дзядзя чужы.
Пародзісты ён
і падкованы здорава,
Толькі дзядзя той
(не забудзьцеся)
з норавам:
Задам брыкаецца,
перадам б'ецца:
Хадзі асцярожна
і спераду
й ззаду.
З дзядзем
не так ужо лёгка
і спецца:
Рахмана глядзіць,
а рыхтуе нам
здраду.
«У іхні хамут,—
кажа,—
я не палезу».
Вось чаму нам
чырвонага спеца
Патрэба стварыць
да зарэзу.
А то бывае
вось так
(ды не рэдка):
Патрэбен, напрыклад,
чырвоны дырэктар,
А ёсць, напрыклад,
таварыш Захара.
Захара такі,

што і д'ябал
не пара:
Энергіі ў хлопца
хапіла б на трох,
Запалам да працы
гарыць нутро.
І нутро —
не падкапаешся —
рабочае;
Мазгамі
зноў жа
нядрэнна варочае:
Кандыдатура
зусім падышла б,
Ды вось наконт тэхнікі —
слаб.
Адвагаю бродзіць
кроў маладая,
Не страшны яму Гіндэнбургі
і Фошы,
Ды тэхнікай
толькі такою ўладае,
З якою
«не знішчыш і вошы».
Такую ў нас
і ўжыць цяпер недзе ж,
Да камунізма ж на ёй
тым больш
не даедзеш.

. . . . . . . . . .

Каб зноў не нашкодзіў
з прампартыі гад
І ўсялякія іншыя
гадзяняты і гады,
Каб нам
папацёмку не йсці,
наугад,
У новы паход
мы рыхтуем брыгады.
За кадры
(за нашы),
за тэхніку ўдарна,

За новыя веды
    старому на злом ісці,
Каб
    ад аддзялькома
    і да камандарма
У нашай
    сацыялістычнай
    прамысловасці
Быў маналітны,
    моцны
    камсклад,
Сацыялізму аддавы
    шчыра,
Цвёрды заўсёды,
    як скала,
І падкаваны
    «на ўсе чатыры».

*1931*

## ДЗЕ Ж ЯНА, ГАЛОЎНАЯ САМАЯ?

*На вылазку вялікадзяржаўнага шавінізму ў асобе настаўніцы Засімавай*

«Ці не прахлопаў гэта
    вушамі я?
Чамусьці дагэтуль
    нідзе не натрапіў.
Дзе ж яна тая,
    галоўная самая,
Што на даным этапе?»
Вядома —
    не стаў бы я ёй спачуваць.
Не!
Рук, як Пілат той,
    не вымыю!
Ды толькі ж агітацыі
    нідзе не чуваць

За «единую»
і «неделимую».
Так прысягаюцца,
б'юць сябе ў грудзі
(Гатовы бажыцца
разоў хоць па дваццаць).
Альбо і напраўду
наіўныя людзі,
Альбо што такімі
хочуць здавацца.
Ды хіба ж «единая»
ідзе напралом
З грукатам,
стукам,
свістам
і ровам?
Мо каб са сцягам яшчэ
трохкаляровым?
Мо каб яшчэ
з двухгаловым арлом,
Які кіпцюрамі
на горла наставіцца?
З такой небяспекай
змагаліся б проста.
А што,
калі небяспека схаваецца ў постаць
Ну хоць бы «скромнай»
«савецкай» настаўніцы?
Якая ў школу трапляе
не цудам,
А проста таму,
што хавае «пад спудам»,
Трымаецца ў межах
савецкай роўніцы
Ды —
капля за капляй —
нянавісцю поўніцца.
Вось выкрый такую,
знайдзі,
пакарай,
Пакуль у яе
не папрэ цераз край!
Не паспелі яшчэ мы
забыцца пра Чудзіна,

Пра скулу ліхую
    на целе здаровым,
А вось нам яшчэ,
    выбачайце, «пасудзіна»
На гарызонт
    выплывае сягоння,
Ад якой патыхае
    за цэлыя гоні
Самым такім
    духавітым,
    махровым.
У школе нават
    «гераіня» наша
«Выхоўвала», кажуць,
    дзіцячую масу.
Ды толькі, бач,
    «заварылася каша».
І заява яе
    паўзе у РКК
На беларускага працаўніка,
На старшыню калгаса.
Справа зусім тут
    не ў сутнасці спрэчкі:
Чаму ж і не ўзяць
    тую самую «шчэпку»,
За якую знаходзяць прычэпку?
Але вось паслухайце,
    што за славечкі!
Славечкі — што трэба,
    дый шматавата...
Ды хіба ж яна тут
    у чым вінавата?
За грамадзянкай Засімавай
    няма ніякіх грахоў —
Папрабуй вазьмі
    да яе прычапіся,
Калі яе скрыўдзіў
    «белорусский грязный хохол».
Такая «собачья
    чорная пыса».
«Хохлы» прыгнятаюць,
    дык як тут не лаяцца?
А нацпалітыка ў БССР
    ёй наогул... не падабаецца.

І вось шавіністку
    мы бачым за працаю
З пенай на вуснах,
    аблітую потам:
Яна, бачыце, абараняе
    велікарускую нацыю,
Якая наогул у нас
    «пад прыгнётам».
Моцна, як кажуць,
    тут зашрубована!
Каб гэтакай гадзіне
    зубы
    ды сіла,
Дык хіба ж яна
    не ўкусіла?
Ды няшчасце яе —
    што без зубоў яна.
Пырскае слінаю,
    грозіць нам згубаю
І давіцца ўласнаю злосцю
    бяззубаю.
Ды нам супроць вылазак
    гэтакай гадзіны
Моцныя лозунгі
    партыяй дадзены:
Бі да знішчэння,
    да хрусту касцей
Па шавінізме
    ўсякіх масцей!
Ці вялікадзяржаўная
    храпа запенена,
Ці морда нацдэма
    па-воўчы аскалена —
Бі па іх
    вернаю зброяю
    Леніна
І лепшага ленінца —
    Сталіна!

*1931*

## СВІННІ НА ДАПАМОГУ

*З працы ў складзе выязной брыгады «Звязды» ў свінагадоўчым саўгасе «Банонь»*

У сотні галасоў заложна — рох ды рох! —
Свінарнік абвясціў трывогу.
Схапіўшы на бягу шматок пякучых строф,
Спяшаюся свінні на дапамогу.

### 1. Дух цяжкі ў саўгасе

У свінагадоўчым саўгасе «Банонь» праз недагляд за час з 1 студзеня па 1 чэрвеня 1931 года здохла 1480 парасят.

Пахваліцца надта
Сёння тут няма чым:
Валачэцца шмат хто
У хвасце свінячым.

Глуха заклік гасне,
Гінуць свінні марна,
Дух цяжкі ў саўгасе —
У свіной трупярні.

А я тут не госцем,
А мне тут не есца:
Трэба ўзяць кагосьці
За такое месца,

Каб аж ён завойкаў
Ды адчуў, нягоднік:
Пачалася бойка
За свінню сягоння.

Трэ сказаць — даволі!
Прыпыніць злачынства,
Каб свіней паболей
Ды паменей свінства.

## 2. Дзядзя здзельшчыны баіцца

На адной тэхнічнай нарадзе загадчык Бяздзедавіцкага аддзялення саўгаса «Банонь» Бернштэйн заявіў, што для пераходу на здзельшчыну ў яго не хапае рабочай сілы.

На тэхнічнай на нарадзе
Быў адзін «разумны» дзядзя.
Дзядзя здзельшчыны баіцца,
Дзядзю здзельшчына «дваіцца».
«А наліха,— кажа,— мне!
Тут і так рабочых мала,
Як яна ж апанавала,
Трэба болей удвайне».
Як жа мне тут пастарацца
Разжаваць — ды дзядзю ў рот?
Ўсюды здзельшчына для працы,
А ў яго — наадварот.
За прыгожыя мо вочы
Любіць здзельшчыну рабочы?
Я тут штосьці... ніт фарштэйн,
Паважаны Бернштэйн.
Вашы гэтыя развагі
Заслугоўваюць увагі,—
Вы ў саўгасе — гаспадар:
Ваша гэткая «памылка»
Гэта здзельшчыне магілка,
Па вытворчасці удар.
А мы вас — на белы свет,
Да рабочай масы тварам,
І ўжо ўдарым дык ударым,
Па-ударнаму, як след.

## 3. Дарогу сустрэчнаму плану

Той самы Бернштэйн на той самай тэхнічнай нарадзе заявіў, што ён не дазволіць сустрэчнага плана ў доглядзе за свіннямі, бо тут пагоня за колькасцю пойдзе на шкоду якасці...

Дарогу!
        Дарогу
                сустрэчнаму плану!
З гэтакім лозунгам
                хто ж
                        не згодзіцца?

Дазвольце
я ўсё ж такі
гляну,
Як у жыцці ён
на месцы
праводзіцца.
Іду я дарогай
з сустрэчным планам:
Дзень добры —
рабочым!
Дзень добры —
сялянам!
Калгаснікі нас сустракаюць,
брыгады;
Усюды вітаюць,
усюды нам
рады.
Ды сэрца зноў
чагосьці ў трывозе,—
Той самы Бернштэйн
і тут
на дарозе:
Бровы насупіў
ды грозны такі
Стаў супроць нас,
скамячыў кулакі
(Аж сэрца
ад страху
сціскаецца болем):
«Сустрэчнага плана,—
крычыць,
не дазволім!
З сустрэчным тут
нажывеш яшчэ
пакасць:
Сустрэчны — за колькасць,
а я — за якасць».

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Годзе,
таварыш,
глупства пароць!

Ваш гэты довад
зусім недарэчны.
Вы за якасць?
А хто ж супроць?
Ды хіба ж без якасці
гэта
сустрэчны?

А ўрэшце,
што мне спрачацца
з вамі,
Вы — «вучоны», вы — «падкаваны»,—
Няхай вам пакажуць ударнікі
самі,
Што такое
сустрэчныя планы.
Яны не прывыклі
ў хвасце абы-як паўзці,
Да апартунізму, як вы,
не скоцяцца:
І аб колькасці
і аб якасці
Напэўна
паклапоцяцца.

*1931*

## ШКІРУТА

Надаслаў нядаўна верш
Мне адзін знаёмы з вёскі:

*«Дарагому Крапіве.*
*Піша сябар твой Яворскі.*

*Сябрам быў калісь — але.*
*(Мо цяпер такім не лічыш?)*
*На адным жылі катле —*
*Памятаеш Смалявічы?*

*Як служылі мы ў палку,*
*На бандытаў палявалі,*
*На сухім жылі пайку,*
*Мо не раз і галадалі.*

*Потым рознае было:*
*Ты падаўся да сталіцы,*
*Я ж — дадому, на сяло —*
*Пацягнула да зямліцы.*

*Атрымаў я там надзел,*
*Як былы батрак Завішаў,*
*Толькі доўга не ўсядзеў,—*
*Гаспадар з мяне не выйшаў;*

*Кінуў, брат, зямлю сваю,—*
*Досыць з ёю нервы тузаў;*
*Тлумяць голаву маю*
*Ў школе трыццаць карапузаў.*

*Ну а ты, я чуў, тае...*
*Лаўры там і ўсё такое?*
*Вось, браток, яны твае*
*Не даюць і мне спакою.*

*Так... Здараецца ў жыцці...*
*Што ты сядзеш будзеш баяць,*
*Дні паспелі адцвісці,*
*А надзеі зацвітаюць.*

*Трыццаць пяты ж год ідзе,—*
*Нек аж сорамна, дапраўды...*
*Вось адна з маіх «надзей»,—*
*Прачытай ды дай парады».*

. . . . . . . . . . . . .

Прачытаў я твор, пагладзіў,
А што выйшла — вось паглядзім.

1

Эх, і чортаў жа настрой!
Не ляжыцца, не сядзіцца,
Ўецца думак цэлы рой,—
Мае нешта нарадзіцца.

Ды ніяк іх не сабраць —
Разбягаюцца, дый годзе.
Мусіць, ноччу не з дабра
Па дварэ хаджу, бы злодзей.

Трэці дзень не п'ю, не ем,
Ныю, ходзячы галодны:
У суседа том паэм,
А ў мяне пакуль ніводнай.
Бач, паэму напісаць
Цяжкавата без прывычкі...
Трэба, мусіць, зачасаць
Ды паставіць зразу тычкі,

Каб сюжэт удала рос —
І не коса, і не крыва,
А за гэтым трэба воз
Усялякіх там матываў.
На разгатым іх галлі
Панавешаць трэба тропаў,
Каб «каралі» тут былі
Ды каб «сіні» не прахлопаў.

Потым трэба слова «ой»
Сорак тысяч экземпляраў,
Каб відаць быў твой настрой
Без ніякіх акуляраў.

А няхай бы яго хвор:
Тут ад рознай гэтай «сіні»,
Покуль той напішаш твор,
Станеш сам як пуп гусіны.

Не пісаць мне, знаць, паэм,—
Не з маім, як бачу, ротам.
Вось я хіба трохі з'ем
Ды гарбаты вып'ю потым.

**2**

Замарыўшы чарвячыну,
Раскажу цяпер я вам
Пра глыбокі гэты шрам,

Што дастаў я праз дзяўчыну.
Вось цяпер, сказаць-прызнацца,
Кроў не так ужо кіпіць.
Так, вы можаце смяяцца,
Калі хочаце, і кпіць.
Я люблю ваш смех дзявочы
Ды гарэзлівыя вочы,
Вашы кпінкі, вашы жарты,
Ды... куды цяпер я варты?
Зараз буду лысы дзядзя,
Зараз горб на спіну сядзе,
Зараз немач ногі скруціць,
Зараз... годзе баламуціць.
Так, што дзень — бліжэй да смерці...
Толькі вы не надта верце:
Я жартую. Я нарокам.
Хай жа хто з вас кіне вокам:
Ці падобны я на дзеда?
Калі хочаце вы ведаць,
Яшчэ я не цвік іржавы,
Яшчэ я... «дзядуля» жвавы,
Яшчэ я... ды што хавацца! —
Мог бы нават закахацца.
Вашы ручкі, вашы ножкі,
Рух брывей капрызны трошкі,
Ваша стрыжка пад хлапца,
Лепет, лепет без канца,
Завіруха слоў вясёлых,
Паўсукенкі лёгкі шолах
(Не, наўрад ці апішу!
Ты жвавей скрыпі, пяро!)
Так мне кратаюць душу,
Пранікаюць у нутро
Аж да сэрца, аж да нырак...
Эх, шкада, што я не лірык!
Я тады, дзяўчаткі, вам бы
Пеў такія дыфірамбы
Ад відна і да відна,—
«Душу б выпеяў да дна».
А то я... Чаго я варт?
Гэткі, бачыце, мядзведзь:
Бухнуў слоўца й сам не рад,
Аж вачэй няма дзе дзець.
Рад паправіць, ды ўжо што там...

Я ж кажу — не з нашым ротам.
Але годзе заляцацца,
Каб без чуба не астацца:
Вунь за мною людзі сочаць,
Маёй жонцы сказаць хочуць,
Яна ж дрэнны звычай мае —
Мяне ў цуглях скрозь трымае.

3

Прабягаюць год за годам...
Я калісьці быў вайсковым,
Маладым служыў камзводам
У шаснаццатым стралковым,
У тылу быў і на фронце
У сваёй вось тут старонцы.
З палякамі меў я справу
І ў адным паходзе слаўным
Чуць не ўзяў у іх Варшаву
І чуць Мінска не аддаў ім.
Сілы болей не хапала
Бараніць куток свой родны.
Як я жыў? Ды як папала:
Дзень — не еўшы, два — галодны.
Дзе скарынку раздабудзеш,
Трохі супам рот прамочыш,—
Жыць, як кажуць людзі, будзеш,
А кахацца не захочаш.
Надышла тым часам восень.
Папраўляцца тут прыйшлося —
Там «бацькі» на поўдні лезуць.
«Бацька» Булак-Балаховіч
Лоеў, Рэчыцу стаў рэзаць.
Давялося іх ахоўваць,
«Частаваць» у роднай хаце
Зненавіднага нам «бацю».
«Частавалі» «бацьку» й «дзетак»,
Выдыгалі так і гэтак,
«Ушаноўвалі» гасцей,
Не шкадуючы касцей.
«Бацька» думаў, верне славу,
Ды каб ён так толькі дыхаў!
Як зрабілі з «бацькам» справу,

Аддыхаць пайшлі мы ў Быхаў.
Тут увесь быў полк сабраны.
Загаілі трохі раны
Ды ахаяліся з бруду —
Акапалі крыху вошы.
(Бачу я, што для эстэта
Рэжа вуха месца гэта.
Выбачайце! больш не буду!
Пашукаю слоў харошых,—
Я ж і сам цяпер стаў чыстым.)
З дому — ліст, пасля другі мне.
Адным словам, ліст за лістам.
«Гаспадарка,— пішуць,— гіне.
Бацька нешта нездаровы —
Ні на поле, ні ля дому,
Конь стары, няма каровы,—
Як і будзем — невядома.
Быў атрад у нас заўчора —
Ўсё шукаюць дзязянціраў.
Перарыў усю камору,
Палатно ўсё з куфра вырыў.
Не паверылі, што ў войску,
Ну, ды мы не вінаваты...
Што ж забыўся ты на вёску?
Прыязджай скарэй дахаты,—
На франтах, здаецца ж, ціха...»

. . . . . . . . . . . .

Сам я думаў, ды куды там!
Ńа́ табе другое ліха —
Чорт узняцца даў бандытам.
І ганяйся тут за імі,
Як за воўкам паляўнічы.
Неўзабаве перайшлі мы
У мястэчка Смалявічы.

4

Многа буяных драпежных галоў
Скацілася з плеч у бандытаў.
Многа і нашых было з-за вуглоў
Ды з цёмнага лесу забіта.

Помню я плямы крыві на снягу,
На шматы скрамсанае цела,
Мяса крывавае ў чорным кругу —
На баль вараннё прыляцела.

Слаўся, клубіўся крывавы туман.
Адным і другім было крута.
Быў у бандытаў тады атаман
Бядовы Захарка Шкірута.

З хеўрай драпежнаю пёр напралом,
Акрузе ўсёй грудзі ён зраніў;
У лесе тулілі пад цёплым крылом
Яго кулакі-хутаране.

Віхрам раптоўным бандыт налятаў,
Сляды замятаючы чыста.
Многа з жыццём ён людзей развітаў,
А болей за ўсіх — камуністаў.

Зловяць у лесе, адзенне сарвуць
Ды скуру здзіраюць на лыкі.
Зверава сэрца не могуць крануць
Ні стогны, ні немыя крыкі.

Выражуць молат на спіне і серп,
Крывавую зорку наверсе,
Літары выражуць — РСФСР
І цела на ўзгорку павесяць.

Зверства такога ў тутэйшых краях
Не бачыў ніхто і ніколі.
Агента неяк злавілі ў кустах,
Забілі, жывот распаролі,

Грэчкі насыпалі, жыта, аўса,
А ў рот далі ўласную костку,
Ў рукі запіску бандыт напісаў:
«Таварыш, прымі прадразвёрстку».

Страшную памяць крывавых падзей
Пакінуў Шкірута ў народзе.
Зараз яшчэ між тутэйшых людзей
Легенды жахлівыя ходзяць.

Там і цяпер, калі ўночы йдзяце,
Здаюцца скрамсаныя трупы;
Маткі дагэтуль пужаюць дзяцей
Жудасным імем Шкіруты.

Раз паклікаў камполк мяне ў штаб —
Заўжды спакойны і строгі:
— Вось вам карта — двухвёрстны маштаб,
Вось вам на карце дарогі.

Радыус возьмеце трыццаць вёрст.
Вы за два тыдні павінны
Весткі сабраць мне пра кожны мост —
Насціл, быкі, падваліны.

Колькі ўшыркі ён? Мацунак які?
Ці можна праехаць гарматам?
Змераць глыб і цячэнні ракі,
Броду ці блізка няма там?

Здайце работу, каб быў з яе толк.
Можаце ўзяць ардынарца.
— Зроблена будзе, таварыш камполк!
— Жарце!

5

Мы едзем, гаворым;
Шум ветру ў вушах.
Дзе-нідзе прышпорым
Ды зноўку на шаг.

Размову з Пятровым
Пра полк завялі.
Не звонкі падковы
На волкай зямлі.

Насустрач — паляны,
Насустрач — лясы.
Кастрычнік распляміў
Лясам валасы

Пад золата, мосенж
Ды цёмную медзь.

Не,— гэтак, як восень,
Дзяўчатам не ўмець.

Дрыжаць і лапочуць
Чародкі асін:
Пад ветрам паўночным
Азяблі зусім.

А граб ужо голы,
Дажджамі набрак,
Працягвае голле,
Як рукі жабрак.

Шапочуцца елі
Іголкамі губ
Аб воўчым вяселлі
Ў глыбокім снягу.

Гадуюць авечкі
Цяпло сівых рун —
Драпежаць ля рэчкі
Зялёную рунь.

На ўзгорку, тут бліжай,
Іржэўнік руды,
Як стрыжанай рыжай
Кусок барады.

Мы едзем ды едзем.
Дзе мосцік ці гаць —
Я злажу агледзець,
Пятроў — памагаць.

Самотна канае
Сухотлівы дзень,
Паўзе па канаве
Смяротны ўжо цень.

Тануць у сутонні
Абрысы прысад.
Змарыліся коні
І просяць аўса.

Дый самі б мы елі,
Каб ежа была;

Сырыя шынелі
Гнятуць да сядла.

А злезем, дык ногі
Аж ледзь валаком.
Эх, бульбы б з дарогі
Цяпер з малаком!

— Ну што, мо на хутар
Заедзем, Пятроў,
Калі нам Шкірута
Не зрэжа галоў?

Пятроў забіяцка
На хутар глядзіць:
— Як воўка баяцца,
То ў лес не хадзіць.

Я так яго стрэў бы,
Аж быў бы не рад:
Пры нас жа дзве стрэльбы
Ды пара гранат.

Вунь купаю дрэвы,
Між іх — журавель.
Кіруем налева
Па зляклай траве.

Нас выбеглі брэхам
Вітаць ваўкары,
І гойсае рэха
Ў суседнім бары.

6

Так праз хвіліны тры ці дзве
(Вайсковец не прывык марудзіць)
І коні нашы ўжо ў хляве,
І самі ў хаце мы, як людзі.

Тут зараз міскі ды збанкі...
Дзед нам, мы дзеду нешта хлусім.
— Сядайце,— кажа ён,— панкі...
То-бок, таварышы, закусім.

Капусты місу нам на стол,—
Сабака б мо не перaскочыў,
І верне пара аж у столь
І смачным пахам нюх ласкоча.

Пасля гладышык малака
Ды бульбы чыгунок гарачай.
Вось тут — не то што ля пайка —
Мы можам пахадзіць іначай.

Падсела дзедава сям'я —
Нявестка з дзіцем ды старая.
На хлеб павёў атаку я,
Пятроў на бульбу напірае.

Гаворку дзед пра трудны год
Ды пра ўраджай пачаў заводзіць,
А ў нас бяда — заняты рот...
Тут зараз дзеўчына ўваходзіць.

Маланкі-вочкі. Стройны стан.
Пад барадою рожкі хусткі.
Хоць формы скрадвае мультан,
А грудзі просяцца з-пад блузкі.

Прыйшла і села пры стале,
Нервова мне абрус кужэльны.
— Дачка? — пытаемся.— Але.
Часцей бывайце, то пажэнім.

Спусціла вочкі ўніз хутчэй,
Хутчэй абруса складкі мнуцца.
Ніяк не зловіш зірк вачэй,—
Хацеў бы я перамігнуцца.

Маргнуў — усмешка збегла з губ,
Прывабна глянула і кпліва.
Ага, смяешся! Значыць, люб.
Бадай, з табою зварым піва.

Лажымся спаць. Старая прэч
Пайшла праз сенцы спаць з нявесткай,
Стары палез сабе на печ.
Дзяўчына тут, за занавескай.

Нячутна дыша, не сплючы.
З Пятровым мы ў адной пасцелі.
Нас мелі, праўда, разлучыць,
Ды толькі мы не захацелі.

Тут стрэльбы нашы ў галавах —
Пяцьма патронамі набіты,
Каб не было часамі швах,
Калі абмацаюць бандыты.

Заснуць хацеў я... Каб ён спрах!
Які тут сон! Не сон, а слёзы:
У разварушаных мазгах
Жанчын распешчаныя позы.

— Пятроў, ты спіш? — Ён шэпча:— Не.
Чаму? — пытае.— Што такое?
— Пятроў, не спіцца нешта мне,—
Дзяўчына не дае спакою.

Храпі, браток, як быццам спіш...
Апанавалі, брат, жаданні.
І крадуся ў начную ціш
Лягчэй туманнай белай здані.

Прыйшоў. Гляджу, не спіць яна.
Прылегчы пораўні хачу я.
— Адстань ты,— шэпча,— сатана!
Вунь бацька спіць — яшчэ пачуе.—

Сама хіхікае.— Адстань!..
Каб бацька чуў — ото зырнуў бы.
Але абвіў я моцна стан,
І губы напаткалі губы.

Хацеў яшчэ й яшчэ, адно ж...
Акамянеў ураз ад жаху:
У змроку цьмяна бліснуў нож
І рэзнуў па твары з размаху.

Тут заліла мне вочы кроў.
Хацеў паклікаць на падмогу,
Ды толькі крыкнуўшы:— Пятроў! —
Як сноп скаціўся на падлогу.

Ляжу змярцвелы пры сцяне,
Мурашкі бегаюць па целе.
Бандыт жа, кінуўшы мяне,
К Пятрову сунуўся з пасцелі.

Не ведаю, што там было б,
Каб той хоць каплю правароніў,
Але прыкладам стрэў у лоб —
Гатовы быў да абароны.

Звязаў старога, потым баб;
Перавязаў мне трохі рану.
Бандыт ажыў. Усіх у штаб
Адвезлі мы назаўтра рана.

Разбойнік жаласна стагнаў,
Калі дзе па карэннях тросся.
Маўчаў затое, як сцяна,
У камісара на дапросе.

Не мог ці не хацеў казаць...
А дзед, калі прыперла крута,
Прызнаўся: хлопец — яго зяць,
Крывавы, жудасны Шкірута.

Дык вось цяпер вядома вам,
Праз твар увесь з якой прычыны
Такі ў мяне глыбокі шрам.
Яго дастаў я ад «дзяўчыны».

Тым сапсаваў сабе я густ.
Здаецца мне цяпер загэтым:
Калі ў каго высокі бюст,
Дык то — бандыт пераадзеты.

*1928*

## *Пра чужое*

### САВА, АСЁЛ ДЫ СОНЦА

*Байка*

Сава лятала паначы,
З сабою птушкам смерць насіла,
Хаўтурны спеў ім пеючы,—
Сама там драла іх, сама ж і галасіла,
Ды так не ўбачыла, як нахапіўся дзень,
І Сонца яркага прамень
Дарэшты асляпіў ёй вочы.
Сава ўцячы тут хоча,
Ды толькі вось ляцець не можа,
А поблізу няма дупла нідзе.
Заплакала Сава ў бядзе —
Ну, хто ж Саве паможа?
На шчасце ёй тут лёс паслаў
Знаёмага Асла.
І кажа ён: — Не плач, сястрыца,
Ды надта не бядуй,—
З бяды мы вырабімся самі,
І Сонцу нам не прыйдзецца скарыцца:
Я вушы доўгія на Сонца навяду
І засланю яго вушамі.
Як цемра ўсю пакрые галу,
Як згіне прыкрае святло,
Дык ты й ляці сабе ў дупло
Тады памалу.
І наш Асёл за працу ўзяўся шчыра:
Як можна вушы свае шырай
Ён растапырыў, распрастаў
І процi Сонца стаў.
Калі ж налева глянуў коса —
Святла там яркая палоса.
Ён — гоп у левы бок.
Пасля глядзіць — святло і справа;

Тады назад ён — скок.
Нарэшце бачыць — дрэнна справа:
Скакаў, скакаў і ўжо насілу ходзіць,
А Сонцу ўсё ніяк не шкодзіць,—
Ні каплі не памог Саве,
А вочы пасляпіў сабе.
І вось Аслу нарэшце ясна стала:
Каб Сонца засланіць — вушэй асліных мала.

Вось гэту праўду едкіх слоў
Нясу, абураны, я на фашысцкіх соў
І іх заступнікаў-аслоў.

*1927*

## НЯНЬКА

Бывае цяжка й роднай матцы
Аб тым часамі дагадацца,
Чаго дзіцятка плача,—
А што ж казаць, калі няўдача
Чужых, бывае, няньчыць дзетак.
На хутары паміж густога бору
Жыла ўдава,
Ды пры сабе чацвёра
Дзяцей кабета тая мела.
Вось раз ёй нек жывот ці галава
Ды надта ж моцна забалела.
Ну, як тут гаспадарку даглядзець?
Дзе гэтых дзетак дзець —
Міхаську, Сцёпку, Зоську, Маньку?
Але згадзіўся быць мядзведзь
За гаспадара й за няньку.
Вось і пачаў жа гаспадарыць:
Свіней не корміць ён, і есці ён не варыць,
Не смажыць і не скварыць,
Бо аплятае ўсё сырое,
Ды на закуску мёду вулей.
А дзецям ёнката спявае — люлі, люлі!
І з дзетак ужо трое
Пад гэту песеньку заснулі.

Чацвёртае ж, накрытае рагожай,
Шавеліцца, ніяк заснуць не можа
І просіць: «Мама, гам!»
Мядзведзь мармыча: «Ціха — цацу дам!
Маўчы, а то ты ўсіх пабудзіш».
І забаўляць дзяўчо Міхалка стаў:
То паказыча кончыкам хваста,
То паднясе пад носік вуха ёй,
Але дзіця (святая прастата)
Ніяк яго не слухае.
«Дык гэта ты пішчаць яшчэ мне будзеш?
Ці бачыш, які проціў!
Але я ведаю, што мне рабіць з такою —
Вось зараз супакою»,—
І лапаю мядзведзь закрыў дзіцяці роцік.
Дзіцятка ручкамі разоў са два махнула
І тут навек заснула.

Быў час —
Так няньчылі калісьці й нас.
Цяпер таго я не скажу,
А толькі пальцам пакажу
Туды вунь, за мяжу.

*1927*

## СУКА Ў ЗБАНЕ

*Байка*

Сцяпан і брат яго Васіль
Шнурок надоечы касілі.
А пацягаць касу да полудня ад ранку —
Не то што выпіць кавы шклянку
Ды павадзіць пяром па гэтай вось паперы,—
Змарыліся касцы без меры,
Аднак жа не даюць спакою косам —
Пракос праходзяць за пракосам.

А Фінця-сука ў халадку
Ляжыць, як пані, на баку
Пад вербалозавым кустом,
Памахвае сабе хвастом:
То пазяхне, то дрэмле зноў,
То ловіць мух, то скакуноў.
Ужо спаўдня, і ўжо касцу
Аж гоніць з голаду асцу.
Паклаўшы косы пад пракос
І ўцёршы лоб і потны нос,
Касцы падселі к кусту,
Дасталі з торбы хлеба лусту,
Збан малака ды кожны сваю лыжку
І пачалі сярбаць пакрышку.
А Фінця ім глядзела ў рот
(І ёй падцягвала жывот)
Ды прагавітымі вачыма
За лыжкаю сачыла,
Хвастом віляла і прасіла,
Але як не касіла,
То не пазвалі й да збана —
Апаражнілі ўдвух да дна.
Скурыўшы дзве «сабачых ножкі»,
Васіль прылёг на трошкі;
Сцяпана зноў жа сон змарыў
(Хоць ён, здаецца, не курыў),
А Фінця гэтым часам
Даўно ў збане ўжо з мордай ласай,
Ды толькі ёй лізаць няміла,
Бо галаву ўшчаміла.
Яна й сюды, яна й туды,—
Ніяк не збыць ліхой бяды,
Хоць адракайся галавы,—
І стала выць.
Пакуль касцы праз сон пачулі тыя гукі,
Пакуль дасталі з гладыша,
Дык чуць не вылезла душа
У беднай сукі.
І, як агню, з тых дат яна
Баіцца кожнага збана.

Цераз мяжу і фабрыкант, і пан
Так сквапна шчэрацца на наш савецкі збан:

Гатовы праглынуць, не толькі палізаць,—
Так точаць іх пражэрства мукі,
Не ўпэўнены адно драпежніцкія сукі,
Ці з галавою вернуцца назад.

*1925*

## МЯДЗВЕДЗІ

*Байка*

Паслухай вось, суседзе,
Што бацька мой расказваў мне.
Калісьці ў нашай старане
Вялося шмат мядзведзяў.
Цяпер-то рэдка тут яны,—
Згубілі войны ды аблавы,—
Тады ж па вёсках цыганы
Вадзілі іх дзеля забавы.
«Міхалка, дагары ляжы!
Міхалка, паскачы нам Юрку!
Міхалка, зараз пакажы,
Як баба крэхча на прымурку!»
Мядзведзь пакажа. Чаму не — уга!
Без меры жвавы наш Міхалка,
Бо ў носе кольца ланцуга,
А ў цыгана ж якая палка!
«Міхалка, казака танцуй!»
Панёс Міхась (бо давядзецца рэбрам).
Сапе Мядзведзь, звініць ланцуг,
Цыган паважна звоніць срэбрам.
Міхалка скача — пот ліе,
А Цыгану даход дае.

Хто тут — Мядзведзь, а хто — Цыган,
Што заграбае чыстаган,
Не цяжка дагадацца:
Вы гляньце цераз акіян —
На іх «свабоднае» мастацтва.

*1927*

## *Пра наша*

### КАЗЁЛ

Не помню дзе,
Ў адной авечай чарадзе
Павадыром хадзіў казёл.
І нават мне пастух казаў,
Што быў той барадаты
Нішто сабе адміністратар.
Ды ў тым загана ўся казлова,
Што па-авечы ён — ні слова;
Ці не хацеў, ці мо не ўмеў,
Ці мо што іншае наўме
Трымаў стары,
А толькі факт — не гаварыў.
Дык гэта яшчэ мала,
Дый невялікая бяда —
Ён, кажуць, захацеў, брыда,
Каб з ім бляяла
Цалютка тая чарада
Няйначай
Як па-казлячы.
Калі хто — бе, ён кажа — «Не!
Ляпей вучыся ад мяне,
І будзеш ты тагды бляяць
На яць».
А хто не ўмеў бляяць так чыста,
Таго ён лаяў шавіністам.

Ці жыў казёл, ці мо ўжо здох,
Аб тым дазнацца я не мог.
А толькі вось чаго мне злосць:
Яшчэ казлы такія ёсць.

*1925*

## СТАРШЫНЯ

*Байка*

На ферме на адной савецкай
Былі каровы ды авечкі,
Свіней паўнюсенькі свінюх
І рознай хатняй птушкі мноства.
Ну, словам, там жывёлаводства
Паставілі на вышыню.
Жывёлаводчы меў саўгас характар.
Варочаў глебу працавіты трактар,
А на падмогу коні ды валы
У гаспадарцы той былі
(Ці шмат,— таго я не скажу).
Яшчэ там быў сабака Жук.
З валом Рабым любіў ён падражніцца —
Нібыта сябравалі ўдвух.
Але... Рабога клікаў плуг,
А Жука вабіла разніца:
Натуры быў ён сапсаванай
І за крадзеж не раз балюча луплен,—
Як кажуць, элемент дэкласаваны,
Ну, адным словам — люмпен:
Віляў, бадзяўся, валачыўся
Альбо драмаў, ляжаў у хаце,
Аднак нядрэнна ўмеў брахаць ён,
Падчас прамоўцаю лічыўся.

Загадчык раз жывёлы сход
Для перавыбараў назначыў.
Вось і пусціў наш Жук у ход
Тут талент свой сабачы.
— Пра вас,— крычыць,— адно скажу я,
Што ўсе вы — дробныя буржуі:
Нягледзячы, што й батракі,
Да абрастання — сквапы.
Не падыму за вас рукі,
Сваеи мазольнай лапы.
— Чаму? — пытаў Падласенькі.
— Бо ўсе вы — дробнаўласнікі.
Вунь у каня ёсць свой хамут,
Вол мае ўласнае ярмо.

Ну, ды яму
Яшчэ дармо,
Але ў казы (глядзі, брыда!)
Свая ёсць нават барада.
Нарэшце маеце ўсе вы
Яшчэ і ўласныя хлявы.
Але ж цяпер скажыце мне —
Вось ці была ў сабакі хата?
— Ну, не! Вядома, не,—
Жывёлы кажуць вінавата.
— Дык вось давайце кандыдатаў...
Баран тут першы кажа: — Бе!
Цябе, браток, цябе!
За ім і коні: — Гі-го-го!
Яго! Няўжо ж каго! Яго!
Пасля валы й каровы: — Му!
Яму начальствам быць, яму!

І вось з таго, браточкі, дня
Наш Жук — «таварыш старшыня».
Ён справіў зараз галіфэ,
Пад лапу тоўсты ўзяў партфель,
На шыі гальштук ззяе ў срэбры,
І не тарчаць у Жука рэбры.
Задраўшы нос і хвост кручком,
Так важна ходзіць ён маўчком;
Калі ж вітаецца з ім хто,—
Дык толькі ледзь кіўне хвастом,
І толькі той для Жука блізкі сябар,
Хто дасць у лапу хабар.
Не будку мае Жук — палацы
(Хоць не свае, вядома, працы).
Ён забурэў, ён растаўсцеў.
Але нашто ж кантроля вока?
Сабаку далі па хвасце,
І гонар вылез яму бокам.
Калі часамі вам, браткі,
Такія стрэнуцца «жукі»,
Дык вы, напэўна, ім дасце
Таксама добра па хвасце.

*1925*

## АРШЫН

*Байка*

Зайшоў я ў краму раз набраць на палітон.
Вядома, Крамнік: — Будзьце так ласкавы!
Вось вам сукно, вось вам бастон.
Тавар не вельмі што цікавы,
А Крамнік хваліць: — Добрае наўздзіў!
Пасля й цану ж загарадзіў!
Я сяк, я й і так, ды мусіў заплаціць нарэшце:
Другога выхаду няма,—
Не за гарамі ўжо зіма.
— Ну, мерайце,— кажу,— ды рэжце!

Куляецца аршын, маланкай ходзяць рукі —
Так спрытна шэльма мерае.
— Ах! добрае сукно! Мо возьмеце й на брукі?
Але яму не надта веру я,—
Бяру аршын і правяраю сам.
Дык што ж вы думалі? Ну й жулікі! Ну й чэрці!
Недахапіла ў мяне там
Ні больш ні менш — тры чвэрці.

А Крамнік божыцца, клянецца:
— Няхай язык адсохне,— прысягае.
І жонка, і дачка, і цешча памагае,
Аж кулакамі б'юць у грудзі,
Даводзячы, што гэта мне здаецца
І што няма вярней, як іх аршын.
Аднак я доўга не марудзіў
І спрэчку зразу давяршыў,
Сказаўшы Крамніку: — З табой я цалкам згодзен:
Няма вярнейшага аршына,
Ды толькі ў тым бяды прычына,
Што сам ты — злодзей.
«Аршын» марксісцкі ёсць, і ён зусім нядрэнны,
Калі ўладае ім разумны ды сумленны;
Калі ж пачне хто іншы мерыць,
Дазвольце мне тады не верыць.

*1927*

## ДЗЕД І БАБА

*Байка*

Ехаў Дзедка на кірмаш,
З ім на возе — Баба.
Конік з выгляду — дарма,
Ды цягнуў ён слаба:

Меў не болей двух гадоў,
Як суседзі кажуць.
Баба ж тая — сем пудоў,
Сама меней, важыць.

Пад узгорак або ў гразь —
Конь насілу возьме.
Стала Баба памагаць...
Седзячы на возе.

Што ж, каню другі гадок,
Дык яна — за білы
Ды нагамі ў перадок
Пхне, як мае сілы.

— Кінь, дурная, бо зганю! —
Дзед тут Бабе кажа.—
Ты паможаш так каню,
Як хваробе кашаль.

— Ах ты, ёлупень стары! —
Баба Дзеда лае.—
Стой жа тут, хоць ты згары!
Мне бяда малая.

Потым — гоп яна з калёс,
Села ля дарогі,
А каня як чорт панёс,—
Дзе ўзяліся й ногі!

Ва ўстановах часам ёсць
Вось такія ж «бабы»:
Здэцца, й робяць яны штось,
Але справы — слабы.

Ды такая не ўцячэ!
Скажам ёй нарэшце:
— Мо без вас было б лягчэй?
Паспрабуйце злезці!

*1925*

## БАЦЬКА І СЫН

Пачуў раз нейк шаноўны тата,
Што сын кагось з апошніх лае слоў,
І тату прыліла адразу к твару кроў,—
Ён да дзяцей заўсёды строгі надта:
Злавіў ды сырамятным паскам
Давай па чым папала ляскаць:
— Ах ты, паршывае шчаня!
Ах, трасца тваёй мацеры!
Дзе гэта ты, нягоднік, пераняў?
І хто навучыў цябе такія пацеры?
Вось гэта ж тут вазьмі
Дый засячы цябе, паскуду!
А той, заліўшыся слязьмі,
Прасіўся: «Татачка, не буду!
Што гэта брыдка — я не ведаў,
А за табой плявузгаў следам,
Бо словы ад цябе я чуў...»
І горш яшчэ зайшоўся ён з плачу́.

Ох, таты нашы, таты!
У сто разоў вы болей вінаваты
У тым, часамі, за дзяцей,
За што, караючы, б'яце.

*1927*

## ДАЛІКАТНЫЯ ПАРАСЯТЫ

*Байка*

Няхай не слухае, каму не міла,
А я тут расказаць хачу,
Што ад людзей нядаўна чуў:
Як Цётка Парасят карміла.
Не ведаю — у будні дзень ці ў свята,
Пусціла ў сенцы Цётка Парасяты,
Ім замяшала есці
Ды на хвілінку выйшла дзесьці.
Вярнулася яна і стала ля парога спужана:
Памыяў на падлозе лужына,
І цеста ўсё парыта,
І бруд кругом каля карыта.
Тут, раззлаваўшыся без меры,
Кабета адчыніла дзверы
Ды аблавухіх панічоў
Давай шалёстаць скарачом.
Калі ж наробяць яны піску!
Ну — рэжуць іх, няйначай.
На піск на той здалёк і зблізку
Набегла шмат радні свінячай,
І парасячы піск не чуцен у свінячым гудзе:
Наставіўшы хібы і папусціўшы пену,
На дзверы лезуць і на сцэну.
Іх ледзьве адагналі людзі.

Дык вось, браткі,
Калі такія свінюкі
(А свінюкоў нямала ёсць на свеце)
Ды завядуцца ў сельсавеце
Ці ў каапператыве ў вас,—
Ганіце вон на мой адказ.

*1926*

## ХТО СПІЦЬ, ТОЙ НЕ ГРЭШЫЦЬ

Хоць я на іх не маю вока
І знацца з імі не хачу,
Аднак жа байку прысвячу
Угоднікам і абібокам.
Вы байку гэту чулі, можа,
А можа, й не:
Калісьці ў нашай старане
Ды жыў угоднік божы.
Каб на зямлі не награшыць
І бліжай быць да бога,
Угоднік так павінен быў рашыць:
Нічога не рабіць, не гаварыць нічога,
Не думаць нават, толькі спаць.
І вось гадоў мо сорак пяць
Так на адным праспаў ён месцы.
Як прынясуць, бывала, есці,
Дык набярэцца моўчкам ды зноў — на бок.
Калі ж памёр вялікі абібок,
Святы угоднік Лотра,
Рай адчыніў яму сам Пётра.
Яшчэ б тут можна байкаю пацешыць,
Ды не хачу трывожыць вашых сноў я,
Не буду,— спіце на здароўе:
Хто спіць, дык той не грэшыць.

*1926*

## МАЧАХА

*Байка*

Здароў і дуж быў селянін Антось,
І рукі залатыя ў дзядзі,
І нават галава нішто,
Ды толькі лёс яго не гладзіў:
Дзве жонкі ўжо ляглі ў магілу,
А пасля іх дзяцей — як бобу,
І самых гэтакіх бубноў,

Што аднаму дагледзець не пад сілу.
Ну, што рабіць? Ён ажаніўся зноў
І ўзяў, браткі мае, аздобу:
Ні з твару цётка, ні з грудзей,
І ўсё не так, як у людзей,
Не надта вабіць і Антося,
Ды што ж, калі ўжо так прыйшлося...
Жыве Антось — бяда, дый годзе,
І не відаць канца бядзе:
Хоць жонка хараством — як пудзіла ў гародзе,
А што ні год малое прывядзе.
І пачалося тут сіротам пекла:
Не раз іх «мама» тая пугай секла.
Сваіх заўсёды вунь як песціць,
А тым шкадуе, бедным, есці;
Таго штурхне, таго рване за вушы,
Усіх без меры працай душыць.
Адзенне ж тое — лахманы!
Нікому й не паскардзяцца яны,
Бо і за скаргу гэтаксама
Не гладзіць іх ліхая «мама».
А языком яна перад людзьмі —
Не трэба й роднай лепшай мамы,
Хоць ты вось так яе вазьмі
Ды прылажы да раны.
— Я за сірот, здаецца б, аддала душу,—
Чуць на руках іх не нашу,—
Так распінаецца кабеціна ў мане,
Што ні канца, ні краю:
— Хаця б яны глядзелі так мяне,
Як буду я старая.
Яны ў мяне не пасынкі, не падчарыцы — госці.
А што ў іх толькі скура й косці,
Дык гэта ўжо завод такі,
Такія ж іх былі і мацяркі.

Ох, мачахі! І добрыя ж усе яны без меры,
Ды толькі чорт ім верыў.

Ёсць у мяне адзін знаёмы «заг»,—
Два скачуць у яго, а іншыя ў слязах.
Аднак я думаю, што хутка дзеткі самі
Прапішуць іжыцу такой вось «маме».

*1926*

## ГАНАРЫСТЫ ПАРСЮК

*Байка*

Бывае, праўда вочы коле...
Раз гнаў пастух свіней у поле.
Адзін вялізарны Парсюк,
Які абегаў вёску ўсю,
За раніцу абшнырыў завуголле,
Цяпер такі меў выгляд важны,
Што носа не дастаць і сажнем —
Вышэй за ўсіх ён сам сябе лічыў,
А што ў самога на лычы,
Не бачыў гэтага, аднак.
І вось адзін тут Падсвінак,
Які заўважыў бруд раней,
І кажа: — Дзядзечка, твой лыч у брудзе!
Нязграбна гэта й між свіней,
А што ж, калі заўважаць людзі?
Парсюк наставіў хіб, Парсюк раз'юшан:
— Цераз цябе я чырванець прымушан!
Такое мне сказаць асмеляцца нямногія,
Ды гэта ж — дэмагогія! —
Парсюк наш лаецца, не даравань клянецца:
— І месца мокрага,— крычыць,— не застанецца!
Ты мой свінячы гонар закрануў! —
І так ён Падсвінака грызянуў,
Што той за сажняў пяць адскочыў.
Парсюк не надта быў ахвочы
Глядзецца праўдзе ў вочы.

*1927*

## АБРАЗА

*Байка*

— Набраўся недзе, як свіння,
Дый брэша, як сабака;
Вось некаму цябе суняць! —
Так прабірае Жонка Мужа,

Які напіўся дужа
І лаецца са смакам.
— Няпраўда,— кажа тут Свіння
Да п'яніцавай жонкі,—
Ані гарэлкі, ні віна,
Ні нават самагонкі
Не п'ю я зроду,
А толькі п'ю памыі й воду,
І за такую вось абразу
Я падцягнуць магла б адразу.
— І я пакрыўдзіўся на вас,—
Спусціўшы хвост і морду нізка,
Сказаў вясковы Лыска.—
Ці чулі ж вы калі хоць раз
Такую лаянку між нас —
Адборную, густую?
Я пратэстую!

Што можам мы дабавіць з вамі?
Жывёлы ўсё сказалі самі.

*1925*

## ЧЫРВОНЕЦ

Селянін, на глебе вольнай,
Здабыўшы працаю мазольнай
І хлеба трохі й к хлебу,
Сабе пакінуў на патрэбу,
А рэшту — ўвесь астатак —
Прадаў ён на падатак.
Узяўшы новага траскучага чырвонца
Ды шчэ старэнькага рубля,
Наш селянін быў рад бясконца,
Што шмат назарабляў...
Чырвонец у пашане, захованы ў калітцы,
Ляжаў у скрынцы на паліцы.
Рубель жа той, забруджаны, памяты,

Валяўся ў століку да раты.
Вось надышла, нарэшце, й рата.
Панёс і дзядзька наш падатак.
Прабавіўшы ў хвасце нямала часу,
Дабраўся ён, нарэшце, да ваконца,
Падаў і ліст, і грошы ў касу.
А скарбнік, глянуўшы пад сонца
    На чырвонца,
Аддаў назад — чырвонец быў фальшывы,
Звычайная папера,
І толькі на рубля ён даў квіток.
— Ах, шэльма! Спекулянт паршывы!
Ах, каб цябе ўзяла халера!
Каб вылезла дабро маё праз бок,—
Так лае дзядзька Шлёму.
А Шлёма й вухам не вядзе,
Што людзі з-за яго ў бядзе:
Ну, спекулянт — прывык, вядома.

    Вось так і ў нас
Бывала іншы раз,
Ды ёсць яшчэ й цяперака:
Другі шамціць мудрэй таго чырвонца,
А глянь ты на яго пад сонца,
Дык ён увесь — звычайная паперка.

*1926*

## КОРМНЫ І НАДВОРНЫ

*Байка*

Аб іх скажу я, што магу...
Ў адным хляве і берлагу
І нават ад адной свінні
    Радзіліся яны —
Адзін Руды, другі Падласы.
Пассаць абодва былі ласы,

І дружна так яны спачатку
Клалі матку,
Уплёўшыся за цыцкі ўдвох,
А тая ляжа — рох ды рох.
Пасля, сумуючы па цыццы,
Ў адным капаліся карытцы
І разам елі ды пілі —
Ну, аднакашнікі былі,
Хоць бульбяную елі кашу.
Пасля ганялі іх на пашу;
Як уцячы ж рабілі спробу,
Пастух абодвух пугай сцёбаў.
Так цэла лета. Але ўвосень
Канец настаў такіх адносін —
Ім разлучыцца давялося.
— Трэ да ладу прывесці свінні,—
Сказаў раз муж да гаспадыні,—
Карміць пара, але якога?
— Ды ўжо ж няйначай як Рудога:
Рахманы ён і не маркотны
І да яды нек больш ахвотны...
Заперлі Рудага ў хляўчук.
Аднак жа я сказаць хачу,
Хоць пад сакрэтам, вам аб гэтым,
Што неахайны той хляўчук
Рудому здаўся кабінетам.
Руды ў пяшчоце дый у ласцы:
Штодзень тры разы бульбы ў ражцы
Даюць яму, ды шчэ й з мукою —
Пайшло свінчо зусім рукою:
Руды наш стаў дабёр і гладак,
Аж чуць цягае ўжо азадак,
Не верыцца, што ёсць і косці,
І закруціўся зграбна хвосцік.
Зажыў Руды. Але з Падласым
Зусім не тое гэтым часам:
Наш гаспадар яго акінуў —
Падласы еў адну мякіну,
Тарчком на ім расло шчаціння,
І спачувалі яму свінні,
А ён сланяўся й скрыгаў горна,
Што лёс зрабіў яго надворным...
Раз нешта здарылася цётцы
К Рудому не ўшчыніць варотцы.

Убачыў гэту рэч Падласы
І, каб не траціць марна часу,
Рашыў зайсці к Рудому ў госці
(Ён ведаў, што Руды не посціць):
— Ругу! ругу! — дзень добры, братка!
Які ты зграбны стаў ды гладкі!..
Што ж не вітаеш ты мяне?
— А ты што прэшся ў кабінет,
Свіное рыла, без дакладу? —
Сказаў Руды і адвярнуўся задам.

Нямала ёсць яшчэ брыды,
    Як той Руды,
Што так вітаюцца з «надворным»
    Задам кормным.

*1925*

# *Пра сваё*

## МОДА

*Байка*

Якімсьці чынам, невядома,
З вар'яцкага шпіталя ці то дома
Ды збегла раз няшчасная кабета,
Якая з малых год
Была паклонніцаю мод
І розум страціла праз гэта.
Было, між іншым, лета.
Яна тут зараз цераз плот
І скокнула ў гарод
Ды, завязаўшы нек па-свойму хустку,
Давай тут прыбіраць старанна галаву:
Лісцё ўтыкае морквы і капусту,
І кроп, і іншую траву.
Пасля па вуліцы прайшла, як быццам каралева,
Хоць грудзі голыя і цела ўсё свіціцца,
Аж сэрца, гледзячы, сціскаецца ад жалю.
Аднак жа паабапал — справа, злева —
За ёю бегла разявак мо з трыццаць,
Галёкалі, іржалі.
І нават нейкія два франты,
Згубіўшы свой «шляхетны» сорам,
Таксама любаваліся уборам,
Хвалілі, што «пікантны».
А колькі модніцам-кабетам
Іх пахвала абыдзецца і грошай і турбот,
Няшчасныя не думалі аб гэтым.
Назаўтра ўжо ва ўсіх паклонніц мод,
Якія пераймаць заўсёды рады,
Дык не адзін заўважан быў распорак,
А ззаду й спераду — па сорак.
На галаве ж у іх не грады
І нават не гарод,
А проста — цэлае шматполле:
Бульбянік тут развесіў голле,

Там далей — іншы кораньплод;
На самай макаўцы ячмень
Пад вецярком сабе шумеў,
А далей сырадэля
Так міла белым тварыкам глядзела,
І роем навакол гулі
Двухногія чмялі.

Якія ж выведу я тут маралі?
Каб на галовах не аралі,
Заводзячы севазварот шматпольны?
Ды не, браткі, зусім
Я клапачуся не аб гэтым
І байку прысвячаю ўсім,
Хто слепа модзе пакланіцца здольны:
Дзяўчатам ды кабетам,
А больш за ўсіх дык маладым паэтам.

*1926*

## СТАРЫ І МАЛАДЫ

*Байка*

Не так даўно ў гаспадара
Жарэбчык быў і Конь Стары.
Яны задраліся нек раз,
І вось з тае пары
Пайшлі між коней нелады.
Аднойчы ў плузе на раллі
Жывёлы спрэчку завялі.
Гарачы, порсткі Малады
Тут не на жарт
Напаў на сталага Каня:
— Куды ты, падла, варт!
Калі паўзеш, дык парахня
Вунь пасыпае сцежку ўслед,
І толькі ты паскудзіш свет,

Глядзіць у зямлю морда кісла,
І губа ніжняя адвісла.
На чорта ўжо цябе й трымаць!
Даўно пара да каналупа,
Бо сорам весці на кірмаш...
Ад слоў такіх Стары стаў слупам:
— Ах ты, шчаня!
Так бэсціць сталага Каня!
Ты не глядзі, што я стары,
Што быццам сыплецца з мяне
На капыты,
Але ж да гэтай вось пары
Ні разу ў баране
Не стаў, як ты.
Разумны ты ды малайчына
Да той пары, пакуль ляйчына
Не пападзе табе пад хвост,
Ну, а тады — панёс
Ці з плугам будзеш ты, ці з возам,—
І дзе твой дзенецца ўвесь розум!
Няхай, па-твойму, я слабы,
А хто ж цябе вось прыдабыў?
Хто дастаўляў табе авёс
І сена, на якім ты рос?
Ты здольны толькі да яды,
А ў працы гэтых маладых
Я так прыцісну, што аж сок...
— Пакуль з нас сок, дык з вас пясок...

Вось так за словам слова,
Нарэшце мала ім і звадкі —
Ужо намерваюць азадкі.
І... выйшла б дзела ў іх канёва,
Каб не Араты йшоў за плугам.
— Но-но! А то вось я зраблю падлік заслугам.—
Пачаў ён іх мірыць.—
Сябры па працы вы, а проста як звяры.
Той ганарыцца, што стары,
А той — што малады.
Ды хіба ж для працоўных розніца — гады?
Паверце, што найбольшая з заслуг —
Цягнуць цяпер у згодзе гэты плуг.

*1926*

## КАРШУН І ЦЕЦЯРУК

*Байка*

Не надта так даўно, не так далёка,
А ў нашай жа рэспубліцы, пад бокам,
У цёмным і густым бары
Ды жыў Каршун стары.
У мастакі Каршун палез
І стаў хваліцца на ўвесь лес,
Што ён — спявак вялікі.
— Ах, ёлкі твае палкі! —
Паміж сабою шэпчуць галкі.
— Нашто хваліць праціўны голас дзікі?
— Ён звар'яцеў пад старасць, небарак,—
Ім патурае сіваграк,
Але на вушка ўсё — баяцца ўслых:
«Няхай ты,— думаюць,— згары!»
Дый зразумела нам, бо той каршун стары
Начальствам быў у іх,
І ведалі даволі ўсе наўкола,
Што хоць паганы меў ён голас,
Ну дык затое ж кіпцюры!
Вось перад ім і сталі гнуцца ў крук,
Бо хто ж асмеліцца пярэчыць?
Наадварот,— паслухайце, што кажа Цецярук:
— Няма на свеце прыямнейшай рэчы,
Як слухаць песні Каршуна.
Выдатных спевакоў мне чуць не першыня.
Прыходзілася чуць, напрыклад, Салаўя,—
І аб якой тут кажуць прыгажосці,—
Не разумею проста я,
Хоць ты мяне зарэж,
Набраўся толькі, слухаючы, злосці:
Цырыкае, пішчыць, а што — не разбярэш,
Як і не наш ён усё роўна.
Вось Шпак
Дык трохі ўжо не так;
Зусім нішто спявае Грак,
А паважаная Варона
Мацней за іх за двух.
Але найлепш за ўсіх — шаноўны старшыня.

———————

За што ж бы Цецярук хваліў так Каршуна?
Перш-наперш ён быў глух,
Чаго б нікому я не зычыў,
А па-другое, Каршуну
Дык ён тут проста... ну...
Каля хваста казыча,
У Каршуна каб быць у ласцы.
Яму, напэўна, гэта ўдасца,
Бо шмат здарэнняў і падзей
Такіх я бачыў між людзей.

*1926*

## РАК

*Байка*

Паважны чалавек адзін
З далёкіх і чужых краін
Прыехаў вандраваць па Беларусі.
Чаго — сказаць я не бяруся:
Ці то яго цікавіў Мінск, ці то Мазыр і Прыпяць,
А толькі ён зайшоў бутэльку піва выпіць.

— Што ў вас да піва ёсць? — пытае ён Слугу.
— Што загадаеце, падаць я вам магу,—
Адказвае Слуга.— Ёсць тараны, ёсць ракі.
— А гэта што такія за прысмакі?
Іх не чуваць у нашай старане.

Нясі, галубчык, мне якіх штук пяць на спробу.
Падаў Слуга. Паважная Асоба,
Абцерабіўшы раку шыю й клешні
(Не хоча з драбязой займацца ён, канечне),
Давай упісваць рэшту.

Ды вось не есца толькі нешта:
Расце, здаецца, ў роце рак.
Аж вочы плюшчыць дзядзька-небарак,
Але, запіўшы півам, лыкнуў.

«Давай яшчэ папробую, а мо й прывыкну
Да гэтых,— думае,— прысмакаў».
Але й з другім не лепей ракам:
Назад, здаецца, з рота ён паўзе.
— Паслухайце,— Асоба кажа тут Слузе,—
Што гэта ў вас за людзі?
І што ў людзей за густ?
Вось я ніяк прывыкнуць не магу
І ракам рот дарэмна запаскудзіў.
Слуга ў адказ: — Які вы, дзядзька, смешны!
Не дзіва мне, што не знайшлі вы смаку
У нашым раку:
У нас ядуць тут шыю і клешні,
А вы — жывот ды бруд усякі.
Калі трапляецца ў жыцці вам рак,
То, каб не каяцца нарэшце,
Уведайце наперад, дзе ў ім смак,
Тады ўжо толькі ешце.
Іначай знойдзеце ў лупіне,
Што кожны, плюнуўшы, адкіне.

*1926*

## ШЧЫРЫ ПОП

*Байка*

Вось не забыцца мне ніколі,
Як раз угодніку Міколе
Служыў малебен Поп адзін,
Як шчыра ён кадзіў.
Святы угоднік Мікалай
Лічыўся «шэфам» аднаго сяла,
Дык фэст дзевятага спраўлялі мая
(Бязглузды забабон там-сям яшчэ трывае).
Зважаючы на добрую пагоду,
Нямала там сабралася народу:
Адзін сапраўды йшоў маліцца,

Той замуж трэ было, а гэтаму жаніцца.
Там як бы ні было, а, на папова шчасце,
Ў царкве і яблыку няма дзе ўпасці.
Ён з радасцю пачаў малебен правіць
Ды, каб Міколу добра ўславіць,
Калі пачаў хадзіць,
Калі пачаў кадзіць!
У фанатычным тым уздыме
Угодніка схаваў у дыме,
Дзяка, і клірас, і алтар,
І сам гаворыць, як з-за хмар.
На ўсю царкву не пах ужо — смурод,
І чхае, й кашляе народ;
Таго ўжо тузае і рве,
А там паехалі аж разам дзве.
Трывалі доўга людзі так, а потым — ходу,
І Поп з угоднікам застаўся без народу.

Здараюцца ж на свеце людзі:
Ёсць пара крытыкаў, вядомых нам,
Якія кураць фіміям,—
Ад іх таксама нудзіць.

*1926*

## КАШТАН

Здарэнне гэтае было з канём,
Якога дзядзькам Каштаном
З пашанай жарабяты звалі.
Пачуўшы раз, што гаспадар,
Які кош яек распрадаў,
Чубатую Рабушку хваліць,
Пакрыўдзіўся Каштан і кажа так:
— Дзівак!
За што хваліць яе?
Што па яечку ў дзень дае,
І то не ўсякі.

Я б дваццаць адстаяў такіх чубатак
І ў дзень бы яек даў дзесяткі...
Ды што! — зараз не меней як дзесятак!
Калі не верыцца, дык — вось!
Глядзі — ну, чым не любата? —
Пазваў у сведкі ён ката
І адтапырыў хвост.
— О, так! Бясспрэчна, так!
Наогул ты, Каштан, мастак!
Аб тым не можа быць і спрэчак —
Не знесці курыцы такіх яечак.
І што ж, Каштан ухвалу гэту
Прыняў за чыстую манету.

Якую ж выведу я тут навуку?
О, не! Ні гуку!
Стоп!
Я далей — ані крышкі:
Баюся «Каштаноў», што нас пад мікраскоп
Гатовы разглядаць з свае высознай вышкі,
Хоць самі мо нясуць такія ж яйкі,
Як і герой вось гэтай байкі.

*1926*

## ПРА ЦЫГАНА І КАБЫЛУ

*Байка*

Аб тым нямала ўжо трубілі,
Што кожны з цыганоў сваю кабылу хваліць,
А на чужую горы валіць...
Не ездзіць Цыгану на хваленай кабыле:
Яму — прадаць ды зарабіць.
Аб бессумленнасці яго не будзем мы трубіць,
Бо разумеем цыганоў,
Не разумеем толькі тых паноў,
Якія без падставы,

А проста так, для таннай славы
Сваёю хваляцца кабылай
(Іх асабліва шмат сярод пісак).
Другая кляча
На трох нагах, бывае, скача,
А ён крычыць: «Глядзіце — вось рысак!
Якое хараство! Якая шпаркасць! Сіла!»
Затакаваўшыся, не бачыць ён,
Што хмара круціцца варон,
Што карканнем вітаюць падлу госці,
Што кляча ўся ў каросце,
Бязногая і гуз якісьці на баку.
Так языком датуль ён чэша,
Пакуль не пойдзе пеша,
«Надгробнае» адпеўшы «рысаку».

Перш, чымсьці з пахвальбой імкнуцца недзе,
Не шкодзіць паглядзець, на чым з нас кожны едзе.

*1926*

## *Пра агульнае*

### МАНДАТ

*Байка*

Аслу раз выдалі мандат,—
Няйначай, памылкова.
(Такія і ў людзей памылкі — не наўда,
Але аб іх пасля размова.)
Ад шчасця гэтага ў Асла
Аж галава кругом пайшла,
І вылецеў з яе апошні розум —
Як п'яны стаў Асёл, хоць быў цвярозым:
Такога ўраз задаў разумнік тону,
Такога шуму нарабіў, такога звону,
Што не спрачаліся жывёлы ані крышку
І палічылі ўсе Асла за шышку.
— Ну й розум! Вось дык галава! —
Не раз гучалі хвалы словы.
Другі дык ледзь не цалаваў
Капыцікі асловы.
А «галава» з мандатам у паўметра
Стаіць над яслямі ў хляве:
Ніводнай думкі ў галаве —
Жуе сабе авёс, псуе сабе паветра.
Пры гэтым бедныя жывёлы
І чхнуць баяцца без дазволу.
Адзін вось толькі Лыска,
Калі Асла пабачыць блізка,
Заўсёды брэша: «Гаў-гуў-гуў!
Цярпець я дурня не магу!»
Ды Лыска той сядзеў на ланцугу.

Бывае іншы раз і з нашым братам,
Што галаву заменьваюць мандатам,
Ды мы справаджваем такіх аслоў
Без лішніх слоў.

*1925*

## ЗАЯВА

*Байка*

Другі, бывае, дабрадзей,
Пашану страціўшы ў людзей,
На тым часамі спаганяе,
Што прозвішча мяняе.
Не помню месяца і дня,
Нядаўна нек адна свіння
Свайму там старшыні ці «заву»
Так накрамзоліла заяву:

«Ад грамадзянкі вёскі Свінюхі,
Хляўцоўскае акругі,
Што перанесла здзекі пугі,
Як панаваў пастух Трахім,
Ад аблавухае свінні Каравай

З а я в а

Я, прылажыўшы ніжэй капыты,
Заяўляю аб тым,
Што з усёю сваёю раднёю
Не хачу болей звацца Свіннёю.
Бо «свіння» і за лаянку часта ўжываецца,
А мне гэта не падабаецца.
Вось і прашу даць імя мне новае,
Падмацаваўшы яго пастановаю,
Каб не кожны хам
Калоў вочы нам:
І каб спагнаць заўсёды мела права я,
Калі асмеліцца абразіць хто».
І распісалася пярэднім правым капытом:
«Свіння Каравая».
А старшыня той розум меў:
— Завіся,— кажа,— ты хоць — леў,
Аднак жа, як свінню ні кліч,
Яе заўсёды выдасць лыч!

*1925*

## ЕШ, ДУРАНЬ, БО ТО З МАКАМ

*Байка*

Была ў мяне калісьці цётка —
Ну й добрая ж (хай лёгка ёй ікнецца)!
Ў душу гатова ўлезці, здэцца:
Вось так і клыпае, як тая кураводка,—
    Схаваць гатова пад крыло.
    Даўно ўжо гэта ўсё было,
    І цётку помню мала я,
    Але што цётухна Магрэта
Была ў нас гаспадыня «ўдалая»,
    Дык добра помню гэта.
    Калі ў яе часамі страва
    Выходзіла няўдала,
    Тады заўсёды яна справу
    Акрасай папраўляла.
Пры гэтым гутаркі было там больш, як смаку:
    Насыпле канапель ці маку,—
    Якая, чорта, там яда!..
    Бывала (веры ці дасце?),
    Ясі, а ў роце аж расце,
Але ясі патом: адмовішся — бяда!
Калі яна заўважвала, бывала,
    Што ем я не са смакам,
    Абавязкова трактавала:
    — Еш, дурань, бо то з макам!

Забыцца мне пра цётухну пара,
    Бо ўжо даўно яе аплакаў,
Але ў жыцці я чуў яшчэ не раз:
    — Еш, дурань, бо то з макам!

*1925*

## ДЫПЛАМАВАНЫ БАРАН

*Байка*

Ў адным сяле (не важна — дзе)
Хадзіў Баран у чарадзе.
Разумных бараноў наогул жа нямнога,
А гэты дык дурней дурнога —
Не пазнае сваіх варот:
Відаць, што галава слабая.
А лоб дык вось наадварот —
Такога не страчаў ніколі лба я:
Калі няма разумніка другога,
Пабіцца каб удвух,
Дык ён разгоніцца ды ў сцену — бух!
У іншага дык выскачыў бы й дух,
А ён — нічога.
І вось за дурасць гэту
Яго вучоным раз празвалі нейк насмех,
А каб двара не перабег,
На шыю прывязалі мету.
— Вось,— кажуць,— і дыплом табе.
Што гэта за «дыплом», Баран — ні «мя», ні «бэ»,
Аднак жа перад Кошкаю пачаў ён ганарыцца:
— А што ж ты думала, сястрыца!
Хіба мне пахваліцца няма чым?
Дыплом я заслужыў, здаецца ж, галавою,
І не раўнуйся ты са мною.
— Аб гэтым лепей памаўчы,—
Сказала яму Кошка.—
Каб ты быў разумнейшы трошка
Ды розумам раскінуць мог авечым,
То ўбачыў бы, што ганарыцца нечым,
Бо заслужыў ты свой дыплом
Не галавой, а лбом.

Другі баран — ні «бэ», ні «мя»,
А любіць гучнае імя.

*1926*

## ЛІСЛІВАЕ ЦЯЛЯ

*Байка*

«Лісліваe цяля дзве маткі ссе».
Вы гэту прыказку напэўна чулі ўсе.
Але на практыцы выходзіць,
Што і цялятам часта шкодзіць
Залішне многа малака.
У дзядзькі аднаго, вяскоўца-кулака,
Было штук пяць кароў.
А кожны ж ведае, здароў,
Які ў кароў вясковых абавязак:
Трасянку есці ў дзень тры разы,
Настойваць гной, вадзіць цялят
Ды малака даваць патроху.
Такія ж абавязкі акурат
У кулака Цімоха
Спаўнялі гэтыя сумленна,
І скора нек пасля Каляд
З іх дзве ўжо прывялі цялят.
Ды толькі для Цімоха тое дрэнна,
Што у Гнядой — бычок і у Рабой — бычок
(Яны былі супроць дачок),
А гаспадар хацеў цялушку гадаваць,
Бычкоў рашыў ён прадаваць.
Вось аднае нядзелі
І зараўла Гняда:
Ёй не наўме яда,
Ёй не наўме вада.
Аднак жа на пратэст не паглядзелі:
Бязлітасны мяснік панёс
Яе Пярэстага на воз.
Між тым Рабая
Аб гэтым нават і не дбае:
Пры ёй рыжман яе малакасос.
Але й яе спаткаў не лепшы лёс.
У пераплёце загародкі
Жардзін са дзве было кароткіх,
І вось у дзірку ля сцяны
Пралез Бычок-дурніца
Ды да Гнядой пачаў маніцца.
Нюхнуліся яны,
І пачаліся ў іх цялячыя пяшчоты.

Бычок з вялікаю ахвотай,
Падлезшы да Гнядой пад вымя,
Губамі мяккімі, вільготнымі сваімі
Пачаў там так прыемна казытаць,
Так міла хвосцікам матаць,
Як быццам гэта той, Пярэсты,
І аддала яна ўсё малако, дарэшты.
Назаўтра бедаваў Цімох,
Што Рыжы здох.

Тут аднаго хачу, нарэшце, я:
Над байкаю мая каб не прапала праца,—
Хай помніць кожнае ліслівае цяля,
Што можна ссаць, ды можна й абассацца.

*1928*

## СЯМЕЙНАЯ СПРЭЧКА

*Байка*

— Табе вось не якая трасца,—
Сказаў Пярэсты раз Падласцы,—
І больш не здольна ні на што ты,
Як на цялячыя пяшчоты:
Яшчэ мароз, мяцеліца,
Яна тады ацеліцца,
І Сёмуха аж блізіцца —
Яна ўсё з целем ліжацца.
А калі ж цельная была,
Хадзілі, проста як ля шкла.
Вось толькі й клопату брыдзе,
Што нацадзіць за цэлы дзень
Якую кварту
Ці то-бок літру малака,—
І харчаваць цябе не варта.
Зусім рэч іншая ў быка:
Вось я штодзень, як той загарак,

Іду то ў возе, то ў сасе,—
Балюча ныюць косці ўсе,
Ярмо ашмуляла мне карак,
Бо я ж адзін на гэтым карку
Нясу ўсю нашу гаспадарку.
І каб не я, сышло б дарэшты.
— Пакінь плявузгаць ты, Пярэсты,
Сабою надта выхваляцца,
Не страш ты бабу цяжкай працай,—
Падласка кажа да быка.—
І я магу ярмо цягаці,
Радзі ж вось ты хоць паўцяляці
Ці дай хоць кварту малака.

*1925*

## ДАЙ ДЫ ДАЙ...

А няхай ты праваліся! —
Вось парадкі завяліся:
Дзе ні сунься, так і знай —
Ўсюды ў лапу дай ды дай...
Нек таму ўжо з месяц будзе,
За зямлю я быў на судзе,
Дык каб ёю заўладаць,
Мне прыйшлося ў лапу даць.
Нек надоечы я ехаў
Па чыгунцы, дык, без смеху,
Я па шпалах бы дыбаў,
Каб не ў лапу добра даў.
Гэтым летам праднялогу
З мяне ўзяць хацелі многа,
Але, каб не галадаць,
Мне прыйшлося ў лапу даць.
Вось мы гэтак дажыліся,
Што аж «тройкі» завяліся —
Яны хочуць, як відаць,
«Дзерунам» па лапах даць.
Ды не ведаю я толькі,
Ці памогуць нават «тройкі»,—
Каб навесці тут парадкі,
Мо спатрэбяцца й «дзесяткі».

*1922*

## ДА НОТЫ КЕРЗАНА

Добра Керзан піша ноты —
Проста люба паглядзець,
Ды няма у нас ахвоты
Па ягоных нотах пець.

*1923*

## К САБАЧАМУ РАЎНАПРАЎЮ

*У ложах Дзяржаўнага тэатра
прыходзіцца бачыць сабак,
якія карыстаюцца такімі ж правамі,
як і грамадзяне*

Зайшоў у тэатр раз і бачу я —
Нейкая морда сабачая
Сядзіць, выскаляецца ў ложы.
Валачашчая, думаю, можа,
Трэба прагнаць. Падыходжу я бліжай —
Бурчыць мой выжал.
«Ах! каб цябе, кажу, воўк!..»
Але тут жа змоўк,
Бо сядзеў у сабакі ззаду
Чалавек, займаючы вялікую пасаду.
Тады я хутчэй
Уцёк з яго вачэй.
Рабіць, думаю, больш тут няма чаго
(Стала нек страшна мне сябра сабачага).
Але ўсё ж мяне думкі ўзялі:
Што ж гэта робіцца на нашай зямлі!
Дзіўныя бачу справы я:
Мілорд у ложы сядзіць,
А Барбос у шчылінку глядзіць.
А дзе ж раўнапраўе?
Падняць бы пытанне ўжо аб дазволе
Уваходу і іншай жывёле,—
Як сабакам, так коням і козам.
З гэтым згодзіцца кожны, хто мае розум.
А можа, я надта гарачы!
Дык паслухаем, што скажа «сябар сабачы».

*1923*

## З ТЫСЯЧНЫМ НУМАРАМ

*Прысвячаецца*
*газеце «Савецкая Беларусь»*

Пажадаю жыць газеце
Тысяч тры гадоў на свеце
  І не страціць добры гумар,
  Святкаваць мільённы нумар,
Каб і я з мільён і першым
Прывітаў патомкаў вершам.
  Каб рэдакцыя шаноўна
  Матэр'ялу мела поўна,
А для «лішняга» прыпыну
Мела большую карзіну;
  Пажадаю пры астачы
  Зачыніць «Куток дзіцячы»...
Выпускаючы каб дату
Помніў так, як свайго тату,
  А карэктару — чатыры
  Вочы вытарашчыць шырай,
Не прыйшлося каб ніколі
Замест «волі» чытаць «болі».
  Ўсім падпісчыкам вясковым
  Ужываць прасцейшай мовы
І за месяц ганарару
Атрымаць рублёў хоць пару,
  На бутэлечку чарніла
  І на пер'е каб хапіла,
І пісаць (не лішне, ў меру)
На адным баку паперы.
  Вось мае тут пажаданні
  Выліў я ўжо ўсе дазвання,
А з каго мо не даволі,—
Хай жадае сабе болей.

*1924*

## ЛЯВОНІХА

Ой, ды што ж там за Лявоніха была,
Што Лявону супакою не дала?
Чуць кабета не даходзіць да плачу —
Кажа: «Выпісаць часопіс я хачу».
    Ой, ды што ж там за Лявончык быў,
    Што Лявоніху за гэта не набіў;
    Выняў зараз ён з кішэні паўрубель:
    «На, Лявоніха, выпісывай сабе».
Ой, Лявоніха, ды як цябе зваць,
Што не ўмееш ты капусты саджаць?
Бо ні разу яна добрай не была,
У ёй заводзіцца капусная кіла.
    Не смуткуй жа ты, Лявоніха, не плач,
    Але збегай к аграному, як бач,—
    Дапаможа ён парадамі,
    Як вясці дагляд за градамі.
Ой, ды што ж там за дзівак, за Лявон?
Канюшыны цэлы клін сее ён;
У Лявона сыты конь, як мянтуз,
На ім едзе той Лявон, так як туз.
    А ў нашага Сымоніка
    Дык панёс бы бусел коніка,
    Ледзь ён ходзіць з вострай спінаю,
    Бо не кормяць канюшынаю.
Ой, ды што ж там за Лявон з-за ракі,
Што на полі сее ён буракі?
Абзавёўся ўжо жывёлаю,
Параўняўся ўжо з Міколаю.
    Дык не будзем жа варонамі,
    Папярэдзім і Лявона мы.
    І на лета, так як лёдам мы,
    Склеп завалім караньплодамі.

*1925*

## ЯЗЫЧОК

Вось дык ладзіць!
Вось дык гладзіць!
Вось дык ліжа!
Ніжай! Ніжай!
Яшчэ вазьмі
Вось тут лізні
Разоў ля ста,
Каля хваста.
Вось так! Вось так!
Дальбог, мастак!
Што ні скажа —
Маслам мажа
З плеч да лытак.
Вось дык крытык!
Вось бы гэты язычок
Ў прыбіральню на цвічок!

*1925*

## «БУДЗЬ ЗДАРОВА!» — КАЖУ ШКОЛЕ

«Будзь здарова!» — кажу школе,
Сам — на луг, у лес, у поле.
Там я з пугай-дратаванкай
Аж да вечара ад ранку,
Покуль мой атрад рагаты
Не захоча зноў дахаты...
Мае выпусткі-цялушкі,
Як дзяўчаткі-весялушкі,
А малыя бычаняты —
Нібы тыя хлапчаняты.
Я хаджу за імі ззаду —
Павадыр свайго атраду.
Выйду з імі на паляну —
Люба, гожа, дзе ні гляну...

Жнуць кароўкі, нібы жнейкі,
Чуцен посвіст салавейкі
У дуброве над крыніцай,
Сонца мыецца расіцай,
Залатыя мочыць косы.
Па расе скачу я босы,
І пад спевы птушак мілых
Грае, грае кроў у жылах.
Ўсё, вясна, з табою скача —
Піянерка ты, няйначай!

*1925*

## «МІКРОБА»

Тут само жыццё нас кліча
Пару слоў сказаць пра Крычаў
Ды аб тэй цікавай рэчы,
Як там доктар хворых лечыць.

Галава! Калаццё!
Канчае жыццё
Чалавек без пары...
Эй! дактары!
Вось ён, вось!
Ужо ёсць:
Увесь — асцярога,
Стаіць ля парога.
З трубкай ля вуха ён
Здалёк выслухвае,
А ўваччу — зданнё
Яскрава, як днём:
На печы,
На бэльцы,
На кожнай рэчы
Шавеляцца
Прадстаўнікі хваробы —
Мікробы.

Мільярды стрэптакокаў,
Бацылаў, ганакокаў
І розных іншых «кокаў»
Тут бачыць яго вока,
І водзіць войска гэта
Бледная спірахета.
У доктара дрыжыкі,—
Зубамі ляскае:
Прапісаў нейкай жыжкі,
А сам з апаскаю
Дзёру за дзверы,
Сціснуўшы «дзякуй» у лапу.
Слабо вам, бактэрыі,
Дагнаць эскулапа!

*1925*

## ЛЯГЧЭЙ НА ПАВАРОТАХ

*На праявы авангардызму*

Што нам партыя!
Мы самі ўпартыя.
Што дырэктывы нам!
Мы самі актыўныя.

Эй, дзядзя са стажам!
Твая справа дрэнна:
Мы зараз пакажам,
Што значыць змена.

Удаль без клопату
Глядзім мы бадзёра:
Не хопіць вопыту,
Дык возьмем задзёрам.

Вось такога я нямала
Чуў ад многіх жаўтаротых.
Хай ім скажа Самахвалаў[1]:
Эй, лягчэй на паваротах!

*1925*

## ВАРОНА-МІТЫНГОЎШЧЫЦА

*Байка*

Крылатыя насельнікі старонкі нейкай
Цярпелі доўга здзекі.
Там панаваў страшэнны ўціск,
Там часта чуцен быў жалобны піск
Бязвіннае ахвяры.
І вось паўстаў крылаты пралетарый,—
І бура ўміг з зямлі змяла
Цара драпежніка-арла.
Уціхла бура, кончана змаганне,
І вольных дзён настала ранне.
Увесь птушыны род там без разбору нацый
За творчай працай:
Хто гнёзды ўе, хто ловіць мошак —
Сваіх пісклівых корміць крошак,
Другі вартуе ў садзе дрэў —
Бароніць іх ад чарвякоў,
І працу ўсіх працаўнікоў
Бадзёрыць гучны спеў.
Адной вароне праца не пад густ.
І вось, усеўшыся на куст,
Ад рэшты грамадзян паводдаль.
— Ура! — крычыць яна.— Ура!
Няхай жыве свабода!
Між тым абедаць бы пара,
Бо есці хочацца Вароне.

[1] Тав. Самахвалаў у той час быў сакратаром ЦК ЛКСМБ.

— Ужо й не рана, здэцца, сёння,
Ці зараз пададуць абед? —
Спытала ў Ластаўкі яна.
— Ніхто, сястрыца, не падасць табе,—
Вароне адказала тая,—
Бо кожны з нас абед у працы здабывае,
І не працуеш толькі ты адна.
— Ну, не брашы, а я ж вось мітынгую.
— Дык і знайдзі варону ты другую,
Якая б тут табе паслугавала,
А ў нас няма паслугачоў.
Бывай здарова! — Ластаўка сказала.—
Дарэмна траціць час я не хачу.
І давялося той адной
Дзяўбці смярдзючы конскі гной.

Дык вось, чытач, ты сам здароў
Павінен добра тое ведаць,
Што, каб прымусіць працаваць такіх «варон»,
Не трэба ім даваць абедаць.

*1925*

## БАЛЕТ

Першы раз, як жыў на свеце,
Быў я ўчора на балеце,
Дык няхай яго з балетам!
Нежывога разбярэ там:
Як пакажа штукі ўсе,
Дык аж трасца затрасе.
Сеў я гэта й жду балета.
Тут як выскачыць кабета,
А на ёй дык (вось фасон!)
Не спадніца — парасон,
Ногі голыя і рукі
І — давай паказваць штукі:
Як павернецца бачком,

Як закруціцца ваўчком,—
Без касцей кабета, здэцца,
Як нагнецца ды мігнецца
Ды пакажа сцегнякі,—
Аж вар'юющца дзядзькі.
Цётка ж добрая не скупа:
Як заголіцца да пупа,
Як падыме йшчэ нагу,
Дык сказаць я не магу,
Што тут робіцца з дзядзькамі:
Плешчуць, ляскаюць рукамі,
Лямантуюць — «брава!», «біс!» —
Нібы іх кусае ґіз.
А кабета — ножку вышай
І ў паветры кола піша
Так прынадна над партнёрам,
Аж... глядзець нек стала сорам.
Тут сусед мой — дзядзька гладкі —
Годзе ўжо даваць у ладкі,—
Ў захапленні выгнуў спіну
І, пусціўшы з рота сліну,
Небарака аж зароў,
Як бугай той да кароў.
Але тая маладзіцца,
Як стрыгунка-жарабіца,
Падбрыкнула ды бягом.
Ёй жа сыплюцца ўздагон
«Біс», і воплескі, і «брава»,—
Не на жарты ўсіх забрала.

*1925*

## МІКІТКА

Носік бурачковы
Пасінелы трошкі,
Портак шарачковых
Выцерты калошкі,

Латаны кажушак
Ці такая ж світка,
Лапці на сем вушак —
Вось які Мікітка.

Як бяжыць у школу,
Без канца вясёлы,
Як бяжыць са школкі,
Весялей ў тры столкі.

Прынясе трасянкі,
Дасць вады Рагулі,
А пасля за санкі
І пайшоў на гулі.

Яго «бот» лыковы
Скуратом падшыты,—
Не дагнаць нікому,
Не злавіць Мікіты.

Калі ж вёска ў змроку
Гляне бляскам вокан,
Для хлапецкай песні
Свет, здаецца, цесны.

Перад вамі, дзеці,
Скрозь яснеюць далі,
Жывяце на свеце
Вы без «анамалій».

З вамі напрадвесні
Я, салідны дзядзя,
Пеў бы, здэцца, песні
Ў піянератрадзе.

*1926*

## Я ШАНУЮ

*Верш прысвечан газеце «Беларуская вёска», якая адзначала пяцігадовы юбілей*

Не адзін цябе, «Вёска», палаяў,
Не адзін, можа, лае й цяпер —
Што ты «не сур'ёзная», што ты і «малая»,
Што ў баку ад «высокіх матэрый».
Не адзін пасмяяўся з ironiяй,
Што «гадуеш кароў ды свіней».
А мне ты міла. Тым болей сёння
Я хачу быць з табою цясней.
Хай даруюць — мо гэта і груба,—
Не знайду далікатных я слоў,
Але й сам той — «свіння пад дубам»,
Аб якой гаварыў Крылоў,
Ад цябе хто не бачыць карысці,
Бо ўгару не падыме ён лыча.
Ты паказваеш з цемры выйсце
І да лепшае долі клічаш.
Хай хто лае, а я дык шаную,
Бо адзін я з тваіх жалудоў.
Хай жа «Вёска» шчасліва існуе
Яшчэ сотні гадоў.

*1926*

## ВАРАНЫ

*Байка*

Ў адной камуне ці арцелі,
Дзе трактара яшчэ не мелі,
Каб узараць-засеяць гоні,
Было штук дваццаць коней —
Натуры рознай усе чыста:
Адзін — гуляка, той — гультай, а гэты — наравісты.

Вось толькі быў там Вараны,
Па думцы іншых — «конь дурны»,
Па-мойму ж проста — конь сумленны:
Ён прыказку «Узяўся ты за гуж,
Дык не кажы — не дуж»
Заўсёды памятаў нядрэнна
І прытварацца не хацеў.
А дужы быў які! Аб Варанога сіле
Легенды цэлыя хадзілі.
Затое цэлы дзень ён быў у хамуце.
Як толькі бедны Вараны
Адчэпіцца ад бараны,
Дык тут жа ў плуг яго ці ў воз,
І не наўме яму ні сена, ні авёс.
Ён за гадоў так восем, штосьці,
Зрабіўся — скура толькі й косці,
Аж рэбры лёсткамі тарчаць.
Другі ж, гуляючы, балуецца аўсом,
Дык у яго і шыя калясом,
І спіна круглая, і на крыжы раўчак.
Не могучы жыцця такога знесці,
Давай прасіцца Вараны нарэшце:
«Не трэба,— кажа,— мне аўса, я буду рад і сену,
А толькі дайце змену
Ці невялічкую якую перадышку,
Ну, хоць накрышку,
Хоць на дзянёк, хоць на другі,
Прашу я вашай ласкі».
Яму адказваюць: «Таварыш дарагі!
Вы забываеце пра вашы абавязкі:
Чамусьці раптам на карысць арцелі
Вы працаваць не захацелі.
Забыліся, таварыш, дысцыпліну...»
І зноў тут Вараны напружыў спіну,
І зноў штодзень яму
Без жалю плечы трэ хамут
(Бо не ў зямлю ж жывому лезці).
Але ён доўга не пажыў:
Не выцерпеў нарэшце
І... капытамі налажыў.
Тады, сабраўшыся ўсе чыста,
Так хораша, так урачыста
Таварышы каняку пахавалі,
Прамовамі, вянкамі

І нават музыкай, здаецца, ўшанавалі.
Але, гаворачы між намі,
Карысці з гэтага для Варанога
Было не надта многа:
Калі ўжо шанаваць, дык трэ было жывога.

*1926*

## УГОДНІКІ-МАЎЧАЛЬНІКІ

*Байка*

Хоць я на іх не маю вока
І знацца з імі не хачу,
Аднак жа байку прысвячу
Угоднікам і абібокам.
Вы байку гэту чулі, можа,
А можа, й не.
Калісьці ў нашай старане
Ды жыў Угоднік божы.
Каб на зямлі не награшыць
І бліжай быць да бога,
Угоднік так павінен быў рашыць:
Нічога не рабіць, не гаварыць нічога,
Не думаць нават, толькі спаць.
І вось гадоў мо сорак пяць
Так на адным праспаў ён месцы.
Як прынясуць, бывала, есці,
Дык набярэцца моўчыкам ды зноў на бок.
Калі ж памёр вялікі абібок,
Святы угоднік Лотра,—
Рай адчыніў яму сам Пётра.

Яшчэ б тут можна байкаю пацешыць,
Ды не хачу трывожыць «праведнікаў» сноў я.
Не буду — спіце на здароўе!
«Хто спіць, дык той не грэшыць».
Заслуга ў нас, аднак, не ў тым,

Каб быць маўчальнікам святым
І гнісці ў абывацельскім «раю»,
Іначай кажучы, ў балоце,
А ў тым, каб з лепшымі ісці ў страю,
Гарэць-змагацца на рабоце.

*1926*

## ЧЛЕН

Не пытайце — «Хто ты?»
Ці яшчэ — «Адкуль ты?»
Бо ён член сапраўдны
З членаў Інбелкульта.

Ужо колькі год вось
Абавязкі члена
Ён спраўляе шчыра
І нясе сумленна.

Хай на дзень хто ходзіць
Хоць разоў па дзесяць,
Ходзіць ён на працу
Два разы на месяц.

Два разы на месяц
У яго ёсць праца:
Атрымаць, што трэба,
Потым распісацца.

Калі ж вы чакалі
Працы навуковай,
Дык яна для члена
Не абавязкова;

Кіньце клапаціцца
Вы, сябры, аб гэным:
Ён да самай смерці
Застанецца членам.

*1926*

## ЧОРТ

*Байка*

Кажух ляжыць, а дурань дрыжыць.
*Народная прыказка*

На свеце жыў Янук-сынок
У нейкіх Мамы й Таты;
Гадкоў яму было мо пяць.
Вось раз, калі куткі ахутаў змрок,
Бацькі уклалі хлопца спаць,
А самі выйшлі з хаты:
Каровы Матка падаіць,
А Бацька коні напаіць.
Але маломy Януку
Вачэй ніяк не зводзіць сон,
Бо нешта чорнае ў кутку
На лаве ля красён
Убачыў раптам ён:
Касматае, з зялёнымі вачыма,
Дым чорны ў страха верне з ляпы
І з кіпцюрамі лапы.
Шавеліцца і крэкча страх, нібы падняцца цяжка.
Абмёр пад коўдраю хлапчына,
Пабеглі па плячах мурашкі,
І сталі валасы дубка
У небаракі Янука,
Аж зуб на зуб не пападзе.
Чуць не памёр наш блазан у бядзе,
Пакуль не ўчуў, што Бацька йдзе.
Тады з пасцелі — скок ды сам бягом адтуль.
— А татачка, вунь чорт! А міленькі, ратуй!
— Дзе чорт? Вось гэта? Ха-ха-ха!
Ну й дурань жа ты, Янка!
Свайго спужаўся кажуха.
А Янку трэсла ліхаманка.

Чытач чакае звыклае маралі?
Дык я ж пра тых — «у футарале»,
Што ў промнях сонца яснага
Баяцца ценю ўласнага.

*1927*

## САМАНАДЗЕЙНЫ КОНЬ

*Байка*

Вялікаму каню — вялікі хамут.
*Народная прыказка*

Меў нейкі Селянін мізэрнага Каня —
З сабаку, можа, так, мо з добрае шчаня.
Маламу веліччу быць хочацца заўсёды,—
У мацеры-прыроды
Такі спрадвеку ўжо закон.
Так вось і гэты Конь...
Яно не ганьба хоць — сабе дабра жадаць,
Але ў Каня ўжо, як відаць,
Жаданне ў манію вялічча перайшло.
І стаў ён скардзіцца на ўсё сяло:
І «і-га-га!» і «і-го-го!» —
Хамут нібы не да яго.
— Я сам,— іржэ,— такі каніска,
А вось хамут дык жарабячы блізка —
Не засупоніўшы, і то ён нават цесны:
Ні ўлезці мне ў яго, ні вылезці — хоць трэсні!
У горад Селянін прыехаў на кірмаш.
І вось убачыў тут асілак наш,
Што грузныя ламавікі
Пудоў па сто вязуць мукі.
— Ну вось цяпер ці бачыш ты,—
Пытае ён Гаспадара,—
Якія ў коней хамуты?
Табе б купіць даўно пара
Хоць трошкі большы для мяне,
І я б за іх цягнуў тады ўдвайне:
Не сто пудоў, а цэлых дзвесце.
Тут, каб Каню свайму давесці,
Што гэта глупства і мана,
Каб выгнаць, зноў жа, наравы
З дурной канёвай галавы,
Той гаспадар і просіць фурмана,
Каб ён у воз вялікі свой запрог яго каняку.
Фурман гатоў за пэўную падзяку,—
Асілак наш ужо ў вялікім хамуце.
Ахвоты той хамут хоць шмат яму паддаў,
Але тут здарыўся скандал:
Пралезлі праз хамут канёвы персі й ногі,

І затрымаўся ён аж ледзь на жываце.
А тут яшчэ пракляты воз
І з месца не скрануць — як да зямлі прырос.
І просіць у бядзе наш дурань дапамогі.
З тае пары другога хамута
Не патрабуе Конь ніколі:
Свайго яму якраз даволі,
Хамут стаў — проста любата.

Мне часта крыкуны мільгаюць у вачах —
Да славы прагныя, ды вузкія ў плячах.

*1927*

## ЖАБА Ў КАЛЯІНЕ

*Байка*

Пагода — проста нібы дым,
У вёсцы рух, у вёсцы ўздым:
Упарта кліча сенажаць.
І ні старым, ні маладым
Тут некалі ляжаць.
Грабель мільганнем, звонам кос
Трымцяць лілёвыя прасторы,
І вось, нібы ў зялёным моры,
Плыве бухматы воз.
Далонню ўцёршы потны лоб,
Як паміж рыфаў, паміж коп
Лахматы капітан яго вядзе.
Ён важнасць твару надае
І, каб не стала, загадзе
Сваёй адзінай «конскай сіле»,
Якая й так напружвае ўсё жылле,
Ён пугай пары паддае.
Яно хоць «сілы» троха й шкода,
Ды некалі — стаіць пагода,
Аж смагне, ныючы, асірацелы куст.

А Жабе гэта не пад густ,
І сонца горш цяпер пячэ,
Скарэй і бусел напаткае,
І як яна тут ні ўцякае,
Як ні скача,
У цень нікуды не ўцячэ.
Ад крыўды Жаба ледзь не плача.
А ўсё двухногі гэты госць
З сваім вялізным возам!
Апанавала Жабу злосць,
І падказаў ёй жабін розум:
«Ага, ну-ну!
Ты пажыві яшчэ хвіліну,—
Вось толькі сяду ў каляіну,
Плячом пад кола таркану
І к чорту воз перавярну.
Тады — капут, і ты мяне не зловіш,
Бо галаву, напэўна, зломіш».
І — скок Жабоцька смела
Ды ў каляіну села.
Тут колам — хрась!..
І кроў і гразь...

. . . . . . . . . . . .

Пад кола, жаба, не падлазь.

Ці не такі ж і кожнай жабы лёс,
Што пнецца на хаду кульнуць савецкі воз?

*1927*

## ЗУБЫ

*Байка*

У Мамы зубы забалелі.
(Каб вы такой прыемнасці не мелі.)
За скiвіцу ўхапіўшыся рукою,
Не знойдзе месца сабе Маці

Ні на дварэ, ні ў хаце
І енчыць, ходзячы з пакою да пакою.
Шчака ўзнялася, як гара,
Аж проста зайздрасць бярэ Волю.
І вось, скрывіўшыся, надзьмуўшы губкі,
Яна таксама енчыць «з болю»:
— Ой, мама, боля зубкі!
(А Волі — года паўтара.)

Калі плаксівага я стрэну юнака-паэта,
Дык мне заўсёды сцэнка гэта
На памяць просіцца сама —
Паэт нагадвае мне Волю:
Ён стогне ад зубнога болю,
А зубак-то ў яго няма.
Эх, дзівакі! Хай той ад болю вые,
У каго ёсць карані гнілыя.

*1927*

## СВАЯЎСТВО

*Байка*

Для сябра ці для сваяка
І на вярбе растуць, часамі, бэры,
І па вядру казёл дае, бывае, малака.
Хто гэтаму не даў бы веры,
Дык факты тут яго пераканаюць скора.
Нядаўна нек, учора ці заўчора,
Я чуў — Свіння Казла хваліла,
Уславіла падрад разоў са сто.
Хваліла, ды не ў гэтым сіла,
А справа ў тым — за што?
Яна Цялят сабрала чараду
І пачала:
— Вы знаеце,— пытаецца,— Казла —

Такую бараду
З развілінамі рог?
Ах, што за працаўнік! Ах, што за маладзец!
Ох, ох! Рох, рох!
Працуе ён не то што за Вала —
За трох!
Спытайцеся сабе ў авец...
Ці верыце яшчэ вы, мілыя мае?
Ён нават малака дае.
Цяляты тут Свінні ў адказ:
— А не дуры ты, цёця, нас!
Казлова малако сама еш на здароўе,
А нам ляпей кароўе.
А што ён працаўнік, і гэтакі й такі,
Дык ясна тут, як двойчы два:
Вы з ім, здаецца ж, сваякі —
Жывёлы з аднаго хлява.

*1927*

## З «БАРЫШОМ»

*Па селькораўскіх допісах*

П'янства, цемра ды разбой,
Ад гарэлкі шмат бяды...
Вось што піша дзядзька «Свой»
Нам з Прылуцкай Слабады.

Парсюка ці, можа, свінку
(Нешта мне не ў галаве)
Прадаў сёлета на рынку
З гэтай вёскі чалавек.

Як заведзена спрадвеку,
Думаў: «Мо не саграшу,
Калі з добрым чалавекам
Вып'ю чарку барышу».

Ну і выпіў — ёлкі-палкі! —
Ногі водзяць у бакі.
Выйшаў, бухнуўся ў развалкі:
— Но! Пайшоў, сякі-такі!

Дзядзьку блюзніцца спрасонку,
Што пад ім не сані — печ:
Паздзіраў ён з ног валёнкі,
Апранаху скінуў з плеч.

Едзе дзядзька, свішча носам,
Нібы дома ўклаўся бах:
На чарэні добра босым
Грэцца з люлькаю ў зубах.

Ну і быў жа ён «харошы»,
Як да памяці прыйшоў!
Нос адмёрз, прапалі грошы,
Ногі — пара ледашоў.
Вось якое ліха стала!
«Пакараў, няйначай, бог»:
І без грошай, і без сала,
І кульцяпкі замест ног.

*1928*

## МАХАЛЬНІК ІВАНОЎ

*Байка*

Таму ўжо будзе, мусіць, з год,
Вучэбную стральбу праходзіла пяхота.
Дык вось страляў аднойчы ўзвод
Ці, можа, нават рота.
А тут раптоўна Шэф вярхом аднекуль — шасць:
Цікава паглядзець, а як страляе часць?
Ці вока вернае, ці цвёрдая рука
Ў чырвонага стралка?
Зайгралі «пападзі»,

Гарыць чырвоны флаг.
Стралкі — на лінію. Ляглі ўсе па ўпорах.
Вось выстраліў адзін,
Вось разам — пах-пах-пах!
І лезе ў нос, і дражніць востры пах
(Калісьці Шэф таксама нюхаў порах).
Вось скончылі. Адбой.
Начальнікі здаволены стральбой:
Той тры папаў, той пяць.
Ахвота тут і Шэфу пастраляць.
Ён пяць патронаў у кішэнь,
Нагледзеў лепшую мішэнь,
Прылёгшы на упор,
І стрэльбу да пляча прыпёр.
Зажмурыў вока — бах! Пад носам землю ўзрыла.
Другі раз. Гэта ўбок завыла.
Яшчэ за імі тры,—
Усе «за малаком».
— Ах, чорт вас пабяры! —
Злуецца Шэф цішком.—
Хоць бы адну папаў, а то скандал страшэнны!
Але махальнікі падходзяць да мішэні,
Давай яму махаць
(У іх быў добры нюх):
Дзве, тры, чатыры, пяць!
У самы, значыць, круг.
Шэф хоча вынікі другім праверыць разам,—
Махальнікаў назначыў зноў жа тых
І ўзяў патронаў... халастых.
Дык што ж вы думалі? — ніводнай не прамазаў.
Як далажыў махальнік Іваноў:
«У цэнтру самую ўсе пяць загналі зноў».
І дзіва дзіўнае было там цэлай часці,
Што можна з халастых ды «ўсе пяць куль» папасці.
А ваенком дык Іванова нават пахваліў:
— Ты,— кажа,— Іваноў, сапраўдны падхалім.

У падхалімаў так вядзецца век-вяком!
Ці б'е начальства ў цэль, ці шле «за малаком»,
Ды знойдуцца заўсёды Івановы,
Што памахаць яму гатовы.

*1928*

## НОЖЫКІ МЕТРОВЫЯ

*(Па селькораўскіх допісах)*

Вось прыждалі людзі «свят» —
Ні касьбы, ні ворыва;
Хуліганства заўжды шмат,
Калі п'ецца здорава.

Слова супраць не кажы —
Малайцы здаровыя;
У малойчыкаў нажы,
Ножыкі метровыя.

У Чарневічах Чалей
За «культурнай» працаю:
З самагону ашалеў,
Робіць «аперацыі»:

Там ён пуза прапароў,
Там зляцела сківіца:
Як гайсае з тапаром,
Толькі вёска дзівіцца.

Да дзяўчат ён — ого-го!
Мае душу палкую:
Не хінуцца да яго,
Адлупцуе палкаю.

Жах тут кожнага бярэ —
Па куточках туляцца:
Як сцямнее на дварэ —
Не прайсці па вуліцы.

У Чарневічах усім
Ён — у горле спіцаю,
Не з дабра селькор «Максім»
Кліча так міліцыю.

*1928*

## ДЭКРЭТ

*Байка*

— Здароў, Максім!
Забыўся, брат, на нас зусім.
Расказвай, што чуваць.
— Браточак, не магу!
— Ты мо сюды адпачываць?
— Ды не, бягу!
Я жду бяды з усіх бакоў.
— А што з табою? Можа, не сакрэт?
— Ды ў цэнтры (чуў мо?) выдалі дэкрэт —
На мяса здаць усіх быкоў,
Якім мінула дзесяць год.
— Пастой... Прысядзь ды вытры пот...
Дык ты ж чаго падмазаў пяты?
— А мне ўжо, бачыш, дваццаць пяты,
Дык страх такі напаў, не ведаю, дзе дзецца.
— Не разумею я... То ты ж не бык, здаецца,
І не ўцякаць табе я моцна буду раіць.
— Яно-то так, але ж гады...
Каб не нажыць якой бяды.
Дэкрэты як у нас, часамі, разбіраюць?
Не разбяруцца, зловяць — чык,
Тады й даводзь, што ты не бык.

*1928*

## У ПАПА ДЫ БЫЎ САБАКА

*Байка*

У папа ды быў сабака,
Поп яго любіў.
Ён не краў у баці сала,—
Поп яго не біў.

Баця жыў ля школы блізка,
Проста двор у двор,
І наведваў часта Лыска
Школьны калідор.

Да пажывы Цюцька ласы
Раз у школу йдзе,
Ён абшнырыў усе класы,
Ды няма нідзе.

Хоць у думках невясёлы,
Хоць і посціць пост,
Але выйшаў Лыска з школы —
Абаранкам хвост.

Напаткаўся ён Мілорду,
Які тут гуляў;
Прывітаўся морда ў морду,
«Добры дзень!», маўляў.

(Мне пяром размову гэту
Цяжка й перадаць.)
— Дзядзька Лыска за асвету
Ўзяўся, як відаць?

— Ды прызнацца ўжо не сорам,
Пхнёмся пакрысе:
Сем тут класаў з калідорам...
Я прайшоў усе.

І пайшло ад сукі сучцы —
Хто каго ні стрэў,
Што той Лыска у навуцы
Сам сабаку з'еў;

Не капціў дарэмна свету,
Жыў ды не драмаў;
Што вышэйшую асвету
Лыска атрымаў;

Што ў становішчы сабачым
Гэта ж — о-го-го!
Што мы шмат яшчэ пабачым
Цудаў ад яго.

Вось і чын у Лыскі новы
(А ранейшы знік):
Навуковай установы
Лыска працаўнік.

. . . . . . . . . . . .

У папа ды быў сабака,
Поп яго любіў,
Ды вучоным знакамітым
Чорт яго зрабіў.

*1928*

## КУВАДА

*Байка*

Карова целіцца, а ў быка зад баліць.
*Народная прыказка*

Паміж балот Мазырскага Палесся,
Дзе шчэ не так даўно «лясун гайсаў па лесе»
Ды забабоны плавалі на чоўне,
Дзе звычаяў дагістарычных схоўня
Была аж да часоў савецкае улады,—
Там знойдзен выпадак кувады.
Расказваюць пра гэта нашы краязнаўцы:
Бывала там, калі раджаць Жанчыне давядзецца,
Дык Чалавек яе кладзецца
Таксама з ёй на лаўцы.
Ён хоча працу падзяліць.
Ён хоча аблягчыць пакуты,
Дык і жывот яго баліць,
І схваткі штомінуты.
Свой абавязак маткі ціха
Выконвае Жанчына-парадзіха,
Хоць і цярпіць вялізарныя мукі,
А ён, «няшчасны», ломіць рукі.

Калі глядзець — сапраўды Дзядзьку крута:
То скурчыцца, то выцягнецца прутам
Ды пачынае лбом аб сцену біцца.
Крычыць: — Бабулечка,— жывот!
Зязюлька,— паясніца!
Аж з твару зменіцца і з голасу спадзе,
Пакуль малое Жонка прывядзе.

Вось так жа памагаюць часам
Куваднікі працоўным масам:
Пакуль працоўныя сацыялізм будуюць,
Яны ўсё ныюць, хныкаюць, бядуюць.
Такому б я сказаў: — Слюнцяй, не скавычы!
Не можаш памагчы,
Дык лепей памаўчы!

*1929*

## РАХІТЫК

*Байка*

На паплаўцы
Каля дарогі
Гулялі часта два хлапцы —
Алесь і Грышка клышаногі.
Вясёлы, жвавы ды румяны
Алесь
Здароўем дыша ўвесь,
Імпэтам нестрыманым,—
Вось чырвань, здэцца, капне з шчок.
А Грышка, хоць старэйшы трошкі,
Але крывыя мае ножкі
Ды галаву з гаршчок.
Але ж удвух яны заўсёды
Жылі-гулялі не без згоды,
Пакуль была гульня адна:
Рыгор за жарабца, Алесь за фурмана.

А раз нек выйшла між хлапцамі,
Што захацелі быць абодва жарабцамі:
І шыя ў кожнага дугой,
І землю кожны б'е нагой,
І вочы скошаны пад лоб,—
Пусціліся ўгалоп.
Алесь імчыцца, як на крыллі,
Зямлі нагамі не даткнецца,
А Грышка хліпае ў бяссіллі
Ды з кожным крокам астаецца,—
Хоць ты лажыся памірай.
Нарэшце злосць аж цераз край.
Тут камень ён схапіў з-пад ног,
Прыпаў каленам на траву
І з сілаю, наколькі мог,
Пусціў Алесю ў галаву,—
Бягун прысеў дый застагнаў...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Алеся Грышка абагнаў.
Дзе Грышку бачыў я, вы хочаце спытацца?
Сярод работнікаў мастацтва.

*1929*

## АПАНАСАВА СВЯДОМАСЦЬ

Я знаў Апанаса-«марксіста».
Пад свой светапогляд адразу
Падвёў ён «марксісцкую базу»
І заўжды казаў урачыста,
Сустрэўшы мяне, той ягомасць:
— Быццё вызначае свядомасць.

Калі ж пры бутэльцы сам-насам
Пабудзеце вы з Апанасам,
То як дыялектык нядрэнны
Ён зробіць у формуле змены:



Кандрат Крапіва.
1926 г.



Кандрат
Крапіва
з бацькам
Кандратам
Міхайлавічам.
1930 г.



*Злева направа:*
Пятро Глебка,
Кандрат Крапіва,
Кузьма Чорны.
*У першым радзе*
японскі пісьменнік
Акіта Токудзо.
1927 г.



На сустрэчы з Янам Райнісам. Ніжні рад *(справа налева):* Кандрат Крапіва, Янка Купала, Ян Райніс, Змітрок Бядуля. *Верхні рад:* Кузьма Чорны, Пятро Глебка, Уладзімір Дубоўка, Адам Бабарэка, Язэп Пушча. 1926 г.



**Кандрат Крапіва** *(другі справа ў першым радзе)*
**на курсах пачынаючых пісьменнікаў у Мінску. 1940 г.**



Кандрат Крапіва.
1941 г.



Кандрат Крапіва з сынам Барысам. 1942 г.



Сустрэча ў Маскве (*злева направа*):
Кандрат Крапіва, Ларыса Александроўская, рэдактар газеты «Северо-Западный фронт» Ц. Міронаў і Міхась Лынькоў. 1942 г.



Кандрат Крапіва.
1944 г.



Пятрусь Броўка, Якуб Колас, Кандрат Крапіва і Аркадзь Куляшоў. 1947 г.



Максім Танк, Кандрат Крапіва, Аркадзь Куляшоў, Міхась Лынькоў каля Дома афіцэраў у вызваленым Мінску. Ліпень, 1944 г.

— Што ж, вып'ем за нашу знаёмасць,—
Піццё вызначае свядомасць.

А стрэнецца з думкаю з новай,
Што шчэ не прайшла цыркулярам,
Дык скажа з нахмураным тварам
Да аўтара іншаю мовай:
— Па храпе дастанеш, ягомасць,—
Біццё вызначае свядомасць.

*1929*

## ПАЖАР

*Байка*

Нядрэнныя Брандмайстар вочы мае:
Надоечы здалёк
Убачыў ён дымок,
А дыму ж без агню, напэўна, не бывае.
— Пажар! Пажар! — сігнал трывожны.—
Гарыць! Скарэй! Гарыць!
І жвава рухаецца кожны
З трывогай на твары.
Гатова ўсё праз дзве хвіліны:
Вяроўкі, бусакі, драбіны...
Вось вынырнуў з агульнай кучы
Начальніка шалом бліскучы.
— За мной! Галопам — маррш! —
Скамандаваў Брандмайстар наш.
Абоз імчыцца па завулку,
Грыміць, і трубіць, і звініць.
Там дышлем цюкнулі бабульку,
Там зад адціснулі свінні.
Наперадзе насос, за ім жа бочкі турацць.
Прыджгалі: — Стой! — Нарыхтаваўшы кішку,
Пажарнікі збянтэжыліся крышку:
— А дзе ж пажар? То ж дзядзька люльку курыць.
— Табака добрая, чаму не пакурыць?

Аднак было б там лаянкі багата,
Ды толькі зноў — «Пажар! Гарыць!».

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

На гэты раз Брандмайстарава хата.
Ён, кажуць, праз дурную спешку
Закінуў сам у стружкі галавешку.

Быў крытык мой адзін заўзяты,
І ён цяпер сядзіць без хаты.

*1929*

### КУРОРТНЫ ВЕРШ

На свой лёс марскія нетры
Глуха скардзяцца скале,
І гранітныя ў Ай-Петры
Леглі складкі на чале.

У салёнай белай пене
Шэпты галькі навакол,
Бы Манахава маленне
Ціха падае на дол.

Пад усплёскі хваль шумлівых
Адпачыць так люба мне
На грудзях каменных Дзівы
Альбо ў Кошкі на спіне.

Ці то, зняўшы апранаху,
Я ў паўдзённай спёкі час
Цела грэшнае Манаху
Выстаўляю напаказ.

У каменнай ён сутане
Тут вартуе цэлы дзень,

Быццам дыні на баштане,
Груды спелыя людзей.

У праменні пасваволіць
Люба ім без апранах:
Не бяда — грахі замоліць
Хмуры праведнік Манах.

*1929*

**ВАГОН ТАБАКІ**

Каласіцца на палетку
Жыта ды пшаніца;
Так на ўзмежку добра ўлетку
Пад іх шэпты спіцца.

Аграном сніць сон прыгожы,
Але той парою
Навaліліся на збожжа
Чэрві з машкарою.

Збожжа буйна зелянела,
Ды пасля пасохла;
Машкара, што збожжа ела,
З маразоў падохла.

Ветры ў коміне скуголяць,
Ліст пажоўклы круцяць;
Аграном Гавака ў полі
Шкоднікаў патруціць.

Хоць ты шуфлем снег адгортай,
Змёрз, дрыжыць сабака;
Тут вагон табакі цёртай
Выпісаў Гавака.

Спіць прырода нежывая
Пад абрусам мяккім:

Сам Гавака спажывае
Той вагон табакі.

Рэзкі сівер падыхае,
Да касцей праймае;
Аграном Гавака чхае
І турбот не мае.

Так з Гавакавай вось ласкі
Знойдзен спосаб новы:
Чхае ён на абавязкі
І на пастановы.

*1930*

## ПЛАЧ АБЫВАЦЕЛЯ

Вялікіх дзён не будаўнік,
Не рад ні сонцу, ні вясне,—
Ён цэлы дзень, як дзень вялік,
У камізэльку плача мне:

«Хаджу пануры між людзей,
І кроў цячэ з балючых ран;
Гляджу на шэрагі падзей,
Як абагулены баран.

Пакутных думак чарвякі
Мазгі расточваюць парой:
Ды хто ж, урэшце, я такі?
Ці абывацель, ці герой?

Не ўбачыць хіба мо сляпы
Напорных трактарных калон,
Але ж — малюсенькі, скупы
Наборнай кніжыцы талон.

Пяком калгасы, як бліны,
І ліквідуем кулака,

А тут працерліся штаны,
І рад бы каплі малака.

З скаромным праца йдзе спарней,
І сала з'еў бы я кусок,
Дык абагулілі свіней,
І вось — падцягвай паясок.

Калгасны рух штодзень шырэй,
А ные ўсё ж душа мая:
Як абагуляць і курэй,
Як буду без яечні я?

Вялікі шлях наш у жыцці,
І не папросіш — «падвязі».
А як не еўшы тут дайсці?
Ды без галёшаў па гразі?»

Яму ж сярдзіта я ў адказ:
«Цягніся, дзядзечка, ў хвасце:
Нічога вы — мільён хоць вас —
Для будаўніцтва не дасце».

Ад абывацельскай нуды
Ў вачах — кругі, на сэрцы — муць,
І я спяшаюся тады
Паветра чыстага дыхнуць.

*1930*

## ПАМАГАТЫ

*Байка*

Жыў на вёсцы Бацька й Сын,—
Ім жа трэба есці.
Раз хацеў везці ў млын,
Дык на чым жа везці?
Бедняку не першыня
Гэтакія рэчы:

Як няма свайго каня,
То бяры на плечы.
Дык і ім не навіна
Разгадаць загадку:
Недалёка ад млына,
Можна цераз кладку.
Мех на плечы ўзяў Юнак,
Што ты ні кажы там:
Сіла сілаю, аднак...
Мех вялікі з жытам.
Да мяшкоў ён, праўда, спец —
Добра ўсё спачатку,
Але вось ужо Хлапец
Узышоў на кладку.
Памаленьку туп ды туп
Па жардзіне гнуткай,
А ўжо Бацька тут як тут
З дапамогай хуткай.
Толькі зменіць Сын нагу,
Кладка так і дыша...
«Я ж яму тут памагу,
Каб чаго не выйшла».
Хлопца трошкі мех хістаў —
Хоць бы даў ён рады!
Вось наш Бацька тут і стаў
Падаваць парады:
— Эх, нясе... курам на смех,
А сабе на шкоду.
Ды папраў ты трохі мех,
Бо зляціць у воду!
Зноў зваліў на правы бок.
Ну, прапала праца!
Ох, як бачу, галубок,
Будзеш ты купацца.
Хоць страляй яму ты ў лоб,
Так як тое дрэва.
Ці ты чуеш, асталоп?!
Пасунь мех улева!
Будзе! Будзе! Стой! Назад!
Вось навучы уроду!
Ўправа! Ўлева! Ах ты, гад!..
Шабулдых у воду.
З Сына мокрага цячэ,
Мех зусім заліўся,

Ну, а Бацька тут яшчэ
Горай наваліўся:
— Я ж казаў табе даўно:
«Паляціш, зараза».
Мех, Сынок, пайшоў на дно,
Хоць бы й ты з ім разам.
. . . . . . . . . . .

Так (няхай ён затане!)
«Памагаты» нейкі
Ледзь надоечы й з мяне
Не зрабіў калекі.

Напісаў... Дрыжу як ліст...
Стаў мне свет нямілы:
«Вось дзе,— скажуць,— ухіліст!
Зразу — два ухілы».
Скажуць, гну я не туды,
Супраць кіраўніцтва.
Чым давесці мне тады?
Як абараніцца?
Памагатым у адказ
Я сказаў бы: «Братцы!
Пацярпіце на той час,
Як я йду па кладцы!»

*1932*

## БАЛАБОНЬ ДА ПАРЫ, БАЛАБОНЬ!

Гэты верш ахвяроўваю фашыстоўскаму «Беларускаму звону» і галоўнаму званару яго Антону Луцкевічу. Даведаўся я, што «Беларускі звон» не абышоў мяне сваёю панскаю «ласкаю», перадрукаваўшы на сваіх брудных старонках пару маіх вершаў. Ахвотна дазваляю яму перадрукаваць вось гэты верш. Ганарар хай пакіне сабе на хаўтуры.

Бразгатлівы, хлуслівы зык.
Чый матляецца ў «Звоне» язык,
Змочаны пенай шаленства няскупа?

Пазнаю — фашыстоўскага слупа.
У іржавы пашчэрблены «Звон»
Так агідна бражджыць,— гэта ён
Захліпаецца брэхам нялюдскім —
Патыхае ад прозвішча Луцкам.
Гэты слуп быў для катаў апораю,
Як катавалі работніцу хворую;
Гэтым звонам працоўных цешылі,
Калі лепшых сыноў іх вешалі.
Пабражджаць ён заўсёды рад
Каля луцкіх жалезных крат,
Дзе ўвіхаецца люты кат,
Каб працоўны не счуў беларус
Ў дзверы ўшчэмленых пальцаў хруст!
Бразгаціць фашыстоўскі «Звон»,
Заглушыць намагаецца ён
Будаўніцтва грымоты у нас,
Творчы гоман мільённых мас,
Згодны голас народаў і рас
На будоўлі вялікіх дзён.
Бом!
        Бом!
                Бом!
Фашыстоўскім мядзяным ілбом,
Пазлацаным Кіртыкліса злотым,
«Біжмаваным» Пілсудскага ботам,
Апляваным даволі панамі,—
Аб фундамент, збудованы намі,
Бразь!
        Бразь!
                Бразь!
                        Хлоп!
Што мацней — ці фундамент, ці лоб?
Балабоніць у «Звоне» язык —
Такі хрыплы, фальшывы зык;
Падпадае антонаў агонь,—
Балабонь да пары, балабонь!
Дасканалы ў працоўных слых;
Сярод іх шмат упартых і злых,
Што рыхтуюць на ката ўдар
І на тых, хто іх кату прадаў,
Каб на гонях скрываўленых ніў
«Звон» хаўтуры сабе адзваніў.

*1932*

## КАТ У НЯМІЛАСЦІ

*(Меладрама ў адной дзеі)*

> Адстаўцы галоўнага ката Мацыеўскага польская фашысцкая прэса аддае такую ж увагу, як і адстаўцы міністра. Пан Мацкевіч-Цат — рэдактар манархічна-памешчыцкага віленскага «Слова» — выказвае сваё глыбокае спачуванне адстаўленаму кату.
>
> *З газет*

У П'ЕСЕ АРУДУЮЦЬ:

Пан Мацыеўскі — галоўны дзяржаўны кат Польшчы (у адстаўцы).

Пан Мацкевіч-Цат — рэдактар манархічна-памешчыцкай газеты «Слова» (выдаецца ў Вільні).

Два падарожныя.

### З'ява I

На сцэне асіна: за вяршок прывязана вяроўка з пятлёй на канцы. Другая шыбеніца — адмысловая.

Пан Мацыеўскі
*(заклікае)*

Людцы добрыя, мілыя!
Не шкадую ж вам мыла я.
Дасканала вяроўка намылена,
Маладая асінка нахілена —
Каму люба на ўлонні прыроды?
Не прашу я лішняй узнагароды:
Адмыслова магу павесіць
За злотых дзесяць.
Танней не магу, паверце, браткі!
Хто ж густуе пейзаж гарадскі,
Хоча глянуць на свет са знарочыстай вышкі,
Калі ласка — а-ля Лукішкі!
Вось вам — шыбеніца-перакладзінка!
Зроблена — во! Адгаблёвана гладзенька,
Памалёвана сёння нанова —
Тэхнікі нашай апошняе слова!
Дваццаць злотых — невялікая плата.

Пашкадуйце ж беспрацоўнага ката!
(Выйшаў, разумееце, казус гэтакі
Праз парушэнне катаўскай этыкі.)
Дайце ж зарабіць хаця крышку
На пальчаткі белыя ды на манішку!
Не пакіньце небараку
Без моднага фраку!
Дапамажыце, бо дзе ж гэта відана!
Тысяча злотых дзяржавай мне выдана.
Выходных такіх для галоўнага ката —
Самі разумееце — малавата.
Гэй, падыходзьце — вяроўка намылена!
Гэй, паспяшайце — асінка нахілена!
Каму люба — а-ля Лукішкі!
Не вазьму я з працоўнага лішкі.

З'ява II

Пан Мацкевіч-Цат
*(здымае капялюш і згінаецца ў пашане)*
Прабачце! Вы, пане, здаецца...

Пан Мацыеўскі
*(з гонарам)*
Вядомы кат.

Пан Мацкевіч-Цат
Я таксама вядомы... Мацкевіч-Цат...
На крэсах усходніх цэрбер пільны,
Рэдактар «Слова»,— выходзіць у Вільні.

Пан Мацыеўскі
А-а! Вельмі прыемна! Для гэтакай шышкі
Проша пейзажык а-ля Лукішкі.
*(Мерыцца накінуць на шыю рэдактара пятлю, прымацаваную да шыбеніцы.)*

Пан Мацкевіч-Цат
*(адступаецца задам, наставіўшы рукі з капелюшом у правай)*
Пан мяне трошкі... не так зразумеў...
Я крышку не тое... на ўвазе меў.

Дзякую, пане, вам за паслугу,
Але я прыйшоў, як найлепшаму другу,
Выказаць пану пашану сваю...
І... для газеткі ўзяць інтэрв'ю.
Наша газетка вельмі цікавіцца,
Чым пан жывіцца ды як пан бавіцца.

Пан Мацыеўскі

Жыву пакуль што, з ласкі бога-айца...
Жаліцца кату не вельмі да твару,
Цяжка, аднак жа, знайсці спажыўца
Мне для майго тавару.
*(Паказвае на шыбеніцу.)*
Стаіць без нагрузкі прыладдзе маё.
З фабрык і з вёсак гэта хам'ё
Дык проста аж нос адварочвае,
Калі начальства яго не заахвочвае.
Ох, цяжка жыць у няміласці ўлады!

Пан Мацкевіч-Цат

А дайце ж, пан, рады!
Пры вашай кваліфікацыі
Ды пры нашай пацыфікацыі,
Пры дэфіцытнасці ў нас вашай прафесіі
Пакінуць пана без працы
Не было ж аніякай рацыі!
Толькі ж за месяц вы сотню павесілі.
А тысячы іншых да вас у пашане застылі.
Ды вы ж, пане, герой... у старапольскім стылі.
Чуў я гэтымі днямі, нядаўна,
Пра заступніка вашага, Браўна,
Чуў пра яго досыць шмат,—
Дык гэта ж партач, а не кат!
Бярэ пяцьсот злотых на месяц,
Чалавека не ўмее павесіць.
Праўда, новыя кадры ўжо выяўляюцца,
Але ж і тыя ніяк не ўпраўляюцца.

Пан Мацыеўскі

Шчыра дзякую, пане,
За павагу ды спачуванне.
Буду мець я Мацкевіча-Цата
*(працягвае руку)*
За роднага брата.

Пан Мацкевіч-Цат
*(баязліва бярэ руку, косячы вокам на намыленую пятлю)*

Сведкаю будзе хай бог нам святы,
Што мы з вамі па духу браты.
Цясней нам сысціся даўно пара:
Вы — ад пятлі, а я — ад пяра,
А працуем над супольнай справай,
Карыстаемся роўнаю славай.
Пра што намякну я ў газеце пяром,
Вы дагаворыце тапаром;
Што распачну я нататкаю лоўкаю,
Тое пан скончыць... вось гэтай вяроўкаю.
*(З баязлівай павагай дакранаецца пальцам да пятлі.)*
Дык будзьма ж братамі і надалей.
Адзначу я, пане, і ваш юбілей —
Успамяну сваім цёплым «Словам»
Аб слаўным такім, так сказаць, стогаловым.
Хто ж славай такой з вамі можа памерацца?
Дазвольце ж, пане... ад шчырага сэрца...
*(Ад наплыву пачуццяў не можа больш гаварыць. Цат і кат горача абнімаюцца, вусны іх злучаюцца ў братнім пацалунку. Абодва ў экстазе заміраюць, не маючы сілы расстацца.)*

**З'ява III**

Два падарожныя: пан Луцкевіч і пан Астроўскі спыняюцца, глыбока расчуленыя праяўленнем такой моцнай дружбы. Дастаюць хусцінкі і выціраюць слёзы замілавання.

*Заслона*

*1932*

## З ФАШЫСТОЎСКАЙ ПАДВАРОТНІ

У засценку трушчаць косці,
Пан Луцкевіч чэша ў госці;
    Там за працай кат, кат,—
    Пан Луцкевіч рад.

Даў ахвяру ў рукі ката,—
Не благая будзе плата:
    Пан Луцкевіч — нюх, нюх —
    Чуе смачны дух.

Ён на кухню ваяводы
Дасканала знае ходы:
    Пан Луцкевіч — гаў, гаў,
    Каб Кіртykліс даў.

Ваяводу ён дагодзіць:
Так на задніх лапках ходзіць,
    Так лісліва — віль, віль.
    Пан Луцкевіч, піль!

Пан Кіртykліс кінуў злоты,
Пан Луцкевіч ліжа боты:
    Так старанна — лізь, лізь,
    Каб аж боты — бліснь!

Пёс рахманы ды ласкавы,
Даць яму вяндліны й кавы!
    Пан Луцкевіч, еш, еш,
    Будзеш гаўкаць лепш.

Начапі за шыю смела
Банцік бел-чырвона-белы.
    Як адслужыш — трах, трах:
    Не вялікі страх.

Вось яшчэ кілішак «вудкі»,
А цяпер — пайшоў да будкі!
    Пан Луцкевіч, ляж, ляж.
    — Я, паночак, ваш.

Шчэрыць зубы на ўсход сонца
І гайсае па старонцы

Яго верны брэх, брэх —
Здрадзіць пану грэх.

А за ім яшчэ паўсотні
З фашыстоўскай падваротні
На працоўных — гыр, гыр! —
«За грамадскі мір».

Ланцугі, аднак жа, рвуцца:
Будзе пану, будзе й сучцы:
Будуць суку біць, біць,
Будзе з панам выць.

*1932*

## ЦЯП!

«ГАРСНАБУ.
Мяркуецца да 30 фурманак торфу штодзённа. Пакажыце на Менскім рынку месца, якое адводзіцца для продажу торфу».

Рэзалюцыя ярмаркому
«Торфу прадаваць на ярмарцы не будзем. *Гантман*».

З ёю ж рады няма,
Ну й ліхая зіма
Баба!

Мае планы свае.
На паперкі плюе.
Нават гарснаба.

Рэзалюцыю ткні,
А яна хоць бы хны —
Цісне.

Паспрабуй тут сцярпець,
Як няпалена печ —
Свісні!

Дбае кожны здароў,
Як бы шурачку дроў,
Торфу.

А служака гарснаб
Рэзалюцыю — цяп:
«К чорту!»

Перастаньце бузіць!
Торф на рынкі вазіць
Хто даў волю?

Калі рынкамі зваць,
Дык ўжо й гандляваць?
Не дазволю!

Даражэнькі, прашу:
Абагрэць бы душу,—
Бач, марозік.

Чалавек бы прывёз —
Не кажу, цэлы воз —
Хаця возік.

Гнулі ж людзі свой горб,
Дык прадаць гэты торф
Марацъ.

Мо б хто з воз прывалок,
Падагрэць «кацялок»,
Чый не варыць.

Ды хутчэй, як мага!
Хоць бы гэтаму «Г»,
Што з гарснаба.

Бо наконт «кацялка»
І ў сяго дзівака
Слаба.

*1932*

## ПАКУТНІКІ-СУМЯШЧАЛЬНІКІ

Некаторыя юрысконсульты ўхітраюцца займаць па 8—12 пасад па сумяшчэнню ў розных установах.

*З газет*

І кім жа яны, і чаму ж яны
Так бязлітасна перагружаны?
Не адказныя, не начальнікі,
А пакутнікі-сумяшчальнікі.
З імі добра мяне пазнаёмілі!
Яны стогнуць і ў Мінску, і ў Гомелі,
Яны стогнуць па ўсёй старонцы —
Юрысконсульты-абіронцы.
Ці бароняць яны, не бароняць,
А нагрузачкі не правароняць:
І па дзесяць пасад і па восем,
І вясною пацеюць, і ўвосень.
Не такі ўжо й народ ганарысты:
І па пяцьсот бяруць, і па трыста,
Ды «сякія-такія» працэнты
Плацяць ім установы-кліенты.
Як за месяц усё пазбірае,
Ад нагрузак яго распірае...
Але ўсім ім пабіў рэкордзік
Нейкі віцебскі Чарнамордзік.
Ён на свой «аблакацкі» агузак
Узваліў аж дванаццаць нагрузак.
Абслужы вось тут кожнае месца,
Атрымай па два разы на месяц!
Варта б кожнаму тут чарнамордзіку
Завесці сабе хоць па «фордзіку».
А то прэ ён, каторы, пяшком,
Сапучы пад цяжкім мяшком,
Аж язык ля вушэй матляецца —
Ледзь даніну сабраць упраўляецца,—
Змокне ад поту, задыхаецца,
І сэрца ў яго, і дыхавіца,
Пад нагрузкамі гнуцца калені,
І, каб нагрузак паменшыць вагу,
Скідае ён лішні баласт на бягу,
Зусім не патрэбны баласт — сумленне.

*1932*

## ХЛЕБ І «ВАТА»

«...іжа ясі на небясі,
Хлеб наш насушны схавай нам днесь».
— Дзядзька, можа, здасі?
— Тварыш, дальбог жа, ўвесь.
(У «дзядзькі» наўмысле плаксівая міна.)
Паверыш, ну хоць бы асміна!
Сам патурбуйся, прайдзі да свірна.

Свіран, вядома, даўно пусты,
Збожжа, вядома, пайшло ў кусты.
Ды ўрэшце «таварыш» настроены мірна:
Ласку баіцца страціць навек,
Да «дзядзькі» плаксівага повен спагады;
«Што ні кажы ты, а і ён — чалавек,
Хоць і «цвёрдазады».
Мяккі «таварыш», проста як вата,
Хоць куды хочаш яго запіхай.
Развітваецца вінавата:
«Неяк жа будзе... няхай...
Як з яго возьмеш, калі ж ён божыцца?»

Падаўся «таварыш» па гладкай дарожачцы,
І хрысціць кулак мазгаўню цвёрдалобую:
«Ну, адкаснулася нячыстая сіла.
Дзякаваць богу! Мяйца і сына...
Хлеба яму... а трасцы з хваробаю!»

Лагодны «таварыш», быццам на шпацыры,
А ўслед яму — шротам кулацкія пацеры,
А ўслед яму шчэрыцца жоўты ікол.
Запісвай, «таварыш», сабе ў пратакол
Словы цягучыя з шэрае ваты:
«Захады ўсе прыняты».

Нам гэта «вата» абходзіцца дорага!
Яна ад удараў захоўвае ворага;
Яна прыкрывае пудоў мільёны
І хлеба, і мяса, і лёну,
Заўсёды гатова прыгрэць сваяка,—
Люба і куму, і брату, і свату
Стуліцца за гэтую «вату».
Ды нешта ж пра «вату» сказаў ЦК?

У бойцы за справу сацыялізма
Ударце па ваце апартунізма,
Каб аж ушчэнт расхвастаць,
Каб востраю зброяй працяць навылёт,
Каб аж норку пад ватай дастаць,
Дзе рыецца сёння кулацкі крот!

*1932*

## ЕДЗЕ КРЫТЫК МАЛАДЫ

*Да 23 красавіка 1932 г.*

На замораных гнядых,
Сам непадкаваны,
Едзе крытык малады
З пугай дратаванай.

Воз нялёгкі па гразі
Па калодкі грузне:
— Гэй, папутнік, не бузі!
Шавялі, саюзнік!

Вось дастану па вушах!
Гэй, шамкамі бразгай!
Выпаўзай на біты шлях
З каляіны гразкай!

Ходзіць пуга па хвасце:
— Не бал-лу-уй, папу-утнік!
На пятнаццатай вярсце
Не сцярпеў пакутнік:

— Крытык! Родненькі! Даруй
Мне з маёю музай!
Кіраваць-то ты кіруй,
Ды не вельмі тузай.

*1932*

## МАЙСТРЫ КРЫВАВАГА ДЖАЗА

> Гарматныя каралі збываюць сваe вырабы за межы пад выглядам музычнага інструмента.
>
> *З газет*

«Джаз!
джаз!
джаз!
Да ведама
ўсіх капельмайстраў джаза!
Найлепшыя струманты —
гэта ў нас:
Бравурна-зычныя
Струманты музычныя —
Бяры
і грымі
і наярвай адразу...»
Згуба камусьці,
а ім —
барышы,
Для гэтага ў фірмы
пэўныя шансы,
Тут
толькі ўмей —
раздзімай,
варушы,
Каб найхутчэй
закружыліся ў танцы.
Модныя фірмы
у ЗША,
Не застануцца і лорды
ззаду:
Розныя маркі,
адна душа
У фабрыкантаў
крывавага джазу.
«Хто аматар ладзіць джаз?
Лепшы струмант — гэта ў нас,
Струмант зычны і адборны:
Ёсць фаготы, ёсць валторны,
Можам даць мільён габояў,
Кожны з іх на пяць набояў;
Галасістыя ёсць флейты,

Толькі граць на іх умей ты:
Не зважай, што хто заплакан,
Націскай сабе на клапан —
Пік-пок!
Пік-пок!
Каго музыкай праніжа,
Распластае рукі крыжам,
Адтанцуе галубок.
Пік-пок!
Пік-пок!
Ёсць карнеты-а-пістоны.
Не зважай на енкі-стогны,
Ды закладвай сабе стужкі,
Ды наігрывай частушкі —
Тра-та-та!
Тра-та-та!
Хай танцуе бедната,
Хай тлусцеюць каралі,
Што машыну завялі.
Мір сусветны? Забабоны!
Ёсць зенітныя трамбоны,
Дальнабойныя басы.
Ой, басы дык басы! —
Дубам势 стануць валасы,
Калі грымне такі бас,
Дасканалы выйдзе джаз —
Раз — ба-бах!
Два — бу-бух!—
У танцораў зойме дух,
Ад вялікай весялосці
Ўрассыпную ляцяць косці.
Джаз адменны, беззаганны,
Дык шалёна скачацца,
Аж ніколі больш з нагамі
Галава не ўбачыцца.
Ой, люлі! Ой, люлі! —
Весяляцца каралі.
— Ёсць раялі! Вось раялі!
А ў іх гусенічны ход.
Каб без працы не стаялі,
Пасылаем мы на Ўсход.
Жар факстрот! Сып чарльстон
На раялі ў трыццаць тон.
Хай танцуюць кулі й рыкшы,

Танцаваць яны прывыкшы.
Тром! Тром!
Рыта-та!
Хай паскача бедната,
    Хай танцуе весела
Крывавае месіва,
Адпачне пасля ў зямлі,—
Хай балююць каралі!»
Як грымнуць музыкі
                    ў правінцыі Жэхэ,
Аж да Жэневы
            коціцца рэха;
Дзе страву гатуюць
                    пад назвай
                            «мір»,
Там
    вельмі дарэчы
                такі гарнір.
Драпежнікі
        пішуць вайны закон
Агнём
    і жалезам
            на жоўтых скурах,
І сочыцца
        мірны алей
                з языкоў
У лорда Сесіля
            і Поля Банкура,
І ў тых,
    што за імі
            ў цяньку стаяць,—
Дыпламаты
        і дыпламатыкі,—
Кожны
    правілы знае
            «на яць»
Імперыялістычнай граматыкі;
Кожны
    другога
        раззброіць рад,
А сам —
    нібы кветка мімозы;
На вуснах у кожнага —
                шакалад,

А за пазухай —
бамбавозы.
Бяльмом жа на воку
савецкі «госць»,—
Простыя словы,
а сэнс вялізны:
Яго дэкларацыі —
у горле косць
Акулам
імперыялізму.
«Каб свет не захлынаўся
больш
у крыві,
Увесь расшматаны
на рызманы,
Давайце раззброімся:
я і вы,—
Начыстую
і без маны».
Ах, як бы ахвотна
вы
гэты рот,
Паны дыпламаты,
заткнулі!
Ды воплескаў буру
з усіх шырот
Яму пасылаюць
абедзве паўкулі,
І музыка ладзіцца
наадварот:
Пад гэту
скакаць давядзецца факстрот
І самай найбольшай у свеце
акуле.
І песня тады прагучыць:
— Ой, люлі!
Адбалявалі сваё
каралі!
Па каралях
пралетарскай шарэнгаю —
плі!!!

*1933*

## ШЭПЧА БАБКА, ШЭПЧА...

Старшыня калгаса «Беларусь» Дзяржынскага раёна Янка Дардынскі і яго брат загадчык свінафермы Макар Дардынскі да хворых свіней замест ветэрынара запрасілі шаптуху. Амаль усе свінні падохлі.

*З селькораўскіх дапісаў*

Шэпча бабка ціха,
Шэпча бабка шчыра
Ў лапушнае вуха
Племяннога кныра.

Толькі шэптаў слухаць
Нешта ён не хоча —
І абвялі вушы,
І заплюшчыў вочы.

Можа, на бабульку
Сорам яму глянуць?
Мо такія шэпты,
Што аж вушы вянуць?..

Шэпча бабка свінцы,
Шэпча так ціхутка.
Мо ці не вяселле
Ёй нашэпча хутка?

Мо ці не пра хлопца
Маладзіца марыць?
Ці бабулька проста
Хоча пapляткарыць?..

Мала што бабулька
Нашаптаць умее!
Свінка-небарака
Толькі ружавее.

Мала каго бабка
Можа ёй пасватаць...
Перастала свінка
І нагамі кратаць.

І ніякіх шэптаў
Свінцы ўжо не ўцяміць,
І сказала бабка:
«Вечная ёй памяць».

І спяшае бабка
З дапамогай скорай
Ад памёршай гэтай
Да другое хворай.

Націрае соллю
І шапоча ціха,
Каб свінні ніколі
Не чапала ліха.

І свінню-мацёру
Ўжо з хлява выносяць,—
Сам загадчык фермы
Па свінні галосіць.

За свіннёй і кныра
Валакуць у яму —
Пахавалі тату,
Пахавалі маму,

Засталіся дзеці —
Бедныя сіроты,
Дык і тых панеслі
Хутка за вароты.

І Макар Дардынскі
І Дардынскі Янка
Лаюць-прабіраюць
Бабку-ашуканку.

«Ах ты, бабка-ведзьма,
Што ж ты нарабіла!
А была ў нас ферма,
Ёсць жа ў нас магіла.

Вось як возьмем, бабка,
Мы цябе за шкірку!..
Мусіць, нашаптала
Ты не ў тую дзірку.

Несвянцонай соллю,
Мусіць, націрала!
І праз тваю ласку
Мы цяпер без сала.

Ані паляндвіцы,
Ані тае шынкі —
І спраўляй як хочаш
Па свіннях памінкі!»

Старшыня гаруе
І загадчык фермы.
Чым жа заспакоіць
Можам іх цяпер мы?
Чым жа іх уцешыць?

. . . . . . . . .

Ад такога гора
Будзе ім уцехай
Слова пракурора.

*1935*

## ЖАРАБЯТЫ МОГУЦЬ БЫЦЬ

У калгасе «Серп і Молат» Нараўлянскага раёна конюх Ігнат Жур у 1934 годзе атрымаў прэмію (75 руб.) за стопрацэнтную злучку кабыл. Вясной 1935 года выявілася, што ні адна кабыла жарэбнай не была. Атрымліваць і прапіваць прэмію памагаў Журу старшыня калгаса Рапот.

*З селькораўскіх допісаў*

У калгасе на выгодзе,
На палянцы ля крыніцы
Разышліся ў карагодзе
Маладыя жарабіцы.
Развявае вецер грывы:
— Дзе ж ты, мілы, чарнагрывы?
Задзіраюць хвост трубой:
— Пагулялі б мы з табой.
Гоц, гоц, гоца-ца!
Жарабят нам хочацца.
І старыя нават маткі
Капытамі б'юць у ладкі.
Тут прыходзіць конюх Жур
Выганяць з распусніц дур:
— Вось уцешу вас я!
Бач, якія ласыя!
Племяннога жарабца?

А лазовага дубца!
Жарабец на стайні ж,
Як яго дастанеш?
Ён на стайні на чужой,
За калгаснаю мяжой,
Дый вялікі попыт,
Дый дарэмны клопат.
Дырэктыва ёсць — пакрыць?
Дык пра што тут гаварыць!
Першы раз нібыта?
Будзе шыта-крыта.
    Вечарком жа таго дня
Піша зводку старшыня.
Піша, не гаруе —
Жура прэміруе.
Растлумачвае, за што:
«Перакрыты на ўсе сто»
І маргае хітра:
— Збегай па паўлітра...
Налівай ды вып'ем, брат,
За калгасных жарабят.
Гэта на пачатак,
А цяпер за матак.
Ну, яшчэ за жарабка,
Дый урэжам трапака —
Гоц, гоц, гоца-ца!
Аж зямля калоціцца.
    Прайшло лета, прайшоў год,
Не надзівіцца народ:
— А дзе ж тое племя?
Выдавалі ж «прэмя»!
Прапілі яго даўно,
Жарабят жа не відно.
Халастыя маткі
Скачуць упрысядкі —
Гоц, гоц, гоца-ца! —
Каб давесці людзям,
Што ніяк без жарабца
Жарабят не будзе.

Калі жураў добра біць,
Жарабяты могуць быць.

*1935*

## КІМ МЫ СЁННЯ СТАЛІ

*Да пятнаццатай гадавіны*
*вызвалення Беларусі*
*ад белапалякаў*

Лапці, торба, хлеб з мякінай,
Цемра курнай хаты —
Невясёлыя ўспаміны
Аб жыцці праклятым.

Ад калыскі да магілы
Выціскалі сокі,
Кроў пілі, цягнулі жылы
Каты-крывасмокі.

Мудрасць Леніна вяла нас
Да шчаслівай долі,
Воля партыі яднала
Нас на ратным полі.

Крывасмокаў мы пабілі,
Катаў пахвасталі,
Кол асінавы забілі,
Каб яны не ўсталі.

Наша шчасце стала явай,
Мы здабыткі множым,
Ордэн Леніна нам славай
Грудзі упрыгожыў.

За сумленную работу
Ў вёсцы і ў сталіцы
Ёсць у нас і хлеб, і боты,
Чыстыя святліцы.

Клічам мы братоў у госці
На сход урачысты,—
Зеляннеюць хай ад злосці
За мяжой фашысты.

Праглынуць, што мы стварылі,
Толькі хай не мараць:
Па свінячым брудным рыле
Будзе чым ударыць.

*1935*

## ТАТА-ЗАЯЦ

*Байка*

Пасуцца па начах заўсёды коні нашы
З вясны да восені — даволі-такі часу.
Вось раз у досвітак на пашы
З кабылай аднаго калгаса
Сустрэўся Заяц каля куста,
І вельмі ўжо яму да густу
Прыйшлася гнедая кабыла.
Ну і яна яго нібыта палюбіла.
Не ведаю, за што ёй заяц люб,
Але ж ён хваліцца:— Фактычны,— кажа,— шлюб.—
Пачне смяяцца хто, дык Заяц пратэстуе,—
Быў шлюб нібыта не ўпустую:
Не болей як праз год
Ад шлюбу ёсць ужо прыплод —
Жарэбчык-сысунок буланы,
Такі рухавы, спрытны, слаўны.
Вядома, Тата-заяц рад —
Бяжыць туды, сюды, назад
І пад сабою ног не чуе;
Сяброў, знаёмых і радню
Абабяжыць ён дзесяць раз на дню:
— Вам,— кажа,— сына паказаць хачу я.
Сабраў кумоў, братоў, сватоў
І паказаў ім з-за кустоў:
— Ну, гляньце,— кажа,— чым не я?
І хвост такі кароценькі, куртаты,
І шэрсць, і вушы, як у таты,
І спрыт жа мой, і выпраўка мая!
А кпіны слухаць там і розную брыду —
Ды ну іх,— кажа,— к ліху!
Я ім яшчэ не тое давяду:
Вазьму і палюблю сланіху.
— І давядзі! — зайцы крычаць.—
Даўно пара!
Качаць разбойніка! Качаць!
Няхай жыве! Ура!
Такі ж удалы маладзец!
Палюбіць ён, каго захоча.
Але калгасны жарабец
Тут раптам калі зарагоча...

І тата той, і сваякі
Разбегліся ва ўсе бакі.

Такія сярод нас — зусім не навіна.
Вы толькі заўважайце:
Прэтэнзій у яго — хапіла б на слана,
Заслуг жа — як у зайца.
*1935*

## КАЛГАСНЫ ДЗЕД

І з выгляду просты, і проста адзет,
Ды гэта не проста, не так сабе дзед,

І шэрая світка зусім ні пры чым,—
У дзеда важнецкі інспектарскі чын.

Інспектар па якасці — гэта ж не жарт!
Патрэбны тут веды, і пільнасць, і гарт,

І чын яму спаць не дае па начах,—
Мільгаюць у дзеда агрэхі ў вачах.

Вясновае сонца вачэй не пратрэ,
А дзеда ўжо клопат, руплівасць бярэ,

А чын ужо штурхае дзеда пад бок:
— Таварыш інспектар! Пара, галубок...

І птушак дасужых звіняць галасы,
І дзедавы ногі шчымяць ад расы.

Ды ногі то, ўласна, зусім ні пры чым,
І моршчыцца ў дзеда ёсць многа прычын:

Вунь шэрае штосьці на чорнай раллі,—
Няўжо бо нядбайнікі зноў падвялі?

I грозна і гнеўна глядзіць ён на грэх,—
I ўсыпле ж дзед Сцёпку за гэты агрэх!

За тое, што добра дагледзеў вясны,
У прэмію дзеду падносяць штаны.

Штаны як штаны... Мо каб крышку вужэй,
Ды гонар для дзеда за ўсё даражэй.

Дахаты ён прыйдзе, пакажа старой:
— Ты ўсё мяне лаеш, а я вось герой.

Прытуліць старую к сівой барадзе
I горда падарак на стол пакладзе.

*1936*

## ДАВЯЛОСЯ СВІННІ НА НЕБА ГЛЯДЗЕЦЬ...

*Байка*

Жыла-была адна Свіння.
Паслушная сваёй прыродзе,
Яна ў гнаі капалася штодня
Ды рылася ў гародзе.
Часамі нават на лугу альбо на полі
Бываць прыходзілася ёй,
Але што ў небе ёсць, над галавой,
Свіння не бачыла ніколі.
Яна хоць чула нейкія гаворкі
Пра сонца, месяц і пра зоркі,
Ды гэта ўсё нічога ёй не гаварыла.
З-пад лапушных сваіх вушэй
Яна і глянуць не магла вышэй
Свайго свінога рыла.
Аж неяк раз Свіння хацела ўлезці
У моркаву суседскую ў гарод,
Узбілася дубка на плот
Пярэднімі нагамі ды грудзьмі

І... неба ўбачыла як мае быць, нарэшце.
— Дык вось яно, хвалёнае людзьмі! —
Захрукала расчаравана.—
Ні лужыны, ні яміны, ні калдабана,
Ніводнай нават кучы гною!
А выхваляюць жа — прастор ды прыгажосць!
Аж проста разбірае злосць,
Што кормяць нас такой маною!
Ну, шырыня, раўніна, гладзь...
Ну дык і што ж? За што іх выхваляць?
Якая мне карысць ад гэтай сіні?
Што неба роўнае — няма чаго дзівіцца:
Каб там было чым пажывіцца,
Яго б даўно парылі свінні.
А сонца ж вунь! Пра хараство яго
Нямала людзі языкамі клепюць,
А тут і хараства ўсяго,
Што вочы толькі слепіць.
Ну вось, пабачыла... Цяпер я з небам квіта.
Няхай туды імкнуцца праз вякі
Энтузіясты-дзівакі,
А мне мілей маё карыта.

*1938*

## ВОРАНУ ВЫШАЙ АРЛА НЕ ЛЯТАЦЬ

На нас узнімаюцца рыцары ночы,
Іх сочаць у цьме нашы зоркія вочы:
Хай точыць ім сэрца зялёная злосць,—
Па смерць сюды прыйдзе няпрошаны госць.

Як ворану вышай арла не лятаць,
Так ворагу нашай зямлі не таптаць.

Ёсць што бараніць нам і чым бараніцца,
Скала непрыступная наша граніца,
І пораху хопіць у нас, і свінца,
Каб ворагаў знішчыць усіх да канца.

Як ворану вышай арла не лятаць,
Так ворагу нашай зямлі не таптаць.

Мы сілы падвоім, мы храбрасць патроім,
Мы ворагаў іх жа крывёю напоім,
Як ворану вышай арла не лятаць,
Так ворагу нашай зямлі не таптаць.

*1939*

## ЛІСІ ХВОСТ І ВОЎЧЫ КЛЫК

Воўк прыкінуўся лісой
Перад беларусам:
«Не палохайся, я — свой,
З ласкай, не з прымусам.

Фюрэр наш — твой лепшы друг,
Вось — чытай паперку:
Каб падняць твой паўшы дух,
Шле табе цукерку.

Ён не можа бачыць слёз,
Постаці панурай
І прышле яшчэ абоз
Вам з мануфактурай.

Мы баронім твой жа край
Ад тваёй жа ўлады;
Зробім тут фашысцкі рай —
Будзеце вы рады...»

Байкі тыя беларус
Слухае з аглядкай,
Сам матае ўсё на вус:
«Брэшаш, ды не гладка.

Ёсць вас, гэткіх брахуноў,
Загаворваць зубы:
Гітлер ходзіць без штаноў,
Нам жа шые шубы;

Абяцае: боты дам,
Дам мануфактуры...
Ён пашыў бы боты нам,
Толькі... з нашай скуры;

Прызнаецца ўсё ў любві,
Спакушае раем,
Лапы ж брудныя ў крыві,
У чыёй — мы знаем.

Пад усмешкай воўчы клык,
А цукерка з ядам...
Падрыхтуем востры штык
«У падзяку» гадам».

*1941*

## РАЗВІТАННЕ СЫНА

Не сумуй па мне, старая,
Будзь здарова, маці!
Вораг край мой разбурае —
Ці ж сядзець мне ў хаце?

Ці ж на тое палівала
Ты зямліцу потам,
Каб яна цяпер стагнала
Пад фашысцкім ботам?

Ці ж на тое мне пра волю
Пела над калыскай,
Каб марнела наша доля
Пад пятой фашысцкай?

Лепш свабодным легчы ў полі
Ад варожай кулі,
Чым аддаць сябе ў няволю
І цябе, матуля.

Бараніць пайду свабоду,
Біцца з гадам лютым,
Што нясе майму народу
Здзекі і пакуты.

Будзем жывы — будзем рады
Лёсу маладому,
А пакуль не знішчым гадаў,
Не чакай дадому.

*1941*

## НАМ ПАМЯТНЫ ДВАЦЦАТЫ ГОД

Нам памятны дваццаты год
І Беларусь пад панскім гнётам;
Таптаў зямлю шляхецкі бот,
Палітую крывёй і потам.

Але народа вольны дух
Скарыць не здолеў вораг прагны:
Героя смерць раджала двух,
Пайшлі на бой лясы і багны.

Таго, хто гвалт і здзек тварыў,
Спаліў агонь народнай кары,
І ветру вольнага парыў
Развеяў над краінай хмары.

У рукі ўласныя свой лёс
Узяў народ вольналюбівы,
На вогнішчах палацы ўзнёс,
Ператварыў балоты ў нівы.

З вялікай брацкаю сям'ёй
Пад сцягам Леніна ён крочыў,
Ды раптам над яго зямлёй
Згусціўся змрок фашысцкай ночы.

Не знаюць літасці звяры,
Крывёю залілі абшары,
Гараць і крышацца муры,
Хаваюць пад сабой ахвяры.

Ідуць, закованыя ў сталь,
На нас драпежнікі і каты.
Народ, на бой рашучы ўстань!
Устань для помсты і расплаты!

Хай партызан былых сыны
Сваіх бацькоў прадоўжаць славу:
Няхай заплацяць груганы
Жыццём за чорную расправу!

За кулю — кулі, кроў — за кроў,—
Знішчай раз'юшаных звяроў!

*1941*

## ЗБРОЮ К БОЮ!

Зброю к бою, партызаны!
Лезе ў хату госць нязваны,
Лезе к нам фашысцкі гад —
Лоб стальны, ды кволы зад.

Напралом прывык ён перці,
Хай жа прэ насустрач смерці,—
Для гасцей такіх у нас
Падрыхтаваны прыпас:

З фронту — танкі ды гарматы,
З тылу — вілы ды гранаты,

З фронту — слаўныя палкі,
З тылу — вашыя штыкі.

Расквітаемся мы з гадам
Здружанымі сіламі:
Лоб стальны праб'ём снарадам,
Зад праніжам віламі.

*1941*

## ПАРТЫЗАНСКАЯ НОЧ

Золь асенняя, туман.
Шэпчуць жоўклыя лісты.
Ноч — сяброўка партызан,
Друг іх верны — лес густы.
Ціхі посвіст, лёгкі шорах,—
Цемра ночы ажыла...
Хай дрыжыць ад страху вораг,
Гэта смерць яго прыйшла.

*1941*

## ФРЫЦАВЫ ТРАФЕІ

«На Маскву табе маршрут»,—
Інфармуюць Фрыца.
Фрыц сказаў бадзёра: «Гут!
Можна пажывіцца».

Сала, масла, цукар, мёд
Гітлераўца вабяць:
Фрыц — плячысты на жывот
І мастак паграбіць.

Майстар «арганізаваць»
Вопратку, абутак;
А Маскву збіраўся ўзяць
Ён за двое сутак.

Роўнай стужкаю бяжыць
На Маскву дарога.
Па абочынах ляжыць
Мёртвых фрыцаў многа.

Шар парожняй галавы
Фрыц схіляе ніжай:
Недалёка да Масквы,
А да смерці бліжай.

Фрыц штодзень чакаў бяды
І сядзеў у шчэлі,
А фашысцкія рады
Больш і больш радзелі.

Чалавек мо дваццаць пяць
Засталося з роты...
Фрыц паспеў, аднак, прыдбаць
Ялавыя боты.

Фрыц зрабіў усё, што мог,
І сягоння рана
Сілай здзёр ён боты з ног
На сяле ў Івана.

Ціха крадзецца Іван
Да фашыста-ката;
У руцэ яго наган,
У другой — граната.

Захапіў паветра — ўзмах,
Гром і бліскавіца!..
І застыў на момант жах
У вачах у Фрыца.

Колаў стук сярод палёў,
Слуп рухомы дыму:
Едзе Фрыц з вайны дамоў,
Едзе на радзіму.

Ён зрабіў усё, што мог:
Боты тут, з сабою.
Не хапае толькі ног:
Ногі... пад Масквою.

*1941*

## СОН ГІТЛЕРА

Гітлер сніў салодкі сон,
Быццам ён — Напалеон.
Выклікае недавер'е
Ў нас эрзац Напалеона:
Як павыскубем мы пер'е,
Дык акажацца варона,
Што прыбралася была
Пад французскага арла.

*1942*

## БІБЛІЯ ЛЮДАЕДА

— Бог Вотан на небе,
Адольф — на зямлі,—
Вось мой закон і скрыжалі:
Бі, разбурай, душы і палі,
Каб падалі ніц і дрыжалі.

Той самы любімы з маіх салдат,
Хто гэты закон выпаўняе аддана,
Хто самы крывавы бязлітасны кат,
Таму і любоў і пашана.

Хто кроў чалавечую піць прывык,
Жанчынам вырэзвае грудзі,

Хто храбра дзяцей падымае на штык,
У царстве нябесным той будзе.

Я кроўю абшары зямныя залью,
І стануць рабамі народы,
І будуць угнойваць сабою зямлю
У славу арыйскай пароды.

Да ўлады я смела па трупах пайду,
Ступаючы кованым ботам,
І свет, як канцлагер, вакол абвяду
Калючым гартованым дротам.

Мы на гэта скажам гаду:
— Грозен рак, ды вочы ззаду!

*1942*

## АПОШНЯЯ СТАЎКА ГІТЛЕРА

Заядлы ігрок і упарты
Гітлер — фашысцкі пёс.
Паставіў усё ён на карту —
Гонар дзяржавы, свой лёс.

Гебельс круціць шарманку,
Значыць — у Гітлера туз;
Крыкнуў ён хрыпла: «Па банку!
Іду... на Савецкі Саюз».

Мы адказалі: «Біта!
Пад Растовам і пад Масквой...»
Цяпер мы прымусім бандыта
Расплаціцца сваёй галавой.

*1942*

## ДВА ПАРАДЫ

### I. Парад крыжаносцаў

За Брусель і за Парыж,
За Бялград і за Афіны,
За пажары, за руіны
Начапіў ім Гітлер крыж.
(Крыж жалезны — ганьбы знак,
Чорны, як душа фашыста.)
Цешыў ён сваіх сабак,
Абяцаў ім урачыста,
Што за лета, да зімы,
Будзем знішчаны і мы.
З крыкам — гох! пад гукі маршаў
Рушылі яны на Ўсход,
Стаў зямлю Радзімы нашай
Дратаваць фашысцкі бот.

### II. Парад крыжоў

Гневам, помстаю гарачай
Іх сустрэў герой-народ:
Смерцю чорнаю сабачай
Тут палёг фашысцкі зброд.
За пакуты, кроў і слёзы,
За разбой і грабяжы
Ім драўляныя, з бярозы,
Забяспечаны крыжы.
Хай ім сыпле Гітлер ласкі,
Хай ім Гебельс бае казкі
Хоць у сотню языкоў —
Мы прынялі іх па-наскі:
Засталіся толькі каскі
Ад арыйскіх чарапкоў.

*1942*

## МЫ АДДЗЯКУЕМ

*Адказ беларусаў сатрапу Гітлера*
*Вільгельму Кубэ*
*на яго праект зямельнай рэформы*

Гер гаўляйтэр Вільгельм Кубэ
Склаў праект рэформы:
Маскіруючыся груба,
Нам рыхтуе ёрмы.
Гер ахоплен тым жа шалам,
Што й ягоны фюрэр:
Мажа, шэльма, нашым салам
Ды па нашай скуры.
Землю нашу, як спакусу,
Суліць нам «сардэчна»,—
У арэнду беларусу
Аддае «навечна».
Апякуецца над намі
Вырадак гадзюкі,
Каб нямецкімі рабамі
Мы былі і ўнукі;
Спакушае селяніна
Жульніцкім манерам:
«Будзе вам жыццё — маліна
Пад нямецкім герам».
О, мы геру Кубэ верым
І аддзячыць зможам:
Той праект мы разам з герам
У зямлю паложым.

*1942*

## ДОБРА НАСАБАЧЫЎСЯ

На Асінторфе нямецкія акупанты знайшлі сабе аднаго вернага паслугачасабакавода Гадзюка.

— А па-нашаму ты ўмееш
Гаварыць з народам?
— Я ж дагэтуль, мой паночак,
Быў сабакаводам.
Насабачыўся тым часам,
Бачыў цюцек зблізку,
Не ўступлю цяпер ні ў чым я
І самому Лыску.
Дык прашу я ў панскай ласкі
Сабачага хлеба,
Пабрахаць жа я патраплю
І ўкушу, дзе трэба.

*1942*

## ГЕБЕЛЬС БРЭША — ВЕЦЕР НОСІЦЬ

Каб прыкрасіць крыху справы
Гітлераўскай банды,
У Берліне ёсць плюгавы
Доктар прапаганды —

Недалужнае стварэнне,
Карлік і крывеша,
Але брэша з захапленнем,
Несціхана брэша.

Не збрахаць, як карлік, столькі
Дзесяці сабакам,
Брэша больш ён у тры столкі,
Можа, нават з гакам.

Называў вайну ён бліцам,
Урачыстым маршам,
Набіваў галовы фрыцам
«Пераможным» фаршам,

Браў Маскву ён адным махам
Разам з Ленінградам,
Ачмураў пужлівых страхам
Ды фашысцкім ядам;

І пакуль пад Сталінградам
Фрыцы паміралі,
Языком віхлястым гада
Шарыў на Урале.

Чым мацней фашысты біты,
Чым іх большы смутак,
Тым больш карлік пладавіты
Выпускае «вутак».

Брахуны з ганні ягонай
Пішуць у газеце,
Што ўжо Арміі Чырвонай
Больш няма на свеце;

Што ўжо ў нас дзяды ваююць.
Што малыя ўнукі
У атаку штыкавую
Водзяць іх пад рукі;

Што ўжо дзеці — не падросткі,
А грудныя — ўзяты,
Што ў руках у войска соскі,
А не аўтаматы.

Нам ужо абрыдлі досыць
Байкі прайдзісвета.
— Гебельс брэша — вецер носіць,—
Кажам мы на гэта.

Як зачуем лопат «птушак»
З гэтага балота,
Б'ём мацней мы фрыцаў з пушак,
Косім з кулямёта.

Гэта спосаб самы хуткі,
Самы лепшы сродак:
Дохнуць Гебельсавы «вуткі»
Ад савецкіх зводак.

*1943*

## РАЗЛЮЛІ-ЛЮЛІ МАЛІНА

*Песня беларускіх партызан*

Раз фашысцкі чорны зброд
Пёр калонаю на ўсход.
Падабралася скаціна —
Разлюлі-люлі маліна!
Ой, ой, ну і зброд!
Разлюлі-люлі маліна!

Па балотах, па палях
Пралягаў шырокі шлях:
Ехаць вырадкам з Берліна —
Разлюлі-люлі маліна!
Ой, ой, ну і шлях!
Разлюлі-люлі маліна!

Едуць подлыя эс-эс,
Перад імі цёмны лес —
Што за ўдалая мясціна!
Разлюлі-люлі маліна!
Ой, ой, ну і лес —
Разлюлі-люлі маліна!

Што тут доўга варажыць —
Трэба міну залажыць!
Ну і штука, ну і міна!
Разлюлі-люлі маліна!
Ох, брат, ну й зарад!
Разлюлі-люлі маліна!

Ты шумі, зялёны гай,
Партызанам памагай!
Выбух, залпы, страляніна —
Разлюлі-люлі маліна!
Ой, ой, ну і бой!
Разлюлі-люлі маліна.

Хлопцы білі, як маглі,
Немцы трупамі ляглі.
Выйшла фрыцам дамавіна —
Разлюлі-люлі маліна!
Ой, ой, ну і бой!
Разлюлі-люлі маліна.

*1943*

## ОЙ, НЕ ХАДЗІ, ФРЫЦУ, ДЫЙ НА ВЕЧАРНІЦУ

Ой, не хадзі, фрыцу,
Дый на вечарніцу,
Бо на вечарніцы
Дзеўкі чараўніцы.

Катора дзяўчына
Аб радзіме дбае,
Такая для фрыца
Злыя чары мае.

У суботу фрыца
Дый прываражыла,
У нядзелю ўночы
Спаці палажыла.

Палажыла фрыца,
Каб не ўстаў ніколі,
Каб не засціў волі
Для дзявочай долі.

*1943*

## ПРЫГОДЫ ШТУМФА

У часе першых перамог
Штумф крычаў заўзята: «Гох!»
Каб вайну закончыць так,
Здаў ён фюрэру пінжак.
Не ідаць канца вайны,—
Здаў ён фюрэру штаны.
А каб ты, мой фюрэр, здох!—
Ні штаноў, ні перамог.

*1943*

## ЭПІТАФІЯ

Тут ляжыць высокі чын —
Кубэ, Гітлераў служака.
Пры жыцці быў сукін сын
І загінуў, як сабака.

*1943*

## ВЯСНОВЫ КІРМАШ КВЕТАК У БЕРЛІНЕ

На Берлінскім кірмашы
Многа кветак для душы...
Для тае душы, што з цела
Ў рай да бога паляцела.

Гандаль добра йдзе бязмерна,
І прыбытак ёсць казне:
Мо на кветках Гітлер верне,
Што ён страціў на вайне.

*1944*

## ЯНКА І КАРЛА

Янка і Карла суседзі былі,
Ды розныя сцежкі іх змалку вялі:
Янка вучыўся жыццё будаваць,
Карла вучыўся людзей забіваць;
Янка насіў на руках мазалі,
Ў Карлы яны не ў пашане былі;
Янка асушваў абшары балот,
Карла, як сыч, паглядаў цераз плот;
У Янкі на багне пшаніца расла,
У Карлы ад прагнасці слінка цякла;
У Янкі ад працы дом поўны дабра,
І Карла тут рушыў, сказаўшы: «Пара».
У двор ён да Янкі ідзе напралом,
Зрывае замкі ўсе, ўрываецца ў дом.
Тут Янка насустрач: «Што робіш?! Пастой!»
А Карла адказвае: «Дом гэты мой».
Янка пярэчыць, а Карла сваё:
«І статак, і свіран, і збожжа — маё».
Тут Янка да жонкі: «Мо сплю гэта я?»
А Карла за жонку: «І баба мая».
Янка абураны: «Гэта ж разбой!»
А Карла за Янку: «І сам жа ты мой.
Горы варочаць ты ўмееш гарбом,
Будзеш нядрэнным нямецкім рабом».
А Янка: «Ніколі, ва векі вякоў!»
А Карла як суне у твар кулаком:
«На тое парадак у нас і прымус.
На тое я — немец, а ты — беларус.
За гонар яшчэ палічы для сябе,
Што буду сядзець я ў цябе на гарбе».
Ад слоў гэтых Янку аж кінула ў жар.
Уцёр рукавом ён скрываўлены твар,—
Ад крыўды і гневу нутро ўсё гарыць,
І болей ён з Карлам не стаў гаварыць,—
Як скінуў Янук апранаху з плячэй,
Як спляжыў ён Карлу між прагных вачэй:
«Мяне захацеў ты? Дык на ж вось, бандыт!»
І вылезлі вочы ў фашыста з арбіт,
І бразнуўся Карла, сказаўшы: «Капут!»
Вось гэтак наш Янка пазбыўся пакут.

*1944*

## НА БАБРУЙСКАЙ ШАШЫ

Імчыць наш «газік». Па баках —
З крыжамі танкі, лом усякі,
І ўсцяж — павержаныя ў прах
Былыя Гітлера ваякі.
Брыдуць жывыя старaной,
Дакладней — ледзь жывыя фрыцы.
А гэта што там за герой?
Арыйка, мабыць,— у спадніцы.
Не разбярэш адразу тут:
Адзета постаць недалужна.
— Што? Дзеўка?
                    — Найн. Штаны капут,—
«Герой» нам адказаў паслушна.
Адзін з фашысцкіх бараноў —
Ён марыў пакарыць планету,
І вось пляцецца без штаноў
Плюгавы «заваёўнік свету».
    Імчыць наш «газік»... Той жа лом,
І тыя ж трупы ўздоўж дарогі,
І фрыц, што сам ідзе ў палон,—
Адзнакі нашай перамогі.
    «Дрыжыце ўсе, ён сілу льва займеў!» —
Крычалі халуі пра Гітлера-ваяку.
Мы ж, не пазнаўшы, што ён — леў,
Пабілі проста — як сабаку.

*1944*

## ГІТЛЕР МАРЦЕ ПАГРАЖАЕ, ЧАМУ МАРТА НЕ РАДЖАЕ

Адзін з паплечнікаў Гітлера ў сваёй прамове папракаў нямецкіх жанчын, што яны не хочуць павялічваць насельніцтва Германіі.

Ганса з фронту ждала Марта,
Ждала доўга і упарта,
Аб каханым, аб вяселлі
Часта марыла ў пасцелі,
Толькі... выйшла чапуха:
Чэрві з'елі жаніха.

Жаніхоў на фронце многа,
Марта выбрала другога.
Працякло ўжо шмат вады,
Што ж не едзе малады?
Што няма ваякі?
Трапіў Франц яе туды,
Дзе зімуюць ракі.

Абяцаў прыехаць Герман,
Толькі вось прыйшла зіма
І даўно мінуўся тэрмін,
А ўсё Германа няма.
Ах, няшчасны, божа мой!
Ён «захоплены» другой.

Фрыцу рыжаму, відаць,
Сэрца прыйдзецца аддаць.
Фрыц да Марты бег жаніцца
Ды сустрэўся са штыком,
І прыйшлося таму Фрыцу
Паміраць халасцяком.

Ёсць яшчэ Аскар і Вілі,
Іх на фронце не дабілі.
Фрэйлен Марта, пэўнай будзь:
Не дабілі, дык даб'юць.

*1944*

## ЛЯСНАЯ КАЗКА

> У некаторых раёнах БССР план нарыхтоўкі і вывазкі лесу знаходзіцца пад пагрозай зрыву. Раённыя кіраўнікі не прымаюць канкрэтных захадаў у дачыненні да зрыўшчыкаў плана.
>
> *З газет*

Лес высокі стаіць і гонкі,
Ды не ходзіць ён сам да чыгункі,
Растлумачвалі ж разоў дзвесце:
Трэба секчы яго ды везці.
    Атрымаў Абібок заданне,
А ахвоты тае — анізвання:
Паглядзіць на лес ён здалёку,—
Моташна Абібоку.
Лесу многа, ды розных парод...
«Трэба, выходзіць, склікаць народ,
Чытаць з раёна паперу
Ды брацца-такі за сякеру
І махаць, і махаць да поту...
Выдумалі ж работу!
Трэба тут з сілай, ды не малою,
А потым шоргай яшчэ пілою,
Так натрэш і мазоль часамі;
А потым — пніся, кладзі на сані
Ды цаліною тралюй да дарогі —
Тут памлеюць і рукі, і ногі.
Ды гэта ж не ўсё — лічы:
Да чыгункі яшчэ валачы.
Вось тут работка якая!
Няхай яна лепш пачакае,
Работа, як кажуць, у лес не ўцячэ,—
Зробім яшчэ.
Не такая пільная рэч...»
    І лёг жыватом на печ.
Тут начальнік з раёна прыскочыў:
— Чаго ж ты ляжыш, Абібоча?
Чаму ж у лес ты не едзеш?
— Тлумачыць — язык навярэдзіш
(Патыліцу чухае, крэхча).
Ехаць — дык трэба ж каня запрэгчы,
А збруі ніяк не збяру я,
Па ўсім калгасе раскідана збруя:

Дуга у Івана, хамут у Рамана,
Аглобля адна у Сцяпана,
А другая аж у Дзямяна,
У Савасцяна недзе папруга,—
Вельмі прыйшлося мне туга.
Дык я вось ляжу ды гарую:
Як жа сабраць мне збрую?
— А ты загадай, каб знеслі.
— Ох, гэта доўгія песні!
— Паспявай — не пашкодзіць.
— Загадваў — ніяк не выходзіць:
Панёс Іван дугу да Рамана,
А Раман хамут да Сцяпана,
Аглоблю Сцяпан да Дзямяна,
Той сваю да Савасцяна,
А Савасцян да Івана папругу,
Так і ходзяць яны па кругу,—
Не дагоніць хамут дугу...
— Дык хадзем, я табе памагу.
Ідзе Абібок па сяле
З начальнікам на чале.
Ад сядзібы ідуць да сядзібы,
Ад хаткі да хаткі —
Ліквідуюць усякія хібы
Ды арганізацыйныя непаладкі.
Узяўшы Івана, Рамана, Сцяпана, Дзямяна,
Павёў іх начальнік да Савасцяна,
А Савасцяну здалёк пагукаў,
Каб той стаяў ды чакаў.
Абібок дык аж дзівіцца тут:
— Сабраліся ў месца дуга і хамут!
Гэта штука, ядрона-мудрона!
Вось што значыць начальнік з раёна!
Шчыра дзякую за дапамогу!
— Запрагай жа цяпер і ў дарогу.
Абібок ад такога загаду
Заклапочана чухае ззаду:
— Запрагаць тут, начальнік, цяжка:
Адарвана ў папрузе пражка,
І няма ў хамуце супоні,
І някормлены яшчэ коні,
І дуга, ліха ёй, наламана,
І наогул ужо нярана,
Ды дарога ў лес не працёрта,

Ды ваўкоў жа ў лесе да чорта.
Туды ехаць — шукаць сабе згубы:
Пападзіся ім толькі на зубы!
    Глянуў начальнік сярдзітым вокам:
Што ты зробіш з такім Абібокам?
Не выконвае ён загаду,—
Трэба ехаць склікаць нараду.
    Пацелі раённыя цёці ды дзядзі
На раённай нарадзе,
Гаварылі тры дні і тры ночкі,
Нагаварылі сорак тры бочкі,
Разглядалі пытанне зблізку,
Наскідалі акуркаў міску,
Спісалі рулон паперы —
Намячалі ўсялякія меры,
Каб як Абібока да лесу прывесці.
А лес, як і быў, на месцы —
Высокі стаіць ды гонкі
І сам не ідзе да чыгункі,
Бо даведзена ўжо вякамі,
Што лес не сякуць языкамі.

*1947*

## ЛЁТЧЫК І БЛЫХА

*Байка*

Збіраўся Лётчык у палёт
Цяжкі і небяспечны —
Па-над тайгой адвечнай
З Масквы аж на Далёкі Ўсход,
Хацеў рэкорд выдатны ён паставіць,
Каб авіяцыю савецкую праславіць.
Вось зборы, клопаты ды вывучэнне карт:
Пракласці трасу як, калі прызначыць старт,
На колькі ўзяць харчоў, як лепей апрануцца
(Зімовы быў сезон).
І трэба ж тут Блысе паблізу апынуцца!

Не ўспеў наш Лётчык аглянуцца,
Як — скок Блыха ў яго камбінезон!
(Блыху занёс сюды не вецер,
А нейкі пёс — бульдог ці сетэр.)
Праз пару дзён,
Уранні,
На світанні,
Пад воплескі ды пажаданні
Узняўся ў неба наш Пілот
З цяжкім, адказным грузам,
І вестку радыё панесла над Саюзам:
Герой адправіўся ў палёт!
Ляціць герой, а на працягу трасы
З ім думкамі заводы і калгасы:
Якая тоўшча хмар і сіла тых вятроў?
І сам ён ці здароў?
Мо пагражае хлопцу небяспека?
(Нам дараг лёс такога чалавека.)
А што ж рабіла там Блыха?
З героем і яна ляцела,
Ды толькі знаць аб гэтым не хацела.
Блысе палёт той — чапуха.
Ёй выбрацца хутчэй бы з кажуха,
Дарвацца да жывога цела.
З трывогаю заўважвае Пілот
На крылах лёд,—
Напружвае ўсе сілы ля штурвала,
Блысе ж і гора мала:
Яна ўжо за кашуляй, на спіне
То тут, то там, нібы жыгала,
Балюча тне.
Ах ты, плюгавае стварэнне!
Ды некалі Блыху ганяць:
Хутчэй бы самалёт узняць,
Пазбавіцца абледзянення.
Вышэй! Яшчэ вышэй!
Няма ў Пілота іншай мары,
Як вырвацца з праклятай хмары.
Вышэй!
А кроў і з носа, і з вушэй,
І цела ўсё нібыта
Якімсьці волавам наліта,—
Патрэбен кісларод.
Прыкрыўшы маскай смаглы рот,

Герой працягвае палёт
І прабіваецца да сонца.
А дзесьці ўнізе там хвалюецца народ,
Узбуджаны бясконца:
Прыйшлі героя прывітаць,
Ды нешта доўга не відаць...
Ура! Ляцідь! Абдымкі, музыка, прамовы,
Гарачыя, ад сэрца, словы,—
Народ героем горд:
Адолеўшы і ост, і норд,
Наперакор марозу, ветру,
Пакрыўшы тысячы суровых кіламетраў,
Паставіў новы ён рэкорд.
— Што, што? Мне гэта слухаць дзіўна! —
Затрапяталася Блыха.—
Які рэкорд? Вар'яты! Ха-ха-ха!
Я ж суткі цэлыя была з ім неадрыўна
На той жа ўсё спіне,
Дык пра палёт ляпей вядома мне:
Я, праўда, насмакталася ўахвоту,
Але ж не бачыла ніякага палёту.
Дык што ж іх гэтак узняло?
Дзе гонару таго крыніцы?
Ўсяго ж маршруту ў нас было —
Ад каўняра да паясніцы.

Сям-там у нас такія блохі ёсць,
Што нашых поспехаў стараюцца не бачыць
І ўсё навыварат тлумачыць.
Такі мне ў крытыцы сустрэўся ягамосць.
Няздольны ахапіць савецкіх спраў вышыні,
Ён мераў нас на свой аршын блышыны.
Кузурак гэтых подленькая злосць,
Агідны іх смяшок слінявы
Не апаганяць нашай славы,
Не зменшаць нашых перамог,
Ды ўсё ж ляпей пазбавіцца ад блох.

*1949*

## ПОП І ПАПУГАЙ

*Байка*

Было
Сяло.
У ім — царква ды дом папоўскі,
А ў доме, як вядзецца, Поп.
І дзіва дзіўнае было б,
Каб ён не гроб,
Тым больш што Баця быў такоўскі:
Па барадзе — казёл, па голасе — Казлоўскі.
Бывала, ў алтары
Як возьме чарыцу малую
Ды як закоціць «алілую»,
Дык бабы плачуць, як бабры.
За гэтыя «святыя» песні
Яму, хоць плакалі, ды неслі.
У гаспадарцы ў Баці спор
(Яго не забывае паства):
Дабра, жывёлы повен двор —
Кароўкі, свінкі, птаства.
— Чаго ў цябе, айцец Яўлампій, не хапае? —
Яму сусед Памешчык гаварыў.—
Вось хіба толькі Папугая...
І Папугая ён аднойчы падарыў
(Нібыта для таго, каб забаўляць папіху,
Хоць сам жа ён і забаўляў паціху).
І вось пачуў аднойчы бог —
Ды што за ліха! —
Пяюць удвох!
А гэта перад службай Поп трэніраваўся.
І Папугай пад лад прыстасаваўся.
За спевы тыя Какаду
Давалі смачную яду,
Дык лепш ён за дзячка стараўся:
Цягнуў за Бацем з той пары
І кандакі, і трапары,
І нават «Іжэ херувімы»
Адолеў ён за зіму,—
Так налаўчыўся Папугай,
Хоць ты яму парафію давай.
«Святая птушка бога славіць,—
Пайшла гаворка паміж баб,—

І так жа добра, што магла б
Сама абедню правіць».
А тут якраз, як на бяду,
Памёр раптоўна Баця,
Пакінуўшы жалобу ў хаце
Ды Папугая Какаду,
Які, заўважце, ў часе адпявання
Цягнуў за іншымі «Надгробнае рыданне».
Каму на вусны смерць прыляпала пячаць,
Таму без руху спачываць,
Ну, а жывым наўме жывое:
Злюбіліся ў сяле тым двое,
Ды вось бяда — няма каму звянчаць.
Старыя раяць шлюб адкласці,
А маладыя прагнуць шчасця,—
Вось тут, як кажуць, і кукуй!
Ды некаму прыйшла тут думка неблагая:
Няма Папа, дык возьмем Папугая,—
Спяе і ён «Ісаія лікуй».
І вось Жаніх той і Нявеста
Сваё ў царкве занялі месца.
Каб шлюбны выканаць закон,
Даставіў Сват у клетцы Папугая
І семак даў — няхай паласуецца ён,
Дык весялей мо заспявае.
А Попка з радасці такой
Як гаркне: «Са святымі упакой»,
«Надгробнае рыданне»...
Нявеста тут адразу — гоп!
Жаніх жа той магутнаю рукою
Дурную птушку згроб:
— Вось я ж цябе, нягоднік, супакою!
І, як расказвае паданне,
Дастаўся Попка кошцы на сняданне.
Каб не маглі мараль як-небудзь перайначыць,
Я мушу байку растлумачыць:
Паехаў быў вучоны нештавед
Аж у Амерыку, за свет,
І розуму такога там набраўся,
Аж нос яго задраўся.
Вярнуўшыся, і ён, як Попка той,
Пачаў спяваць «за упакой».

*1949*

## ДЗІЦЯ, ВОЖЫК І ЗМЯЯ

*Байка*

Выходным днём у саснячку
Жанчына з дзіцянём гуляла,
Лягла пад сонца, задрамала,
А небяспека напаткала
Яе маленькую дачку.
З узгорка ўніз вядзе сцяжынка,—
Ідзе па ёй мая Дзяўчынка
Ды ловіць матылькі.
А гэтым часам пры сасонцы
Гадзюка грэецца на сонцы,—
Блішчыць на ёй узор лускі.
Дзяўчынка рада: «Цаца! Цаца!»
І хоча ўжо рукой хапіць,
А «цаца» пачала звівацца,
Лісліва, ціхенька сіпіць:
— Хачу, дзіця, з табой пасябравацца:
Цябе я ласкава, пяшчотна абаўю,
Пазнаеш ты любоў маю.
Аж раптам тут ля самых ножак
Зафыркаў злосна Вожык
І кінуўся адважна на Змяю.
Змяя ўзвілася бліскавіцай,
Зубамі хоча ўпіцца,
Мільгае промнямі лускі,
А ён, узброены іглiцай,
Зубоў змяіных не баіцца
І рве Гадзюку на кускі.
Дзяўчынка сціснула ад гневу кулачкі,
Крычыць на Вожыка: — Пачвара, недарэка!
Ты цацу сапсаваў маю!
За гэта я цябе наб'ю.
Ты — бека!
— Дзіця,— адказвае ёй Вожык,—
Хоць бека я, калючы, непрыгожы,
Але ж я знішчыў смерць тваю.
Як падрасцеш, ацэніш ты паслугу
І мне падзякуеш, як другу.

Дзіця дзіцём — і розум у яго такі.
Я не дзяцей тут меў на мэце,

А ёсць яшчэ дарослыя дзядзькі
        На свеце,
Што і змяю гатовы прытуліць,
    Якая іх умее пахваліць.
Такім мілей ліслівы гад паўзучы,
Чым верны друг, хоць і калючы.

*1950*

## БАЛАДА ПРА ЯЎТУХА

Быў хлопчык як хлопчык —
Гуляў сабе, рос,
Не думаў да часу
Пра будучы лёс,
Меў шмат закадычных
Адданых сяброў,
Гусей з імі пасвіў
І нават кароў,
І розум ён чэрпаў
З адных з імі кніг,
Але Яўтушок быў
Спрытнейшы за іх:
Умеў нацянькі ён
Да мэты ісці —
Пачаў вызначацца,
Пачаў ён расці.
Начальнікам хутка
Зрабіўся Яўтух,
І дружбы хлапечай
Агеньчык патух.
Сябры працавалі,
А ён усё рос,
І стаў задзірацца
Ўгару яго нос:
Ад велічы ўласнай
Праз год ці праз два
Аж стала кружыцца
Ў яго галава.

Не бачыў зямлі ён,
Не бачыў людзей,
Як быццам сурочыў
Яго ліхадзей.
І помы, і намы
Яму па чарзе
Дакладвалі, што там
Такое ўнізе.
На подпірках так ён
Хадзіў па зямлі,
На ёй жа ухабы
І ямы былі.
Аднойчы няўдалы,
Някемлівы нам
Не ўспеў папярэдзіць
Ад здрадніцкіх ям,
І плюхнуўся ў яму
Знянацку Яўтух...
І гэта вялікі,
Вялікі быў плюх.

*1963*

## ФІЛОСАФ І РАКА

*Байка*

Блукаў Філосаф па зямлі.
Чаго блукаў?
Мо праўды ён шукаў
І сцежак тых, што да яе вялі,
Мо вывучаў складанасць тых падзей,
Што выклікаюць у людзей
То радасць, то трывогі.
А толькі збіўся ён з дарогі,
Пайшоў да вёскі нацянькі
І апынуўся ля ракі.
Вось вёска ўся навідавоку,
Сям-там дымяцца каміны,

І смачны пах даносіцца здалёку:
Няйначай як пякуць бліны,
А можа, нават і мачанку
(Філосаф наш ад ранку
Не каштаваў ніякай стравы).
Ды вось бяда —
Наперадзе вада
І не відаць ніякай пераправы.
«Не будзем смутку паддавацца,—
Сказаў Філосаф наш, пачаўшы раздзявацца.—
Мне толькі варта зняць штаны,
І я паспею на бліны».
Аднак, раздзеўшыся, пачаў ён сумнявацца:
Ці то ў штанах, ці без штаноў —
Філосаф ёсць філосаф:
Паразважаць заўжды гатоў
Аб чалавечых лёсах.
«Які ж мяне самога лёс чакае?
Хоць розум мой глыбінь шукае,
Але ж вада тут чорная такая...
Таму адзначым: гэты глыб
Не для філосафаў — для рыб».
І тут, у гэтыя хвіліны
Сумненняў і разваг,
Пачуўся раптам роў асліны:
Асёл, прыспешыўшы хаду,
Імчаўся з берага ў ваду
(Відаць, усмаг).
Напіўшыся, стаяў, крапіў хвастом бакі
Аж на сярэдзіне ракі
(Аслу было тут па калені).
Філосаф зноў у задуменні:
«Чаму ж мы дна ў рацэ не бачым?
Даследуем і растлумачым:
Таму мы ў ёй не бачым дна,
Што ў вадаёме муць адна».

Так іншы твор са зместам цьмяным
Мы лічым ледзь не акіянам.

*1963*

## МУРАШКА І ЖУК

*Байка*

Раз летнім днём цераз дарогу
Мурашка пруцік валакла
Ды прыпынілася была,
Чакаючы сяброўку на падмогу.
І гэтым часам
Пачуўся нейкі гук,
Як бы спяваў хто басам,
А з гукам сеў паблізу Жук.
Глядзіць Мурашка палахліва:
Што за дзіва!
Такі бліскучы ягамосць —
Наставіў вусы ці то рогі,
Ідзе паважна ўздоўж дарогі,
Пагардліва наўкола пазірае,
Адзенне тое лакам ззяе —
Ці не замежны госць?
— Ну што, малеча, цяжка
Цягнуць такое на гарбе? —
Прамовіў Жук, заўважыўшы Мурашку.
— А мы працуем на сябе.
— Ды чуў... Пра гэта ўсюды трубяць.
Павага, слава, чэсць!
— Хто не працуе, той не есць.
— Давай, давай! Работа дурняў любіць.
— Без працы хіба можна жыць?
— Працуй. А мне наліха праца?
І без яе як мае быць
Магу я смачна есці, піць,
Па модзе апранацца,
А слава... Што мне слава!
— Ці-ка-ва.
— Калі цікава, дык хадзем,
Я пакажу ахвотна,
Дзе я жыву і што я ем,
Якім я водарам дышу,
Як час праводжу бесклапотна
І на гарбе цяжару не нашу.
І ты жыццё мо перайначыш,
Як гэта ўсё пабачыш.
Да мэты прасцяком

Паўзе Мурашка за Жуком:
Хоць вокам глянуць на той рай —
  На Жукавы палацы.
Мо праўда ёсць на свеце край,
Дзе можна жыць без працы.
Жук важна крочыць перадом,
  За ім Мурашка сціпла.
Жук ганарліва: — Вось мой дом!
  І тут... Мурашка ўліпла.

Такі ж не мелюць языком,
А праўду кажуць людзі:
Як папаўзеш ты за Жуком,
Дык апынешся ў брудзе.

*1964*

## ПЛЫВЕЦ-ТЭАРЭТЫК

*Байка*

Ён быў выдатны тэарэтык —
Па спорту воднаму мастак,
І што няправільна, не гэтак,
А трэба правільна вось так,
Заўсёды хораша тлумачыў
Аматарам-плыўцам.
Але як плавае ён сам,
Таго ніхто не бачыў.
Вось раз на ранішняй зарадцы
У хвалях быстрае ракі
Трэніраваліся спартсмены-юнакі,
А ён стаяў на кладцы;
Іх недахопы падмячаў,
Як лепей плаваць, навучаў,
Што значыць кроль, што значыць брас,
Калі гаворка йдзе пра найвышэйшы клас,
Як авалодаць батэрфляем,

Якому мы увагі не ўдзяляем;
Тлумачыў хлопцам без канца,
Як правільна даваць нырца,
Каб у глыбінях апынуцца
І як з глыбінь назад вярнуцца.
Так доўга б ён чытаў яшчэ натацыі
З уласнай дысертацыі,
Ды, як на злосць, пачаў з ім нехта спрэчку.
Наш майстар так расхваляваўся,
Спрачаючыся з юнакамі,
І так размахваць стаў рукамі,
Што аж на кладцы не ўтрымаўся
І... шабултых у рэчку.
— Ну, ён цяпер пакажа клас! —
Сказалі хлопцы ўраз.
Ды што за чорт! Чакаюць... Ждуць...
Яго няма, а бурбалкі ідуць.
Усплыў. Зяхнуў,
Рукой махнуў,
Як быццам развітаўся,
І зноў на дно падаўся.
Тут непярэліўкі, і хлопцы праз хвіліну
Цягнулі майстра за чупрыну.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А не было б тае бяды,
Каб плаваць ён вучыў паводдаль ад вады.

*1966*

## АСЁЛ ІСУСА ХРЫСТА

*Байка*

Калі ўязджаў Ісус Хрыстос
У Іерусалім,
Асёл яго на спіне вёз,
Натоўп ішоў за ім.
Крычаў «асанна» у хвалу
Збавіцелю свайму,

І ў галаву прыйшло Аслу,
Што гэта ўсё — яму.
«І шлях, усыпаны лісцём,—
Ён думаў,— гэта мне».
Ступаў, здаволены жыццём,
Па мяккім дыване.
Пакуль на ім Ісус Хрыстос
Па свеце вандраваў,
Заўсёды быў Аслу авёс
І свежая трава.
Калі ж айцец сваё дзіця
Узяў «на небеса»,
Не стала больш Аслу жыцця —
Ні славы, ні аўса.
Ў пашане быў і на віду,
А вось вам эпілог:
Асёл вазіў цяпер ваду,
Жаваў чартапалох.
І сумна ён махаў хвастом,
І думаў сумна ў такт:
«Калі я працаваў з Хрыстом,
Усё было не так».

*1966*

## ДЗІВАК-НАВАТАР

Нямала ёсць яшчэ натур
Дзівацкіх паміж нас.
Жыве адзін такі Артур
(Папросту — Апанас).

Наватар, што ні гавары!
Мастак па-свойму гнуць:
Усё нагамі дагары
Гатоў перавярнуць.

Што да яго стварыў народ,
Яму не пад нутро:

На ўсё ён толькі крывіць рот
І буркае: «Старо».

Ці ёсць з таго карысць, ці не,
Не здольны думаць ён,
А рад усякай навіне
Аддаць зямны паклон.

І так ён прагне навіны,
Ў такі ўвайшоў азарт,
Што нават стаў насіць штаны
Шырынкаю назад.

Усёй ваколіцы наўздзіў
(Я праўду гавару)
Ён нават сад перасадзіў
Карэннямі ўгару.

Тут людзі ахнулі: — Ого!
Вось гэта навіна! —
Пасля спыталіся ў яго:
— А дзе ж садавіна?

*1966*

## ШЛЯХІ ДА ІСЦІНЫ

*Байка*

Жылі ў суседстве два Іваны.
    Адзін — мудрэц —
Шукаў ва ўсім пачатак і канец,
    Другі — прастак —
    Жыў проста так.
Вось раз ідзе прастак з двара —
Касцюмчык, гальштук, папяроска.
    — Куды? — пытае цёзка.
    — Ды мне пара...

Вунь там у скверыку чакае
    Чарнявая такая.
— Я бо гляджу — надраіў чуб.
Жаніцца думаеш?
— А хоць бы й так?
— Дык ты ж не знаеш, што такое шлюб.
— Я па-вучонаму адказваць не бяруся,
Як ажанюся — разбяруся.
Прастак, дык ён і ёсць прастак.
А я хачу спачатку разабрацца.
    Цяжкая, праўда, праца,
    Вунь, бачыш, колькі кніг!
Усё пра шлюб сабрана ў іх
    Ад самага Адама.
Дык вось мая праграма:
Пакуль да сутнасці не дабяруся —
    Не ажанюся.
Ад першабытнае сям'і пачну.
    — Ну-ну!
Жадаю поспеху.
    — Табе таксама.
Пакуль мудрэц, сабраўшы кніжак стог,
    І дзень і ноч над імі сох,
Пакуль дабраўся да матрыярхату,
    Прастак прывёў чарняўку ў хату.
Яшчэ прайшло мо год ці два,
Штудзіруе разумнік том за томам,
    Трашчыць аж галава,
А ўсё канца няма крыніцам невядомым.
Раз, глянуўшы на свет, разумны аж здзівіўся:
    Сынок у «дурня» нарадзіўся.

Ішлі гады сваёй хадою...
    Пад старасць наш мудрэц,
Абросшы сівай барадою,
Знайшоў-такі пачатак і канец,
Але на сівізну кудзелі
    Нявесты не глядзелі.

*1966*

## НАЎЗДАГОН ЗА МОДАЮ

Нехта кажа, што я ў цэлым
Устарэў душой і целам:
Не прыстаў мне модны стыль,
І пара мяне ў утыль.

Хто ж дыктуе стыль той модны?
Ну вядома — «свет свабодны».
Хто не хіліцца да мод,
Той як быццам ідыёт.

Што ж рабіць мне — «ідыёту»?
Трэба брацца за работу,
Каб ніхто не мог пакпіць.
І работа ўжо кіпіць.

Каб трымаць на ўзроўні марку,
Грыву адпусціў на карку
Я з апошніх валасоў
На тарзанаўскі фасон.

Каб адсталым не памерці,
І ў мастацтве на тры чвэрці
Скінуў я стары свой груз,—
Памяняў на новы густ.

Што мне Моцарты і Глінкі!
Я не бачу ў іх жывінкі
І аддаў бы ўсіх зараз
За адзін сучасны джаз.

Як прыйшлося да гаворкі,
Дык і Горкі мне — не Горкі,
І праслаўлены Талстой
Леў зусім ужо не той.

Я засунуў іх пад лаўку
І чытаю толькі Кафку,
А часцей яшчэ Камю,
Што падобны на Кюзьмю.

Для хутчэйшага прагрэсу
Ўзяўся я за антып'есу
І рубаю з-за пляча
Твор для антыгледача.

*1971*

## АСТРЫЖАНЫ ВОЖЫК

Ва ўладара лясоў
Мядзведзя-старажыла
Ліса памочніцай служыла:
Вяла улік усіх звяроў,
Дакладвала: хто жыў-здароў,
Хто капытамі налажыў,
Хто грызся з кім і з кім дружыў.
І хто пра што пішчаў і роў,
Хто адабрэння заслужыў,
А на каго накладваць кару —
Прыносіць у ахвяру,—
Ну, адным словам, памагала
Мядзведзю кіраваць.
Пры гэтым бессаромна лгала,
Каб і сабе кавалак уварваць.
Што б ні пляла Лісіца-хлус,
Мядзведзь усё матаў на вус.
Пры рапарце яна сказала раз,
Што ўжо даўно яе трывожыць
Мясцовы дзікабраз,
Іначы кажучы, няўклюда Вожык.
Такая патароча,
Што знацца з ім ніхто не хоча,
Ды як тут сябраваць і ладзіць?
Ні дакрануцца, ні пагладзіць.
Пакутуе і сам ён, небарак.
А па характару ж — дабрак,
І каб не гэтыя калючыя драты,
Ён быў бы ў нас узорам дабраты.
— Калючкі — што! —
сказаў Мядзведзь.—
Важней нам у нутро глядзець.
— Каб тых калючак дзве ці тры,
Дык ліха іх бяры,
Не стала б настырацца я,
А тут жа канцэнтрацыя.
І для здароўя гэта шкодзіць.
Вы ж бачыце, які ён стаў,
І справу б добрую зрабілі,
Каб самі з ім пагаварылі.
Матэрыял я падбяру.
— Ну добра, я пагавару.

Скажы, няхай заходзіць,—
Мядзведзь прамармытаў.
Ліса здаволена: Міхал Патапыч
Пагаварыць патрапіць.
І сапраўды — у хуткім часе
Гаворка тая адбылася.
Была яна сардэчнай і лагоднай
Аб вопратцы нязграбнай і нямоднай,
Якую недарэчы
Прастак надзеў сабе на плечы,
Хоць лепш яму б дублёнка падышла.
Як Вожык гэта ўзяў на веру,
Цырульнікі, старанныя не ў меру,
Яго пад нуль астрыглі, дагала,
І ён Лісе дастаўся на вячэру.
Вось так змяняў ён сваю шубу
Сабе на згубу.

Яго наказ вам, вожыкі-браты:
Не разяўляйце вы раты,
Як хочуць вас зрабіць узорам дабраты,
Асцерагайцеся лісіных штучак,
Каб не застацца без калючак.

*1981*

## ЯДЛОВЕЦ І ДЗЕРАЗА

Не першы год у лесе рос
Гарэзлівы Ядловец,
Што хоць каго, задраўшы нос,
Калючкамі падловіць.

Пералічыўшы тры разы,
Чаго нібыта варты,
Пачаў аднойчы з Дзеразы
Ён строіць кпіны-жарты:

— Павагу тут мне аддае
Расліннае ўсё царства.
І людзі ягады мае
Збіраюць на лякарства.

Я — вунь які! На метры два.
А можа, нават болей,
А ты што? Марная трава
І поўзаеш па доле.

Устаць не можаш на вяршок
Над мохавай падушкай.
І твой хвалёны парашок —
Нікчэмная плывушка.

Ім толькі попку пасыпаць,
Калі дзіця папрэе.
Дык як такую паважаць?
Мо хіба хто здурэе.—

Так Дзеразу ён абражаў
Пагардліва і груба,
Але таго не заўважаў,
Што сам расце пад Дубам.

Як скончыў сёння я складаць
Пад вечар байку гэту,
Мне захацелася сказаць
Тут пару слоў Паэту:

Калі гучыць твая струна
Пагардліва, нядбала,
Ты не глядзі на Цвыркуна,
Глядзі лепш на Купалу.

*1981*

## ЖУК І БЛЫХА

Дваровы Жук, што варту нёс да ранку,
Лёг адпачыць ля ганка,
Дзе ён драмаць на сонейку прывык,
Як раптам — джык! —
Кальнула ў хвост нібы іглiца.
Махнуў хвастом — не памагае,
Яшчэ мацней, халера, джгае.
Ён ведаў з практыкі сабачай,
Што тут блыха ўжо, не іначай,
Залезла ў хвост крыві напіцца.
Не вынесшы пякельных мук,
Раз'юшаны ўсхапіўся Жук,
Вакол сябе пачаў круціцца,
Хацеў брыду яе зубам цяць,
Дык хвост далёка — не дастаць.
Тады пачаўся злосны брэх.
Як той казаў — і смех, і грэх:
Брахаць на хвост уласны —
Карысці мала, гэта ясна,
А як паможаш тут бядзе?
Брахаць са злосці на людзей?
Дык людзі ў тым не вінаваты,
Што дапякае зброд пракляты.

Па радыё з-за акіяна,
Калі ні ўключыш — позна, рана,
Нам клапатлівы дзядзя Сэм
Свой хрыплы «голас» пасылае
На дзень разоў мо з дваццаць сем,
А ў ім — атрута злая.
У Сэма дома розных блох —
Не дай ты бог.
А каб на свой ён хвост брахаў,
Дык бы ніколі не сціхаў,
Але натура ўжо такая:
Калі самому дапякае,
Што аж смыліць у Сэма зад,
Ён брэша на савецкі лад.
Я ў гэтым логікі не бачу,
Той нават Жукавай, сабачай.

*1981*

## ЛЕЎ-ВЕГЕТАРЫЯНЕЦ

Для ўсіх нас ясна і бясспрэчна,
Што жыць ніхто не будзе вечна.
Хоць будзь кароль, каваль ці жнец,
Валодай хоць якою сілай,
Не размінешся ты з магілай.
Вось так і Льву прыйшоў канец.
Пасля таго як на магіле
Звяры па ім пагаласілі,
Іх далікатна папрасілі
Праз тыдзень нейкі ці праз два
Ўспаміны напісаць пра Льва.
Тут ясна, што пра Льва ўспаміны
Усе пісаць павінны:
Ухілішся і не напішаш,
Спытаюць, чым ты дышаш.
Звяры пісалі, не драмалі
І так нябожчыка размалявалі,
Узнеслі на высокай хвалі,
Што самі аж не пазнавалі:
«Леў — гуманіст і дэмакрат,
Выдатны розум, геній,
Усім дабро рабіць быў рад,
Жывёлы кожнай быў ён брат,
Шакалу нават і гіене.
Ягонай ласкі, дабраты
Не бачаць хіба што краты.
Ён нават з леапардам ладзіў,
Ён зайца па галоўцы гладзіў,
Пяшчотна зебру абнімаў,
Да сэрца серну прыгарнуў,
Нікому рэбры не ламаў.
Вялікі і гуманны —
Нікога з жыхароў саванны
Ён нават кіпцем не крануў,
Мы веліч спраў яго пазналі
І Ясным Сонейкам назвалі».
Праз колькі дзён
Чытаў той твор, задраўшы хобат,
Рэдактар — мудры Слон,
І аўтары стаялі побач.
Чытаў, не завіхаўся,
Часамі ў біўні пасміхаўся,

А вывад быў яго такі:
— Ну мастакі!
Папрацавалі добра.
Надзвычай яркі выйшаў вобраз.
Узор для ўсіх уладароў:
Усіх ён лашчыў і любіў,
Ні разу грозна не зароў,
Усім адно дабро рабіў
І праяўляў бацькоўскі клопат.
Але што еў
Наш слаўны Леў,
Пра гэта тут не напісалі вы.
— Нічога, апрача травы,—
Сказала Антылопа.

Такіх уладароў «гуманных»,
Пад сонейка размаляваных,
Было ў гісторыі нямала:
Успамінаецца мне Мао.

*1981*

## КУКАРЭКУ

Важак курынай чарады
Фарсісты, хоць не малады,
Такі быў зух,
Што рызыкі хапіла б і на двух.
Як прадзеды яго спрадвеку,
І ён штодзень галёкаў кукарэку:
Перад світаннем, нацямочку,
На седале правёўшы ночку,
Ён звонкі голас падаваў,
Каб, хто жывы, уставаў,
І — дзіва дзіўнае! — як па сігналу,
Усё навокал ажывала:
Спявалі птушкі у бары,
Тарахкалі ў калгасе трактары,

На ферму да кароў
спяшаліся даяркі,—
У рух прыходзіла сяло,
І сонца, устаўшы з-за гары,
Дарыла першы промень яркі.
Тут Пеўню ў галаву прыйшло,
Што гэта ён такую мае ўладу,
Што без яго загаду
І сонца б не ўзышло.
Ну хто ж такому даў бы рады?
Натхнёны думкаю такой,
Ён храбра вёў курэй на грады,
Дзе грэблі цэлай талакой.
Калі ж драпежніцкі атрад
Аднойчы шуганулі з град
І цырымоніцца не сталі,
А нават пугай адхвасталі,
Ён гэтага не мог сцярпець
І даў зарок: — Не буду болей пець
Ні досвіткам, ні днём.
Няхай жа ўсё спіць мёртвым сном,
Пакуль я з годзік памаўчу.
Ох, я іх правучу! —
І сеў на седала — вучыць.
Мінае ноч, а ён маўчыць.
Змяняе золак цемру ночы.
І спеў птушыны ўжо гучыць,
А ён заплюшчыў вочы
І маўчыць.
Ужо і сонейка ўзышло,
Усё навокал ажыло.
І злосць і дзіва недарэку:
— Ды як жа так! Без кукарэку?!

Я раіў бы любому чалавеку,
Які часамі рэй вядзе
І не ў курынай грамадзе,
Не захапляцца ўласным «кукарэку»,
Калі ўсе ведаюць напэўна,
Што сонца ўзыдзе і без пеўня.

*1981*

## ДЫЯЛЕКТЫЧНАЯ СУПЯРЭЧНАСЦЬ

Адзін калгаснік-працавік,
Што лынды біць, як кажуць, не прывык,
Ніколі з часам не лічыўся
І ў дактароў ніколі не лячыўся,—
Заўжды здаровы быў, як бык,
І раптам... (Вось гэта «раптам»!
Якая скруха ні была б там,
Яно, на погляд чалавечы,
Заўсёды недарэчы.)
І раптам стаў ён сам не свой:
Нядобра нешта з галавой,—
Яна як быццам бы не тая:
У ёй і звон, і шум, і піск,
Павышаны, напэўна, ціск,—
Яго ў бакі хістае,
І цёмна робіцца ўваччу,—
Не йначай як сасуды.
«Ну што ж,— падумаў,— падлячу».
Што медыцына робіць цуды,
Пра гэта ён нямала чуў
І вось на ложку ўжо ў бальніцы.
Каля яго ўрачы, сястрыцы...
Аналізы, кардыяграмы,
І ўсё дыягназ той жа самы:
Выразны атэрасклероз,
Сасуды галаўнога мозга.
Вядома — вінаваты ўзрост,
Чакаць тут, чаго хочаш, можна.
У ход пайшлі таблеткі і мікстуры.
Хоць ён трывалай быў натуры
І не сказаць, каб кволы,
Але ж уколы!
На дзень аж тры разы па тры.
Цярпеў і гэта да пары,
Ды ўрэшце кажа да сястры:
— Што гэта ў вас за лекі,
Падобныя на здзекі?
Хваробу выганяць мне трэба з галавы,
А вы...
Уколы шпарыце так шпарка,
Што ўжо азадак мой, як тарка,
Хоць бульбу ты на ім дзяры,

І не шманаюць дактары.—
Сястра сказала: — Зажыве-е-е.
Такі ўжо ў нас парадак:
За непаладкі ў галаве
Адказвае азадак.

*1981*

## ПЛАДАЖОРКА

Праславіць я вучоных рад:
Узрошчаны навукай сад
Дае багатыя плады,

Але садоўнік, хоць і зоркі,
Не ўбачыць часам пладажоркі,
І тады
Сядзіць у яблыку чарвяк,
Пакуль яго не зловіць ВАК.

*1981*

## У ЛІТАРАТУРНЫХ КАЛІДОРАХ

— Ну й плешча крытык-недарэка!
Няма мазгоў у чалавека.
Дала прырода маху тут.
— Не ад прыроды гэты цуд:
Яго наспех, відаць, рабілі,—
Запраграміраваць забылі.

*1981*

## КАЛІ ПАРА КРЫЧАЦЬ «УРА»

*Байка*

Будаўнікам пяём мы славу
За гераічную іх справу.
Няхай жывуць будаўнікі,
Што гмахі ўзводзяць на вякі!
Але быў казус і такі:
Будаўнікі «аб'ект» здавалі
І, як маглі, грахі хавалі.
Былі заказчык і падрадчык,
Ад архітэктараў наглядчык,
Яшчэ там некалькі спяцоў,
А ўсіх — мо з дваццаць малайцоў.
Вось толькі не было жыльцоў:
Хоць дом для іх і будаваўся,
Без іх, на шчасце, ён здаваўся,
Бо хоць з бяды смяяцца — грэх,
Той домік быў — курам на смех:
«Аб'ект» не сходзіўся з праектам,
Фундамент быў з буйным дэфектам,
Каробкі ўстаўлены так-сяк,
Віселі дзверы накасяк.
Калі будаўнікам на гэта намякнулі,
Яны адно рукой махнулі.
Сказалі: — Гэта дробязь.—
І абяцалі, што даробяць
І прывядуць усё да толку,
Як атрымаюць працантоўку.
Хачу заўважыць я дарэчы,
Што ім ніхто і не пярэчыў,
Сказалі толькі: — Так дык так,—
І ў згодзе падпісалі акт.
Як з плеч звалілася гара,
Дык дружна крыкнулі: — Ура-а-а!
І быў такі магутны гук,
Што аж не вытрымалі сцены.

Не буду я апісваць гэтай сцэны,
А тым, што робяць,— абы з рук,
Скажу тут пару слоў:

Як будзеце здаваць вы зноў
І прыйдзе светлая пара
Крычаць «ура»
Аб славе вашых перамог,
Дык лепш крычыце вы з двара,
А то яшчэ не дай ты бог...

*1981*

## ГЕНЕТЫЧНЫ КОД, АБО АСЁЛ У ПАЛОСКУ

*Байка на фальклорны матыў*

Адзін вядомы заапарк
Для навуковай мэты
Жывёл усякіх безліч пар
Сабраў амаль з усёй планеты.
У гаспадарцы той, даўно не навасёл,
Служыў Асёл.
(Той самы, што з эзопаўскай пары
На ім няспынна ездзяць байкары.
Няхай ён, небарак, не тужыць
І нам яшчэ разок паслужыць.)
Пра заапарк жа той гавораць,
Што ў ім вучоныя дык проста цуды твораць.

Нібы, не гвалцячы прыроды,
Яны выводзяць там дзівосныя пароды,
Скрыжоўваюць лісу з тхаром,
Свінню з бабром,
А мухалоўку ледзь не з камаром.
(Узровень доследаў там сапраўды не нізкі,
Але ў казалах тых, напэўна, ёсць прыпіскі.)
Здавалася б, што возьмеш тут з Асла?
Але навука і яго знайшла:
Спецыяліст выдатны,
На доследы такія здатны,
Пераступіў яго парог,
І ў іх пачаўся дыялог:

— Дзень добры, Ося!
— Добры дзень!
Не думаў, што ў мой хлеў
Сам доктар забрыдзе.
— Цікавыя ёсць весці.
— Што-небудзь вам прывезці?
Ну, калі ласка, прывязу,
Не запрагаць жа вам казу.
— Ды не. На гэты раз
Другая просьба ёсць у нас.
— Якая, хоць скажы.
— Навуцы службу саслужы.
Без доследаў яна сляпая.
— Аслоў там без мяне хапае.
Я бачу іх амаль штодня.
— Дык тыя ж не табе раўня,
І доследаў нам з імі не праводзіць.
— А што? Не падыходзяць?
— Патрэбен нам Асёл — як мае быць.
— Дык што са мной вы будзеце рабіць?
— Калі ў нас пойдзе ўсё на лад,
Ты зробіш у навуку ўклад.
— І што мне за паслугу будзе?
— Павага. Дзякуй скажуць людзі.
— Няхай яны сваю падзяку
Заткнуць сабаку...
Мне ад яе і так баляць бакі.
— За подзвіг за такі...
— Я думаў, што аўса прыбавяць.
Люблю, прызнацца, пажаваць.
— Цябе навек праславяць.
— Гаворыш ты загадкай.
— Цябе мы хочам скрыжаваць.
— А з кім? Напэўна, з курапаткай.
— Я ґутарку вяду тут не на жарты.
— Ну-ну, давай! Выкладвай карты.
— Табе я вельмі раю
Вунь тую кралю,
Што абірае куст.
— Піжонку гэту, шалахвостку,
Што вопратка ў палоску?
О не! Яна мне не пад густ!
— Забудзься сёння ты пра густы.
— Ды не люблю я і распусты.

— Здаецца ж, подзвіг не цяжкі.
— Я буду лепш цягаць мяшкі.
— Мы хочам спалучыць красу і цягавітасць.
— Прашу вас,— праявіце літасць!
— З даўных часоў дзеля навукі
Цярпелі людзі вунь якія мукі,
Гарэлі на кастрах.
— Ну гэта — проста страх!
— І ўславілі сябе на цэлы свет.
— Дык што? І мне за імі ўслед?
— Не на касцёр жа, можа.
— А адмаўляцца, кажаш, непрыгожа?
— Ганебна. Праклянуць унукі.
— Ну, хіба што дзеля навукі.
— Дык, значыць, згода? Вельмі рад.
— Зраблю я гэты ўклад.
Угаварыў,— зраблю.
А ўнукі-праўнукі — бог з імі.
Скажыце толькі ёй, няхай піжаму зніме:
Я паласатых не люблю.
— Хай будзе так,— Аслу сказалі,—
Мы просьбу можам падтрымаць,—
І Зебру мешкавінай абвязалі —
Аслу пад масць.

. . . . . . . . . . . . .

Калі ж гібрыд на свет з'явіўся,
Увесь народ з яго дзівіўся:
Дык гэта ж нейкі плагіят!
Сам бацька рад быў і не рад:
Ад бацькі сын пабраў усё —
І вушы, й розум, як у таты,
Кругом як мае быць — Асёл,
Але чаму ён паласаты?
Палоскі — проста як у мамы,
Хоць не было на ёй піжамы.

Вось так вядомыя нам «штаты»,
Прыкрыўшы сцяг драпежна-паласаты
Дэмакратычнай мешкавінай,
Альянс наладжваюць з якойсьці там краінай:
Са скуры лезуць дыпламаты,

Ваўсю стараюцца паслы,
Каб справу вырашыць «па-боску».
І нараджаюцца аслы
Ў палоску.

*1981*

## МІРАЛЮБ З ТАМАГАЎКАМ

Зноў фальшывая усмешка
У яго не сходзіць з губ:
Мусіць, скажа зараз нешта
Рэйган — «шчыры міралюб».
Так і ёсць. Прамова з глянцам.
Расфарбованая ўшчэнт:
Бурны рост амерыканцам
Абяцае прэзідэнт.
Як надыдзе зараз восень,
З ёй не будзеш жартаваць:
Калі выбары на носе,
Можна й рай дакляраваць.
Гэту дзірку з абаранка
Людзі ведаюць даўно:
За пустою абяцанкай
Нічагуткі не відно.
Бурны рост, аднак жа, будзе,
Прэзідэнт не хлусіць тут:
Прырасце нямала людзям
Страху, гора і пакут.
І за мір стаіць гарою
Варкатлівы «галубок»
(Тут жа ядзерную зброю
Нам падсоўвае пад бок),
Патэтычна дэкламуе:
«Я людзей і мір люблю
І абняць гатоў самую
Цалкам матухну Зямлю».
Ды ў абдымкі аноконды
Не спяшаецца ніхто:

Бачыць свет, якія фонды
Асігнаваны на што.
Хто ж палезе ў пашчу гаду,
Страшны бачыўшы урок?
Лёс растоптанай Гранады
Шмат каго перасцярог.
У маньяка план шырокі
Супраць нас — «краіны зла».
Ён жа робіць нам намёкі
Наконт «круглага» стала.
На фальшывыя заяўкі
Мы сказалі цвёрда — пас!
Першынгі і тамагаўкі —
Гэта цацкі не для нас.
Мы за «круглы» стол не сядзем
Пад пагрозаю ракет.—
Не раздзелім з «добрым дзядзем»
Цырымонны этыкет.
Нам вядомы план вар'яцкі,
Ад якога свет згарыць.
Забірай, пан Рэйган, «цацкі»,
Тады будзем гаварыць.

*1984*

## «РЭЗЕРВЫ»

У калгасе йдзе праверка,
Дык узбуджаны настрой:
Гаспадарку строгай меркай
Правярае там кантроль.
Старшыня сябе праверыў —
Нервы моцныя ў яго:
На правалы ёсць рэзервы,
Ды якія! О-го-го!
Правяральшчыкам не нова
Варушыць такі калгас,
Ды на кожнае іх слова
Ў старшыні гатоў адказ.

— Мы ачышчанага зерня
Не знайшлі ў вас днём з агнём.
— А яно ў нас у рэзерве:
Будзем чысціць, як сажнём.
— Не аруць чамусьці глебы
Цэлых дзесяць трактароў.
— У рамонт здаваць іх трэба.
Тут рэзервы — будзь здароў.
— Не гатовы і камбайны,
Цалкам спраўных толькі два.
— Інжынер наш — хлопец дбайны,—
Падрыхтуе да жніва.
— А хто сядзе за штурвалы,
Каб па полі іх ганяць?
— Ёсць вакантных месц нямала —
Значыць, будзем запаўняць.
— План не выканан па мясу.
Вы калі яго здасце?
— Да зімы нямала часу —
Яшчэ мяса нарасце.
— Ураджай мінулым летам
Значна знізіўся ў вазе.
— Мы ўжо думалі аб гэтым...
Залічаем у рэзерв.
— А фінансы! Ледзьве дышуць,
Як заглянеш у баланс.
— Што? Даўгі? Дык нам іх спішуць,
Як рабілі ўжо не раз.
— Ой, таварышы! Няпроста
Вам прарыў ліквідаваць.
— Калі ёсць рэзервы росту,
Дык чаго там бедаваць.

*1984*

## РЭЖЫСЁР І ДРАМАТУРГ

*Сцэнка*

— Прачытаў? І што ты скажаш?
Павіншуеш? Ці мо спляжыш?
— Прачытаў без асалоды.
— Што? Не вытрымала моды?
Я ж ужо пра пастаноўку.
Каб на сцэну даць пуцёўку,
Думаў сёння гаварыць.
— Пачакаеш. Не гарыць.
— Новых п'ес у вас не густа,
Чым мая вам не да густу?
— Калі справа йдзе аб змесце,
Пасаліўшы, можна есці.
Але гэты твой герой...
— За героя я гарой.
Чым ён дрэнны? Рэж у вочы.
— Тым і дрэнны, што станоўчы.
— А станоўчасць хіба шкодзіць?
— Устарэла, не гучыць.
— Вось дык так! Тады выходзіць...
— Трэба неяк падмачыць.
— Не магу цябе я ўцяміць:
Ну нашто ж яго мне пляміць,
Калі ён кругом нармальны?
— Довад, мілы мой, банальны.
— Падмачы... А як падмочыш?
— Знойдзеш як, калі захочаш...
Мо на выпіўку ён сквапны...
— Не бярэ ў губу ні каплі,
Хіба ўжо як давядзецца.
— Можа, з жонкаю грызецца
І лупцуе, як казу.
— Я такога не скажу.
— Як з людзьмі ён?
— Вельмі чулы.
— Мо спазненні ці прагулы?
— Не. Прыходзіць ён на працу
Акуратна кожны дзень.
— Ну падсунуў ты мне цацу —
Куды хочаш, туды дзень.
Не знайду яму я месца.

— Выдумляеш ты, маэстра.
Гэта нейкая крутня!
— У мяне яна штодня.
— Падыход твой самаўпраўскі
Недарэчным я лічу.
Мне аж цёмна ўжо ўваччу.
— Я табе не Станіслаўскі —
Як хачу, так і кручу.
— Хто ж табе тады дагодзіць?..
З п'есай што? Пытаю зноў.
— Я сказаў — не падыходзіць.
Забірай, і будзь здароў.
— Можа, ўсё-такі паладзім?
Не чужы мне п'есы лёс.
— Што ж, давай тады пасадзім
Хоць бародаўку на нос.

*1984*

## ВОЎК І ГУМАНІСТ

*Байка*

Пастух Сцяпан быў гуманістам,
Перад прыродай слаўся лістам,—
Любіў лясы, лугі, палі
І ўсё жывое на зямлі.
Але, як краўся Воўк парою,
Пускаў у ход тады ён зброю,
Хоць з болем і не без пакут,
А Воўк тым часам тут як тут.
Сцяпан, схапіўшы дубальтоўку,
Хацеў смальнуць па Воўку.
А той: — «Пастой, не бухай,
Што я скажу, паслухай».
— Ну што?
— Ты, мусіць, непісьменны?
— Ды не, чытаю я нядрэнна.
— А што чытаў ты пра ваўкоў?

— Артыкул нейкіх дзівакоў.
Яны даводзяць,
Што ўжо ваўкам канец прыходзіць
І хутка будзе ўжо хана ім.
— Цябе ўсё гэта не кранае?
— Яны ж нямала людзям шкодзяць —
На іх абураны народ.
— А як звядзецца воўчы род,
Як будзе жыць твая атара
Без санітара?
Наводзяць тут на роздум сумны
Такія погляды твае:
Ты гома сапіенс разумны,
А тут чагосьці не стае.
Па нас біёлагі галосяць
І ў кнігу мерацца заносіць,
Што ў іх Чырвонаю завецца.
— Вядома, цяжка вам жывецца.
— Паколькі я твой меншы брат,
Дык мецЬ хачу надзею,
Што ты не ўлепіш мне зарад,
Як злому ліхадзею.—
Сцяпан задумаўся і апусціў ружжо.
Каб не пяклі сумлення мукі,
Рашыў не браць ён зброі ў рукі.
Тым часам Воўк у лесе ўжо.
Там за гадоў дзесятак
Іх расплодзіўся цэлы статак,
І дабрадзеі-санітары
Развалаклі ўжо паўатары,
А каб не знішчылі ўсю спрэс,
Пайшоў наш Гуманіст у лес.
Хацеў Знаёмага пабачыць,
Сказаць, што людзі аб іх плачуць.
Яму памог шчаслівы лёс
Сустрэцца з Шэрым нос у нос.
— Здароў, мой меншы брат!
Ну як жывеш і што жуеш?
Ты што? Мяне не пазнаеш?
— Чаму? Пазнаў і вельмі рад,
Што на спатканне ты з ваўкамі
Прыходзіш з голымі рукамі.
— Дык што? Ты маеш злы намер?
— Я ўсё ж такі драпежны звер

І жраць хачу.
— Пабойся бога.
— Я ўжо тры дні не жраў нічога.
Гайсаў, гайсаў... Не чую ног —
Які тут к чорту бог.
— Я ж адпусціў цябе — ваўчугу,—
Зрабі паслугу за паслугу.
Успомні — я твой большы брат.
— Даволі ўжо мне гэтых песень.
Ты ў тую кнігу не занесен,
Дык маю права [redacted] сажраць.
— Падлюга! Люты звер няўдзячны!
Якім тады я дурнем быў,
Што душагуба не забіў!
— А дурань, кажуць, вельмі смачны,—
Прагыркаў Воўк і Гуманіста з'еў.
Бадай што рацыю ён меў.

*1984*

## ЯК ДАБІЦЦА СЛАВЫ, НЕ РОБЯЧЫ СПРАВЫ

*Байка*

На лугу — калгасны статак
І Пярэсты між мароў.
А чаго ён там у штатах,
Запытай гаспадароў.

Заатэхнік там талковы,
Дбайны, вопытны пастух,
Дык абходзяцца каровы
Без Пярэстага паслуг:

Кожны год раджаюць маткі
І цялушак, і бычкоў,—
Скарачаюцца выдаткі,
Прыбывае малачко.

Так ідуць угору справы,
Калі з толкам іх рабіць.
І Пярэсты любіць славу,
Толькі як яе здабыць?

У Пярэстага з натугі
Аж маршчыны ўжо на лбе,—
Заатэхніка заслугі
Ён прыпісвае сабе:

«Хто сказаў, што я няўмека?
Плеткары нахабна лгуць.
Вось яна — мая сямейка,
Родны мне рагаты гурт.

Гэта — ўсё сыны і дочкі —
Мой уклад тут немалы»,—
Сыпле шчодра ён, як з бочкі,
Сваёй «працы» пахвалы.

«Клапачуся, як магу, я,
Пакуль моц не падвяла,
Каб ніводная рагуля
Перадойкай не была».

«Ну й хвалько! Брахаць — здаровы»,—
Смех і жарты навакол.
Аж заходзяцца каровы,
Бо не бык жа ён, а вол.

Я мяркую, што па часе
Прыклад баечны такі,
Бо не толькі у калгасе
Ёсць бясплодныя быкі.

*1985*

## «Я БЫЎ ЛЫСЫМ»

*Байка*

Пражыўшы восем год на свеце,
Калі і з граматай яшчэ быў
не ў ладах,
Я надпіс гэтакі ў газеце
Прабэкаў па складах
Пад кучаравай галавой
І быў, як кажуць, сам не свой —
Малюнак той так моцна мяне ўразіў.

Далей там сказана было:
«Калі вам, бедаку,
стаць лысым давялося,
Вы зможаце адолець зло,
Мы дапаможам у бядзе,
Як выпішаце нашы мазі
І будзеце ўжываць іх дзень у дзень,
Дык хутка адрасце валоссе,
І станеце прыгожым, як былі».

Далей ішлі рублі —
«Прыстойная» цана.

А я тады хоць быў малы сам,
Але баяўся ўжо стаць лысым.
Прашу:
— Купі мне тыя лекі, мама!
— Ды гэта ўсё мана,
Хлуслівая рэклама
І абяцанкі іх пустыя.
Валосікі ў цябе харошыя, густыя.
Якія яшчэ лекі! —
Смяецца мама з недарэкі.
Прайшла гадоў імклівых чарада
І пакаленняў змена —
Аж белая ў мяне ўжо барада
І чэрап голы як калена,—
Тут шавялюры ўжо не адрасці.

Але ў жыцці
Мы і сягоння сустракаем часам,

Калі знаёмімся з калгасам і саўгасам:
У банку — брэш,
На полі — плеш,
У справы глянь — не разбярэш,

А кіраўнік без прыкрасці панурай
Трасе фальшывай шавялюрай,
Задраўшы нос,
Надаўшы важны выгляд рысам,
Крычыць з трыбуны:
— Я быў лысым!
А вось узяўся і аброс,—
Самарэклама ў кожнай фразе...

Якія ж ужываў ён мазі?
Як папраўляў запушчаныя справы,
Што стаў раптоўна «кучаравым»
І так бадзёра ходзіць па зямлі?

Ён пристаўляў да палачак нулі.

*1986*

**МАТЫЛЬ І ЧАРВЯК**

У садзе летнім вечарком
Матыль сустрэўся з Чарвяком
(Ці, можа, матыліха)
І наракаць пачаў на лёс:
— Ну што за ліха!
Куды ні сунеш нос,
Усюды хларафос,
Запырсканы і сад і агарод.
І між людзей ідзе гаворка,
Што хутка згіне пладажорка,
Звядзецца наш старынны род.
Мне гэта слухаць горка.

Ты, можа, вылезеш, паглядзіш
І што-нішто парадзіш.
— Пакінь, сваяк!
Я гэтым не ўстрывожаны ніяк,—
Сказаў тут Матылю Чарвяк,
Што ў яблыку сядзеў.—
Гаворак тых аб нейкай там бядзе
Я слухаць не хачу.
Сяджу, маўчу
І мякаць сакавітую тачу,
Знаходжуся ў надзейным стане,
Ніякі хларафос мяне тут не дастане.
Якой ты ад мяне жадаеш дапамогі?
Калі я ем,
Дык глух і нем,
І што мне да тваіх праблем! —
Без клопату і без трывогі
Далей грызе ён яблык свой,
Хоць смерць ужо над галавой.

*1986*

## КОТ НА ЛАЎРАХ

У хаце ад мышэй вялікі неспакой,
І каб пазбавіцца ад прыкрасці такой,
Цімох набыў Ката,
Каток удаўся — любата:
Вясёлы, жвавы, дапаткі.
За ноч, калі святло пагасне,
Абыдзе ўсе куткі.
Як толькі мыш дзе шасне,
Ён — тут як тут,
І мышцы той ужо капут
У вострых кіпцюрах.
Так на мышэй нагнаў ён страх,
Што ў хаце стала ціхата...
І адпачынак для Ката.
Ад Цімаха Кату пашана,

Ад гаспадыні — ласка:
На снеданне яму смятана,
Кусочак добры мяска.
Кот на выгодзе раздурэў.
Ён растаўсцеў і раздабрэў
І стаў не Кот — Кацішча.
Яму ўжо цяжка ўзлезці на гарышча.
Пакуль Цімох Катом сваім хваліўся,
Зноў мышы ў хаце завяліся,
Але іх піску Кот нібы не чуе:
На печы ён і днюе і начуе.
Сядзіць, наставіўшы вусішчы
І вылупіўшы ліхтары,—
Хоць ты партрэт з яго твары.
Не меўшы сораму ні крышку,
Патрабаваў, каб штодзень мышку
Яму давалі на абед,
Каб, з'еўшы, ён з прыемнасцю ўявіў,
Што сам яе злавіў.
Бязглуздзіца, якой не бачыў свет,
Але давалі, здабывалі.
Каб гонар і прэстыж Ката падняць вышэй,
Сам Гаспадар лавіў яму мышэй
На кухні і ў падвале.

*1986*

## КАНСТРУКТАР І РОБАТ

Канструктар Робата стварыў.
Як ветру буйнага парыў,
Яго на крылах нёс,
Пакуль задумы вырашыўся лёс,
Пакуль ідэі, што яго натхнялі,
Тварэц убачыў у метале.
А колькі сіл ён гэтаму аддаў!
Недасыпаў, недаядаў,
Цярпеў прыдзіркі экспертызы,
Масцітых знатакоў капрызы.

Спец не адзін яму сабак навешаў.
Успомніць, дык не дай ты бог!
Усё адолеў, перамог.
І вось цуд тэхнікі навейшай —
Яго любімае дзіця,
Якому ён аддаў кусок свайго жыцця,
Працуе ўжо да вечара ад ранку.
Гарачыня — жывому не сцярпець,
А Робат — хоць бы што: сваю работу
Старанна робіць ён без поту.
Не просячы рублёў,
Заменьвае брыгаду кавалёў:
За разам раз, бесперастанку
Кладзе сталёвую балванку
Ў пякельную электрапеч
Рытмічна, акуратна, лоўка.
Як там часіну пабыла,
Распаленая дабяла,
Тэхнічны паскараючы прагрэс,
Паўзе яна пад прэс,
І вось гатовая пакоўка.
Канструктар наш у захапленні.
Гатоў упасці на калені,
Не ў сілах пачуццё суняць,
Памкнуўся ён дзіця сваё абняць
(Што ён цішком навінку замачыў,
Аб гэтым прамаўчым),
Але як толькі дакрануўся,
Ў абдымках Робата жалезных апынуўся:
Сынок як дасканалы спец
Адправіў спрытна бацьку ў печ.
Тварэнне знішчыла тварца —
Жахлівая, цяжкая страта.
Праблема тут для мудраца,
А што да тэхнікі — яна не вінавата:
Не будзьце з ёй запанібрата,
Не абнімайцеся з жалезным дружбаком,
Тым болей пад хмяльком.

*1986*

## КАСКАДЗЁРЫ Ў КОСМАСЕ

Рвецца Рэйган у эфір
І высока нос нясе:
Абяцае нам ён мір
Праз САІ у космасе,
Каб вісеў над галавой
Меч дамоклаў «зорных войн».
Балансуючы з САІ
У прадоння на краі,
Розуму наперакор
Ён гукае: — «Гэй, дазор!»
З НАТО верныя сябры —
За свабоду змагары!
Заклінаю вас я зноў —
Адгукніцеся на зоў!
З вамі я збудую мір-р-р
Аж на ўсю зямную шыр.
І тады (не стану лгаць)
Будзе ўсюды ціш і гладзь.
Хай не крыўдзіцца сусед,
Калі будзе ўсё як след,
Я з касмічнага катла
Нешта дам «краіне зла»,—
А мы Рэйгану ў адказ,
Як казалі ўжо не раз:
— Гнеш ты, містэр, не туды,
Тут нядоўга да бяды:
Нас піраты-лазеры
Непрыемна ўразілі.
І клякочуць ястрабы,
Што настаў іх час нібы.
Мы ж гаворым і далей:
— Мірны космас нам мілей.
Паўтарыўшы гэта зноў,
Скажам пару цёплых слоў:
— Паважаны сэр! Хэлоў!
Як тваё хаў ду ю ду?
Ты заўжды ў нас на віду,
Дзелавы і дапаткі.
Але й мы не прастакі:
Як сакрэтаў ні таі,
Раскусілі мы САІ,
Ты на міры ставіш крыж

І прытым яшчэ хітрыш,
Бачым мэту мы тваю:
За касмічны лэнч — сэнк'ю.
Лепей ты аб міры дбай.
Да спаткання, сэр! Гуд бай.

*1986*

## ДАСТАВАЛА

У калгасе — спраў навала,
А прыбыткі не раслі,
Але быў там даставала,
Што дастане з-пад зямлі.
Ён не траціў марна часу,
Дэфіцыты здабываў,
Даставаў і так, і гэтак,
Быў заўжды на ўсё гатоў,
І дастаў ён напаследак
Паўнацэнных пяць гадоў.

*1986*

## БЕСПРАЦОЎНАЯ КАБЫЛА

У калгасе ездзіць сталі
Ў магазін на самазвале.
Можна ездзіць на кабыле,
Запрагаць жа як — забылі.

*1986*

## *Эпіграмы*

* * *

НА «МАТЧЫНАГА СЫНА» СЫМОНА БАРАНАВЫХ

У людзей пра «Сына»
Кепская гамонка,—
Звешана чупрына,
Нудзіцца Сымонка:

Хоць дзіцятка ўрода,
Але бацьку шкода,
Хоць дзіцятка гніла,
Але бацьку міла.

* * *

Спыталіся ў мяне аднойчы юнакі:
— Нашто людзям лаўровыя вянкі?
Я адказаў з сумленнем чыстым:
— Патрэбы тут бываюць, кажу, дзве:
Адным — насіць на галаве,
Другім жа — крупнік гатаваць
з лаўровым лістам.

* * *

— Чаго так гучна б'юць літаўры?
Чый лоб увенчваюць лаўры?
Хто там такі?
— Ці ж ты сляпы?

Літаратурныя слупы.
— Каб прыспяшыць уздым культуры,
Народ на лаўры не скупы:
Тут дзе-нідзе літаратурны,
А рэшта ўсё... сапраўдныя слупы.

## НА ВУЛЬГАРЫЗАТАРА

Класікай харчуецца,
Толькі не разжоўвае,—
І адразу чуецца
Нешта ў ім маржовае.

## ІНТЭРВ'Ю ЯКУБА КОЛАСА

Быў я ў Парыжы на кангрэсе,
То ў Загібельцы, браце, лепш:
Грыбоў няма ў Булонскім лесе,
А ў Сене — хоць бы адзін лешч.

## «ТОЎСТАМУ» ПІСЬМЕННІКУ

Не надзімайся так, пастой:
Не ўсякі тоўсты — Леў Талстой.

## НА АНАНІМА

Спыталіся ў яго: — Ты ведаеш Іуду?
— Якога? Гэтага паскуду?
Іскарыёта, што прадаў Хрыста?
Гандляр паршывы! Свалата!
Ды я б яго павесіць загадаў:
Такі тавар! І танна так прадаў!

## НА ПРАЗАІКА

Празаік раманам хваліўся
Старонак на тысячу трыста,
Раман жа з паліцы зваліўся
І забіў раманіста.

## КРЭДА ХАЛТУРШЧЫКА Ў ПАЭЗІІ

Дзеля пары «цалкашоў»
Я нічым не грэбую:
Я ў паэзію пайшоў
За сваёй патрэбаю.

## «СТАРОЙ» ЗНАЁМАЙ У МІНІ-СПАДНІЦЫ

Што з таго, што ты, Марыя,
Ногі выставіш старыя?
Што з тых ног за прыгажосць?
І ў мяне такія ёсць.

## ДА ВЫХАДУ Ў СВЕТ «АНТАЛОГІІ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ»

Прырост на ферме Петруся —
Ад Муравейкі да Лася.
Расце, буяе пагалоўе...
Няхай гукае на здароўе,
Патрэбен толькі плот жалезны,
Аслы каб часам не залезлі.

## АДКАЗ НА «РОЗДУМ» МАКСІМА ТАНКА

. . . . . . . . . . . . . .

Прывык да дыэты, да цёплых галёш,
Да лазні з бярозавым венікам,
Пісаць пачынаю ўсё горш і горш —
Пара выбіраць акадэмікам.

*Максім Танк*

### I

Хлопец — проста як кроў з малаком,
А прыкінуўся ж такім бедаком,—
І цяжка дышацца,
І дрэнна пішацца,
Ну так адрахлеў не на жарты,
Што ў акадэмікі й варты.
Скажам яму без палемікі:
Рана яшчэ ў акадэмікі.

### II

Хвалююць паэта праблемы нязвычныя,
На твары — скептычныя рысы...
Не плюй на лысіны акадэмічныя —
Сам будзеш лысы.

*1960*

## СКАРГА

Я не горшы ад Рагойшы
І не меншы ад Камейшы,
А прабіцца не ўдаецца
Ні ў Саюз, ні ў выдавецтва.

* * *

Базыль, вядомы наш прамоўца,
Рашыў з трыбуны рэкнуць слоўца:
І тужыцца пры кожнай фразе,
Нібы сядзіць на унітазе.

## РЭПАРЦЁР

Як буду я ляжаць ужо ў труне,
Закончыўшы зямныя справы,
Ён, заклапочаны, рухавы,
Падскочыць з мікрафонам да мяне
І скажа: «Цесната! Я ледзь прабраўся.
Ну як вам мітынг спадабаўся?»

# БІБЛІЯ

## КНІГА БЫЦІЯ

*Вольны пераклад*

### Замест прадмовы

*Кожнаму, хто будзе чытаць гэту кнігу, належыць ведаць, што «Біблію» пісаў не я. Некаторыя кажуць, што «Біблію» пісаў Майсей. Няхай сабе Майсей. Але мы добра уведаем, што «Біблія» пісалася рознымі аўтарамі ў розныя часы. Хто б там ні пісаў, толькі гэта мая кніга з'яўляецца перакладам «Кнігі Быцiя».*

*Так і напісана: «Вольны пераклад». Розніца з Майсеем у нас будзе, па-першае, у стылі, а па-другое, вось у чым: у час перакладу «Кнігі Быцiя» з Майсеевай мовы згубілася тая вопратка святасці, у якую прыбралі яе «духоўныя бацькі» розных вер, і асталіся голыя біблейскія «факты». Праўда, што голыя факты, як і голых людзей, не заўсёды і не кожнаму прыемна бачыць. Але ж няхай даруюць мне паважаныя чытачы,— я не вінават: бачыце, біблейская вопратка «святасці» так струхлела, так збуцвела, што досыць да яе толькі дакрануцца, як яна адразу спадае і паказвае ўсю «прыгажосць» таго, што пад ёю хаваецца. А «факты» біблейскія я стараўся захаваць у цэласці. Хто гэтаму не верыць, няхай наведаецца да самога Майсея.*

АЎТАР

## УСТУП

Як былі яшчэ мы дзеткі,
Ўсе «Завет» вучылі «ветхі»,
Аб Адаме ды Абраме
Гаварылі часта з намі.
Казкі тыя ўсе дазвання
У «свяшэнным» ёсць «пісанні»;
Яно «Біблія» завецца,
Па-яўрэйску яно — «Тора».
Там ні каплі праўды, здэцца,
А маны дык цэла мора,
Толькі, мусіць, вось за тое
Яно й лічыцца святое.
Хто ж пісаў у кнігу гэту
Аб стварэнні хоць бы свету?
Ні жывёлы ж, ні людзей
Не было тады нідзе.
Вам на гэта багасловы
Тут адкажуць слова ў слова
І адкажуць згодна ўсе,
Што пісаў яе Майсей.
Бог Майсею па сакрэту
Сам пра тое гаварыў
На Сінайскай на гары,
Ну, а гэты — ўсяму свету.
Напісаў Майсей тут многа
Пра тварэнне свайго бога
І пра продкаў, пра дзядоў,
Што тры тысячы гадоў
Там жылі раней яго,
І дайшоў аж да таго,
Што ён нават сваю смерць
Сам апісвае й хаўтуры,—
Вось даверлівым натурам
Гэта трэ на ўвазе мець.
Справа ў тым, што тых «майсеяў»
Шмат на свеце бог насеяў:
Дзе адзін нягладка хлусіць —
Там другі паправіў, мусіць.
Ну, ды нас не лыкам мерадь,
Мы не думаем ім верыць;
Сцежка к праўдзе ў нас адна:
Мы павінны ўзяцца самі

Пакапацца ў тым «пісанні»,—
Дзе там праўда, дзе мана.
Тут на ўвазе маю я
Ўласна «Кнігу Быцця».

**Што, паводле Біблії,**
**было да стварэння свету**

Тысяч сем гадоў з паловай
Будзе, як зямля ўся наша
Не зямля была, а каша,
Калатуша, адным словам:
Цемра, гразь, вада, паветра,
А ўсё разам — бездань, нетра.
Што ж рабіў там бог Элогім?
(Назвы бога былі дзве:
І Элогім і Ягве.)
Невядома тое многім,
Тайна гэта й для Майсея.
Прачытаў вось кнігі ўсе я,
Ну а звестак не знайду.
Толькі ёсць, што «божы дух»
Над вадою там насіўся,
Бог жа, мусі, ў калатушы
Той папоцемку мясіўся,
Сам угразшы аж па вушы.
(Ці не лепш бы богу й духу
Вандраваць было пасуху?)
Вёў так «працу» гэту ён
Не адзін гадоў мільён,
А, між іншым, гэты бог
«Усё ведаў, усё мог».
Як павінна б была звацца
Сёння ў нас такая праца?
Тут ад бога, проста скажам,
Вельмі пахне сабатажам.
Так і жыў ён горш за быдла,
Але ўрэшце ўсё ж абрыдла.

**Стварэнне свету**

Як тварыў наш свет Элогім,
Вы дагадвайцеся самі,
Бо ў «свяшчэнным» тым «пісанні»
Дык сам чорт паломіць ногі.
Тут вось «Біблія» гаворыць,
Што ўсё бог Элогім творыць,
А ў другой пасля главе,—
Што яго тварыў Ягве.
На адной глядзім старонцы —
Ясна сказана даволі:
Чалавека перш за сонца
Бог стварыў і за жывёлін,
А ў другім знаходзім месцы,
Што ён створаны нарэшце.
Але з вамі мы найболей
Тут зачэпім казкі тыя,
Што ў часы яшчэ старыя
Нам папы казалі ў школе.
Ну, дык вось цяпер аб гэтым,
Як наш свет зрабіўся светам...
Жыць у цемры без работы
Богу больш няма ахвоты,
І вось ён без лішніх слоў
Буркнуў: — «Хай будзе святло!»
Зразу дзень зрабіўся з ночы,
Бог працёр далонню вочы
(Навярнулася сляза).
— Добра! — потым ён сказаў.—
Вось дзівак! Чаму ж бы мне
Не зрабіць таго раней?
Але скуль святло бярэцца,
Бог і сам не ведаў, здэцца,
Бо пра сонца ды пра зоркі
Не было яшчэ гаворкі.
Прайшлі вечар, ноч і ранне,
Надышоў другі ўжо дзень,
Ну вось так усё дазвання,
Як і ў нас цяпер ідзе.
А назаўтра бог Элогім
Нездаволены быў многім...
Праўдзівей за ўсё, адным —
Тым абшарам вадзяным.

Бо вакол, як скінуць вокам,
Скрозь — і блізка, і далёка —
Больш нічога не відаць,
Толькі ўсё — вада й вада.
Бог падумаў: «Дрэнна справа —
Вечна боўтайся ды плавай,
На сухім ні стаць, ні сесці».
І рашыў за працу ўзяцца —
Асушэнне там правесці.
Закіпела ў яго праца
(Не рукамі — языком,—
Так твары́ў ён век-вяком).
Вось сказаў Элогім слова —
Сцяна цвёрдая гатова.
І яна ўжо (зноў па слову)
Падзяліла напалову
Той бязмерны глыб вады —
Часць сюды, а часць туды.
А цяпер вам ведаць трэба,
Што было сцяною неба.
    Нашы хлопцы піянеры
Дык не хочуць таму верыць,
Кажуць, цвёрдая сцяна —
Гэта выдумка адна.
Ды і мы ў сцяну не верым...
    Дзень на трэці, нам вядома,
Бог сказаў: — Вось гэта дзела!
Ды ў дадатак «аграномам»:
З дапамогаю гаворкі
Ён зрабіў лагчыны, горкі,
Воду ўсю сабраў у моры,
Акіяны ды азёры;
Загадаў пасля зямлі,
Каб яна дала раслін.
І палезлі дрэвы, травы,
Кветкі з колерам яскравым —
Ўся зямля зазелянела.
Паглядзеўшы на траву,
Бог сказаў: — Вось гэта дзела!
А я столькі год жыву
Дзіваком на свеце божым
І не ведаў, што прыгожа.
Гэту скончыўшы гаворку,
Бог прылёг пасля на ўзгорку

І праспаў, як ноч вяліка
(На сухім, а не ў вадзе),
А за ноччу ж дзень ідзе.
Дзень чацвёрты быў па ліку.
Прахапіўся бог знянацку,—
Бачыць ён — паўдня, не ранне.
Што тут зробіш да змяркання?
І рашыў рабіць ён цацкі.
Зноў ён словамі гаворкі
Робіць сонца, месяц, зоркі,
Зорак болей як мага,
І аддаў пасля загад,
Каб найбольшае свяціла —
Сонца — толькі днём хадзіла,
Рэшта меншых — толькі ўночы.
(Так і ёсць, бо «бог так хоча».)
Я згаджуся разоў дзесяць,
Што патрэбны зоркі й месяц,
Бо без іх, мы проста скажам,
Ноч была б чарней, як сажа,
І, напэўна, я даўно сам
Быў бы ўжо з разбітым носам
Ці нагу зламаць бы мог.
Толькі дзіва мне бясконца,
Вось наліха гэта сонца
Утварыў, нарэшце, бог?
Бо было ж ужо святло
Ды, напэўна, і цяпло,
Бо іначай на зямлі
Дрэвы, травы б не раслі...
Вось настаў ужо дзень пяты,
А Элогім наш заўзяты
Яшчэ светам нездаволен
І пачаў тварыць жывёлін.
Ажылі марскія глыбы,
Закішэлі ракі, рыбы
Рознай формы й пекнаты,
І акулы, і кіты,
І агіды-кракадзілы
Перад богам захадзілі;
Жабы, яшчаркі і гады —
Ўсе жыццю без меры рады —
Паднялі страшэнны сык,
Выстаўляючы язык.

Бог падумаў: «Эх, дурны!
Ну, на чорта ж тут яны?
Хто стварыць мяне прымусіў
Гэту гадкую брыду?
Проста толку не знайду;
Я ж цяпер іх сам баюся —
І няйначай будзе трэба
Уцякаць ад іх на неба».
    Хібу гэту каб паправіць,
Як тварца сябе праславіць,
Пасля змей, акул гарлатых
Бог стварыў яшчэ крылатых
І чароды розных птушак
Па-над морам, па-над сушай,
Па-над лесам і балотам
Пранялі паветра лётам,
Хто высока, а хто нізка,
З крыкам, карканнем і піскам...
    І на шосты нават дзень
Тая праца ў бога йдзе.
Ў гэты дзень наш бог Элогім
Натварыў чатырохногіх —
Коней, козаў ды кароў,
Ды шчэ розных там звяроў.
Як тварыў, якім начыннем —
Не знайшлі мы тлумачэння.
Нам яшчэ не ясна трошку —
Ці стварыў тады бог мошку,
Ці з'явілася сама?
У «пісанні» штосьці няма.
Натварыў так бог жывёлін
І ўжо надта быў здаволен,
Ды яшчэ вось працы нейкай
Заставалася крыха —
Трэба ж ім і пастуха!
Стаў тварыць ён чалавека.
Не падумайце благога
Наконт гэтага пра бога:
Ён набраў у жменю гліны
І дабавіў туды сліны;
Як размякла ўся яна,
Дык зляпіў ён балвана
«По подобию» свайму.
А пасля ўжо бог яму,

Не шкадуючы, пад нос
«Духу божага» паднёс.
(Так па-боскаму, здаецца,
Нашатырны спірт завецца.)
Той жа чхнуў і ўраз прачнуўся,
Перад богам апынуўся,
І адразу, паўшы ніцма,
Стаў ён славіць і маліцца.
Бог падняцца загадаў
І назваў яго — Адам.
    Такім чынам, мы тут бачым,
Што Элогім быў, няйначай,
Саматужнік і няўмека,
Бо ён нават чалавека
Робіць пальцамі ды з гліны —
Спосаб надта прымітыўны!
Мы пабачым з вамі далей,
Што Адам ужо без бога
Спосаб той удасканаліў
І пачаў тварыць з нічога.
    Бог пасля зрабіў парад,
Прапусціўшы ўсіх жывёлін,
Хоць Адам і быў не рад,
Бо яму бог загадаў,
Каб імя ён кожнай даў,—
А заолагам ніколі
Не прыйшлося яму быць,
Бо ён толькі нарадзіўся.
Але з богам што ж рабіць?
Ён і нехаця згадзіўся,
І язык хоць намазоліў,
Але ўсіх назваў жывёлін.
Праўда, што у бога мэта
Дык не толькі была гэта,
Як рабіў парад жывёлаў:
Бач, Адам жа быў жаніх,
Дык бог думаў,— прыйдзе ў голаў
Нежанатаму Адаму
Выбраць жонку паміж іх,
Паміж гэтых розных самак.
Ды Адам — дзяцюк прыгожы —
Не прыняў намёкаў божых.
    Сумны ходзіць бог, як хмара,—
Дзе ж узяць Адаму пару?

Неўзабаве бачыць бог —
Спіць Адам без задніх ног:
Так знябыўся, небарака,
Называючы звяракаў.
Бог тут вушы натапырыў,
З-за халявы выняў нож
Дык к Адаму з ім «даёш!»,
І няма чаго грашыць —
Мо мудрэй яшчэ Шапіры
Стаў Адама патрашыць
І, дастаўшы ўміг рабрыну,
Ён зрабіў з яе жанчыну.
А Адам храпе й нібыта,—
Ну, як быццам ён забіты.
Як прачнуўся — зірк улева,
Бачыць — там красуня Ева.
Бог сказаў яму: — Адам,
Я табе яе аддам,
Ты ж цалуй яе часцей —
Гэта косць з тваіх касцей:
Яна створана з рабрыны.
Адгуляўшы тут радзіны
Ды вяселле адным махам,
Маладыя з божым страхам
Сталі жыць ды пажываць.
Бог пайшоў адпачываць
І захроп на ўсю святліцу,
Нібы ён прадаў пшаніцу.
Свет стварыў, як пішуць, ён
Акуратна за шэсць дзён.
Скончыў працу бог жанчынай,
А назаўтра адпачынак:
Шабас быў якраз, субота,—
Грэх жа брацца за работу.

**Першая пара і першая кара**

Паміж Тыграм і Еўфратам
(Так мы ў «Бібліі» чытаем)
Насадзіў бог сад багаты,
І назваў ён сад той раем.
Усялякіх там жывёлін
У тым садзе ёсць даволі,—

Шчыплюць траўку паміж дрэваў.
Бог прывёў Адама й Еву
Ў рай ды кажа:
— Вось вам, дзеці,
Тут садзецеся й жывеце,
Тут яды вам ёсць да чорта:
Вось антоны, вось апорты,
Вось і слуцкія вам бэры
Тут вісяць, нібы збаны...
Адным словам, тут без меры
Рознай ёсць садавіны:
Не лянуйся, не ляжы,—
Еш, хоць пуп распеража.
Толькі вось чаго не ешце —
Ані яблычка, нізвання —
З дрэва «зла й дабра пазнання»,
Так і з «яблыні жыцця»,—
Бог сказаў людзям нарэшце,—
Калі ўкусіце — капут;
Рэшту ешце, што хаця.
Так сказаўшы, зараз тут
Бог пайшоў, а цётка Ева
(Вось цікавая была!)
Падышла як бач да дрэва,
Што — дабра пазнанне й зла.
На тым дрэве сядзеў змій,
А ў тым змію сядзеў д'ябал.
Ён да Евы:
— Слухай, баба,
Чаму яблык не ясі?
Ты не бойся, з'еш вазьмі
Ды Адаму занясі...
Што? Ад бога забарона?
Эх, варона ты, варона!
Вы дурней малых дзяцей:
Бог хітруе перад вамі,
Бо ён знае — як з'ясце
Хоць адзін вы яблык гэты,—
Самі станеце багамі,
Запануеце над светам.
Рві ды еш на мой адказ!
Паглядзі ты, які сорт,—
Куды к чорту твой апорт!
Ева тут за яблык — раз!

Есць сама, частуе мужа,—
Спадабаўся яблык дужа.
А тут зараз бог з-за куста
Як гукне: — Гоп-гоп! Адам!
Каб табе было там пуста!
Дзе ты дзеўся? Вось брыда!
Той, запхаўшы рот агрызкам,
У адказ: — Я тут, я блізка!
— Дык чаго ж забраўся ты
З цёткай Еваю ў кусты,
Вось я толькі тут дзіўлюся?
— Божа, я цябе баюся,
Чую, божа, я твой гнеў...
— Бо ты, мусіць, яблык еў
З забароненага дрэва?
— Еў, ды я не вінаваты:
Спакусіла мяне Ева,
Тая вось, што ты мне ўсватаў.
— Ах, дык гэта ты, зараза,
Усяе бяды прычына?! —
Наваліўся бог адразу
На змярцвелую жанчыну.
— Я таксама тут нявінна,—
Адказала ўміг жанчына.—
Мяне змій угаварыў,
А ты ж сам яго стварыў.

І па-мойму, гэтаксама
Не ў чым тут вініць Адама,
Еву й змія, ўсіх траіх,
Бо сам бог тварыў жа іх.
Ён жа ведаў загадзя,
Хто і што рабіць з іх будзе.
Але строгі ён суддзя
І людзей нявінных судзіць,
Я б сказаў, бесчалавечна:
Цяжкай катаргаю вечнай
Пакараў стары Адама;
Еву зноў жа гэтаксама:
Ён сказаў, што ўсе жанчыны
Будуць служкамі мужчыны,
І раджаць хоць будуць з болем,
Не адмовяцца ніколі.
Змія ён пракляў патом —

Вечна поўзаць жыватом,
Вечна землю толькі есці.
Скончыў бог той суд нарэшце,
Ды прагнаў людзей ён з раю
(Вось за яблык як карае!),
Зачыніў, замкнуў за імі.
Не зламалі ж каб замка,
Дык наняў вартаўніка:
Ён паставіў херувіма.
Той з мячом і ноч, і дзень
Рай пільнуе ад людзей.
    Першым людзям злосць і гора
Ды ў дадатак яшчэ сорам,
Што абое галышы.
Чырванеючы суніцай,
Ева тут сказала: — Фэ!
Шый, Адам, ты галіфэ,
Ну, а я сабе спадніцу
Гэтаксама буду шыць;
Дзеля гэтай жа прычыны
Купім швейную машыну.
    Скора так яны зрабілі —
Сорам сяк-так свой прыкрылі...
    Вы не крыўдзіцеся, дзеткі,
Як хто вас часамі ўлетку
Запарве ў садавіне
Ды лазою па спіне.
Бог за яблычак мажэ
Пакараць яшчэ цяжэй.
. . . . . . . . . . . .

    Ў гэтай казцы, я адзначу,
Простай логікі не бачу:
Ну калі ж, мае браткі,
Д'ябал створаны такі
Ды служака-херувім
З вогненным мячом сваім?
Якім чынам, хто іх творыць? —
Нам «пісанне» не гаворыць.
І яшчэ няясна трошкі
Тое нам, што бог жывёлы,
Ну, напрыклад, скажам, кошкі,
І не праклінаў ніколі,
Як і розных іншых самак,

Бо мы ж бачым, што яны
Не ядуць садавіны,
Але ў муках жа таксама
І яны раджаюць дзетак.
Як жа поп тлумачыць гэта?

## Каін і Авель

Як цяжарнаю хадзіла
Ева, мы сказаць не можам,
Толькі Каіна радзіла
І лічыла сынам божым
(Мусіць, з ёю бог Элогім
Настаўляў Адаму рогі).
Год прайшоў, мо болей года,—
Ева зноў ляжыць на лаве:
Прывяла жывёлавода,—
Нарадзіўся гэта Авель,
Сын Адамаў, чалавечы
(Добры быў пастух авечы).
Значыць, Авель-маладзец
Гадаваў гурты авец;
Каін-брат быў земляробам.
Раз яны зрабілі спробу
Адначасна ў адным месцы
Богу хабару прынесці
(Па-біблейскаму — ахвяру).
Авель тлустых тылкаў пару
Ды ў дадатак цёрла лою.
(Ласы быў той бог Элогім!)
Дар жа Каінаў не тлусты:
Ён прынёс гарбуз, капусты,
Можа, пяць ці шэсць галовак,
З дзесяць мо якіх марковак,
Быў, напэўна, кроп пахучы.
Ён усё зваліў у кучу.
Развялі агонь браты
Ды... разявілі раты:
Куча Авеля шугае,
Дым да неба проста мкнецца;
Не гарыць ніяк другая
Дый гарэць не будзе, здэцца,—
Дым качаецца па полі.

Гэтым надта нездаволен
І абражан нават Каін —
Што за штука тут такая?
Дзьмухаў-дзьмухаў, поркаў-поркаў —
Не гарыць капуста й моркаў.
Аж змяніўся хлопец з твару:
Не прымае бог ахвяру,
Любіць Авеля ён болей!
Каін клікнуў брата ў поле
Ды даўбежкаю па лбе —
Вось як лепшым быць табе!
Ухадзіўся ды дадому
Ён ідзе, спусціўшы нос.
Бог тут Каіну дапрос
(Бач — яму не ўсё вядома!):
— Прызнавайся,— кажа,— кат!
Дзе ты быў і дзе твой брат?
— Чорт вас ведае дый з братам,—
Кажа Каін,— дзе ён знік:
Воўк мо з'еў — пры чым жа [redacted] там?
Што я брату — вартаўнік?
Бог тут болей зазлаваў,
І да Каіна ён зноў:
— А чаму на пальцах кроў
Ды ў крыві ўся булава?
Каін бачыць, што не жарты,
Што таіцца больш не варта,
Бо на вока ўсе улікі,—
Страх узяў яго вялікі.
Зараз богу ён у ногі:
— Ой, даруй мне, бог Элогім!
Не ўчыняй ты самасуду,
А я больш, дальбог, не буду!
Але бог не даравў,—
Кару даў-такі забойцу:
Ён зрабіў яго вандроўцам,
Каб той вечна вандраваў;
Каб не меў ні на хвілінку
Ні спакою, ні прыпынку.
Толькі бачым мы праз год,
Што забойца ў зямлі Нод.
Ажаніўся там ён скора
І стараўся так, як мог:
Збудаваў вялізны горад

І назваў яго «Энох».
(Ну, а дзе ж за брата помста?)
Велізарнае патомства
Ён пусціў на свет пасля
(Трэба ж горад засяляць!).
Бацька з маткаю ад гора
Тут уцешыліся скора:
«Памаліўся» раз Адам,—
Зноў бог Еве сына даў,
І назвалі яго Сіфам.
Стала зноў лагодна, ціха.
. . . . . . . . . . . . .
Толькі дзівіць мяне гэта:
Скуль з'явілася кабета,
Што жаніўся з ёю Каін?
Дзе расла і хто такая?
Зноў жа — як мог Каін скора
Збудаваць адзін той горад?
І які ў ім чорт сядзеў —
Не было ж нідзе людзей.

### Патоп

На лістках «свяшчэнных» кніг
Пра патоп ёсць казкі дзве:
То людзей тапіў Ягве,
То тапіў Элогім іх.
Але вось што пра патоп
Я дазнаўся, хоць не поп.
Людзі ўсе жылі па двое
(Што ж, жывым наўме жывое —
Тут няма чаму дзівіцца).
Сталі множыцца, пладзіцца,
Насялілі землю густа,
І... пайшла між іх распуста.
Там раздураныя дзеўкі,
Што паходзілі ад Еўкі,
Заўжды з хлопцамі грашылі,
Ім чапляліся на шыі.
І грашылі (паміж намі)
Нават з «божымі сынамі».
— Ну і публіку стварыў я! —

Бог стаў каяцца, нарэшце: —
І малыя і старыя —
Хоць вазьмі ды ўсіх павесь ты.
Мне ўжо страшна надаела
З імі тут валынка ўся:
Баба клопату не мела,
Дык купіла парася!
І за што такая кара?
І нашто я ўсё цярплю?
Эх! нашлю я лепей хмару,
Ўсё жывое патаплю.
Вось ён зараз тут за шапку,
Ды прыйшоў, ды кажа Ною:
— Заўжды ты на задніх лапках
Ходзіш, Ной, перада мною.
Самы праведны ты ў свеце,
Дык пакінуць на завод
Маю я цябе на мэце,
Ну, а рэшту — ўвесь народ
І жывёлін розных тышчы,
Праз сем дзён патопам знішчу.
Вось запомні добра гэта
Ды заві ў падмогу хлопцаў —
Сіма, Хама і Яфета —
І будуй скарэй сабе
Велізарны карабель:
Даўжынёю трыста локцяў,
Пяцьдзесят шырачыні,
Вышыні так локцяў трыццаць,
Каб у ім ты мог змясціцца,
І нявесткі, і сыны;
Ды нячыстай рознай твары
Па адной вазьмі ты пары,
А ўсіх чыстых па сем пар.
Ну, не чухайся, а жар!
Ной, вядома, не марудзіў,
І да тэрміну яшчэ
Увайшлі жывёлы й людзі
У збудованы каўчэг.
Праўда, можна тут дзівіцца,
Як з усіх канцоў зямлі
Хутка «твары» ўсе прыйшлі?
Як яны маглі змясціцца
Ў невялікім караблі?

Іх жа там было шмат тысяч?
Але Ною гора мала —
Раз начальства загадала,
Дык здыхай, але мясціся!
  І харчы запас вялізны
(На паўгода так прыблізна)
Ной на ўсіх забраў з сабою.
Любата — жывецца Ною.
Хто ж астаўся, таму згуба:
Калі ліне дождж, як з луба,—
Сорак дзён так і начэй,
Нібы з рэшата, цячэ.
Разлілося ўсюды мора,
І лясы пакрыла, й горы,
Патапіла ўсё зямное,
Апрача, вядома, Ноя...
. . . . . . . . . . . . . .
  Хай жа ўжо грашылі людзі,
Мы спрачацца тут не будзем,
А за што ж вось пакаран
Воўк, асёл, пацук, баран,
Ці варона, ці каза?
Поп, напэўна б, тут сказаў,
Што была й жывёла грэшна,
Толькі гэта слухаць смешна,
Ды не несла ж кары рыба,
Менш яна грашыла хіба?..
. . . . . . . . . . . . . .
  Як праплаваў Ной паўгода,
Стала добрая пагода.
Як падзьмулі тут вятры,
Дык ваду ўсю дні за тры
Пазганялі яны ў мора,
А за гэтым ужо скора
На ґары, на Арараце,
Затрымаўся той каўчэг.
«Мо стаіць там і яшчэ?» —
Могуць часам запытаць.
Сам не быў ніколі я там,
Але нашы летуны
Дык не так даўноляталі,
Асядлаўшы птушку з сталі

Над гарою Араратам...
Што ж там бачылі яны?
Дрэвы, камень, трохі снегу,
І ніякага каўчэга
Не знайшлі на Арараце...
Часу дарма Ной не траціў:
З карабля на землю выйшаў.
І, як «Біблія» тут піша,
Ён бязмерна быў здаволен
Ды прынёс ахвяру богу,—
Усіх чыстых па жывёле.
Навярнуў ён мяса стогам,
Падпаліў, і смачны дух
Казытаў у бога нюх,—
Аж губамі бог зацмакаў
(Ласы быў ён да прысмакаў).
Ной па гэтым з Ягавой
Утварылі дагавор,
Што ніколі ўжо людзей
Бог не знішчыць больш патопам:
Згіне Азія ў вадзе,
Астанецца хоць Еўропа.
— Запісаць бы гэта трэба,
Хоць вунь там на краі неба,—
Кажа бог.— Ды толькі дрэнна,
Што зусім я непісьменны:
Не хадзіў малым у школку,
Распісацца не магу,
Дык пастаўлю хоць дугу.
Вось і маем мы вясёлку.

### Першы п'яніца

Вам ужо вядома тое,
Што у праведніка Ноя
Было роўных тры сыны,
Ўсе жанатыя яны
І мужчыны ў самай сіле.
Хлопцы сеялі, касілі,
Як паспее жыта, жалі,
Адным словам — не ляжалі.
Сам жа Ной пасля патопу
Аб ядзе малы меў клопат:

Здаў усё ён на сыноў.
Насадзіўшы вінаград,
Ціснуў сам і піў віно
(Выпіць быў заўсёды рад).
Ён віно піў не кілішкам,
А часцей за ўсё вядзерцам:
Моцны быў і лбом і сэрцам,
Але ўсё ж хапіў раз лішку,
Што дарэшты розум страціў
І, сарваўшы ўсё дазвання,
Што было на ім, убранне,
Так уклаўся голы спаць ён.
А сынок малодшы, Хам,
Ці не выпіўшы быў сам,
Бо, пабачыўшы старога,
Ён падняў страшэнны рогат
(Хлопец, мусіць, быў вясёлы).
Пасмяяўся ўволю сам,
А пасля гукнуў братам:
— Гляньце, хлопцы, бацька голы!
— Быў дагэтуль ты дурніла,
А цяпер здурнеў зусім,—
Стаў тут лаяць Хама Сім.—
Адвярнуў бы ўбок хоць рыла,
Дык ён, шэльма, зубы скаліць!
Вось устане — не пахваліць,
Ён правучыць цябе, гада!
І яны з Яфетам задам
Падышлі да бацькі скора
І прыкрылі яму сорам.
Калі выйшаў вінны чад,
Ной устаў, судзіць пачаў.
І на сына Хама ён
Налажыў такі праклён:
— Хам зняважыў мяне, дзеці,
Дык вось будзе ён за гэта
Служкай Сіма і Яфета,
Покуль будзе жыў на свеце,
І патомкі нават Хама
Будуць служкамі таксама
Заўжды ў на́шчадкаў Яфета,
Покуль свет стаяцьме светам.
Пасля гэтага на свеце
Трыста год, да самай смерці,

Так бясклопатна жыў Ной,
Толькі гнаў ды піў віно,
Нібы мы цяпер вадзіцу;
Не было нідзе міліцый —
Не было каму забраць
Самагонны апарат.

. . . . . . . . . . . .

Вось якою вас манаю
Пра патопы ды пра Ноя
Частавалі служкі неба!
Ім давесці было трэба,
Што працоўны люд таксама
Ёсць патомкі таго Хама;
Што павінны зіму й лета,
Адным словам, круглы год,
Ліць яны крывавы пот
На паноў — «сыноў Яфета».

**Вавілонскі метад**

Быў адзін тады на свеце
Толькі горад Вавілон,
Больш ніякіх не было.
Людзі простыя, як дзеці,
У адным жылі там месцы,
І адна была ў іх мова,
А другой не зналі й слова.
Вось уздумалі нарэшце
Тыя людзі (гэта ж трэба!),
Каб дабрацца як да неба.
Намясілі кучу гліны
І давай рабіць цагліны,
З цэглы вежу будаваць.
Як дайшла да бога чутка,
Стала бога турбаваць,
На зямлю сышоў ён хутка
Паглядзець, што тут за трасца.
Няўжо людзям тым удасца
Аж дабрацца да яго?
Глянуў ён, дык — ого-го —
Задрыжалі ў бога лыткі,
Агарнуў старога жах:

Вежа тая ўвачавідкі
Так расце, як на дражджах.
Так заложна, так упарта
Працавалі ўсе дзядзькі.
Бог спужаўся не на жарты
І... змяшаў іх «языки».
Гвалт падняўся, як у сойме,
Кожны гердае па-свойму,
Кожны мае свае словы,
А народу ж колькі тысяч!
Вось калі там пачаліся
І замежныя ўсе мовы.
    Доўга людзі балбаталі —
Згаварыцца не маглі;
Рассяляцца тады сталі
Па абшары ўсёй зямлі.
    Пару слоў аб Вавілоне.
Там руіны ёсць і сёння,
Маюць тысячы гадоў,
А ад вежы ні слядоў,
Ні цаглінкі, ні кала —
Так яна там і была!

**Абрам ды Сара —**
**цікавая пара**

    Кажуць, праайцец Абрам
Быў здаровы ды дзябёлы,
Шмат меў рознага дабра,
Коз ды іншае жывёлы,
З мясам быў і з малаком,
Жыў багатым кулаком.
Меў яшчэ ён жонку Сару.
Выглядала яна з твару
Сакавіта, маладжава,
Толькі дзетак не раджала.
Не тужыў Абрам спачатку,
Жыў сабе, не гараваў,
Прыбаўляў патроху статку
І са статкам вандраваў
Па абшарах Ханаана.
Але стала тут пагана:
Надышоў паморак, голад,

Пачала здыхаць жывёла.
Тут Абрам і «ах!» і «ох!» —
Вось яму з'явіўся бог
У той час, калі ён спаў,
Ды ўгаварваць яго стаў:
— Слуг вазьмі, жывёлу, жонку
Ды йдзі ў іншую старонку,
Толькі далей за мяжу,
Куды я табе скажу.
Ты выконвай волю божу,
Дык я так цябе размножу,
Дзеля нашага знаёмства
Павялічу так патомства,—
Будзе ўнукаў, як пяску:
Ты ж — дзядок яшчэ ў саку.
(Хто што думае, то й сніцца —
Сніць так курыцу лісіца.)
А было ж ужо Абраму
Семдзесят пяць год тады.
Цётка Сара гэтаксама
Мела бабчыны гады —
Шэсцьдзесят было ёй з гакам,
А цвіла кабета макам.
Тут задумаўся Абрам:
— Трэба йсці, але куды б тут?
Не прыдумаю і сам...
Пойдзем, Сара, да Егіпта,
Знаць, на гэта воля божа.
Толькі вось чаго баюся:
Надта, Сара, ты прыгожа
Ды прывабная бабуся.
Схопяць там мяне, ўхаўтураць,
А цябе к сабе патураць.
Як падумаю, дык — страх.
Лепш кажы ты, што — сястра.
Не брыкайся, зноў жа, надта,
Як захоча хто багаты
Ды з табою... пагуляць.
Нам няма чаго губляць,
Калі б хто й... пацалаваў.
Бо мне гэта хоць не міла,
Але тут не ў гэтым сіла:
Бач, мая мне галава
Даражэй, ты ведай гэта,

Чым цнатлівасць у кабеты.
І Абрам тут не ўкляпаўся,
У Егіпце ён папаўся:
Як з'явіўся туды ён,
Сару згрыбціў фараон.
За «сястру» Абраму выкуп
Фараон той даў вялікі —
Слуг, вярблюдаў і аслоў.
Апісаць не хопіць слоў,
Што за Сару той Абрам
Рознай рознасці набраў.
Фараон, аднак, дазнаўся,
Што з замужкаю звязаўся,
І тут раптам занямог.
— Пакараў мяне, знаць, бог!
Бяры жонку — й фур за браму! —
Ён загадвае Абраму.—
За агіднае штукарства
Выбірайся з майго царства!
А таму і не бяда:
Ўсё — нібы з гусі вада;
На Егіпет мог пляваць ён —
З ім і Сара, і багацце.

. . . . . . . . . . . . . .

Сара стала ўжо старая,
А дзяцей жа ўсё няма;
Дый раджаць-то не пара ёй,—
Добра ведае сама:
Пачало драхлець і цела,
А дзяцей усё ж хацела.
Яна й кажа раз: — Абрамка!
У мяне Агар служанка.
Калі хочаш, я аддам —
Ты вазьмі сабе яе,
Але дзеткі то мае.
— Добра,— кажа тут Абрам,—
Калі ты дазволіш, Сара,
Да Агары йду я зараз.
(Бач, рабыня маладая
Лепш за жонку выглядала,
Дык спяшаўся як мага.)
Зацяжарала Агар,
Зазлавала цётка Сара:

Ёй, вядома, крыўдна стала,
Цярплівосці не хваціла —
Мужу сцэну закаціла:
— Ах ты, порхаўка старая!
Бог цябе хай пакарае,
Што змяняў сваю ты жонку
На рабыню, на служанку.
Я дала Агар да часу,
Але, бач, які ты ласы!..
— Дык ты ж, Сара,— гаспадыня,
А яна — твая рабыня:
Распраўляйся з ёй сама,
Хіба ж болей слуг няма?
Хопіць гэтага дабра,
А плаціць ёй аліментаў
Я не буду ні працэнта,—
Адказаў тады Абрам.
І служанка тая скора
Зажыла ад Сары гора:
Яе часта Сара біла;
А нарэшце прыпякла,
Што няшчасная рабыня
Аж не вынесла — ўцякла.
Але Сары дапамога
Падаспела тут ад бога,
І служанку ўраз анёл
У пустыні пераняў.
Жаху ён паддаў Агары
І вярнуў у рукі Сары.
А служанка ледзь хадзіла,
Скора й сына нарадзіла.
Сара з «праайцом» назвалі
Сына гэтага — Ізмаіл.
Калі хто з вас хоча ў лона
Праайца таго Абрама,
Дык не будзь, браток, варонай,
А рабі і ты таксама:
Зарабляючы чырвонцы,
Спекульні часом на жонцы,
Да служанкі ўважны будзь —
Сёе-тое прыдабудзь,
Пасля з дому вытурай,—
Пападзеш адразу ў рай.

## Драма ў Абрама

Меў Абрам ужо са сто,
Дзевяноста было Сары,
І вы ведаеце што? —
У паважнай гэтай пары
Нарадзіўся сын Ісак.
Развважайце так і сяк,
Ці то дзіва, ці не дзіва,
Толькі Сара нарадзіла...
Але гэта ўбок адкінем,
А паглядзім, што з іх сынам.
Як падрос, тады ў Абрама
З ім чуць-чуць не выйшла драма.
Раз, вось так, як і раней,
Да Абрама прыйшоў бог
(Ну, вядома, толькі ў сне —
Ён іначай жа не мог)
Выпрабоўваць цвёрдасць веры.
(Недаверны быў без меры.)
Вось і кажа ён: — Абрам!
Ты ўжо ведаеш і сам
Мае звычаі і смак,
Што люблю я, грэшны, часам
Пажывіцца смачным мясам.
А ў цябе ёсць сын Ісак,
Ох і мяккі, ох і тлусты,
Вось такія мне да густу.
Дык ты просьбу маю ўваж —
На вячэру яго ўсмаж.
На гары на Марыя́
З'ем сваю вячэру я.
Што звярзлося уначы,
Дык Абрам усё дазвання
За сапраўднасць палічыў.
Ён назаўтра ўстаў заране,
Дроў на спіну ўсклаў аслу,
Ды, пазваўшы пару слуг,
Ды, набраўшы ў чэрап жару
(Ні запалак, ні красала
Яшчэ публіка не знала),
Ён павёў на смерць ахвяру.
Дзень ідзе, другі ідзе,
Не відаць гары нідзе.

Як прайшло аж тры пары,
Падышоў ён да гары.
Слуг з аслом тады пакінуў,
Нагрузіў дрывамі сына,
На гару павёў яго,
Нож нясе сам і агонь.
Там алтар зрабіў ён з дроў,
Палажыў на іх Ісака
(Плакаў, пэўна, небарака)
І... праліў бы зараз кроў,
Бо ўжо нават нож падняў,
Ды анёл яго суняў:
— Пачакай, Абрам, не рэж!
На душу ты грэх бярэш:
Бачыць бог і рад без меры,
Што такі ты цвёрды ў веры
(А раней дык знаць не мог!
Ну, які ж тады ён бог?).
Глянуў ёлупень стары,—
Недалёка ў гушчары
Бачыць ён — стаіць баран,
Зачапіўшыся рагамі,
Толькі дрыгае нагамі.
Прывалок яго Абрам
І, як «Біблія» нам кажа,
Замест сына богу ўсмажыў.

Вось і ў наш век дзе-нідзе
Ёсць на свеце дзікуны,
Што багам сваім яны
Ахвяроўваюць людзей.
Што ж, урэшце, тут выходзіць?
Дзе ж яны — маралі тыя,
Непарушныя святыя,
Аб якіх папы даводзяць?
І ці ёсць дзе той дурніца
Ці фанатык ды гарэза,
Каб, як сон дурны прысніцца,
Сына ўласнага зарэзаў?

## Пра Садомскае балота
## і «праведніка» Лота

Многім, пэўна, невядома,
За што бог так пакараў
Бедных тубыльцаў Садома.
А ўжо ведаць бы пара!
Бог наслаў агню і серкі
Ды яшчэ якойсьці трасцы,
Бо жылі там недаверкі:
Грэх адзін здараўся часта:
Людзям гэтае старонкі
Не патрэбны былі жонкі.
Бог пра гэта нейк дазнаўся,
Але йсці ў Садом баяўся:
Што шукаць бяды на галаў,
Могуць часам абязвечыць.
І паслаў ён двух анёлаў,
Пракурораў ці мо следчых.
Добрая была пагода,
І да полудня ад ранку
Лот той «праведны», як лодар,
Грэўся, седзячы на ганку.
Вось ён глянуў — прэцца хтосьці.
Як зірнуў на незнаёмых,
Аж спужаўся — то ж анёлы!
Ён з паклонам кліча ў госці.
Лот напёк гасцям бліноў,
Добра выпілі, канечне.
(Проста дзіва, што анёл
Есць і п'е, як кожны грэшны!)
Лот паслаў усім пасцелі,
Толькі легчы спаць хацелі,
Аж тут раптам нейкі гоман...
Гэта тубыльцы Садома —
Хлопцы, жэўжыкі, мужчыны —
Патрабуюць адным чынам:
— Падавай сюды гасцей!
Мы іх добра пачастуем,
Каб хадзілі к нам часцей.
Лот, вядома, пратэстуе...
Нам дык смех, гасцям жа й Лоту
Вельмі моташна было тут.
Што ж рабіць святым анёлам

З іх анёльскім станам кволым?
Лот іх выратаваць хоча,—
Ён дае садомцам дочак:
— Не хачу я безгалоўя,
Скарыстайце на здароўе!
Ахвярую лепш дзяцей,
А не мілых мне гасцей.
— Лезь ты з дочкамі ў балота,—
Кажуць тубыльцы на Лота.
— Забаўляйся з імі сам,
А хлапцоў давай ты нам!
    Ды нахрапам пруцца ў дзверы.
Як прыперлі Лота к плоту —
Ні дыхнуць, ні пікнуць Лоту.
Вось анёлы бачаць тут —
Надта дрэнныя паперы,
Ды наслалі слепату
(Ці не лепш бы ім было
На людзей наслаць святло?).
Ад дзядзькоў уцёк тут Лот,
А яны таўкуцца ў плот
Лбамі, носам, чым папала,
Але што ж... пішы — прапала!
А назаўтра госці рана
(Мусіць, спалася пагана)
І сям'ю ўзялі, і Лота
Ды з Садома за вароты.
— Сыпце,— кажуць,— без аглядкі,—
Навядзе тут бог парадкі.
    Як пусціўся Лот бягом!
Як пасыплецца агонь!
Як праравецца ў небе дзірка!
Як пальецца з неба серка!
Так, як «Біблія» нам кажа,
Бог Садом дарэшты спляжыў,
А з ім разам і Гамору
(Гэта быў суседні горад).
    Лот між тым ва ўсе лапаткі
Прэ, адно мільгаюць пяткі.
Але з Лотавай мадам
Хутка сталася бяда:
Ад бяды яна ўцякала,
Але збыт была цікава,
Як авечка ці каза:

Аглянулася назад
І так вокам толькі — луп!
Дык з яе зрабіўся слуп,
Не драўляны — саляны...
— Ці не еў ты беляны? —
Хімік, мабыць, запытае.
Бо нідзе ніхто ніколі
Не зрабіў з кабеты солі.
Ён таго, дзівак, не знае,
Што па «хіміі» па божай
Гэта лёгка стацца можа.
Ды няхай аб гэтым потым,
Пойдзем далей мы за Лотам...
Гэты «праведнік» стары
Нек змясціўся у гары
Каля горада Сігора.
Ён жыве, і мала гора,
З ім жа пара яго дочак —
Замуж кожная з іх хоча.
— Мы дарэмна тут загінем
І насення не пакінем,—
Кажа большая дачка.
— Хіба вось што... Пачакай!..
Як ты мысліш наконт бацькі?
Ён дзядуля яшчэ хвацкі,
Мы дамо яму віна,
Потым пойдзе з нас адна...
Хай хоць я мо на пачатак.
Стала згода між дзяўчатак:
Як сказалі, так зрабілі —
Добра бацьку напаілі.
Ён да дочкі да свае,
Як да жонкі, прыстае.
Тая ж (добрая, знаць, цаца!)
І не думала спрачацца.
Неўзабаве цераз ночку
Так было й з другою дочкай.
А праз нейкі пэўны час
(Такі самы, як і ў нас)
Родзіць кожная дзяўчына
Лоту ўнука, сабе сына.

Біблейскі пісака
пра сыноў Ісака

Мы чыталі, што Абрам,
Каб не трапіўся баран,
Дык зарэзаў бы для бога
Сына ўласнага малога.
Далей з «Бібліі» пісака
Так гаворыць пра Ісака:
Яшчэ год пражыўшы з трыццаць,
Захацеў Ісак жаніцца,
І з калымам збыт багатым
Ён раба паслаў за свата
Да далёкіх сваякоў,—
Дзесьці нейкі жыў Лаван.
Раб жа той быў — галава!
Не страляў ён лелякоў
І прывёз сястру Лавана
Для Ісака — свайго пана.
Жонка ж гэтая — Рэвека —
Увішная, не няўмека,
Працаваць магла са смакам
І кахалася з Ісакам.
Ну, а вынік быў такі:
Два сыночкі-блізнюкі.
З іх Ісаў быў звераловам,
Гэта значыць — паляўнічы,
Ну, а Якаў... адным словам,
Жыў пры мамчынай спадніцы.
Бацька больш любіў Ісава,
Маці ж Якава таксама.
Дык вось неяк раз Ісаў
Цэлы дзень дарма гайсаў
(Не траплялася звярака),
І дадому ён галодны
Так вярнуўся, небарака.
Тут брацішка яго Якаў
Сёрбаў крупнічак халодны.
— Дай ты мне пасёрбаць крышку,—
Папрасіў Ісаў брацішку.
— А аддай жа першародства,—
Адказаў Ісаву Якаў.
(Ах, якое «благародства»!)
— Што мне ў ім,— сказаў Ісаў,—

Калі здохну скора сам...
І аддаў, і еў са смакам.
Прайшло чвэрць ці мо паўвека,
Стаў Ісак сляпым калекам.
Вось прамаці тут Рэвека
Стала думаць і кумекаць,
Як сляпога ашукаць
Дзеля сына-пестунка.
І прыдумала «прамаці»:
Быў, як воўк, Ісаў касматы;
Вось яна тут узяла
Ды зарэзала казла,
Скуру зараз жа злупіла,
Ёю Якава накрыла
(Ах, якое хараство!).
Бацька мацнуў, не пазнаў:
Ён падумаў, што Ісаў,
І зацвердзіў першынство
Так сваім благаславеннем.
Пасля гэтага здарэння,
Як прыйшоў Ісаў дадому,
Ды як стала ўсё вядома,
Што абуў яго так Якаў,
Дык са злосці аж заплакаў,
Думаў жуліка забіць,
Ды не мог яго злавіць:
Таго маці яшчэ рана
Адаслала да Лавана.
Калі прыйдзе хоць і родны
Да цябе твой брат галодны,
Дык заўсёды дзерці трэба
Восем скур за крошку хлеба.
Дзеля ўласнага прыбытку
Ты змяняй на шкуру світку,
У казла перарабіся,
У свінню або ў сабаку,
Ашукай калеку-бацьку,
А свайго усё ж дабіся,
І сумленне хай не мучыць,—
Так тут «Біблія» нас вучыць.

Ад Ісава так пёр Якаў,—
Не дагнаў бы і сабакам,
І прыбег аж да Лавана.
Тут было яго спаткана.
Пачалі яны вітацца,
Пра здароўе стаў пытацца
У пляменніка Лаван.
Ды не слухаў толькі Якаў,
Бо раскіс ды аж заплакаў,
Як Рахільку цалаваў.
(Знаць, нішто была Рахіль...
Эх, грахі нашы, грахі!
Не адзін той жулік Якаў
На грудзях Рахілі плакаў!)
Якаў стаў у дзядзькі жыць,
Дзядзьку парабкам служыць.
Служыць тыдзень, служыць два.
— Што ж,— пытаецца Лаван,—
Будзеш мне дарма́ служыць
Ці за плату? Ты кажы.
— За Рахільку я гатоў
Праслужыць аж сем гадоў,—
Адказаў тут дзядзьку Якаў.
Дзядзька бачыць, што калым
Не такі ўжо малы.
Але ўсё ж Лаван зацмакаў,
Бо была дачка другая —
Лія, большая, сляпая,
Дык хацелася да смерці,
Каб як-небудзь тую ўперці.
Для Лавана, як мінутка,
Сем гадоў прабеглі хутка,
І ўжо трэба — вось бяда! —
Дочку Якаву аддаць.
Якаў жджэ ды не дажджэцца,
Падагнаў бы час, здаецца,
Каб скарэй даваў бог ночку,
А Лаван — Рахільку-дочку.
Вось і ночка, вось і дочка,
Вось і белая сарочка,
А надзета на каго,
Блазнюку не да таго...

А назаўтра ўстаў з «пахмелля»,
Пралупіўшы сяк-так бельмы,
Бачыць Якаў — побач Лія.
Тут жаніх наш як завые!
А Лаван адно смяецца:
— Табе ж нашы ўсе законы,
Мабыць, трошачкі знаёмы,
І заўсёды так вядзецца,
Што павінен выдаць татка
Дочку большую спачатку...
Паслужы яшчэ сем год,—
Кажа дзядзька-абармот.
І тады, клянуся я,
Будзе ўжо Рахіль твая.
    Той, падзякаваўшы «татку»,
Зноў пачаў служыць спачатку.
    Якаў выслужыў гады
І Рахільку ўзяў тады.
Што ні год сляпая Лія
Водзіць дзетачкі малыя,
А ў Рахількі справа слаба —
Як дзяўчына, ходзіць баба.
Тут на Якава віна,
Як напалася яна:
    — Што з табой, Якуб, за трасца?
Аніяк табе не ўдасца!
Недарэчнасць, а не муж!
А вось з Ліяй ты чаму ж?
— І хацеў я, ды не мог,—
Кажа Якаў,— мусіць, бог
Нас карае за грахі.
А тут зноў яму Рахіль:
    — Каб ты так ужо хацеў
Для мяне з табой дзяцей,
Дык служанку ўзяў бы Валу.
(Так заўсёды ў іх бывала:
Прыдабудзе муж рабе —
«Госпожа» бярэ сабе.)
І выходзіць — рад не рад —
Папраўляйся, Якаў, брат!
    Як дазналася пра гэта
Лія, плодная кабета,
Заўладала зайздрасць ёю
(Надта прагная была),—

І з служанкаю сваёю,
Зелфай, Якава звяла.
Лія, Рохля, Зелфа, Вала —
З імі ж клопату не мала,
Паспрабуй ім дагадзі ты.
Ён жа, хлопец цягавіты,
І не скардзіўся, бывала.

## Як зяць цесцю адплаціў нарэшце

Гэтак Якаў тузін цэлы
Пусціў хлопцаў на свет белы.
Напладзіўшы шмат дзяцей,
Аддзяліцца ён ад цесця
З цэлай плоймай захацеў
І сказаў аб тым нарэшце.
І ў цясця на тое — згода,
Ды вось толькі платы шкода!
Стаў пытацца ён, што зяць
За ўсю службу хоча ўзяць.
Якаў кажа: — Кінь ты, тата!
Ну, якая там зарплата!
Я прашу адно дазволу
Ўзяць стракатую жывёлу —
Рабых, лысых,беласпінных,
Табе ж чыстую пакіну.
Пагадзіўся з зяцем «тата»,
Ды падзякаваў ён богу,
Бо авец і коз стракатых
У яго было нямнога.
Якаў — жулік і гарэза —
Тут такую штуку ўрэзаў:
Каб яму больш коз папала,
Нарабіў рабых ён палак
І, як гнаў да вадапою,
Палкі тыя браў з сабою,
Там іх клаў каля карыта.
Так ён краў, і шыта-крыта:
Самкі чорныя, як галкі,
Углядаліся на палкі —
Быў прыплод ад іх стракаты.
Так наш Якаў стаў багаты,
Багацей за цесця, мусіць.

Калі «Біблія» не хлусіць,
Дык там піша, што сам бог
Красці Якаву памог:
Якаў стаў таму багаты
І таму яму «вязло»,
Што да козачак казлоў
Падсылаў сам бог стракатых.

## У рожкі з богам

Абабраўшы спрытна цесця,
Якаў дзёру даў нарэшце,
І з жывёлай, і з рабамі,
І з сынамі, як дубамі,
Ён туды падходзіць стаў,
Дзе жыў брат яго Ісаў,
Ад якога ў сваю пору
Ён даваў таксама дзёру.
Якаў хітры, як лісіца,
Баязлівы чалавечак:
Калі ўведаў ён, што брат
Дуж рабамі і багат,
Дык паслаў яму гасцінца —
Коз, вярблюдаў і авечак.
Але й то шчэ невядома,
Як бы стрэлі яго дома,
Каб не сябра яго бог
Яму нехаця памог.
Ці стары мо быў упіўся,
Ці пад старасць звар'яцеў,
Бог адзін пра тое знае,
Толькі з Якавам схапіўся —
Барукацца захацеў.
Іх хавала цем начная.
Якаў быў здароў, як вол:
Як схапіў ён бога ўпол,
Да сябе прыціснуў шчыльна,
Закрахтаў аж «усясільны»:
Вось-вось-вось ён ляжа, здэцца,
Але пнецца — не здаецца.
Так вадзіліся яны
Цэлу ноч, як певуны.
Дзень на змену ночы йдзе;

Вось узыдзе сонца скора.
Бог зусім ужо ў бядзе:
Як убачаць, будзе сорам.
З усяе тут моцы боскай
Даў ён Якаву падножку
(Думаў, вырабіцца бог),
Але Якаў, як бульдог,
Учапіўся мёртвай хваткай,—
Хоць баліць звіхнёны клуб,
Напінае болей пуп,—
Вось паложыць на лапаткі.
Бачыць бог, прыперла крута:
Барукацца больш — пакута,
Не хапае сілы божай,
Але й вырвацца не можа.
Стаў край неба залаціцца,
Небарак пачаў прасіцца:
— Братка, Якаўка, пусці!
Пашкадуй старой касці,
Падурэлі, ну і годзе,
Бачыш — ранне надыходзе.
Якаў кажа: — Не магу:
Пакалечыў ты нагу,
Дык цяпер за вызваленне
Дай хаця благаславенне.
Бог яго благаславіў
Быць здаровым ды багатым,
І тады спатканне з братам
Адбылося без крыві.

Вось падумайце аб тым,
Чаму Якаў той святы.
Мо таму, што меў рабоў,
Не рабіў сваім гарбом?
Мо таму, што быў багатым,
Абдурыўшы бацьку й брата,
Абакраўшы гладка цесця?
Мо таму яшчэ, нарэшце,
Ён святога ўздзеў вянок,
Што дзве пары меў жанок
І нёс добра абавязкі,
Як адказваў ім на ласкі?

## Крывавае вяселле

Была ў Якава дачка,
Што пара б і замуж скора.
Панаваў там князь Емора.
Ён не думаў, не чакаў,
Як аднойчы яго сыну
Стрэць прыйшлося тую Дзіну.
І Сіхем (так звалі сына),
Калі глянуў на дзяўчыну,—
Пакахаў, і ён ёй люб.
Вось у іх фактычны шлюб
(Не ў царкве і не ў касцеле —
Шлюб узялі, дзе хацелі).
Той жа Якаў — бацька Дзіны,
Жулік спрытны і бывалы —
Рад быў, што знайшоў прычыну,
І падняў тут зараз гвалт,
Чаму згвалцілі дзяўчыну.
Хлопец той, сказаць-прызнацца,
І не думаў адракацца
Ад дзявочай пекнаты:
Бацьку шле ён у сваты.
Князь быў надта добрым сватам.
— Парадніцеся вы з намі! —
Просіць Якава з сынамі.
— Выкуп дам я вам багаты,
Толькі дайце вашу Дзіну
Вы за жонку майму сыну.
— Твой жа сын не абразаны,—
Князю хлопцы адказалі,—
І таму ён век-вяком
Нам не будзе сваяком.
Хай ён зробіць абразанне.
Тое ж самае павінны
Учыніць усе мужчыны
З усяго твайго ўладання.
Спахмурнелі князь і сын,
Толькі ж выхад быў адзін:
Ўсіх мужчын яны сабралі,
Хто быў рад, а хто не рад,
І ўчынілі той абрад,
А назаўтра ўсе стагналі.
(Дурні, кажучы між намі.)

Ну, а Якаў той з сынамі
Тут узнялі «храбра» меч
І давай галовы сеч:
Перабілі ўсіх мужчын,
І загінуў князь і сын.
Якаў тут пазаграбаў
І жывёлу, і рабоў,
І жанок, і ўсіх дзяцей,—
Стаў намнога багацей:
Меў рабоў мо колькі тысяч,
Але, помсты баючыся
За Сіхема і Емору,
Ён з награбленым даў дзёру.

**Слоў з пару**
**пра Іуду і Фамару**

Я пра праайца Іуду
Доўга тут пісаць не буду,
Скажу коратка зусім,
Што ён Якава быў сын,
Сын пры гэтым «лепшы самы»,
А ці так,— мяркуйце самі:
Гляньце з «Бібліі» цытаты,
Як Іуда быў жанаты,
Як любіў ён жонку шчыра
(Хананеянка была,
Трох сыночкаў прывяла),
Як жаніў ён сына Іра,
Падабраў яму пад пару
Ён яўрэечку Фамару.
Ір жанаты жыў нядоўга:
Не ўгадзіў ён нешта богу,
І паслаў яму бог кару,—
Удавой зрабіў Фамару.
Горка плакала яна,
Але быў яшчэ Анан —
Сын Іуды серадольшы,
Ён за Іра быў не горшы.
Каб Фамару абнасеніць,
Бацька з ёй Анана жэніць.
Той пярэчыць стаў Іуду:
— Адчапіся,— кажа,— тата!

Нізашто я жыць не буду
З гэтай жонкай майго брата
Дый ні з якаю кабетай.
Ён такі і спраўдзіў гэта:
Праз увесь свой век кароткі
Ужываў другія сродкі.
Сумна, моташна ўдаве,
Ўсё мужчыны ў галаве,
Паглядае на іх ласа.
А Іуда гэтым часам
Сам раптоўна заўдавеў,
І яго скарала доля.
Вось пайшоў ён раз у поле,
А Фамара не драмала:
Твар накрыла пакрывалам
Ды пабегла ўперад хутка.
Села там яна ў варотах.
Свёкар думаў — прастытутка,
І ўзяла яго ахвота.
Да яе ён стаў падходзіць,
З ёю гутарку заводзіць,
Потым лезе цалавацца,
Потым... сталі таргавацца.
Прапануе ён казла.
Тая б плату і ўзяла,
Толькі просіць, каб спачатку
Ён што-небудзь даў задатку.
Ну, а ён — дзядуля палкі —
Даў папругу ёй і палку
Ды яшчэ сваю пячатку...

. . . . . . . . . . . .

І пасля пайшоў паволі
Да жывёлы ён у поле.
Неўзабаве пасланец
Да яе з казлом ідзе.
Места ўсё з канца ў канец
Абышоў — няма нідзе.
Хто ні йдзе і хто ні едзе,
У знаёмых і суседзяў
Ён пытае:
— Ці не бачыў?
— Не, не бачылі.
— Што гэта?

Дзе ж падзелася кабета?
Чорт схапіў яе — няйначай.
Недзе, шэльма, папаўзла! —
І панёс назад казла.
    А пасля праз пэўны час
І прыносяць неяк раз
Цёткі свёкру пра нявестку
Ды благую надта вестку,—
Што Фамара загрубела
Невядома з кім тайком,
Скора будзе з «байструком».
Свёкар стаў ад злосці белы,
Раззлаваўся і вяліць
На агні яе спаліць.

    Вось агонь і дыму хмара,
Вось прыведзена й Фамара,
Ледзь яе ўжо не звязалі.
Тут Іуда рот разявіў,
Бо нявестка свёкру-татку
Тыц у нос яго пячатку:
— З чыіх,— кажа,— гэта рук,
Ад таго ў мяне байструк.
    Так гарэзная нявестка
Асталася жыць сама,
Ды і свёкру-то някепска
Нарабіла сарама.
    Вось я кончыў аб Іудзе,
А цяпер вы, калі ласка,
Паглядзіце самі, людзі,
Што нам скажа гэта казка,
Што тут ёсць у брудзе тым,
Каб лічылі мы святым?

**Аб Іосіфе Прыгожым —**
**«Абранніку божым»**
**і «заслузе» ягонай —**
**утварэнні прыгону**

    З вас чытаў, напэўна, кожын
Аб Іосіфе Прыгожым,
Што між Якава сыноў
Як разгадчык добры сноў

Вызначаўся з малых дзён;
Як пайшоў у поле ён
Раз братоў сваіх праведаць,
Пастухам панёс абедаць,
Калі ладным быў хлапцом;
Як егіпецкім купцом
Там браты яго прадалі,
І так далей, і так далей...
Як, праз тыдняў, можа, пару,
Царадворцу Патыфару
Ва ўслужэнне ён папаў,
Як і сам ледзь не прапаў.
    У палац прыйшоў Іосіф,
Тут яно і пачалося:
Патыфарава жанчына
Спадабала ў ім мужчыну;
Што ні ступіць,— прыстае.
Але толькі на яе
Ані гляне подлы раб.
Ці баіцца, ці мо слаб?
Як хапіў жа бабу пал там,
Дык узяць рашыла гвалтам.
Раз прыйшоў ён у пакой,
Дык яна тут раптам: — Стой!
Зараз цоп яго за порткі.
А Іосіф — хлопец вёрткі:
Кінуў порткі ды пайшоў
Сам за дзверы галышом.
Як падыме ж баба крык!
Тут як бач яе мужык
Прыбягае — Патыфар:
— Што за крык? Ці не пажар?
Думаў я — цябе хто рэжа...
— Хацеў згвалціць мяне раб;
Ласы надта ён да баб,
Нават вось яго адзежа,—
Хлусіць баба тут яму.—
Пасадзі яго ў турму,
Каб забыўся пра спадніцу.
Той запёр яго ў цямніцу.
    Неўзабаве Фараон
Незвычайны бачыць сон:
Быццам вылезлі з вады
Тлустых сем кароў, як бочкі,

А за імі сем худых
Тут жа, побач, недалёчка.
Мыкнуць тлустыя не ўспелі,
Як худыя іх паелі,
Самі зноў жа як драчы.
Тае ж самае начы
Такі ж выпадак вось самы
Бачыць ён і з каласамі.
Як прачнуўся Фараон,
Загадаў жрацам, вяльможам
Разгадаць, што значыць сон.
Дык няма — ніхто не можа.
Што было й разгадваць, здэцца,
Мала што каму звярзецца,
Але так пакінуць нельга,—
Па Іосіфа пабеглі.
    Той прыйшоў і разгадаў
(Пішуць — бог яму так даў),
Кажа: — Тлустых сем кароў —
То ўраджайных сем гадоў,
А другія сем худых —
Неўраджайныя гады.
Вось, каб не галадаваць,
Трэ табе загатаваць
За ўраджай запасы збожжа.
Хто, па-твойму, гэта зможа? —
Фараона ён спытаў...
    Доўга думаць той не стаў:
— Як не ты,— дык хто ж іначай
Тут зрабіць бы гэта мог?
Нам паслаў цябе сам бог,
Мы тут гэта добра бачым.
Памажы ж, прашу дабром,
Покуль голад той міне.
Над усімі ўладаром
Будзеш ты пасля мяне.
    Так Іосіфа па шэрсці
Фараон пагладзіў — хваліць,
Пасля зняў з рукі ён персцень
І надзеў яму на палец,
Пасадзіў у калясніцу,
І рабы яго памчалі.
Кожны мусіў пасці ніцма,
Як Іосіфа страчалі.

А Іосіф рад старацца.
Закіпела ў яго праца:
Хлебаробам загадаў,
Нават смерцю пагражае,
Кожны з іх каб ураджаю
Частку пятую аддаў.
Застагнаў тады народ,
А Іосіф за сем год
Назбіраў нямеру хлеба
(Урадлівая там глеба).
Прыйшоў голад, і сяляне
Хлеб паелі ўвесь дазвання
І панеслі серабро
За сваё ж такі дабро,
Што награбіў з іх Іосіф.
А ў таго ні сарама,
Ані літасці няма,—
Ён дзярэ, з каго прыйшлося.
У людзей, пакуль быў голад,
Ён і грошы, і жывёлу,
І зямлю за хлеб забраў.
Ураджайны год нарэшце,
А ў сялян няма што есці —
Хоць лажыся памірай.
Што ж ім болей асталося?
Ні зярняці ў іх пшаніцы,
Ні кусочка ў іх зямліцы,—
Так абчысціў іх Іосіф,
Ну да ніткі, дагала,
І нарэшце — кабала.
Яны просяць Фараона
Ды Іосіфа з паклонам,
Каб кусок які зямлі
І насення ім далі.
Дык чаму ж,— Іосіф згодзен,
Просьбай ён не пагарджае,
Ды арэнду толькі ўводзіць:
Частку пятую ўраджаю,
Каб плацілі і яны,
І іх праўнукаў сыны
Дабрачынцу Фараону.
Так пачатак ён прыгону
У Егіпце палажыў
І ў выгодзе сам пражыў,

А людзей давёў да торбы.
Але «Біблія» іначай
Пра Іосіфа тлумачыць,
Што ён мудры быў і добры
Ды яшчэ герой народны:
Ратаваў народ галодны.

**Бывайце здаровы!**

Ну, нарэшце, кончыў
Гэту «Кнігу Быція»;
Не чапаю ўжо «Ісхода»,
Бо на глупства часу шкода:
Патрыярхі-дзікуны,
Бог такі ж, як і яны,
Цемра, варварства і бруд...
Выбачайце,— болей тут
Я не буду вас трымаць,
Бо не мог бы й сам трываць
У гнілым паветры дрэнным.
Да таго ж у свеце «божым»
Ёсць вялікія ўжо змены.
Мы іх тут падкрэсліць можам.
Вось, напрыклад, у мужчыны
Ужо ёсць усе рабрыны;
Неба «цвёрдае» нек разам
Стала ўсё празрыстым газам;
І без д'ябла наша «Ева»
Есць плады з любога дрэва.
У сучасных жа «Адамаў»
Перамены ёсць таксама:
Есці хлеб у поце твару
Мы не лічым больш за кару.
«Каін» з «Авелем» абодва —
Земляроб з жывёлаводам —
Зараз дружна йдуць у ногу,
Не нясуць ахвяру богу.
Той «каўчэг», што ў ім хаваўся
Ной, нібыта, ад патопу,
Супраць нашых бы здаваўся
Нібы лапаць-недатопак;
А вясёлку, знак той «божы»,
Зробіць нават вучань кожны.

«Хам» не той ужо сягоння:
Не пужаецца праклёнаў,
І за ўладу ён над светам
Барацьбу вядзе з «Яфетам».
Што да справы — «ў рожкі з богам» —
Пахваліцца мы тут можам:
Людзям ён зусім не трэба,—
Заўладалі самі небам.
Жонку Лота мы часамі
Ці не з'елі з селядцамі.
Што да «грэшнікаў Садома»,
Сям-там ёсць яны, вядома.
Грэшаць людзі, грэх той хваляць —
Чаму ж іх агонь не спаліць?
Пра Фамару ды Іуду
Гаварыць я лепш не буду,
Бо канфузіць не хачу
Паважаных «снахачоў».
Аб Іосіфе Прыгожым
Пару слоў сказаць мы можам,
Бо на нашай тут зямлі
«Прыгажэйшыя» былі;
Але хлеб чужы заразам
Потым вобмегам вылазіў,
У Егіпце ж селяніну
Трэ й цяпер плаціць даніну,
Бо брытанскі «фараон»
Там не лепшы за свайго.
Ну, чытач, бывай здароў!
Ад маны ад гэтай далей.
На астатак пажадаем
Калі-небудзь стрэцца зноў
Пры другіх падзеях, з'явах,
Больш жывых і больш цікавых.

*1926*

# ХВЯДОС — ЧЫРВОНЫ НОС

*Казка*

**Жыў Хвядос той не сягоння**

Раскажу я казку-складку
Пра асобу з дзіўным лёсам;
Дам імя ёй для парадку:
Хай завецца хоць Хвядосам.

А жыла асоба гэта
Не сягоння,— даўнавата,
Калі шмат было паэтаў,
А паэзіі не надта.

А пісалі часам лоўка,
Ўсё паэмы былі ў модзе:
Твор напіша — як вяроўка,
А чытаць — наймай, дый годзе,

І бяссонніцаю хворым
Паэтычных пару каліў
Дактары з такога твора
Па рэцэпту адпускалі.

Настрачылі твораў горы,
І чытаць іх давялося:
Пралетарскія ўсё творы,
Толькі шмат з іх у двукоссі.

Ад мастацтва тады Кучар
Браць вучыўся ў рукі лейцы...
Камандзіраў было — куча,
Болей як культурармейцаў.

Марксам моцна пабажыцца
Мы любілі так і гэтак,
Ды не часта мог ужыцца
У мазгах марксісцкіх метад.

І вучоныя, што ў БАНе
Над тым метадам пацелі,
Часта ўцяміць анізвання
Не маглі ці не хацелі.

Выпраўлялі ягамосці
На сваёй яго калодцы,
Меркавалі ўзяць за хвосцік,
Каб самім як не ўкалоцца.

А працоўныя тым часам,
Не чакаючы паперак,
Праз заводы і калгасы
Шпарка крочылі наперад.

Квас яны сярбалі з кропам,
А па святах — з таранамі,
Але тлустая Еўропа
Не спраўлялася за намі.

За імпэтным крокам гэтым
Ад Палесся да сталіцы
Не ўганяліся й паэты,
Нават зняўшы нагавіцы.

І пад грукат індустрыі
Над палямі і лясамі
Гімны кволыя Марыі
Ціха нюнялі часамі.

А другія, каб угнацца,
Дык рабілі вельмі проста:
Не ўзіраючыся ў працу,
Пераймалі дым і лёскат,—

Ды ў абнімку з камінамі,
Ды ў начальства ўсё на воку...
Часам масы ўспаміналі,
Толькі масы — дзесьці збоку.

Лез, узняўшы лямант немы,
Капітал на нас замежны,
Яшчэ марылі нацдэмы
Аб «сваёй», аб «незалежнай».

Кампліменты гаварылі
Яны з фігаю ў кішэні,
Аж пакуль пальбу адкрылі
Па нацдэмаўскай мішэні.

**Я ж кажу —**
**мастак быў выпіць**

Вось у Мінску ў гэту пору
Падымаўся хутка ўгору,
На дражджах як быццам рос,
Мой Хвядос — кірпаты нос.

Нос кірпаты ды чырвоны:
Гаспадар жа быў ягоны
«Буслу» блізкая радня —
Сустракаліся штодня.

Да размовы быў ён вялы,
Харaством не вельмі ўдалы,
Да работы сяк і так,
Ну, а выпіць быў мастак.

Я ж кажу,— мастак быў выпіць:
Праз яго не то што Прыпяць —
Можа, цэлае Дняпро
Пралілося праз нутро.

Да яго сцякалі рэчкі
І клубнікі, і парэчкі,
Рэкі хлебнага віна —
Глыбіня — не ўбачыш дна!

І дубняк пякучы, горкі,
І каньяк — чатыры зоркі,
І яшчэ там розных шмат —
Проста цэлы вінаспад.

Не маглі здаволіць смагі
Ні партвейны, ні малагі,
Ані хмельны кюрасо,
Ні шыпучае дзюрсо.

Так, бывала, ночка ў ночку
Ліў Хвядос мой, як у бочку
(Ў тую бочку, што без дна),
Безліч featureзнага віна.

### Паў Хвядос на полі брані

Раз Хвядос на бранным полі
Увіхаўся з сябрукамі:
Вёў змаганне з алкаголем
І закусваў агуркамі.

Так змагаліся заўзята,
Батарэй так шмат узята,
Шмат скацілася з сталоў
Мёртвых коркавых галоў.

За калонамі калоны
Розных колераў і марак,—
Разгарэўся бой шалёны:
Гвалт і звон разбітых чарак,
І цякуць ужо равы
Мнагаградуснай крыві.

Цэлу ноч так, але ўранні
Ён не вытрымаў напору:
Паў Хвядос на полі брані,
Капыты задраўшы ўгору.

З крэсла ўпаў далоў на спіну,
Ногі доўгія раскінуў,
Ашчарэпіў моцна «бусла»,
На губах віно загусла
(Хоць куды рэклама він!) —
Памяць вечная! Амін!

Церлі, пырскалі, качалі...
Нашатыр... Адэкалон...
Хутка доктара прымчалі —
Не памог нічога ён:

Прылажыў да трубкі вуха,
Пульс памацаў ды паслухаў.

І сур'ёзны сеў за стол,
Ціха буркнуўшы: «Гатоў».

А Хвядос і піць не просіць,
І ляжыць сабе, не дыша,—
У вачах застыла просінь,
Доктар пашпарт смерці піша.

Спачуванні і гамонка...
Жалю, слёз было нямала.
Хутка тут прыбегла жонка,
З плачам рукі заламала:

— Ой, саколе мой, Хвядос! —
Ды як крыкне: — Доктар, нос!
Не памёр ён! Ён нарокам!
Любы, ўстань! Хадзем дахаты!

А сама ўпілася зрокам
У Хвядосаў нос кірпаты.
Галавою доктар круціць:
— Небарака, звар'яцела:

Зрок пагас, уціхлі грудзі,
Пачало ўжо стынуць цела.
Не паверыў, але скоса
Глянуў ён у бок Хвядоса,

І здзівіўся доктар дужа:
У Хвядоса нос, як ружа:
Повен чырвані, здароў,
Здэцца, капне з яго кроў.

Доктар шэпча:— Што за чорт?!
Стаў да носа прыглядацца,
Акуляры зноў працёр,
Зноў паслухаў, пульс памацаў
І навокал на людзей
Сам здзіўлёны паглядзеў.

— Ані пульсу, ні дыхання
Не чуваць нідзе нізвання,—
Гэта ж бачыце і вы,—
Ну, а нос... зусім жывы.

Доктар я, сказаць, нядрэнны —
Памагу і мерцвяку,
Ды такое вось здарэнне
Першы раз мне на вяку.

Я так думаю, што тут
Усё роўна ўжо капут,
Але, каб не памыліцца,
Хай расхлёбвае бальніца.

Захадзіла ўся бальніца,
Робяць штучнае дыханне,
Дагары кладуць і ніцма,
Ды дарэмна — больш не ўстане.

І якую даць тут раду?
І за што тут ухапіцца?
І сышлося на нараду
Дактароў якіх мо з трыццаць.

Прыглядаліся да носа,
Прыслухаліся да сэрца
І дзівіліся з Хвядоса —
Нос, як струк чырвоны перцу.

Бровы супілі ў бяссіллі
Ды злавацца пачыналі
І нарэшце ухвалілі:
Трэ зрабіць крыві аналіз.

Падышла як бач сястрыца,
Каля носа захадзіла
І крыві тут нейкім шпрыцам
З паўнапарстка нацадзіла.

І праз доследы праз тыя
Быў такі здабыты вынік:
Кроў Хвядоса не застыне,
То не кроў — спірытус віні.

Думкай згоднаю спавіты
Дактары і асістэнты:
Спірту чыстага ў крыві той
Дзевяноста тры працэнты.

І яшчэ рабілі спробы
Ды дзівіліся нямала:
Ні адной нідзе мікробы —
Праспіртован дасканала.

Сэрца стала, сціхлі грудзі,
На жыццё няма надзеі,
Але й гнісці ён не будзе —
Хай ляжыць сабе ў музеі.

**У шкляной вялізнай скрыні**

У музей Хвядос паложан
Гол, як мама нарадзіла,
І з мінчан спяшаўся кожын
Паглядзець на гэта дзіва.

Доўга так ляжаў адкрыты,
Нерухомы, быццам камень.
Толькі дошчачка прыбіта,
Каб не краталі рукамі.

Даглядала яго цётка
І з усмешкай немінучай
Пыл сцірала часам шчоткай,
Часам мокраю анучай.

Ён адзін у змрочнай цішы
Заставаўся часта ў зале,
Дык яго заразы-мышы
Трошкі раз паабгрызалі.

Тут загадчык аб вітрыне
Быў прымушан клапаціцца,
І ў шкляной вялізнай скрыні
Наш Хвядос, як плашчаніца.

Зараўлі, напяўшы жылле,
Тут папы, ксяндзы-прабошчы:
«Камуністы палажылі
У музей святыя мошчы!!»

Закруціла, завярцела
Гэта хеўра ўсе калёсы,
Каб царкве аддалі цела
Прападобнага Хвядоса.

А набожныя бабулі
Ціха плакалі ў прыглядку —
Больш ім нельга, як замкнулі,
У святую цмокнуць пятку.

Напісаў адозву папа,
Абвясціў паход крыжовы,
Растапырыў прагна лапы
У святле надзей ружовых.

Хрысціянскія пляменні
Ад Аляскі да Радоса
Заклікаў да вызвалення
Ён святой труны Хвядоса.

Толькі сеў тут папа макам,—
Не йдзе ў бойку люд працоўны:
— Прападобных выпівакаў,—
Кажа,— ёсць усюды поўна;

І дурных між намі мала
Ваяваць ісці за труны,—
Будзем біццам з капіталам
За сусветную камуну.

Выюць зноў ксяндзы-прабошчы,
Падвываюць папяняты:
Не папаў Хвядос у мошчы,
А застаўся экспанатам.

Як найлепшая агітка,
Пераконваў ён штогодна,
Што так піць не толькі брыдка,
Але нават вельмі шкодна.

Шпаркім тэмпам, скорым ходам
Прабягаюць год за годам,
За гадамі — пяцігодкі,
Як бурлівай рэчкі хвалі,

І даўно памерлі продкі,
Што з Хвядосам выпівалі.

А за продкамі — іх дзеці,
А за дзецьмі — ўнукі следам.
Шмат навін у белым свеце,
Што пра іх Хвядос не ведаў.

Рэвалюцыі сусветнай
Адгрымелі навальніцы,
Сцерлі класавыя мэты
І дзяржаўныя граніцы.

І плямён адсталых масы
Развівацца сталі бурна,—
Гатэнтоты, папуасы
Хутка выраслі культурна.

У спаборніцтве заўзятым
Не здаюцца ім бушмены...
Год дзве тысячы трыццаты
Тут старому йдзе на змену.

З ім і новыя падзеі,
З ім наперад поступ новы,
А Хвядос усё ў музеі
Нерухомы і бязмоўны.

Што яму людская слава!
Што яму і поступ шпаркі!..
Небарак не выпіў нават
За сто год ніводнай чаркі.
Нос жа той — як і раней:
Ні бялей, ні чырваней.

### Пакрасуйся трохі, хлопец

Новы спосаб лекаў выкрыў
Доктар-хімік Набгарата.
Дзіўным спосабам нязвыклым
Ён лячыў людзей багата,

Ад атрутных розных ядаў
Адратоўваў іх нямала,

І ні разу смерць прынаду
З яго рук не вырывала.

Хай на смерць бядак атручан,
Хай атрута страшнай сілы,—
Уліваў бальзам гаючы
У застылыя ён жылы.

Пройдзе дзве ці тры гадзіны —
І нябожчык цісне руку,
Ўспамінае лёс свой дзіўны,
Славіць доктара й навуку.

Як дачуўся пра Хвядоса
Слаўны доктар Набгарата,
Зацікавіўся ён лёсам
Незвычайным экспаната:

— Вось на гэтакай арэне
Выпрабоўваць сілу ведаў!
Каб не ўтраціць мне здарэння,
Безадкладна ў Мінск я еду.

Аглядзеў Хвядоса скрозь
Пільна доктар Набгарата,
Запісаў у кніжку штось,
Лоб памацаў, нос пакратаў.

Як жывы, адно не дыша...
Праўда, трошкі сёе-тое
Пачапалі ў яго мышы,
Але гэта ўсё пустое.

Распачаў тут доктар лекі:
Апарацік выняў нейкі,—
Трубак, шрубак там мільён,
А да іх яшчэ балон.

У Хвядосаў труп застылы
Ён бальзам уліў у жылы,
Слой шкляны сказаў падаць,
Стаў за хворым наглядаць:

Гукамер прыклаў да вуха,
Да грудзей прылёг, паслухаў,

Праяснілася чало:
Сэрца біцца пачало...

Так павольна... ціха-ціха...
Вось гучней, мацней, часцей:
Знаць па ўсім — праходзіць ліха,
Моц жыццёвая расце.

Вось пачаў Хвядос лячыцца,
Пачало з яго сачыцца;
Вось цурком бяжыць наўздзіў —
Цэлы слоік нацадзіў.

Дух стаіць цяжкі ў пакоі,
Дзіва ўсім тут — што такое?
Ў нос дае, ну акурат
Як даўней дэнатурат.

Доктар мусіў растлумачыць:
Гэта ёсць спірытус віні;
Запаліў, і людзі бачаць:
Запалаў агеньчык сіні.

Невялікая ў ім прымесь —
Асядае муць на дно,
Ім распальваць добра прымус,
Ды ўжо іх няма даўно.

Доктар тут старой на змену
Літраў пяць уліў у вены
Штучнай свежанькай крыві,
Кажа хвораму: — Жыві!

Пакрасуйся крыху, хлопец,
У праменнях камунізму.
Соку тут пакуль што хопіць,
А цяпер паставім клізму,
Каб ачысціць шлунак трохі
Ад смяцця былой эпохі.

Задрамаў я, мабыць, троху

Вось і бруд даўнейшы выйшаў,
Вось Хвядос нармальна дыша,
Працірае нават вочы,
Вось сказаць ён нешта хоча:

— Задрамаў я, мабыць, троху...
Так яшчэ праспіш эпоху.
Не праспаць каб нам ўсё,
Вып'ем, хлопцы, кюрасо.

Ён абвёў пакой вачыма:
— Гэта што за чартаўшчына?

Зала... Белыя халаты...
Ці не ў сне мне ўсё звярзлося?
Ці мо гэта толькі сніцца,
Ці сапраўды тут бальніца?..
Я здароў, хачу дахаты —
На Падхлюпіскную, восем.

Незнаёмую гаворку
Чую я. Што ж гэта, ўрэшце?
Дзе я? Ў Лондане? Ў Нью-Йорку?
У Шанхаі? Ў Бухарэсце?
Якім чынам сюды трапіў,
Не магу ніяк уцяміць.

Ці не даў мне хто па храпе
Ды адбіў дарэшты памяць?

Мо за п'янае бадзянне
Хто й загрэў па мызе кія...
Людзі! Людзі! Грамадзяне!
Хто ж вы будзеце такія?

Без адказу тут застацца
Давядзецца з вамі, мусіць,
У каго ж бы распытацца?
Можа ,ёсць хто з Беларусі?

Тут жанчына адказала:
— Ты ж у Мінску, не ў Нью-Йорку,

Толькі ведае хто мала
Тваю родную гаворку.

Бач, з эпохай нашай новай
Незнаёмы ты праз хворасць:
Ўсеагульнай земнай мовай
Людзі ў большасці гавораць.

А ранейшыя ўсе мовы
Шчэ жывуць як дыялекты.
Для цябе ўсё гэта нова,—
Праляжаў жа цэлы век ты.

Вось мы трохі пагаворым...
Лёс бы твой мог быць і горшы:
Ты ж сто год ляжаў тут хворы,
Ды не хворы, а памёршы.

А як ты навек уклаўся,
Спаў, не дрыгаў і нагамі,
Дык тым часам кроў лілася
Тут у класавым змаганні.

Як працоўныя Расіі
Паказалі пуцявіну,
Дык буржуяў папрасілі
Не з адной яшчэ краіны.

Усё болей год ад году
Капітал у змозе кленчыў.
Перш за ўсё краіны Ўсходу
Рух узнялі вызваленчы.

За кітайцамі індусы,
За індусамі нубійцы
Захацелі з-пад прымусу
Лёсу лепшага дабіцца.

Калі спаў ланцуг іржавы,
Што зямля была ім скута,
Дык «вялікія дзяржавы»
Падрабнелі вельмі хутка.

І працоўныя Еўропы
У сябе ўжо далі раду.

Скарыстаўшы ўсходні вопыт,
Захапілі ў рукі ўладу.

Найдаўжэй у Новым свеце
Капітал трымацца здолеў,
Ды прайшло ўжо з паўсталецця,
Як яго рашылі долю.

Сам ты бачыш, такім чынам,
Час мы тут не марнавалі;
Пакуль меў ты адпачынак,
Крыху штосьці збудавалі.

— Гладка ўсё — камар не ўкусіць;
Складна так у вас выходзіць,
Але цётка, мабыць, хлусіць,
Разам з хлопцамі падводзіць.

Я ж не еў даўно гароху,—
З вамі цяжка згаварыцца;
Праўда, спаў я, мабыць, троху,
Ды не век — хвілін мо трыццаць.

Тут мяне й завезлі дзесьці,
А куды — не ўзяў я тропу.
Ну, куды ж маглі завезці?
Мо ў гасцініцу «Еўропу»?

— Ну не буду намагацца,—
Тут табе не растлумачыш;
Як не верыш, то памацай —
Хутка сам ты ўсё пабачыш.

Вось удзвюх атакавалі,
Павялі Хвядоса к ванне,
Мылі, церлі, шаравалі
Плечы, грудзі, ўсё дазвання.

Не саромеліся з хворым,
Завіхаліся сястрычкі,
А Хвядосу трохі й сорам,
Бо, вядома, без прывычкі.

Растлумачыла сястрыца
Тут Хвядосу ягамосцю,

Што ў іх звычай — ганарыцца
Свайго цела прыгажосцю.

Ды яму не палягчэла,
Не разважыў гэты гумар.
«Добра ім з такім вось целам,—
Сам сабе Хвядос падумаў.—

Я ж не бачыў на вяку,
Каб такія рукі, плечы...
А Хвядосу-бедаку
Ганарыцца вельмі нечым».

### Што ні ступіш, дык і цуд

Праз гадзіну Федзя з ванны
Выйшаў чысты і прыбраны
У дзівосныя трусы —
Шаўкавістыя, ў абліпку.

Зачасаўшы валасы
І задраўшы нос, як піпку,
Выйшаў зараз ён на ганак
Прывітаць жыццё і ранак.

І Хвядоса тут здзівіла.
Сапраўды бо — што за ліха?
Дом — не дом, у парку віла,
А наўкола ціха-ціха.

Толькі збоку за прыгожай
За жывою агарожай
Смех часамі чуцен звонкі
Ды прыбой людской гамонкі.

У спакойнай сіні мая
Не бразджаць званкі трамвая,
Не чуваць аўтаматораў,
Грукатні ламавікоў,

Звонкіх цокання падкоў,
Матацыклы ім не ўтораць.
На праспект Хвядос як выйшаў —
Рот разявіў, сам не дыша:

«Гэта ж,— думае ён,— тут,
Што ні ступіш, дык і цуд!..»
Яшчэ й цуд які — уга!
Як ступіў, адна нага.

У адзін бок шпарка едзе,
А ў другі другая недзе,—
Пакаціўся колесам.
Добра, што яшчэ не тварам —

Прывітаўся з тратуарам
Процілеглым полюсам.
Вось па гэтым першым цудзе
Падхапілі яго людзі,

Пераставілі убок,—
Ледзь адсопся галубок.
Глянуў ён, а перад носам
Дзве рухомыя палосы

Так бягуць нячутна, жвава:
Гэта — ўлева, тая — ўправа.
Ў кожнай з іх па тры струмені
З рознай шпаркасцю ў імкненні.

Па баках, як быццам бераг,—
І прысады, і кусты;
Ад прысадаў цень густы;
На панелі лаўкі ў шэраг,

Шмат людзей на лаўках едзе,
Той чытае, той гаморыць,
І ніяк не ўцяміць Федзя —
Як жа іх нячысцік гоніць?

А прыгожыя ж, наўздзіў!
Хто такіх і напладзіў?
Стан той стройны ды крамяны,
Твар прыветны ды румяны,

Тыя формы рук і ног
Быццам вытачыў станок,
Проста твор мастацкі нейкі,
Супраць іх куды там грэкі!

А як глянуў на свой стан,
Сам сабе нялюбы стаў:
Зложан так, без жаднай меркі,
Дзе ні глянь, дык скрозь загана:

Ногі тыя, быццам жэрдкі,
Рукі, як у павіяна,
Рэбры тыя, быццам лёсткі,
Прадзіраюць скуру косткі,

Сам гарбаты, нос кірпаты...
Дзёру даў бы ён дахаты,
Ды няма дзе толькі дзецца,
А вакол — не наглядзецца.

Далей, там, за тратуарам,
Бы ў разводдзе дзве ракі,
Два канвееры з таварам
Мкнуцца ў розныя бакі.

Ў карагодзе нейкім дзіўным
Ланцугом бесперарыўным
Прэ тавар на поўны ход,
Быццам крыгі ў ледаход.

Між канвеераў дарога,
Шліфаваная да бляску,
Па дарозе ж гэтак многа
За каляскаю каляска.

Як відаць — аўтамашыны,
Але што ж іх прэ так скора?
Шалясцяць-шапочуць шыны,
Не чуваць зусім матораў,

Не бразджыць нідзе жалеззе,
Дым бензіну ў нос не лезе.

. . . . . . . . . . . . .

Хоць дрыжалі трохі лыткі,
Хоць і сорамна без світкі,
Хоць і боязна Хвядосу,—
З нерухомай стаў ён пліткі
На рухомую палосу.

Побач з ім стаіць канапа.
Сеў, пусціўся ў падарожжа.
Разглядаць стаў паабапал —
Дзіўна так і так прыгожа.

Вось дзе вынік вольнай працы,
За якую... піў ён колісь:
Што ні дом, то ўсё палацы,
І не сніў такіх ніколі:

Формы розныя і стылі,
Быццам мары і імкненні,
У каменні тым застылі.
Ці жыве само каменне?

Пазнаваў Хвядос на вока
Сярод новых стыль калішні,
Але грэцкі ці барока,
Разбіраўся ён не лішне.

Ды прызнацца трэба шчыра,
Ён сто год назад і ў школе
Побач з готыкай ампіра
Не адрозніваў ніколі.

Шмат цудоўных кампазіцый
Ля палацаў з дрэў і кветак.
І Хвядос не наглядзіцца —
Незвычайна, дзіўна гэтак!

Вось нібы паўночны востраў,
Ён укрыт ледавікамі.
Лёд на ім у грудах вострых
Нагрувазджаны вякамі.

Там бразільскі лес, ліяны,
Тут дыван зялёны прэрый.
Іх ад сіні акіяна
Аддзяляюць Кардыльеры;

Вось граніт прабуе сілу
Белапеннай Ніягары,
Вось за сіняй стужкай Нілу
Мора жоўтае Сахары.

Арашаюць дрэвы й кветкі
Незлічоныя фантаны.
Між палацаў авіеткі
У ляту бесперастанным.

Адзіночкі аўтаптахі
Без магчымасці аварый
Апускаюцца на дахі,
Узвіваюцца пад хмары.

І дзівіўся з кожнай з'явы
Наш Хвядос аж, можа, лішку,
А пакуль ён рот разявіў,
Мы тут зробім перадышку.

### Праязджае ён «спакойна»

Вось плыве Хвядос, плыве,
А куды — не ў галаве:
Ў сузіранні патануў
Свежай рані, летуноў.
Вось узняўся рой лятучы.
Неўзабаве хтось гукае.
Не пазнаць, што голас штучны —
Прыгажосць у ім такая.
Пра Хвядоса тут гаворка,
Ён і сам мог дагадацца:
Да яго народ навокал
Стаў уважна прыглядацца.
А па радыё тым часам
На кароткай моўнай хвалі
Навіну сусветным масам
Пра яго перадавалі:
«...Медыцыны дасягненні!
Зноў над смерцю перамога!
Шчыра мы вітаем геній
І нябожчыка жывога!
Сёння ў Мінску а дзевятай
Той Хвядос заспіртаваны
Неўміручым Набгаратай
Для жыцця адратаваны.
І цяпер жывы пакойнік
Выйшаў нават на прагулку,—

Праязджае ён спакойна
Па Сатурнаўскім завулку.
Грамадзяне шчасце мелі
На Хвядоса любавацца
На дванаццатай панелі,
На дзялянцы трыста дваццаць...»

. . . . . . . . . . . . . .

Праз хвіліны дзве ці тры
Чуе Федзя, сам не свой,
Крылляў шум над галавой:
«Хай ты,— думае,— згары,—
Тут яшчэ які птах-дзядзя
Проста мне на карак сядзе
Ці, як некалі гракі,
Нумар выкіне такі».
Толькі-толькі ён нагнуўся,
Белы птах над ім мігнуўся
І спусціўся твар у твар
Побач з ім на тратуар
Ды з усмешкаю вясёлай
Вабіць чорнымі вачамі.
Забабонныя анёлы
Побач з ёй былі б сычамі —
Выглядала гэтак міла
Ў беласнежным штучным пер'і.
Хутка крыллі адшпіліла,
Непатрэбныя цяпер ёй,
І пусціла праз хвіліну
Апарацік фона-кіна,
Каб Хвядоса рукі й гукі
Занатоўваць для навукі.
Над Хвядосам той парой
Птахаў гэткіх цэлы рой.
Той на дол на момант стане,
Той узнімецца ў паветра,
Да Хвядоса з прывітаннем
Падлятаюць на паўметра,—
Белай шумнай чарадою.
Так кружыцца маюць звычай
Часта чайкі над вадою
Над прынаднаю здабычай.
А Хвядосу недзе дзецца
Перад тым крылатым зборам,

Каб прымеў, то збег бы, здэцца,—
Непрыемна нек і сорам,
Калі круцяцца над каркам.
Вось ён злез і крочыць паркам
Па дарожцы між прысад,
Не ўглядаецца назад.
Шпарка крочыць, хоць не снедаў,
А за ім дзяўчына следам.

**Вы ж мне нават мо й радня**

Вось між шолаху вяршын
Чуцен роўны шум машын.
За прысадамі — будынак.
На пляцы перад франтонам
Разляглося з сотня свінак —
Што ні дзёдзя, дык і тона.
Бачыць гэтакіх свіней
Федзю нашаму ніколі
Не здаралася раней,
Як ён пасвіў іх у полі.
Той вунь містэр іоркшыр
Ці яго мадам свіння,
Як удоўж, дык так і ўшыр —
Проста з добрага каня.
Зацікаўлен дужа Федзя,
Да відовішча ён ласы,
Каб папесціць ды разгледзець,
队ралез цераз балясы.
З ласкай цёплай ён да дзёдкі,
Як да роднай, здэцца, цёткі:
— Не зважайце, што свіння,
Вы ж мне нават мо й радня:
Я ж калісьці з вашым продкам
(Белы быў, з лычом кароткім),
Малады як быў і дужы,
У адной купаўся лужы.
Бруднай шмат было вады,
Ды я п'яны быў тады,
А цяпер вось і цвярозы
(На вачах Хвядоса слёзы)
Вельмі рад, што вас сустрэў я.
Стаў ён чухаць падчарэўе,

А яна — «без задніх ног» —
Так пяшчотна: рох ды рох.
Не заўважыў нават Федзя
Праз свіную гэту ласку,
Што з «раднёю» разам едзе
Свінабойні проста ў пастку.
Вось сталёвая рука
Згрэбла спрытна вепрука,
Аглушыла кухталём,—
Скура коціцца кулём.
Развітальны віск пачуўся —
Аж тады Хвядос прачнуўся,
Завішчаў ад жаху так,
Як у плоце падсвінак;
Перапуджаны без меры,
Шмаргануў якіясь дзверы.

### Чалавек сто год не снедаў

Як, стуліўшыся ў куток,
Ён асвойтаўся чуток,—
Аж пад ложачкай зассала:
Колькі тут вянгліны, сала!..
Паляндвіцы, кумпякі!
Смачны дух ад іх такі.
Самі робяцца кілбасы,
Самі валяцца на пасы,
Самі едуць да варот,
Чуць не лезуць самі ў рот.
І кіруюць рухам цэлым
Чалавек мо з пяць у белым,
На пляцоўках угары
Націскаюць вагары.
У варотах змена плыні,
Федзю зноў — не надзівіцца:
Самі лезуць тут у скрыні
І кілбасы й паляндвіцы,
Хітрым шэрагам прылад
Самі рухаюцца ў склад,
Так імчаць, аж вецер дзьме.
Ды Хвядосу не наўме
Ні канвееры, ні вышкі,
Калі граюць марша кішкі —

Чалавек сто год не снедаў.
Смачнай ежы шмат навокал
Так прывабна песціць вока,
Пажывіцца ж як — не ведаў.
«Каб было куды пакласці,—
Сам сабе падумаў Федзя,—
То не грэх было б і ўкрасці,
Ды схаваць, хоць трэсні, недзе».
Сам пры гэтым агляну́ўся,
Над канвеерам нагнуўся
Ды цішком паўкілбасы
Палажыў сабе ў трусы
І, як выслізнуў за дзверы,
Свайму шчасцю сам не верыў,
А дзяўчына там была,
Цікавала ўсё з-за сала,
Апаратам зазняла
І ў блакноцік запісала.
Задзівіла яе троху,
Што ў мінулую эпоху
Мелі звычай людзі ежу
Запіхаць сабе ў адзежу.
Федзя мерыўся ўжо есці —
Так нязручна ежу несці;
Глянуў ён цераз плячо,
Зноў тут гэтае дзяўчо.
«Яшчэ,— думае,— халера,
Клікне міліцыянера».
І збянтэжаны Хвядос
Далей снеданне панёс
У трусах, аж да панелі,
Хоць не еўшы ногі млелі.
Гэтым часам людзі скоса
Паглядаюць на Хвядоса.
Вось да нашага «калекі»
Падышоў вучоны нейкі,
Антраполаг мо ці доктар,
Зацікавіўся, паторкаў.
Вось за ім яшчэ другія
Падыходзяць да Хвядоса.
Тут паперы ўжо благія —
Небарак наш толькі носам
Безупынна хліп ды хліп:
«Вось дзе,— думае,— я ўліп!

Што-та будзе?.. Што-та будзе?..
У турму яшчэ пасадзяць...
Моцна зганьбяць ды асудзяць
Як грамадскае пазаддзе.
Тут няма куды дзявацца —
Трэ ў пакражы прызнавацца
Без крутні і без маны».
Калі доказы віны
Выняў ён без лішніх слоў,
Хто з Хвядосам толькі ехаў,
Ад нястрыманага смеху
Пакаціліся далоў.
Быццам чэрці казыталі,
Да паўсмерці рагаталі,
Аж да слёз, да хрыпаты,
Падарвалі жываты.
А ў Хвядоса дык ад жалю
Нават губы задрыжалі:
Сорам вельмі, горка ўдвойчы —
Аж слязой набеглі вочы.
Смеючыся, людзі бачаць:
Штось Хвядос пачаў тлумачыць
Ды паказвае на рот.
Дагадаліся нарэшце:
Гэта ж ён так хоча есці.
Супакоіўся народ,
За свой смех аж ім нялоўка,
Паказалі, дзе сталоўка.

**Ежа валіцца, як з неба**

Да сталоўкі Федзя крочыць,
А сумненні яго точаць,
А чарвяк яго грызе:
«Пастаіш тут у чарзе.
Прапаўзеш чаргу жывую,
Дай ім кніжку паявую;
Калі й выдадуць табе,
Чым заплаціш за абед?
Ані грошай, ані кніжкі,
А ўсё граюць марша кішкі...
Хіба мо каб пастараўся,
Накармілі б напавер...»

. . . . . . . . . . . . .

Неаглядная тэраса,
А над ёй яшчэ паверх,
Навакол тае тэрасы
Карунковыя балясы.
Каляровыя кілімы
Разаслаліся за імі,
Іх убор у поўным цвеце,
Іх узор мітусіць вецер.
На тэрасе ў гэтай раме
Крэслы доўгімі шарамі.
Апроч іх... Але што гэта?
Ні народу таго валу,
Ані касы, ні буфета,
Ні сталоў, ні персаналу.
Ціха, чыста ўсё прыбрана,—
Знаць, абедаць яшчэ рана.
Вось Хвядос на крэсла сеў,
Разглядае пакрысе.
Як прывыкла вока трошкі,
Бачыць ён — ля крэслаў дошкі.
На тых дошках кнопкі, кнопкі,
А пад імі літар кропкі.
Што на дошках так прыгожа
Пазалотай ціснена,
Разабраць Хвядос не можа —
Не пры ім напісана.
Ён сядзіць і думку песціць —
Як усё ж бы тут пад'есці?
А пакуль ён марыў гэтак
З прыкрай млявасцю у целе,
Штук пятнаццаць авіетак
Да сталоўкі падляцелі.
З іх юнацкі смех пачуўся,
Галасоў вясёлых гама.
Рад Хвядос наш: «Павучуся,
Пагляджу, як будуць шамаць.
Сам сабою тут, хоць трэсні,
Не дастанеш нават крошкі».
Увайшлі, занялі крэслы,
Нахіляюцца да дошкі.
І за столікам тут столік
Апускацца сталі з столі,
На сталах на гэтых страва
Дражніць нос прынадным пахам.

«Ах, дык вось у чым тут справа!
Ну, цяпер мы — адным махам.
Ежа валіцца, як з неба,
А я ўсё сяджу ды кісну.
Нават грошай тут не трэба,—
Зараз кнопку вось націсну.
Ды якую ж толькі выбраць,
Каб таран не трапіў часам?
Добра будзе, калі з рыбай,
Яшчэ лепей, калі з мясам,
Хоць не ганьба й тарану...
Вось я гэту таркану!»
Цісне Федзя кнопку пальцам:
«Ох, каб, здэцца, гуска з шмальцам!»
Зараз (на́ табе) і стол
Ля Хвядоса стаў на дол,
І пасуда на стале,
Толькі... ежы не стае,
А ў пасудзіне відно,
Мусіць, нейкае віно:
Такі колер ружаваты,
Такі кубак дужаваты,
Можа, нават з паўзбана —
Не шкадуюць тут віна.
Як паднёс Хвядос да губак,
Плюнуў зноў назад у кубак,—
Ну які ж бо дурань стане
Піць ваду для паласкання,
Хоць пахучая такая?..
Зноў ён кнопку націскае:
Гэта нейкая ўжо страва —
Не то мяса, не то рыба.
«Ну, а з чаркай як жа справа?..
Падражнілі толькі хіба?
Ператоркаю ўсе кнопкі,
А не выйду я без стопкі
Там якой бы гаркаты хоць».
І пачаў ён кнопкі тыкаць
Пальцам, локцем, кулаком.
Стала ежа тут валіцца,
Сталі стравы тут хваліцца
Маслам, мёдам, малаком.
Але вось на сёмай кнопцы
Прыкрасць зноў чакала хлопца:

Раптам зверху дзве рукі —
Металёвыя крукі —
Стол схапілі ды панеслі,
А Хвядос ні з чым на крэсле.
«Эх, дарэмна ежай грэбаў!
Толькі сам сябе караю,
Націскаць спачатку трэба.
Вось пачну з другога краю».
Тройчы кнопкі як парнуў,
Дык і стол назад вярнуў —
Кубак пеннага віна,
Птушка, мёд, садавіна.
Ля пітва і каля ежы
Ўзяўся Федзя як належыць,
Не прасілі яго ласкі —
Еў і піў, аж чуб намок.
А пасля такой папаскі
Любата пусціць дымок
(Каб сюды старыя порткі,
Там было чуток махоркі).

**Спяць даўно ў зямлі сырой**
**Людзі з псіхікай старой**

Ногі йсці не маюць сілы,
Галава — ў бакі на карку.
— Эй!..Таварыш!.. Слухай, мілы!
Будзь хлапцом, дазволь цыгарку!
Што? Шкадуеш? Эх ты, с-сукін!..
Не даеш... мы самі... купім.
Дзе ўзялася зноў дзяўчына:
— Вось хачу я запытацца...
Што, скажы мне, за прычына:
Раптам ты пачаў хістацца,
Глупства ўсякае гаворыш,
А здаецца, і не хворы ж?
— А!.. бабец... загаварыла...
Як цябе?.. Макрына? Клава?
Выпіў я... свіное рыла...
І бужу... І маю права.
— Ты віна піў, праўда, ўволю,
Ды віно ж без алкаголю!..

— Быць не можа!.. Цётка, маніш.
Але ўрэшце... сапраўды!
Хмелю, здэцца, анізвання ж,
Галава ў бакі не водзіць,
Вось і ногі роўна ходзяць —
П'яны, значыць, ад вады?!
Выбачайце за абразу,
Не было ж мне так ні разу.
Гэта, значыць, па прывычцы,
Так сказаць, рэфлекс умоўны:
Я ж кульнуў тры кубкі поўных —
Як тут, думаю, не ўпіцца?
— Я не крыўджуся, дарма,—
У адказ яму дзяўчына,—
Бо цікаўлюся й сама
Кожным гэтакім учынкам.
Выўчыць маю я на мэце
П'яніц прошлага сталецця,
Іх паводзіны і густы.
Пра людзей такога складу
Кніжак я чытала многа,
А цяпер вось вельмі рада
Бачыць п'яніцу жывога,
І тым больш, што беларус ты.
Беларуска й я таксама,
І завуць мяне Мальгрэта.
Прадзед мой, казала мама,
Часта нюхаў зелле гэта,
Хоць не так, як ты, вядома.
Ну дык вось і будзь як дома,
Не саромейся ні крышкі,
Толькі выбач на кілішкі,
Бо нідзе не знойдзеш тут ты
Гэтакай сабе атруты.
На цыгаркі, каб прыйшлося,
Зноў жа прыйдзецца прабачыць.
А цяпер скажы, Хвядосе,
Што б ты ў нас хацеў пабачыць?
— Столькі знойдзецца жаданняў,
Што й здаволіць не бяруся.
Добра б глянуць, як сяляне
Ў нас жывуць на Беларусі,
Пабываць і каля нас там,
Каля роднай, значыць, вёскі —

Ці ліпіць яшчэ калгас там,
Ці распаўся на палоскі;
Мо стаіць яшчэ там хата
Ці мая, ці хоць бы й жонкі;
Можа, праўнук майго свата
Ці не цісне самагонкі;
Ці ўрадзіла ў яго збожжа,
Ці мо голыя засекі;
Ці не дасць ён трохі, можа,
На цыгаркі самасейкі.
Завітаць хацеў бы ў госці
І да вашых пралетараў —
Я ж таксама ў маладосці
Пра камуну часта марыў.
Камунізму вось ці многа,
Ці ўсё ёсць яшчэ ваганні;
Ці не трэба дапамога
Ім у класавым змаганні,—
Дык і я магу пад кіпець
Там якога Чэмберлена.
Перад гэтым толькі выпіць
Дзеля смеласці нядрэнна.
Гэта, скажуць мо, драбніца,
Ды не піўшы як жа біцца?
— Так, нішто з цябе ваяка —
Выдраць лысаму валоссе,
Ды, шкада, вайны ніякай
Для цябе не засталося.
Паміж кім яна й магла быць,
Ты вось толькі раскумекай?
Сам спазніўся троху, мабыць,
Так прыблізна на паўвека,
І калі б працёр ты вочы,
Дык не блытаўся б дарма:
Ні буржуяў, ні рабочых,
Ні дзяржаў даўно няма,
Ані розніцы старое
Паміж горадам і вёскай;
Зніклі бойкі, знікла зброя,
І міліцыя, і войска —
Іх не стрэнеш болей зноў ты.
І дрэдноўты й звышдрэдноўты,
Кулямёты і гарматы,
Агнямёты і гранаты,

Штых, наган і стрэльба з шашкай,
Горы рознай броні цяжкай —
Тон мільярды лепшай сталі
Для машын мы скарысталі.
— Пачакайце... Стойце... Годзе...
Нешта цямлю я пагана...
Ну, а як жа Бэндэ ходзіць?
І няўжо ён без нагана?
Глупства, мабыць, я змарозіў,
Не па той пайшоў дарозе —
Па даўнейшай цаліне;
Пра той факт забыўся просты,
Што ўжо мне сто дваццаць шосты,
Што сябры даўно ў труне.
Ну, без войска мо й нядрэнна
(Я пра нашу зноў гаворку),
А міліцыю — дарэмна,
Без яе не выпадае:
А як брудна ў панадворку,
Хто вас штрафам абкладае?
Каго клікнуць, як дзе ў садзе
Вам у лбе праломяць дзірку?..
Яно й так другога дзядзю
Часам варта ўзяць за шкірку.
— Наварочаў страхаў груды,
Толькі страхі ўсё старыя:
Выратоўвае ад бруду
Нас усіх санітарыя.
Тут здароўе — мера й вера.
У грамадстве нашым новым
І без міліцыянера
Кожны згодзен быць здаровым.
Бачыў ты хоць дзе няўклюду
За ўвесь час тут? Ну ды во як:
Ні аматараў да бруду,
Ні ахвотнікаў да боек —
Спяць даўно ў зямлі сырой
Людзі з псіхікай старой.
Звычак тых маглі б трымацца
Толькі выродкі ў народзе,
Ды здаровае грамадства
Гэтых выродкаў не родзіць.
І «угробіць» — рэч старая.
Больш ніколі й не кажы так:

Гэта ўражанне стварае,
Як агідны перажытак
Тых часоў яшчэ агідных,
Калі жонку муж валтузіў,
Калі грызліся па тыдню
За няўшыты ўпору гузік;
Ненавідзелі да скону
І жылі да смерці разам,
Моцна быў так «шлюб законны»
Лахманом супольным звязан.
Над жанчынаю дашчэнту
Рэшткі ўсе апекі сцёрты.
— Хто ж вам плаціць аліменты?
Ці ўсё робіце аборты?
— Ад тваіх, Хвядос, пытанняў
Стогадовай вее цвіллю,
Быццам шлюць мне прывітанне
Тваё жонкі з замагілля,
Што калісьці моцна гэтак
Да сябе ты іх прыгортаў,
Што плаціў ты ім на дзетак,
Што памерлі ад абортаў.
Але досыць, сам пабачыш,
Бо ўсяго не растлумачыш.
Ты б хацеў у падарожжа —
Мы нядаўна гаварылі...
З пасажырскім гэта можна,
Ды зручней на аўтакрыллі:
Што захочаш, тут паглядзіш,
Дзе захочаш, там і сядзеш,
Зноў узнімешся ўгару там,
І не прыйдзецца лічыцца
З устаноўленым маршрутам,
Толькі трэ лятаць навучыцца.
Зараз зоймемся мы гэтым,
Можа, й пойдзе ў нас на лад,
А цяплей каб быць адзетым,
Накіруемся на склад.

**Магазін — Міншвеяў дваццаць**

Магазін — Міншвеяў дваццаць,
Прадаўцоў зусім няма там:
Хто прыходзіць адзявацца,

Мае справу з аўтаматам.
На пляцок абы-хто стаў,
Аўтамат абніме стан,
Як прыяцеля, сустрэне,
Без капрызаў, без скандалаў
Зніме мерку дасканала —
Падбярэ табе адзенне.
З магазіна што забрата,
Ўсё падлічыць рэгістратар.
Ён, вядома, не калежскі,
Ён без гузікаў, без цэшкі,—
Яму чына не стае,
І мундзіра ён не носіць,
Ён і хабару не просіць,
І паперы не псуе,
Да прагулаў непрывычны —
Апарат ён электрычны.

. . . . . . . . . . . . . .

Калі ў склад Хвядос з'явіўся,
Аўтамат аж задзівіўся
Ды спыніўся ў задуменні:
Стан-то стан, але пытанне,
Што да стану тут прыстане?
Дзе ж узяць яму адзенне?
Колькі ён людзей ні мераў,
Не было такіх размераў.
Падабраць тут цяжкавата.
З дапамогаю Мальгрэты
Быў Хвядос усё ж адзеты.
Праўда, трохі мешкавата,
Ды няма што выдумляць —
Прачакаўся лётны пляц.

**Тут герою прывітанне**
**з першай спробаю лятання**

Неўзабаве Федзя ўбачыў
Велізарны пляц дзіцячы.
Апараты, авіеткі,
Аўтакрыллі на пляцы.
Ля машын натоўпам дзеткі —
І дзяўчаткі, і хлапцы.

За чародкаю чародкі,
Быццам восенню шпакі,—
І не снілі іх і продкі,
Цацак-забавак такіх.
Тыя ў конікі гулялі,
Асядлаўшы верхам палку,
Смела гэтыя з рулямі
У надхмар'е мкнуцца змалку.
Вось вучобаю заняты
Юных птахаў эскадрыллі,
Быццам тыя птушаняты,
Распраўляюць свае крыллі.
На той бок узорных кратаў
(Цёмнай бронзы з серабром)
Сотні лётных апаратаў
Прытуліў аэрадром,
Разнастайнасцю багатых:
Пасажырскія гіганты,
Цяжкавозы грузавыя,
Даўгалёты прызавыя,
Быстралётныя спартсменкі...
І лупіў бы доўга зрэнкі
Наш Хвядос на ўсё на гэта,
Каб не крыкнула Мальгрэта.
Тут герою прывітанне
З першай спробаю лятання!

. . . . . . . . . . .

Падабралі, прышпілілі
Да Хвядоса аўтакрыллі
І яшчэ на кожны бок
Адмысловы паплавок,
Каб лягчэйшым было цела,
Каб не падала, ляцела.
Вось маторык завялі.
Тыя крыллі мах за махам
Ды зрабілі Федзю птахам —
Аддзяліўся ад зямлі,
Ногі служаць за рулі.
Пад апекаю Мальгрэты
Залунаў ён у паветры
Так, як бусел той, але —
Што вышэй, то ўсё бялей.
Не было так з ім ніколі —
Нават нос змяніў свой колер,

Праз дзесятак некі метраў
Стаў прасіцца птах з паветра.

. . . . . . . . . . . . . .

Толькі ўспеў Хвядос прыбегчы,
Хочуць зноў яго запрэгчы.
Ён і сам ужо не рад,
Але каб не здацца трусам,
Быць адважным беларусам,
Храбра лезе ў апарат.
Зноў маторык задрыжаў,
Зноў паўзе па целе жах,
Зубы ляскаюць, і птаху
Дрэнна стала зноў ад страху.
Здагадалася Мальгрэта,
У вачах усмешкі іскры:
— Не да густу табе гэта?
Ну, тады на пасажырскім.
Ты лятаць — смяльчак адпеты,
Ды шкада, што смеласць тая,
Яшчэ ўзняцца не паспеў ты,
А яна ўжо й вылятае.
Ну нічога, мы нагонім,
Паляцім яшчэ сягоння.

### Спакайней было б на концы

Як з узрушаным нутром
Трапіў на аэрадром
Ды наўкола Федзя глянуў,—
Анідзе аэрапланаў,
Толькі проста на зямлі
Караблі — не караблі.
Той вунь мае выгляд лодкі,
Што даўней калісьці продкі,
Як на моры вялі бой,
Пад вадою прэлі ў ёй.
Ды за лодку ён шырэй,
Шмат акон у ім, дзвярэй,
Дах пакаты на два спады,
А на даху тым прылады
(Вось такія ў ветрака
Федзя крыллі сустракаў),

І наперадзе й на задзе
Па адной яшчэ прыладзе.
А на палубу з перона,
Як на прыстані ўсё роўна
Ці на станцыі раней,
Наплываў людскі струмень.
Толькі быў парадак строгі:
Не налазілі на ногі,
На мазоль не наступалі,
Багажом не засыпалі,
З-пад куфэркаў ды пакункаў
Не прасілі паратунку;
У сярдзітым узрушэнні
Не брыкаліся абцасам;
Не залазілі ў кішэні,
Як даўней бывала часам;
Ні мукі тае ў мяшках,
Ні сабак на ланцужках,
Пеўні ў кошыках не пелі,—
Багажу зусім не мелі.
Не было тут даўгакрысых,
Барадатых, сівых, лысых,
І маршчынамі іх твары
Ім гады не дратавалі.
Між натоўпу наш Хвядос
Прытуліўся да Мальгрэты,
Ласкай цёплаю сагрэты,
Да пляча яе прырос —
Ёсць таварыш у бядзе.
А яна яго вядзе,
Як рахманага вала.
Вось на палубу ўзвяла:
— Ну, Хвядос, на гэтым смела,
Без ніякай рызыкі.
А ў Хвядоса шэрхне цела,
Па ўсім целе дрыжыкі.
Самалёт ён вокам змераў:
«Чорт яму тут вельмі й верыў,
Спакайней было б на концы.
Я любіў яе бясконца,
Як была яна раней,
Нават вось і на трамваі
Я — ніштто яшчэ трываю,
Ну, а тут яно страшней:

Сапсуецца гэты «млын» —
І расплешчашся на блін,
Будзе «вечны супакой».
І з трывожнай думкай гэтай
Увайшоў ён за Мальгрэтай
Недаверліва ў пакой.
— Зараз будзем узнімацца?
— Смела, можаш не трымацца.
Скінь навалу страху з карку,
Разглядай жывую карту.
Кнопку — торк, і зараз — гоп!
Перад Федзем перыскоп:
Люстра, трубка за падпорку,
Пара нейкіх цыбукоў,
А відаць усё знадворку
І наперадзе й з бакоў.
Але раптам — вось цікава! —
Ад яго зямля ўцякае.
Асядае ўніз зямліца,
Быццам хоча праваліцца.
Лётны пляц, дамы, панелі
Моцна раптам падрабнелі,
Паплылі на поўнач дзесьці,
А Хвядос, як быў, на месцы.

### Скрозь электрыка слугуе

Праплывае пад ім горад,
Ён сядзіць, і мала гора,
Толькі дзіва Федзю зноў:
Ані дыму табе тога
Непрагляднага, густога,
Ні фабрычных камінoў.
З запытаннем да Мальгрэты:
— Як жа ў вас жывуць паэты?
Ані хмаркі таго дыму,
Дзе ж набрацца ім уздыму?
Мы ж калісьці маладымі
Проста плавалі у дыме;
У другога юнака
Верне з кожнага радка.
І чытач над гэткім вершам
Адчувае, што падвешан

У вянглярні на крукі,
Каб правэндзіць кумпякі.
А без гэтакай прыправы
Дзе ж ты дзенеш верш каравы?
— Ты паслухай, і тады мо
Ўсе сумненні разганю:
Мы жывём не то без дыму,
Нават проста без агню.
Ды і ў вершах строй інакшы:
Не дымяць паэты нашы,
Не палаюць і не цьмеюць,
Ну, зусім «гарэць» не ўмеюць.
Усялякія гарэнні
Зніклі ў электраправенні,
І пра дым ніхто не марыць.
— А на чым жа есці варацъ?
Ды ў час лютае зімы,
Час марозаў, завірух,
Ацяпляюць чым дамы?
Што дае машынам рух?
Вось уцяміць не магу я.
— Скрозь электрыка слугуе.
— Дык скажыце ж мне таксама,
Хто ў вас рухае дынама?
Хіба чорт ці святы дух?
— Бач, даўно, з каторых пор мы
Укілзалі злыя штормы,
За сівыя ўзялі грывы
Табуны валоў бурлівых,
І адлівы і прылівы
К нам на службу прывялі.
Сонца яснага праменне
Можам мы сабраць у жменю
Ці рассыпаць па зямлі.
А калі магутны атам
Мы для працы пакарылі,
Стаў народ такім багатым,
Што канца няма той сіле.
— Хай у вас тут санцабуды
Ці яшчэ якія цуды,
Але ж (хіба я сляпы?)
За ўвесь час (хоць і кароткі)
Не заўважыў я праводкі.
Дрот жа дзе ваш ды слупы? —

Вось над чым я ў задуменні.
— Нашы электрапраменні,
Куды хочам, мы без дроту
Пасылаем на работу.

**Паміж горадам і вёскай аніякай розніцы**

— Калі цётка тут не маніць,
Шмат цудоўнага на свеце.
Але ж вось вы мне скажэце:
Ці ўсё Мінск яшчэ пад намі,
Ці над вёскай гэта мы?
Не магу я разабрацца.
Тыя ж, здэцца, ўсё дамы —
Велізарныя палацы,
І такая ж вось дарога,
І машын таксама многа,
І на вуліцах людзей;
Стрэх не бачу саламяных,
Азяродаў паламаных...
Хоць паселішчы радзей,
Іх кругом пааблягалі
Цёмнай зелені прагалы:
Ці не поле яравое?
Гэта поле сапраўды.
Вунь штось поўзае жывое
Там далей на полі ворным...
Так як вол, здаецца, чорны
Між авечай чарады...
Аж блішчыць на сонцы спіна...
Пачакайце... То ж машына!
І па полі цягне шмат
Разнастайнейшых прылад
За сабою чорны воле,—
Урабляюць, значыць, поле.
Вунь абшар які заворат!
Значыць, гэта ўжо не горад?
— Я ж казала ўжо, Хвядоска,
Ў нас між горадам і вёскай
Аніякай розніцы.
Ты пакінь сваю прывычку
Ўспамінаць былую «смычку»

Ды былыя «ножніцы».
Ты яшчэ не ўцяміў хіба,
Што ўжо нават тыя словы
«Горад», «вёска» выйшлі з моды,
Ёсць адзінае — «сяліба»,
А ў ёй фабрыкі, заводы
Ды культурныя ўстановы,
Толькі часам іншы выраб...
— Як не будзеце вы лаяць,
Папрасіў я вельмі шчыра б
Растлумачыць мне ясней,
Што ж тут вёскі вырабляюць?
— Вырабляюць тут... свіней.
Тая зелень, што ты бачыш,
Першасортны харч свінячы.
Тут ад Оршы да Гародні
І ад Слуцку да Сянна
Гаспадарка ўсё адна,
Ўсё з ухілам свінаводным.
Бачыш, колькі тут будынкаў
Для свіней і для падсвінкаў
На абшары велізарным?
Гэта вязынскі свінарнік.
Іх тут тысяч пяцьдзесят,
Не лічыўшы парасят.
— Помню, звалі яго ў нас
Вязынь-Фаніпаль — саўгас.
Шмат хто ў друку яго крыў,—
Тут заўсёды быў прарыў,
Не залатваўся ніколі:
Альбо згноіць жыта ў полі,
Альбо бульбы не ўбярэ,
Альбо ў трактара прагулы,
Альбо гнедыя й рагулі
Зазімуюць на двары;
І было ў яго раней
Болей свінства, як свіней.
А цяпер вунь мясюга́ там
На відэльцы прэ сама...
Так, закускі ў вас багата,
Ды галоўнага няма.

**Прыглядайся на страсе,**
**разбірайся пакрысе**

— А скажыце, не маглі б
Вы яшчэ назваць сяліб,
Што пад намі праплываюць?
— Яны ж надпісы ўсе маюць
Ды двоякай нават мовай —
І агульнай і мясцовай.
З літар кожная ў шэсць метраў,
Па аднэй, па дзве на даху,
Каб відаць была з паветра
Самалёту-аўтаптаху.
Прыглядайся на страсе,
Разбірайся пакрысе.
— Ву... Дзве літары злажыў,
Пачакайце, зараз: Ву-са.
Э! Дык тут жа Глебка жыў!
Хоць не часта піў ён чарку,
Хоць не быў занадта п'яным,
Але выдумаў жа «арку»
Будаваць над акіянам.
Вось Н-і-з-о-к — радзіма Труса.
Жыў такі паэт-юнак,
Быў вясёлы ды здаровы,
Павянчала смерць, аднак,
Юнака вянком лаўровым.
А яшчэ скажыце — вы
Не чыталі Крапівы?
Не здаралася ніколі?
А я знаў яго даволі.
Ён таксама з гэтай вёскі,
Шмат пісаў аб справах боскіх.
Чуць мы з ім не сябравалі ж,
На Падхлюпінскай жылі,
Хоць ён дрэнны быў таварыш —
Наступаў на мазалі.
Вось К-а-п-ы-л ь. Свінарнік бачу.
Чую музыку свінячу.
Тут, мне помніцца, й даўней
Добрых шмат было свіней,
Жарабцы былі, паэты —
Пладавіты горад гэты.
З Капыля такая шышка,

Як, напрыклад, Гартны Цішка.
Праз нахілы да дыскусій,
Ды праз «трэскі», ды праз «хвалі»
Яго ў нас на Беларусі
Нібы лысага ўсе знала.
Ён-то й быў не кучаравы,
Камляваты, невысокі,
Дзеля справы, дзеля славы
Ў выдавецтве ціснуў «сокі».
Ад Капыля за дзве мілі
Кузьму белага чарнілі.
Тут у Цімкавічах, помню,
Ў год вялікі, пераломны,
Як ядро сялянскай масы
Паімкнулася ў калгасы,
Як бядняцкая рука
Гнала ў карак кулака,
Быў адзін галавацяп,
Запісаць як больш хацяб,
Лозунг кінуў ён такі:
«Ці калгас, ці Салаўкі».
І пайшлі, прасіцца сталі
Ўсе з мястэчка да душы:
«Дзядзя, мілы, запішы!»
А пасля, як прачыталі
У газеце пра загібы,
Дык назаўтра ўся сяліба
Разбіраць пайшла скарэй
Абагуленых курэй.
Дзесьці тут была мяжа,
А за ёй, крывёй заліта,
Панства «Жэчы Паспалітай»,
Дзе крывавы гойсаў жах,
Дзе душылі ў турмах поўных
Сотні, тысячы працоўных.

### Не хлясціць Палессе пусткай

— Самалёт ляціць на Кіеў.
Ты асвойтаўся ўжо, здэцца.
Можа, мы яго пакінем,
Паляцім на авіетцы? —
Запыталася дзяўчына.
— Вунь на той я паспрабую.

— Не баішся? Малайчына!
Выбірай сабе любую.
Неўзабаве пераселі,
І Мальгрэта руль трымае.
Як даўней на каруселі,
У Хвядоса дух займае.
А сялібы злева, справа
І пад імі — штохвіліны.
З імі шэрагам яскравым
Перад Федзем успаміны.
— С-л-у-ц-а-к. Смачныя без меры
Тут раслі калісьці бэры.
Бачу — Л-ю-б-а-н-ь паміж лесу,
А далей — раку Арэсу.
Быў тут Мар'інскі масіў,
Селянін тут гразь мясіў,
Асушаў, машынай чэрпаў.
Тут жа цёрся і Прышчэпаў.
Ён да часу, да пары
Тут насаджваў хутары.
Як яго ж утаймавалі
Ды калгасы збудавалі,—
На дрыгве ды на трысці
Пачалі яны расці.
І цяпер вось колькі еду,
Як ні мчыць мой конь крылаты,
Ўсё пад ім дыван кашлаты,
Не відаць балота й следу.
Вунь Князь-возера сінее.
Вандраваў і тут даўней я.
Памятаю, гэты «князь»
Паважаў занадта гразь —
Навакол яго было там
Непралазнае балота.
Тут яшчэ вучоны Свербаў
Акалочваў грушы з вербаў.
Кажуць, скончыў быў той дзед
Ерундычны факультэт.
Вунь да Ляскавіч дарога.
Жыў там сябар мой Сярога...
Тут арцель яшчэ жыве мо
(Можа, й масла прычакала),
Што малочную праблему
Так развязвала цікава.

Ляскаўчанам стала ясна:
Лепей з маслам, чым без масла,
І яны (ці не ў Капылі)
На завод быка купілі,
Ды не могуць надзівіцца,
Што цялят няма ад швіца.
Скрозь па вёсцы охі й ахі —
Хоць ды здай быка ў манахі.
Потым бачаць ляскаўчаны —
Бык ім трапіўся злягчаны.
— Той арцелі не існуе,
Але добра й без яе мы
І малочную й мясную
Тут развязваем праблемы.
— Бачу. Скрозь дыван зялёны
І паўз Прыпяць і за Прыпяць,
Суха скрозь, як на далоні,
Недзе й чорту хвост задрыпаць.
— Праўда, зніклі ўсе балоты,
І людзей больш чорт не зводзіць,
Хоць рагатыя істоты
І сягоння вольна ходзяць
Па абшары тым зялёным,
Пад сабой што бачыш ты:
Тут жывёлаводнай зоны
Скрозь гадуюцца гурты.
Дзе калісь былі выгары
Ды ў багне карчы тарчалі,
Там засеяны абшары
Сакавітымі харчамі.
Не хлясціць Палессе пусткай,
У дрыгве не гіне марна,
Узраслі на глебе тлустай
Маслабойні, сыраварні.
І прарэзваюць разлог
Стужкі чорныя дарог.

**Над пейзажам над прыгожым асыпаюцца ўспаміны**

Авіетка шпарка мчыцца,
Бы з віхрамі ўперагонкі,
Цераз Мозыр і Рачыцу

Па шляху былой чыгункі;
Самалёты грузавыя
Абганяе птахам шустрым,
Ажно вецер грозна вые...
Вунь Дняпро мігнуўся люстрам.
Але вось Хвядос збянтэжан,
Аж мароз паўзе па скуры:
Як пасля зімовай буры,
Скрозь пад ім прастор аснежан.
Зрэдку лапінка жывая,
Зноў хаваюць зелень гурбы.
— Што за штука! Здэцца, ў маі
Не павінна снежных бур быць,
А вось тут, відаць, завея:
Снег пад сонцам ружавее.
 На губах Мальгрэты смех:
— Гэта, браце мой, не снег.
Чуеш, пах даносіць ветрам —
Гэта з цвету дываны:
Тут на сотні кіламетраў
Лёг раён садавіны.
Можа, спусцімся, прысядзем
На хвілінку ў гэтым садзе?
Адпачнуўшы, час нагонім.
— Ой, не трэба лепей, не!
Адчуваю на спіне
Пісагі яшчэ й сягоння;
І дагэтуль яшчэ помню
Смак суседскага агрэсту.

. . . . . . . . . . . . .

 Вось і хіб вуграсты Гомлю —
Ў белым лесе звер пярэсты.
Галавой прылёг да Сожа,
Лапы выцягнуў на Іпуць,
Быццам прагне, ды не можа,
Ўсю ваду ён з рэчак выпіць.
Паляцелі па-над Сожам
Ад Дняпра да верхавіны,
Над пейзажам над прыгожым
Асыпаюцца ўспаміны.
Па мінулым, па далёкім
Сум нячутна сэрца сціснуў,
Калі ж раптам кінуў вокам,

Дык пад імі ўжо Амсціслаў
Па-над Вехрай вырас пышна.
Успамінам сэрца рада:
— Вось адгэтуль калісь выйшла
Амсціслаўская плеяда,
З паэтычным гэткім зернем.
Угару адсюль пайшоў
Сам Аркадзій Куляшоў.
Можа, цётачка, павернем
Мы адгэтуль ужо лепей
Цераз Оршу ды на Лепель?
Вунь пад намі Цёмны Лес.
Тут вось некалі ў цішы
Выспявалі «дзве душы»,
Шмат аб ім было гаворкі...
Вось ужо і Горы-Горкі
Пераскочыў конь крылаты.
Калі памяць не здае,—
Шчэ да смерці да мае
Акадэмія была тут,
Здэцца, сельскай гаспадаркі.
Працавала яна дбала,
Але ўсё ж і тут, бывала,
Нам падносілі «падаркі».
Тут жа нехта й вершы плёў.
Пра яго яшчэ трапалі,
Што ён жыў «з чужых палёў»,
А сваё было ў папары.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вось Д-у-б-р-о-ў-н-а. Стойце! Дзе я?
Гэта ж зараз Асінбуд.
На дрыгве ўзнялася тут
Наша лепшая надзея.
З-пад багна спажыву ўздзёршы,
Тут разросся грукат мерны,
І да Віцебска й да Оршы
Па слупах пабеглі нервы;
Дасягнулі й Магілёва,
Не мінулі і Дуброўны,
І ў ударніках сталёвых
Пульс жыцця забіўся роўны,
Па прасторы рыкашэтам
Перадаўся ён паэтам.

— Гэта добра, але слухай —
Што ж рабіў тады Хвядос там?
— О, я выпіў добры куфель,
Прывітаў будоўлю тостам,
І цяпер вось жыў не буду,
Як не ўбачу Асінбуду.
Тут ён быць павінен недзе ж.
— Жыў-то будзеш, ды не ўгледзіш.
Ты змыліўся ў часе трошкі:
Торф даўно згарэў да крошкі,
І застылі без спажывы
Драцяныя нервы-жылы.
Не бядуй, аднак, па Оршы,
Там і сёння пульс не горшы.

### Прызнавайся — хто тут праўнук?!

Неспадзеўкі і на дзіва
Зацікаўленай Мальгрэце
Федзя руль схапіў рукамі:
— Пачакайце, прыпынеце!
Вось жа, вось пад намі Камень.
Блізка ж тут мая радзіма.
Вунь і возера направа,
У якім я часта плаваў.
Тут жа быў я ў адпуску,
Тут валяўся на пяску,
Тут жа ўлетку, здзеўшы порткі,
Вудай цёгаў краснапёркі;
На чарвя тут, як ні дзіўна,
Мне шчупак зламаў вудзільна.
Эх, шчупак жа быў які!
Ёсць тут недзе й сваякі,—
Жыў жа тут мой татка з дзядзем.
Дык хутчэй давайце сядзем!
Толькі ўспелі апусціцца,
На двары шырозным селі,
А ўжо там асоб мо з трыццаць
І стаяць, як на вяселлі.
Што пачаць, Хвядос не ведаў,
Памаўчаў хвілінкі дзве.
— Не пазналі,— кажа,— дзеда,
Ліха вашай галаве? —

З авіеткі вылез спраўна:
— Нежаданы, можа, госць?
Прызнавайся — хто тут праўнук?
З Чырваносаў хто тут ёсць?
Дзядзька ў вязанай кашулі,
Што наперадзе стаяў:
— Пра цябе мы,— кажа,— чулі,
І твой праўнук — гэта я.
— Калі ты, дык што ж ты, ўнучку,
Не цалуеш дзеду ў ручку?
Прывітаць як след не можа!
Яшчэ й праўнук! Галава...
— Не такі ты ўжо й прыгожы,
Каб цябе я цалаваў...
Хутка з праўнукам «нягодным»
На машыне Федзя едзе;
Не пазнае вёскі роднай —
Мінскі лад і тут заведзен.
Прамахнулі цераз пляц,
Падкацілі пад палац.
Федзя зноў:— Прызнайся, ўнучку,
Мусіць, маеш грошай кучку?
Гэта твой жа, мусіць, дом,
Да якога мы ідзём?
— Не смяшы, Хвядосе, сціхні:
Дом не мой — агульны, ўсіхні.
— А жывеш ты ў ім жа як тут?
За кватэру плаціш жакту?
— Не, нікому не плачу.—
Федзя ляпнуў па плячу:
— Значыць, нейкім гэткім чынам?..
Чаму не, зусім нядрэнна
Ў такім доме жыць дарэмна.
Ах і праўнук! Малайчына!
З маладых, відаць, ды ранні.
А пакоі ж тут! Убранне!
(Ад здзіўлення аж прысеў.)
Вось палаты, дык палаты!
— Так жывём мы тут усе:
Не бярэ ніхто з нас платы,
І плаціць у нас няма чым,—
Федзю праўнук растлумачыў.
— Ну, без грошай гэта горш,—
Перабіў нашчадка продак.—

Бач, заўсёды нейкі грош
Трэба мець на абыходак.
Як няма, то што ж рабіць,—
Трэба стаць дый зарабіць.
— Я працую, чаму не.
Вунь і фабрыка ў акне.
Вырабляем там адзенне.
Вось такое, як на мне.
Шмат адзежы, і харошай,
Ды працуем мы без грошай.
— Што ж, адзенне — заглядзенне...
Так, нішто сабе тканіны...
А плаціць-то ўсё ж павінны.
— Хто?
— Начальства, хто наймаў.
— Дык яго ж у нас няма.
Што да грошай — дык ізноў жа —
Непатрэбны і няма іх:
Мы працуем, колькі можам,
І, што трэба, заўжды маем.
— Нешта ў вас тут вельмі хітра,
І не ўцяміш без паўлітра.
Годзе, ўнучак. Як і што там,
Гэта ты раскажаш потым,
А цяпер бы мне й Мальгрэтцы
Прапусціць чаго, сагрэцца.
— Што ж дагэтуль не сказалі?
Ў мікрафон шапну я слова,
І прышлюць яду з сталовай;
Знойдзем цёплую мы ў зале.
— Эх, унучак, кінь, нарэшце,
Ты з мяне, старога, кпіць:
Я ж прашу ў цябе не есці,
Мы з Мальгрэтай хочам піць,
А пасля ўжо можна й шамаць.
— Дык і піць прышлюць таксама:
Сок вішнёвы будзе, кава.
— Думаў ты, што я прыйду
Піць тут розную бурду?
Не, брат, гэта нецікава.
Дай ты мне панюхаць корак
Так хоць градусаў на сорак.
— А слабейшага не п'еш?
Ну, то йдзі, Хвядосе, еш,

Бо й на градус не дастанеш.
— Ну, не веру, ўнучак, маніш.
Покуль сеюць людзі жыта,
Дык і «зелле» не звядзецца.
Дык не гніся ж і не лжы ты —
Пэўна, выціснуў з вядзерца...
Ледзь у іх не ўзнікла сваркі...
Раззлаваны і без чаркі
Сеў палуднаваць Хвядос.
Тут над вухам калі гаркне,
Аж ён лыжкі не данёс,
У прыладу ўпяўшы вочы.
— Ах, люцыпарская сіла!
Чуць мяне не аглушыла.
Хто там што яшчэ балбоча?
— Не сапсуй ты з пуду страўнік,—
Супакоіў Федзю праўнук.—
Гэта моўная прылада,
З ёй і радыё-люстэрка.
Пачалася ў нас цяперка
Гаспадарчая нарада.
Падышоў Хвядос, і праўда:
Зала тысячы на тры,
Мармуровая ўнутры,
З крышталю скляпенне ўзнесла.
Як жывыя, людзі ў крэслах,
Нібы тут яны ў пакоі,
Здэцца б, вось дастаў рукою.
На агульным гэтым фоне
З іх адзін пры мікрафоне...
Сем мінут гаворыць запар,
І электрадыяграмы
Каляровымі агнямі
Ілюструюць гэты рапарт.
Прыпынілася прамова,
І чырвоныя балоны
Заіскрыліся па зале,
Засвяцілі — паказалі
Тых удзельнікаў імёны,
Што яшчэ хацелі слова.
Вось адзін узняўся з краю...
— Сход твой скончыцца не скора ж,
Дык ідзі, мо пагаворыш,—
Федзя праўнуку параіў.

— Гэта не абавязкова,
Я й адсюль магу ўзяць слова...
Але йдзі, Хвядосе, еш ты,
Бо астыне ўсё дарэшты.
Пасля гэтакіх дзівосаў
Апетыт узрос Хвядосаў,
І апошнімі йшлі цуды,
Як ён вымянціў з пасуды,
Як у роце знік пірог:
Хоць абліўся хлопец потам,
Але ўправіўся за трох.
Аддыхнуўшы, стаў ён потым
Нарыхтоўвацца ў дарогу.
— Адпачнуў бы шчэ... Наогул,—
Кажа праўнук,— кінь збірацца,
Ёсць цікавая ў нас праца.
— Вось каб ты сказаў паўкварты,
А да працы — стараваты,
Праца мне не па плячу.
Як не ўмееш частавацца,
То шчасліва ставацца,—
Я з Мальгрэтай палячу.

### На нябесным на экране

Каляровымі агнямі
Загарэліся сігналы,
Цемру ночы пранізалі,
Федзю цуды паказалі.
І застыў Хвядос у марах,
Прытуліўся да Мальгрэты,
Разглядаючы на хмарах
Агнявыя «сценгазеты».
Так цікава, смешна бачыць,
Як па небе шаржы скачуць,
Як кульнецца дзе каторы,
Як паўзуць карыкатуры,
Як размахваюць рукамі,
Як хлябешчуць языкамі.
Але раптам калі гляне —
На нябесным на экране
У музеі мёртва-сонны
Сам Хвядос сваёй персонай.

Вось чуць мышы не калечаць,
Вось і доктар яго лечыць,
Вось і слоік, вось і клізмы,
Вось, няскладны ды вялізны,
На дварэ аслупянеў,
Вось бабухнуў на панель.
Вось ён потым на заводзе,
Як расчуліўся ля дзёдзі,
Чуць не трапіў у бекон.
Вось, як кот, ля сала ён
Каўбасу забаўна крадзе.
Вось чырвоны, быццам рак,
Прызнаецца небарак.
Вось галодны ён па садзе
Да сталоўкі шпарка крочыць.
Вось з Хвядоса зноў рагочуць,
Як на крыллях узнімаўся,
Ды ў паветры не ўтрымаўся.
— У пячонку! Ў селязёнку!
(Ён сабою не ўладае.)
Ах, Мальгрэта! Ах, шпіёнка!
Ах, вужака маладая!
Я ж за твой агідны «цуд»,
Як спушчуся, зразу ў суд.
— Не крыўдуй, Хвядос, дарма,—
Супакойвае Мальгрэта.—
Тут не кпіны. Я сама
З навуковай толькі мэтай
Занялася справай гэтай.
Ну, а суду ў нас няма.
Больш рабіць я так не буду,
Дык абыдземся без суду.
Быццам нехта соллю з перцам
Пасыпае Федзю сэрца
Ці гарчыцаю хто мажа,—
З болем дрыжыкі па целе.
Не прыкмеціў, не заўважыў,
Як да Мінска прыляцелі,
Як у дом з Мальгрэтай трапіў.
Ён ачнуўся на канапе,
Лёг у цёплую пасцель,
Шэптам крыўды шалясцеў:
— Ах, Мальгрэта, шэльма злая!..
А дзяўчына спачувае:

— Вінавата,— кажа,— згодна.
Заўтра сэрца супакою:
У стыхіі табе роднай
Зніме сум нібы рукою.

## Стары Мінск

Па-над горадам на захад
З неразлучнай нашай парай
З аўтаптахамі наўзахват
Авіетка зырка шпарыць,
Аж Хвядоса жах ласкоча.
Вось на ўскраіне яны.
Унізе каўпак бліскучы,
Велізарны, шкляны,
За кілометр не вузей.
Прыпынілі ветраходзік,
Федзя здзіўлены заходзіць
За Мальгрэтаю ў музей.
Перад імі гэтак званы
Мінск стары (стылізаваны).
Федзю здань нібы здаецца,—
Хоць ты вер, а хоць не вер:
Вось рог Энгельса й Савецкай,
Вось стары знаёмы сквер.
На панелях грамадзяне —
Не то людзі, не то здані.
Вось знаёмая галоўка
Мільганула між жанок;
Вось трамвай на Камароўку,—
Разлягаецца званок.
Ці то сон які, ці морак?!
Вось рамізнік № 40:
Мільгацяць на бруку колы,
У руках напяты лейцы,
Звонка цокаюць падковы,
Конь — і з месца не скранецца.
Федзя нават стаў баяцца:
— Што са мной? Ці не вар'яцтва?
Ці кашмарны нейкі сон? —
Запытаў Мальгрэту ён.
— Не, не сон, Хвядосе, гэта,—
Растлумачвае Мальгрэта.—

Ты не спіш, не звар'яцеў,
Бачыш тое, што хацеў:
Мінск паказан тут стары,
Акурат з тае пары,
Калі ты, хапіўшы лішку,
Перагрэў у жылах жыжку.
Ды не радуйся ўжо надта,
Ў летуценнях не мадзей:
Аўтаматы-экспанаты
Тут замест жывых людзей.
Розум іх стварыў дасціпны,
Паказаць каб, чым былі вы:
Рух і гук стэрэатыпны,
Ў кожнай лялькі асаблівы,—
І ад вечара да ранку,
І да вечара ад ранку
Зробіць рух ці скажа слова,
Пачынае зноў нанова
Без упынку, без сціханку.
Што б хацеў ты ўбачыць зараз?
Павільён энтузіязму
Ці на целе брудны нараст —
Перажыткаў розных язву?
Бачыш той вунь павільён —
Стройных шэрагі калон?
Там — напружнай, творчай працы
Шмат пабачыш ілюстрацый.
Там гарачы гучны лозунг
Да вялікай кліча справы,
Там — эпохі вашай розум,
І героіка, і слава.
Там на вуснах імя Ленін
Берагуць энтузіясты.
Там вытокі дасягненняў,
Наглядаў якія ў нас ты.
А вось тут — глядзі направа —
Зусім іншая ўжо справа.
Тут — прарывы ды правалы,
З чым вы ўпарта ваявалі.
Тут — як жулік мог злаўчыцца,
Штукі шкоднікаў ды злыдняў,
Тут нядбайства і злачынства —
Вынік спадчыны агіднай.
Тут сустрэнеш ты й наццэма,

З кім тады вялі змаганне,
Тут і п'янка, і багема,
Бытавое загніванне.
Ну, дык я цябе пытаю —
Ты б на чым хацеў спыніцца?
— Будаўніцтва я вітаю!
Заўжды я за будаўніцтва!
Я люблю працоўны ўздым,
Я люблю і сталь, і дым,
Твар люблю, абліты потам,
Але гэта... можа, потым.
Штось туды цяпер не вабіць.
Я вось тут, дык быццам дома;
Па мясцовасці знаёмай
Павандрую трохі, мабыць.
Тут я чуюся нядрэнна,
Мо й сяброў ці не сустрэну.

### У музеі карыкатур

Абышлі па тратуары
Нежывы народ яны
І зайшлі хвілін праз пару
Ў магазін гародніны.
Аўтамат-кааператар
Цэлым дзівам быў для Федзькі:
Аж рукою ён пакратаў
Дзве нагі — даўгія рэдзькі.
Заміж чэрава й кішок
З мёрзлай бульбаю мяшок;
Паабапал дзве рукі —
Кармавыя буракі;
На плячах — качан капусты,
А на ім буяе густа
Даўгапёрая цыбуля.
Вочы — яблыкі, нос — дуля,
Кроп расце замест вусоў,
З дулі капае расол.
Навакол паліцы, скрынкі,
А ў тых скрынках — ні цурынкі.
І лапоча ў апраўданне
Замест рота струк бабовы:
«Непасільнае заданне.

Аб'ектыўныя умовы».
Вось знаёмай установы
На рагу будынак новы.
Праз хвіліны дзве ці тры
Апынуліся ўнутры.
Тут народам дом багаты:
Аўтаматы, аўтаматы.
Вось вагою на паўтоны
Скамячыў кулак бетонны
Экспанат — галавацяпа,
І шыпіць праз зубы зяпа,
Слінай пырскае — «Маўч-чаць!!».
Ён кладзе рукою гнюснай
Падначаленым на вусны
Сургучовую пячаць.
Падлізацца рады к дужым,
Падпаўзаюць ззаду вужам
З языкамі да вушэй
Падхалімаў пара рыжых,
Капыты паганцу ліжуць,
Падбіраюцца вышэй.
Далей зноў жа аўтаматы —
Два танклявых, сем таўсматых.
Пратакол таўшчэзны відзен —
Засядаюць трэці тыдзень.
Папяровыя галовы,
Валавяныя зады,
Як каторы возьме слова,
Мухі валяцца з нуды.
Дня парадак іх наступны:
1. За два дні даклад уступны
Зробіць сябра Вадалей.
2. Перакажа ўвесь нанова
Яго зноў Балбатунова.
3. Потым спрэчкі, а далей:
4. Скажа дзядзька Целяпала
І дапоўніць Кругабегаў
Пра ўжыванне для апалу
Пазалеташняга снегу.
5. На канцы парадку дня,
Аб чым хочаш, балбатня.
Там у зале з мяккай ваты
Разгільдзяі-аўтаматы,
Выгляд вялы, нерухавы,

Пазвісалі ўніз рукавы.
І памост пад імі згніў,
Ім і столь рыхтуе згубу,
А яны дык хоць бы хны —
Слінай цыркаюць праз зубы.
Пасля ўражанняў паганых
Выйшла пара зноў на ганак.
Толькі з ганка Федзя злез тут,
Бачыць: седзячы на біле,
Едзе старшы са скуртрэсту
На аблупленай кабыле.
На яго яна з дакорам
Лупіць вочы-ліхтары,
Шэпча: «Як табе не сорам!
Скуру здзёр ты без пары.
Мускулы мае — жалеза,
Ты ж управіўся, зарэзаў».
Ён жа пугай па хвасце:
«Но! Чаго глядзіш панура?
Што за важнасць вельмі скура?
Здзёр — другая нарасце».
Вось, ахоплены ўтрапеннем,
Абмінаюць яго дзядзі.
Ззаду ў іх, нібы прапелер,
Прымацована прыладдзе,
І як толькі сесці хочуць,
Той прапелер як застрочыць,
Засвідруе, ў цела ўесца,
Гоніць з месца ды на месца.
На плячах уздоўж яны
Маюць надпіс: «летуны».
Вось зарые носам, здэцца,
Ходзіць бутля на відэльцах,
Галава — аслізлы корак,
На грудзях наклейка — 40°.
Хто б ні стрэўся з аўтаматам,
Абкладае ўсіх ён матам.
Федзя здзіўлены:— Што ж гэта?
— То адкід працоўнай гушчы,
Выпівака і прагульшчык,—
Растлумачвае Мальгрэта,—
А вось далей прасачы,
Як стараюцца рвачы.
Вось ён бачыць неўзабаве:

Людзі з воўчымі зубамі
І страшным аблiччам воўчым
Увіхаюцца ля скуры,
Аж гараць зайздросна вочы
Прагным полымем панурым,
Пачалі зубамі клацаць,
Толькі вынік скрозь аднакі ж:
Хоча вырваць скуры клапаць,
А рване сябе за мякіш.
  Экскурсанцкім жвавым маршам
Далей крочыць пара наша.
Вось праз некалькі хвілінак
Увайшлі яны ў будынак
Акадэміі навук.
Не без поту, не без мук,
Не сказаць, што ўвачавідкі,
Тут вучоныя здабыткі
Прымнажаюць пакрысе.
Прымнажаюць, ды не ўсе.
Наш вандроўнік і Мальгрэта
Самі добра бачаць гэта:
Пахаджаюць важна тыпы
З навуковай белай ліпы.
А паважныя! А шмат іх!
Аўтаматы, аўтаматы...
  З навуковай мэтай рэдкай
Выварочваюць шкарпэткай
Дактары палешука:
Узяліся пашукаць,
Ці няма ў ім захаванай
Дзе душы рафінаванай,
«Самабытнай», адным словам,
З каўтуном абавязковым.
  Каб ад іншых не астацца,
Хударлявы жрэц мастацтва
Туалет наводзіць дзіўны:
Начапляе з срэбра грыўні
І на шыю і на рукі,
Прыступае да навукі.
Аж глядзелкі запацелі,
Вывучае капітэлі,
Прыстаўляе к сценам лескі,
Аскрабае трэскай фрэскі:
Праца плённая такая —

«Самабытны» стыль шукае.
    Ў эксцэнтрычным танцы лоўкім
Абняліся Лёсік з Воўкам,
Той — на левай, той — на правай,—
За агульнай скачуць справай,
Разышліся ёт і яць,—
Мяккім знакам не суняць.
А напроці, ў іншай залі,
Ім ужо адгаблявалі
З дубу лоўкую мяшалку —
Будзе Воўку і «маршалку».
    Вось ліповы прадстаўнік —
Навуковы працаўнік.
Да яго другі падходзіць —
Ім параіцца не шкодзіць.
Саймаваць пачнуць увосень,
Прасаймуюць да вясны,
Цераз плечы кожны носіць
Абаранкаў тры вяслы,
У кішэнях булкі з макам,
І жуецца смачна жвака.
Па рабоце не сумуюць,
Саймаваннямі жывуць:
Пажуюць ды пасаймуюць,
Пасаймуюць, пажуюць,
Пасядзяць, пап'юць гарбатку,
Пачынаюць зноў спачатку,—
І па выніку той працы іх
Шлюць абоз асенізацыі.
    Як з будынка яны выйшлі,
Перад імі колы, дышлі,
І не здзівіцца Хвядос —
Што дае так моцна ў нос?
Што за шум? Што за грук?
Едзе з крытыкай абоз,—
Дрыгаціць, трасецца брук.
Там, наперадзе, ля бочкі
Увіхаецца Глыбоцкі,
А Цвяткоў і Байкоў
Падтрымоўваюць з бакоў.
Спажыўца заўзята, палка
Заклікае зверху Скалка:
«Налятай хутчэй, дурніцы!
Падстаўляй ямчэй дайніцы!

Спажывай крытычны квас!
Самы цымус — гэта ў нас!»
Паспяшайце, крытык Хунт
Адтыкае ў бочцы шпунт.
І з цабэркам Падхаповіч
Далікатна падыходзіць;
Хоча зверыць, параўнаць —
Ці няма што пераняць?
Раптам тут без дай прычыны
Як расставіць Федзя цыркуль,
Як папрэ хадою зыркай
Ад збянтэжанай дзяўчыны!
Што за жвавасць?! Што за спрыт?!
Хутка глянула: «Ага».
Там вунь шыльда: «Цэнтраспірт».
Ля яго стаіць чарга.
Аж загнуўся хвост васьмёркай,
І канца яму няма там.
Дабіваюцца да горкай
Аўтаматы, аўтаматы...
Ногі — цурачкі, а самі,
І старыя й маладыя,
Ўсё з чырвонымі насамі,
Пальцы скручаны худыя,
Рукі сінія дрыжаць;
Сталі Федзю абражаць.
Вось адзін заводзіць сварку.
Ззаду мерыцца па карку.
Нездаволены другі.
Ухіліўся Федзя жвава:
— Дайце ўзяць,— крычыць,— паэту,
Што вярнуўся з таго свету!
Без чаргі я маю права!
Маю права без чаргі!
Апынуўся ля дзвярэй,
Да прылаўка йдзе скарэй.
Шчэ хвіліна ці другая,
Ён з паўлітрам выбягае.
Скалупнуў як бач пячатку,
Шлёпнуў пляшку па азадку,
Зашчымела аж далонь,
І забулькала спажыва,
І пацёк — пабег па жылах
Хваляй хмельнаю агонь.

